*Галоўнае праўленне*
*Беларускага грамадска-культурнага*
*таварыства ў Польшчы*

# Беларускі каляндар 1994



Мінск
«БЕЛАРУСЬ»
1994

ББК 92
Б 43
УДК 050.9 «1994»

*Выпушчана па заказу Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы*

Складальнік УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК

Літаратурная апрацоўка МІКОЛЫ ГАЙДУКА

Б $\frac{5001000000-004}{М\ 301\ (03)-94}$ Зак. выд.94

ISBN 5-338-01035-6



# З НОВЫМ 1994 ГОДАМ З НОВЫМ ШЧАСЦЕМ

*ВІНШУЕ ВАС
ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ
БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА
ТАВАРЫСТВА Ў БЕЛАСТОКУ*

*Алесь Барскі*

## БЕЛАСТОЦКІ КРАЙ

Мой Беластоцкі край — мая Айчына!
З табою звязаны мой лёс і доля.
Люблю лясы твае, люблю даліны,
Кахаю шчыра бацькаўскае поле.

Калышашся ў напевах песні роднай,
І мысш твар у промнях залацістых,
І толькі тут я поўнасцю свабодны,
І толькі тут душой заўсёды чысты.

*Рэфрэн:* Сямяцічы і Гайнаўка, і Бельск старынны,
Саколка ціхая, зялёная Дуброва,
Любоў да вас — мая адвечная павіннасць
І вернасць для матчынай роднай мовы.

Шасціць калоссе ў палях шырокіх,
Бурліць крыніца песняю адвечнай,
Звініць нядзельны звон з царквы далёкай,
На роднай Беласточчыне я вечны.

Зямля мая, мой беларускі краю,
Над Нарваю, над Бугам задуменным
Я вольны тут душой адпачываю,
Мой краю вечны, краю незаменны.

*Рэфрэн:* Сямяцічы і Гайнаўка, і Бельск старынны,
Саколка ціхая, зялёная Дуброва,
Любоў да вас — мая адвечная павіннасць
І вернасць для матчынай роднай мовы.



## СКАРОЧАНЫ КАЛЯНДАР НА 1994 ГОД

| | *Студзень* | | | | | | *Люты* | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | | 1 | 8 | 15 | 22 | | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | | 2 | 9 | 16 | 23 | | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 6 | 13 | 20 | 27 | | |

| | *Сакавік* | | | | | | *Красавік* | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | | | 3 | 10 | 17 | 24 | | |

| | *Май* | | | | | | *Чэрвень* | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 5 | 12 | 19 | 26 | | |

| | *Ліпень* | | | | | | *Жнівень* | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 | | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | 6 | 13 | 20 | 27 | | |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | | 7 | 14 | 21 | 28 | | |

| | *Верасень* | | | | | | *Кастрычнік* | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 | | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 | | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

| | *Лістапад* | | | | | | *Снежань* | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | | | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | | | 4 | 11 | 18 | 25 | | |

## КАЛЯНДАРЫУМ І ГАСПАДАРЧЫЯ ПАРАДЫ




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.—зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | |
| *1* | 19 | С | *Новы год* | *Цімафея* | 7.45— |
| *2* | *20* | *Н* | *Макара* | *Ігната* | 15.35 |
| 3 | 21 | П | Генавефы, Дануты | Ульяны, Пятра | |
| 4 | 22 | А | Яўгенія, Рыгора | Анастасіі | 7.45— |
| 5 | 23 | С | Эдуарда, Эмільяна | Паўла | 15.43 |
| *6* | 24 | Ч | *Трох Каралёў* | *Куцця*, Жэні | |
| 7 | *25* | П | Люцыяна, Юльяна | *Каляды* | |
| 8 | *26* | С | Севярына | *Др.Дз.Каляд* | |
| *9* | 27 | *Н* | *Юльяна, Марцыяны* | *Сцяпана* | |
| 10 | 28 | П | Яна, Вільгельма | Агаты | |
| 11 | 29 | А | Ганараты, Фелікса | Марка | 7.42— |
| 12 | 30 | С | Бенядзікта, Аркадзія | Фядоры, Аніссі | 15.54 |
| 13 | 31 | Ч | Веранікі, Багуміла | Маланні | |
| 14 | *1* | П | Фелікса | *Новы год* | |
| 15 | 2 | С | Паўла, Макара | Сяргея, Серафіма | |
| *16* | *3* | *Н* | *Маркела* | *Малахіі* | |
| 17 | 4 | П | Антона, Яна | Антона, Сцяпана | |
| 18 | *5* | А | Малгажаты, Пятра | Апалінара | |
| 19 | *6* | С | Генрыка, Марты | *Вадохрышча* | |
| 20 | 7 | Ч | Фабіяна | Апанаса | 7.37— |
| 21 | 8 | П | Агнешкі, Ярослава | Юрыя, Юльяна | 16.06 |
| 22 | 9 | С | Вінцэнта | Піліпа | |
| *23* | *10* | *Н* | *Раймунда, Марыі* | *Рыгора* | |
| 24 | 11 | П | Фяліцыі, Рафала | Міхаіла | |
| 25 | 12 | А | Паўла, Мілаша | Тацціяны | |
| 26 | 13 | С | Палікарпа | Якуба | 7.29— |
| 27 | 14 | Ч | Яна, Пшыбыслава | Ніны | 16.19 |
| 28 | 15 | П | Аўгусціна | Паўла | |
| 29 | 16 | С | Францішка | Леанілы | |
| *30* | *17* | *Н* | *Марціна, Мацея* | *Антона* | |
| 31 | 18 | П | Яна, Марцэліны | Максіма | |

1.01.1919 — утварэнне БССР. 1.01.1929 — скліканне АН Беларусі. 17.01.1945 — вызваленне Варшавы. 18.01.1882 — нар. у Бельску вядомы архітэктар І. Лангбард. 20.01.1892 — нар. Б. Тарашкевіч і Р. Шырма. 22.01.1863 — пачатак Студзеньскага паўстання.



## СТУДЗЕНЬ НА СЯДЗІБЕ

Студзень — найбольш марозны месяц зімы. Раслінны свет знаходзіцца ў стане спачынку. Калі снегу мала, трэба прыкрыць пасеяную моркву, салат, трускалкі, шпінат, а таксама вінаград, бесшыпулькавую ажыну. Прыкрыць можна саломаю, прыпсаваным сенам, сухім гноем, лісцем, матамі або снегам.

Найбольш часу прысвячаем дамашняй жывёле. Трэба павялічыць каларыйнасць кармоў: даваць лепшае сена, канюшыну, дабаўляць да сечкі збожжа, мешанку, бульбу, крыху падаграваць для паення ваду. Стойла лепш падсцілаць саломаю, сенам, каб жывёла не ляжала на мокрым гнаі. Замерзлы гной сведчыць аб неабходнасці ацяплення хлява. Можа, дрэнна ўцеплены вышкі, ёсць шчыліны ў сценах або дзвярах. Вельмі істотнае значэнне мае выпусканне кароў, коней, авечак у найцяплейшую пару дня на кароткую прагулку. Маладняк сам пабегае, а старую жывёлу можна крыху паганяць, каб разварушылася і пагрэлася. Трэба лепш карміць свойскую птушку і дбаць, каб не прамерзла, таму што яна хутка пачне несціся.

Вельмі цяжкі гэта перыяд для замкнутых у клетках трусоў, нутрый і пчол. Добрая яда і цяпло — асноўныя ўмовы для іх перазімавання.

Усе іншыя заняткі і адпачынак сабе арганізуем у цёплай хаце. У вёсках зноў асноўным палівам сталі дровы. Вугаль вельмі дарагі, а торф нідзе не капаюць. Найбольш карысна спальваць у печках сухія дровы, а іх можна загатаваць у лесе толькі ўлетку. Адзін ядловец добра спальваецца сырым. Пры інтэнсіўным абаграванні хат часта псуюцца печкі, коміны і трэба іх правяраць кожны тыдзень, замазваць глінай шчыліны, не дапускаць пашкоджання, якое можа давесці да адмаўлення ад абагравання або пажараў.

Рэшту часу можна прызначыць на догляд хаты, рамонт мэблі, вопраткі, дамашніх прылад працы, абмяркоўванне гаспадарскіх заняткаў на вясенне-летні час, чытанне, а калі існуе патрэба, — на лячэнне занядбаных улетку хваробаў.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | |
| 1 | 19 | А | Ігната, Брыгіды | Макара, Арсеня | |
| *2* | 20 | С | ***Грамніцы*** | Яўхіма | 7.17— |
| 3 | 21 | Ч | Блажэя, Гіпаліта | Максіма, Яўгена | 16.31 |
| 4 | 22 | П | Андрэя | Цімафея | |
| *5* | 23 | С | Агаты | Клімента, Генадзя | |
| *6* | *24* | *Н* | *Дароты, Багдана* | *Ксеніі* | |
| 7 | 25 | П | Рамуальда, Рышарда | Рыгора, Віталія | |
| 8 | 26 | А | Яна, Пятра | Язэпа, Марыі | |
| 9 | 27 | С | Апалоніі, Цырыля | Дзмітра | 7.07— |
| 10 | 28 | Ч | Схаластыкі, Яцка | Яфрэма, Аркадзя | 16.45 |
| 11 | 29 | П | Марыі, Лазара | Рамана, Якуба | |
| 12 | 30 | С | Мадэста, Юльяна | Васіля | |
| *13* | *31* | *Н* | *Рыгора, Кацярыны* | *Мікіты* | |
| 14 | 1 | П | Валянціна, Цырыля | Трыфана | |
| 15 | *2* | А | Юзафа, Фаўстына | *Грамніцы* | |
| 16 | 3 | С | *Папелец*, Юльяны | Сямёна, Ганны | 6.55— |
| 17 | 4 | Ч | Юльяна, Лукаша | Кірылы | 16.58 |
| 18 | *5* | П | Канстанцыі, Сімеона | Агаты | |
| 19 | 6 | С | Кандрата | Хрысціны | |
| *20* | *7* | *Н* | *Лявона, Людмілы* | *Лукі* | |
| 21 | 8 | П | Элеаноры, Фелікса | Тодара | |
| 22 | 9 | А | Пятра, Малгажаты | Нікіфара, Генадзя | |
| 23 | 10 | С | Марты, Рамана | Валянціны | 6.41— |
| 24 | 11 | Ч | Мацея, Богуша | Уласа, Усевалада | 17.12 |
| 25 | 12 | П | Віктара, Цэзара | Аляксея | |
| 26 | 13 | С | Аляксандра, Міраслава | Зоі, Святланы | |
| *27* | *14* | *Н* | *Габрыеля* | *Кірылы, Канстанціна* | |
| 28 | 15 | П | Рамана | Ефрасінні | |

2.02.1943 — перамога пад Сталінградам. 2.02.1946 — падполлем НЗВ спалены вёскі Шпакі, Зані і Малешы на Беласточчыне. 12.02.1839 — уз'яднанне уніяцкай царквы з праваслаўнай. 19.02.1473 — нар. М. Капернік. 22.02.1810 — нар. Ф. Шапэн. 26.02.1956 — першы з'езд БГКТ.



## ЛЮТЫ НА СЯДЗІБЕ

Першая палова лютага найчасцей яшчэ марозная. Другая — больш цёплая, сонечная, прыносіць подых вясны. Але ўвесь месяц залічваецца да найбольш заснежаных таму, што снег захоўваецца з пачатку зімы. Карысна ачысціць ад яго сцежкі, праезды.

У агародзе неабходна праверыць, ці захавалася на маладых дрэўцах прыстасаванне ад зайцоў. Пры добрым надвор'і можна агледзець кроны дрэў, абрэзаць непатрэбнае галлё, пазбіраць шкоднікаў, пабяліць вапнай ствалы і апырскаць яблыні, грушы, слівы, парэчкі 3 % карбалінай, якая знішчыць яйкі мошкі, мядовак і іншых шкоднікаў.

Трэба праверыць падрыхтаванае раней насенне і купіць, чаго не хапае — пасля ў агародніцкіх крамах будзе многа пакупнікоў і меншы выбар.

Жывёлу надалей даглядаем добра, узбагачаем корм, каб давесці да высокай веснавой прадуктыўнасці малако, воўну, яйкі, атрымаць здаровы маладняк. Усё часцей трэба выганяць яе на панадворак і пакідаць на сонцы як мага даўжэй. Апошняя пара пазбыцца пагалоўя, прызначанага на мяса.

У другой палове месяца лепш заняцца рамонтам усіх прыладаў працы, якія мелі ў мінулым сезоне нейкія дэфекты. У гэтую пару лягчэй купіць у крамах запасныя часткі, адвезці прылады ў майстэрні, якія заўсёды выконваюць рамонт вельмі няспешна. Пара ўжо таксама купляць новыя прылады працы, будаўнічыя матэрыялы, штучныя ўгнаенні, насеннае збожжа, больш прадуктыўную жывёлу.

Люты — апошні месяц зімовага адпачынку. Можна наведаць знаёмых, пачытаць, памарыць аб вясне, больш пабавіцца з дзеткамі або ўнукамі.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | зах. Сонца |
| 1 | 16 | А | Альбіна, Антона | Фёдара, Марыяны | |
| 2 | 17 | С | Гелены, Паўла | Льва, Уласа | |
| 3 | 18 | Ч | Кунягунды, Мартыны | Архіпа, Яўгенія | 6.23— |
| 4 | 19 | П | Казіміра, Люцыі | Карнілы | 17.24 |
| 5 | 20 | С | Вацлава, Еўзебія | Рыгора, Цімафея | |
| *6* | *21* | *Н* | *Віктара, Ружы* | *Яўгеніі, Маўрыкія* | |
| 7 | 22 | П | Тамаша, Мілагосты | Антонія | 6.10— |
| 8 | 23 | А | *Дзень Жанчын.* Вінцэнта | Івана | 17.36 |
| 9 | 24 | С | Францішкі, Кацярыны | Тараса | |
| 10 | 25 | Ч | Цупрыяна, Бажыслава | Парфіра, Севасцьяна | |
| 11 | 26 | П | Бенядзікта, Канстанціна | Пракопа | |
| 12 | 27 | С | Бярнарда, Рыгора | Васілія, Кіры, Марыны | |
| *13* | *28* | *Н* | *Бажэны, Хрысціны* | *Касіяна* | |
| 14 | 1 | П | Лявона, Матыльды | Еўдакіі, Антаніны | |
| 15 | 2 | А | Клеменса, Лонгіна | Фядота, Агафона | 5.54— |
| 16 | 3 | С | Гіляра, Ізабелы | Яўтропія, Кляоніка | 17.48 |
| 17 | 4 | Ч | Гертруды, Збігнева | Паўла, Якава, Юльяны | |
| 18 | 5 | П | Эдварда, Цырыля | Адрыяна, Леаніда | |
| 19 | 6 | С | Юзафа, Багдана | Аркадзія | |
| *20* | *7* | *Н* | *Аляксандра, Вінцэнта* | *Васілія* | |
| 21 | 8 | П | Бенядзікта, Любаміра | Феафілакта | |
| 22 | 9 | А | Кацярыны, Багуслава | *40 мучанікаў* | 5.37— |
| 23 | 10 | С | Пелагеі, Фелікса | Міхаіла, Таісы | 18.01 |
| 24 | 11 | Ч | Марка, Габрыеля | Сафрона, Георгія | |
| 25 | 12 | П | *Благавешчанне* | Феафана, Шымана | |
| 26 | 13 | С | Тодара | Марыі, Нічыпара | |
| *27* | *14* | *Н* | *Яна, Лідзіі, Эрнеста* | *Расціслава* | |
| 28 | 15 | П | Анелі, Яна | Аляксандра | |
| 29 | 16 | А | Яўстафія, Бертальда | Юльяны, Музы | 5.21— |
| 30 | 17 | С | Анелі, Дабраміры | Аляксея | 18.08 |
| 31 | 18 | Ч | Бальбіны | Кірылы | |

4.03.1956 — выйшаў першы нумар «Нівы». 5.03.1569 — першае далучэнне часткі Падляшша да Польшчы. 5.03.1896 — нар. бел. пісьменнік К. Крапіва. 12.03.1966 — адкрыццё Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. 19.03.1965 — тысячны канцэрт эстраднага калектыву БГКТ «Лявоніха». 25.03.1918 — абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.



## САКАВІК НА СЯДЗІБЕ

Значная зменлівасць надвор'я ў сакавіку можа яшчэ не дазволіць працу ў агародзе. У палове месяца сеем у скрынках памідоры, чырвоны перац, парэй і іншыя цеплалюбівыя расліны, якія збіраемся пасадзіць у агародзе пасля 15 мая, гэта значыць, пасля веснавых замаразкаў, хаця ў гэтым ніхто таксама не ўпэўнены. Раней пасаджаная ў скрынках расада перарасце ў цёплай хаце. Расаду, якую хочам пасадзіць у парніках, рыхтуем намнога раней. Трэба, аднак, заўважыць, што зараз такое вырошчванне гародніны даволі каштоўнае, і таму раім добра азнаёміцца з прафесіянальнай літаратурай і адначасова правесці падлікі рэнтабельнасці, а можа, нават знайсці пакупніка. Прадаць гародніну ўсё цяжэй.

У садзе найбольш працаёмкім лічыцца фармаванне кронаў дрэў. Усё шырэй ўводзяцца формы вельмі рашучага ўмешвання чалавека ў гэтае, на першы погляд, варварскае аграмерапрыемства. Дае яно, аднак, карысныя вынікі. Не ўсе гатункі яблынь і сліў вытрымліваюць такую «стрыжку». Аднаўленне кроны найлепш удасца на парэчках, агрэсе, вінаградзе. Зноў раім звярнуцца да літаратуры па садоўніцтву і ўзбагаціць свае веды па закранутаму пытанню.

У сакавіку карысна падрыхтаваць зрэзы для прышчэпкі дрэўцаў, абвязаць іх вільготнай анучай і пакласці на бульбу ў склепе.

Дамашняй жывёле трэба дазволіць як найдаўжэй быць на панадворку. Не выпускаць яе толькі тады, калі вельмі слізка ад растаючага снегу. Раім добра агледзець капцы бульбы, хлявы: ці не залівае іх вада.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | зах. Сонца |
| 1 | 19 | П | Гражыны, Тодара | Дар'і, Клаўдзія | 5.12— |
| 2 | 20 | С | Францішка,Уладзіслава | Святланы, Гелены | 18.12 |
| *3* | *21* | *Н* | *Вялікдзень* | *Фамы, Якуба* | |
| *4* | *22* | *П* | *Вялікдзень* | *Васілія, Ісака* | |
| 5 | 23 | А | Ірэны, Вінцэнта | Нікана, Лідзіі | 5.06— |
| 6 | 24 | С | Цэлясціна | Захара, Арсенія | 18.25 |
| 7 | 25 | Ч | Даната, Руфіна | *Благавешчанне* | |
| 8 | 26 | П | Дзіяніза, Радаслава | Алы, Ларысы, Ірынея | |
| 9 | 27 | С | Марыі, Дабраславы | Матроны, Мануіла | |
| *10* | *28* | *Н* | *Міхала, Макара* | *Сцяпана* | |
| 11 | 29 | П | Піліпа | Марка | |
| 12 | 30 | А | Юльяна, Віктара | Івана | 4.50— |
| 13 | 31 | С | Пшэмыслава | Апалонія, Веньяміна | 18.37 |
| 14 | 1 | Ч | Юстыны, Valяр'яна | Марыі, Яўхіма | |
| 15 | 2 | П | Анастасіі, Вацлава | Ціта, Палікарпа | |
| 16 | 3 | С | Бенядзікта, Урбана | Мікіты, Паўла | |
| *17* | *4* | *Н* | *Рудольфа, Роберта* | *Іосіфа, Георгія* | |
| 18 | 5 | П | Апалінія, Аліцыі | Хвядоры, Платона | |
| 19 | 6 | А | Леанарда, Уладзіміра | Мяфодзія, Платаніды | |
| 20 | 7 | С | Агнешкі, Часлава | Марціна, Рыгора | 4.33— |
| 21 | 8 | Ч | Анзельма, Фелікса | Ірадзёна | 18.50 |
| 22 | 9 | П | Лявона, Лукаша | Вадзіма | |
| 23 | 10 | С | Юрыя, Войцеха | Марыі, Іаанны | |
| *24* | *11* | *Н* | *Фідэліса, Рыгора* | *Вербніца* | |
| 25 | 12 | П | Марка, Яраслава | Васілія, Афанасіі | |
| 26 | 13 | А | Мажэны, Марцэліны | Артамона, Крыскента | |
| 27 | 14 | С | Зыты, Тэафіля | Марціна | 4.18— |
| 28 | 15 | Ч | Паўла, Валерыі | Трафіма, Анастасіі | 19.00 |
| 29 | 16 | П | Пятра, Роберта | Агапіі, Ірыны, Ніκі | |
| 30 | 17 | С | Мар'яна, Кацярыны | Сымона | |

2.04.1805 — нар. аўтар казак Х. Андэрсэн. 7.04.1957 выйшаў першы нумар «Зоркі» — дадатак «Нівы» для дзяцей. 12.04.1961 — касмічны палёт Ю. Гагарына. 21.04.1840 — нар. Ф. Багушэвіч. 22.04.1870 — нар. У. Ленін. 23.04.1886 — нар. З. Бядуля.



## КРАСАВІК НА СЯДЗІБЕ

Надвор'е ў красавіку вельмі зменлівае. Глеба празмерна вільготная, а тэмпература паветра мяняецца: ніжэй 0° ноччу, да +20° і больш удзень. Карысна паверхню падсохшай глебы добра разрыхліць, найлепш спружыноўкай, каб перашкодзіць празмернаму выпарванню зімовых запасаў вільгаці.

Агароды неабходна добра забяспечыць гноем, з разліку на 1 $м^2$ паверхні 5—10 кг. Штучныя ўгнаенні патрэбныя толькі тады, калі глеба пазбаўлена мікраэлементаў. Зараз нават агароднікі ўстрымліваюцца ад мінеральных угнаенняў.

Найраней можна садзіць цыбулю, моркву, пятрушку, салат, радыску, кроп, часнок. Пад канец месяца — фасолю і іншыя бабовыя, буракі, агародні гарох, раннюю бульбу.

У садзе трэба звяртаць увагу на тэрміновую ахову квітнеючых сліў, вішань, агрэсту ад шкоднікаў. Да паловы месяца закончыць пасадку маладых дрэўцаў, а ў другой палове зрабіць прышчэпку захаваных зрэзаў «у клінок».

Ужо можна загаспадарваць кветнік перад хатай, пасеяць расаду капусты. У жывёлагадоўлі найбольш працы патрабуе маладняк. Калі на сядзібе ёсць умовы, дык разам з паяўленнем першай травы дазволіць і старой, і маладой жывёле як мага даўжэй карыстацца выганам. Рух, сонца, першая свежая зелень уздзейнічаюць станоўча. Трэба памятаць, што пад уздзеяннем павышанай тэмпературы гной у хлявах ферментуе, выдзяляюцца непрыемныя, часткова шкодныя для арганізма газы. Гной гэты можна ўжо вывозіць на палі.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | зах. Сонца |
| ***1*** | ***18*** | ***Н*** | ***Свята Працы*** | ***Вялікдзень*** | |
| 2 | *19* | П | Анатоля, Зыгмунта | ***Вялікдзень*** | |
| ***3*** | ***20*** | ***А*** | ***Канстытуцыя 3 Мая*** | ***Анастасіі, Гаўрылы*** | 4.05— |
| 4 | 21 | С | Монікі, Фларыяна | *Прапалавенне* | 19.13 |
| *5* | 22 | Ч | Ірэны, Вальдэмара | Віталія, Клімента | |
| 6 | 23 | П | Яна, Юдзіты | *Юрыя Пабеданосца* | |
| 7 | 24 | С | Людмілы, Гізэлі | Савы, Валянціна | |
| ***8*** | ***25*** | ***Н*** | ***Станіслава*** | ***Марка, Сільвестра*** | |
| 9 | 26 | П | *Дзень Перамогі* | Сцяпана, Глафіры | |
| 10 | 27 | А | Ізідара, Антаніны | Сымона, Сцяпана | |
| 11 | 28 | С | Францішкі, Мамерта | Віталія, Кірылы Тур. | |
| ***12*** | 29 | Ч | ***Ушэсце*** | Мемнона | 3.51 |
| 13 | 30 | П | Роберта, Сэрваца | Якуба | 19.24 |
| 14 | 1 | С | Дабеслава, Баніфацыя | Тамары | |
| ***15*** | ***2*** | ***Н*** | ***Соф'і, Яна*** | ***Барыса, Глеба*** | |
| 16 | 3 | П | Андрэя, Венчыслава | Цімафея, Феадосія | |
| 17 | 4 | А | Веранікі, Славаміра | Пелагеі, Селівона | |
| 18 | *5* | С | Фелікса, Аляксандра | Ірыны, Адрыяна | 3.40— |
| 19 | 6 | Ч | Мікалая | Дзяніса, Іова | 19.34 |
| 20 | 7 | П | Базыля, Бернардзіна | Анакія, Піла | |
| 21 | 8 | С | Тыматэуша, Даната | Яна, Арсенія, Пімена | |
| ***22*** | ***9*** | ***Н*** | ***Зялёныя Святкі*** | ***Мікалая*** | |
| 23 | 10 | П | Міхала, Івоны | Сымона, Таісы | |
| 24 | 11 | А | Іаанны, Зузанны | Кірылы, Мяфодзія | |
| 25 | 12 | С | Урбана, Рыгора | Германа, Ермагена | 3.30— |
| 26 | 13 | Ч | *Дзень Маці.* Філіпа | Глікерыі, Макара | 19.43 |
| 27 | 14 | П | Яна, Юлія | Кідара, Мікіты | |
| 28 | 15 | С | Аўгусціна, Яраміра | Пахома, Ісая | |
| ***29*** | ***16*** | ***Н*** | ***Цэадозіі, Магдалены*** | ***Фёдара*** | |
| 30 | 17 | П | Фелікса, Фердынанда | Ефрасінні, Сцяпана | |
| 31 | 18 | А | Анелі, Петранелі | Аляксандры, Клаўдзіі | |

1.05.1899 — устанаўленне Міжнароднага Свята Працы. 2.05.1799 — нар. А. Бальзак. 5.05.1818 — нар. К. Маркс. 8.05.1945 — капітуляцыя гітлераўскай Германіі. 9.05.1945 — Дзень Перамогі. 17.05.1845 — нар. бел. этнограф М. Нікіфароўскі. 28.05.1881 — нар. І. Луцкевіч.



## МАЙ НА СЯДЗІБЕ

«Цёплы і дажджлівы май — раслінам рай», — гаворыцца ў народзе. Хутка тады растуць не толькі пасаджаныя культуры, але і зелле. Нельга чакаць, пакуль яно ўкараніцца. Па меры магчымасці трэба часцей варушыць міжраддзе глебы сошкай, матыкаю або іншымі агароднiннымі прыладамі працы, якіх зараз у продажы многа.

Пасля веснавых замаразкаў садзім расаду памідораў, ранняй капусты, чырвонага перцу, парэю, высяваем агуркі, кабачкі, дыні, другі раз салат, радыску. Найбольш спрыяльным для гэтага часам на Беласточчыне лічыцца 15—20 мая. Выконваем таксама прапалку раней празмерна густа пасеянай гароднiны. Знішчаем «вусы» трускалак.

Усё больш часу паглынае праца ў полі, асабліва над пасевамі збожжавых яравых культур і бульбы.

Жывёла павінна паступова пераходзіць на свежыя зялёныя кармы. У другой палове месяца застаецца крыху часу на рамонт будынкаў, агароджаў, сельскагаспадарчых машын і на адпачынак.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | |
| 1 | 19 | С | *Дзень Дзіцяці* | Карнілы | |
| *2* | 20 | Ч | ***Божае Цела*** | Аляксея, Аляксандра | |
| 3 | 21 | П | Лешка, Клацільды | Канстанціна, Алены | 3.21— |
| 4 | 22 | С | Кароля, Францішка | Васілісы | 19.51 |
| *5* | *23* | *Н* | ***Валерыі, Баніфаца*** | ***Ефрасінні, Ігара*** | |
| 6 | 24 | П | Паўліны, Норберта | Мялеція, Сцяпана | |
| 7 | 25 | А | Роберта, Вяслава | Ферапонта | |
| 8 | 26 | С | Медарда, Максіма | Аверкія, Гелены | 3.18— |
| 9 | *27* | Ч | | ***Ушэсце*** | 19.57 |
| 10 | 28 | П | Багуміла, Малгажаты | Ігната, Мікіты | |
| 11 | 29 | С | Фелікса, Барнабы | Фядоссі | |
| *12* | *30* | *Н* | ***Яна, Ануфрыя*** | ***Ісака, Якава*** | |
| 13 | 31 | П | Люцыяна, Антона | Ермія | |
| 14 | 1 | А | Базыля, Валерыя | Усцінні, Валяр'яна | |
| 15 | 2 | С | Віта, Іаланты | Нічыпара | 3.15— |
| 16 | 3 | Ч | Аліны, Юстыны, Зянона | Паўлы, Лук'яна | 19.59 |
| 17 | 4 | П | Лауры, Адольфа | Марфы, Марыі | |
| 18 | 5 | С | Марка, Альжбеты | Дарафея, Маркіяна | |
| *19* | *6* | *Н* | ***Гервасія, Пратаса*** | ***Тройца*** | |
| 20 | 7 | П | Богны, Фларанціны | Святадухаў дзень | |
| 21 | 8 | А | Аліцыі, Алёйза | Фёдара, Яфрэма | |
| 22 | 9 | С | Паўліна, Флавія | Кірылы, Аляксандра | 3.14— |
| 23 | 10 | Ч | Ванды, Зянона | Цімафея, Антаніны | 20.01 |
| 24 | 11 | П | *Яна* | Варфаламея, Варнавы | |
| 25 | 12 | С | Люцыі, Вільгельма | Ануфрыя, Андрэя | |
| *26* | *13* | *Н* | ***Паўла, Яна*** | ***Ганны, Акуліны*** | |
| 27 | 14 | П | Мар'і, Уладзіслава | Елісея, Мяфодзія | |
| 28 | 15 | А | Ляона, Ірэнеуша | Амоса, Мадэста | 3.17— |
| *29* | 16 | С | ***Пятра, Паўла*** | Ціхана, Яўтронія | 20.00 |
| 30 | 17 | Ч | Эміліі, Люцыны | Мануіла, Савела | |

14.06.1867 — нар. бел. этнограф М. Доўнар-Запольскі. 16.06.1942 — знішчэнне вёскі Райск на Беласточчыне. 22.06.1941 — нападзенне Германіі на СССР. 24.06.1838 — нар. Я. Мажэйка. 24.06.1925 — утварэнне Грамады (БСРГ). 28.06.1891 — нар. П. Валошын.





Хата У. Краснадэмскага, вёска Паўлы.
Фота *У. Юзвюка*

## ЧЭРВЕНЬ НА СЯДЗІБЕ

Загаспадараваны ў маі агарод патрабуе догляду. Найбольш працаёмкі працэс — праполка. Кожны не выкарыстаны пад культурныя расліны кавалачак глебы пакрываецца аграмаднай колькасцю гатункаў пустазелля: пырніку, хвашчу, макрыцы, малачаю, гарчыцы, асоту і іншых раслін. Карэнні пырніку ці хвашчу дасягаюць да двух метраў глыбіні і столькі ж шырыні. Павярхоўнае іх знішчэнне толькі дапамагае расліне ў яе размножванні. Прападзе яна без сваёй зялёнай часткі не адразу, як нам здаецца, а праз два гады.

Далей праполваем моркву, буракі, абломліваем на памідорах кароткія маладыя пасынкі, якія прызнаем непатрэбнымі.

Пастаянна кантралюем вільготнасць глебы. Большасць агароднінных раслін патрабуе палівання, асабліва ў засушлівыя гады. Цяжкі гэта занятак, калі калодзеж знаходзіцца далёка ад агарода. Вялікай дапамогай з'яўляюцца гідрафоны, якія абсталёўваюцца найчасцей у калодзежы, а вада падводзіцца на агарод шлангамі.

У канцы чэрвеня пачынаюцца зборы агуркоў, трускалак, парэчак, агрэсту, чарэшняў, суніц. Іх продаж, перапрацоўка на сокі, джэмы, віны абцяжвае заняткамі цэлую сям'ю, але дае матэрыяльныя выгады. Усё шырэй у жыццё ўваходзяць уласныя кансервы.

У вольны ад працы час трэба падрыхтаваць у клуні месца для новага сена і збожжа. Не пашкодзіць агледзець дах, прылады для звозкі і іншае неабходнае абсталяванне. Найчасцей ў апошнія дні да касы не хапае клінка, а ў граблях — некалькі зубоў.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | зах. Сонца |
| 1 | 18 | П | Галіны, Мар'яна | Ляонцея, Іпацея | 3.19— |
| 2 | 19 | С | Марыі, Урбана | Іуды | 19.59 |
| *3* | *20* | *Н* | *Яцка, Анатоля* | *Мяфодзія, Апанаса* | |
| 4 | 21 | П | Тодара, Інацэнта | Юльяна, Цярэнцея | |
| *5* | 22 | А | Караліны, Антона | Галакціёна, Юльяны | |
| 6 | 23 | С | Люцыі, Дамінікі | Агрыпіны, Іосіфа | 3.21— |
| 7 | 24 | Ч | Цырыля, Мяфодзія | *Яна* | 19.55 |
| 8 | 25 | П | Альжбеты, Пракопа | Фяўронні | |
| 9 | 26 | С | Зянона, Веранікі | Давыда, Дзяніса | |
| *10* | *27* | *Н* | *Філіпа, Амеліі* | *Іаанны, Інесы* | |
| 11 | 28 | П | Вольгі, Пелагеі | Івана, Сяргея | |
| 12 | *29* | А | Яна, Гвальберта | *Пятра, Паўла* | |
| 13 | 30 | С | Эрнеста, Малгажаты | 12 ап., Арсенія | 3.28— |
| 14 | 1 | Ч | Марцэля, Банавентуры | Кузьмы, Дзям'яна | 19.49 |
| 15 | 2 | П | Генрыха, Уладзіміра | Юліты, Ювеналія | |
| 16 | 3 | С | Марыі, Яўстафія | Анатоля, Піліпа | |
| *17* | *4* | *Н* | *Багдана, Аляксея* | *Андрэя, Хвядосі* | |
| 18 | 5 | П | Каміла, Шымана | Сяргея, Ганны | |
| 19 | 6 | А | Вадзіслава, Вінцэнта | Валянціна, Лукі | |
| 20 | 7 | С | Чеслава, Гераніма | Фамы, Евангела | 3.35— |
| 21 | 8 | Ч | Андрэя, Данеля | Пракопа, Феафіла | 19.40 |
| 22 | 9 | П | *Свята Адраджэння* | Панкрата, Кірылы | |
| 23 | 10 | С | Богны, Апалінара | Апалона, Антона | |
| *24* | *11* | *Н* | *Хрысціны, Кінгі* | *Яўфіміі, Вольгі* | |
| 25 | 12 | П | Якуба, Крыштофа | Іларыя, Фёдара | |
| 26 | 13 | А | Ганны, Міраславы | Серапіёна, Сцяпана | |
| 27 | 14 | С | Юліі, Наталлі | Юста, Анісіма | 3.45— |
| 28 | 15 | Ч | Віктара, Інацэнта | Уладзіміра, Кірыка | 19.30 |
| 29 | 16 | П | Алафа, Марты | Юліі, Аляўціны | |
| 30 | 17 | С | Юліты, Людмілы | Маргарыты, Лазара | |
| *31* | *18* | *Н* | *Ігната, Любаміра* | *Емяльяна, Якінфа* | |

1.07.1569 — Люблінская унія. 7.07.1882 — нар. Я. Купала. 15.07.1410 — Грунвальдская бітва. 21.07.1991 — абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь. 22.07.1944 — Дзень Адраджэння Польшчы. 27.07.1944 — вызваленне Беластока Савецкай Арміяй.





Хата А. Місеюка, вёска Пухлы.
Збудавана ў 1937 г.
Фота *У. Юзвюка*

## ЛІПЕНЬ НА СЯДЗІБЕ

Асноўныя работы ў ліпені засяроджваюцца ў полі. Канчаюцца сенакосы і пачынаецца жніво. Нельга, аднак, занядбайваць заняткі на сядзібе. У агародзе канчаецца збор трускалак, малін, парэчак, чарэшняў, але пачынаецца выбіранне агуркоў і памідораў. Усё трэба своечасова прадаць і перарабіць на кансервы. Кожная гаспадыня мае свае рэцэпты, заснаваныя на многагадовым вопыце, але раім выкарыстаць таксама літаратуру, у тым ліку і беларускія календары ГП БГКТ.

На звольненых месцах у агародзе карысна пасадзіць цвятную, пекінскую, ліставую капусту, рэпку, фасолю на стручкі або пасеяць лубін на заворку. Непакрытую раслліннасцю агароднінную глебу вымываюць ліпеньскія дажджы.

Улетку свойскую жывёлу многія сяляне пакідаюць на панадворку. Але калі ёй не даюць спакою камары, рабіць гэтага не раім. У хляве жывёла спакайней адпачывае і настойвае летні гной.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | |
| 1 | 19 | П | Пятра, Юстына | Макрыны, Серафіма | |
| 2 | 20 | А | Карыны, Густава | *Ілы* | |
| 3 | 21 | С | Лідзіі, Аўгусціны | Сямёна, Ануфрыя | 3.56— |
| 4 | 22 | Ч | Даменіка, Пратаса | Марыі, Магдаліны | 19.17 |
| 5 | 23 | П | Марыі, Станіслава | Трафіма, Апалінара | |
| 6 | 24 | С | Славы, Якуба | Барыса, Глеба | |
| *7* | *25* | *Н* | ***Дароты, Кандрата*** | ***Ганны, Алімпіяды*** | |
| 8 | 26 | П | Цыпрыяна, Эмільяна | Ермалая, Параскевы | |
| 9 | 27 | А | Рамана, Рамуальда | Панцеляймона | |
| 10 | 28 | С | Барыса, Ваўжынца | Прохара, Ніканора | 4.07— |
| 11 | 29 | Ч | Зузанны, Філамены | Калініка, Серафімы | 19.04 |
| 12 | 30 | П | Клары, Гілярыя | Андроніка, Валянціна | |
| 13 | 31 | С | Дзіяны, Гіпаліта | Еўдакіма, Юліты | |
| *14* | *1* | *Н* | ***Альфрэда, Эўзебія*** | ***Макавея*** | |
| 15 | 2 | П | *Успенне* | Сцяпана, Васілія | |
| 16 | 3 | А | *Роха* | Кузьмы, Антона | |
| 17 | 4 | С | Яцка, Мірона | Еўдакіі | 4.17— |
| 18 | *5* | Ч | Гелены, Браніслава | Яўсігнея, Ноны | 18.49 |
| 19 | *6* | П | Юльяна, Баляслава | *Спаса* | |
| 20 | 7 | С | Бярнарда, Сабяслава | Дамецыя, Пімена | |
| *21* | *8* | *Н* | ***Іаанны, Францішкі*** | ***Леаніда, Емяльяна*** | |
| 22 | 9 | П | Цэзара, Тыматэуша | Юльяна, Дзмітрыя | |
| 23 | 10 | А | Філіпа, Апалінара | Лаўрэнція, Рамана | |
| 24 | 11 | С | Ежы, Барталамея | Сусанны, Раісы | 4.29— |
| 25 | 12 | Ч | Луізы, Людвіка | Фоцыя, Аляксандра | 18.33 |
| 26 | 13 | П | Марыі, Зефірыны | Максіма, Ціхана | |
| 27 | 14 | С | Юзафа, Калясанта | Міхея, Фядосія | |
| *28* | *15* | *Н* | ***Аўгусціна, Вышаміра*** | ***Успенне*** | |
| 29 | 16 | П | Яна, Сабіны | Дзяміда, Якіма | 4.43— |
| 30 | 17 | А | Ружы, Шчэснага | Мірона, Паўла | 18.27 |
| 31 | 18 | С | Багдана, Раймунда | Іларыёна, Паўла | |

1.08.1914 — пачатак першай сусветнай вайны. 1.08.1944 — пачатак Варшаўскага паўстання. 6.08.1945 — выбух першай атамнай бомбы над Хірасімай. 7.08.1910 — нар. бел. кампазітар Г. Цітовіч. 27.08.1856 — нар. укр. пісьменнік І. Франко.





Славуты Беластоцкі рынак.
Фота *У. Юзвюка*

## ЖНІВЕНЬ НА СЯДЗІБЕ

Усе намаганні сялян накіроўваюцца на заканчэнне жніва, звозку збожжа і падрыхтоўку глебы пад пасевы азімых культур. Таму заняткі на сядзібе не бяруцца пад увагу. Але прыйдзецца нешта прыхаваць, упарадкаваць вакол клуні ці хаты, правесці рамонт прылад працы, дагледзець жывёлу. Асаблівую ўвагу трэба зварочваць на харчаванне коней, як асноўнай запражной сілы ў гаспадарцы. У час цяжкай працы рабіць ім перапынкі, часцей паіць вадою, наглядаць, каб добра былі дапасаваны хамут і іншая вупраж, не нервавацца самому і не пераносіць гэта на жывёлу.

Не забудзьце, аднак, выбраць агуркі і памідоры, засаліць іх на зіму. Трэба таксама выкарыстаць раннія гатункі яблыкаў — прадаць іх, спажыць дома або скарміць жывёле. Выбраць і пакінуць на 10—15 дзён на загоне цыбулю, каб падсохла.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | |
| 1 | 19 | Ч | Ідзія, Браніслава | Андрэя, Фёклы | |
| 2 | 20 | П | Сцяпана, Юльяна | Самуіла, Сявіра | 4.47— |
| 3 | 21 | С | Ізабелы, Сымона | Фадзея, Васы | 18.18 |
| *4* | *22* | *Н* | ***Разаліі, Ліліяны*** | ***Агафоніка, Яўлалі*** | |
| 5 | 23 | П | Дароты, Ваўжынца | Калініка | |
| 6 | 24 | А | Беаты, Яўгенія | Яўціхія, Арсенія | |
| 7 | 25 | С | Рэгіны, Мельхіёра | Варфаламея, Ціта | 4.53— |
| 8 | 26 | Ч | *Сеўнай.* Радаслава | Адрыяна, Наталлі | 18.02 |
| 9 | 27 | П | Пятра, Сяргея | Пімена, Ліверыя | |
| 10 | 28 | С | Лукаша, Мікалая | Майсея, Ганны | |
| *11* | *29* | *Н* | ***Яцка, Прота*** | ***Усячэнне гал. І. Хр.*** | |
| 12 | 30 | П | Марыі, Гвідона | Аляксандра | |
| 13 | 31 | А | Філіпа, Яўгеніі | Купрыяна, Генадзія | |
| 14 | 1 | С | Цыпрыяна, Бярнарда | Сымона, Марфы | 5.05— |
| 15 | 2 | Ч | Альбіна, Нікадзіма | Маманта, Івана | 17.45 |
| 16 | 3 | П | Эдзіты, Карнелія | Анфіма, Васілісы | |
| 17 | 4 | С | Юстына, Францішкі | Майсея, Вавіла | |
| *18* | *5* | *Н* | ***Ірэны, Юзафа*** | ***Захара, Раісы*** | |
| 19 | 6 | П | Януара, Канстанцыі | Рамана, Кірылы | |
| 20 | 7 | А | Філіпіны, Яўстафія | Сазонта, Іана | |
| 21 | 8 | С | Гіпаліта, Матэвуша | *Прачыстая* | 5.16— |
| 22 | 9 | Ч | Тамаша, Маўрыца | Акіма, Ганны | 17.29 |
| 23 | 10 | П | Тэклі, Багуслава | Клімента, Пятра | |
| 24 | 11 | С | Герарда, Тодара | Сяргея, Германа | |
| *25* | *12* | *Н* | ***Аўрэліі, Ладзіслава*** | ***Юльяна, Фёдара*** | |
| 26 | 13 | П | Юстыны, Цыпрыяна | Карніла, Валяр'яна | |
| 27 | *14* | А | Космы, Дамяна | ***Уздзвіжэнне Кр. Гасп.*** | |
| 28 | 15 | С | Марка, Вацлава | Мікіты, Філафея | 5.28— |
| 29 | 16 | Ч | Міхала, Міхаліны | Яўхіміі, Людмілы | 17.17 |
| 30 | 17 | П | Соф'і, Гераніма | Веры, Надзеі, Любові | |

1.09.1939 — нападзенне Германіі на Польшчу, пачатак другой сусв. вайны. 11.09.1855 — нар. бел. этнограф Е. Раманаў. 14.09.1920 — адкрыццё Бел. драм. тэатра імя Я. Купалы. 17.09.1912 — нар. М. Танк. 17.09.1939 — уз'яднанне Зах. Беларусі з БССР. 30.09.1892 — нар. З. Верас.





Шчыт хаты В. Яканюка, вёска Канюкі.
Фота *У. Юзвюка*

## ВЕРАСЕНЬ НА СЯДЗІБЕ

Верасень — апошні месяц працаёмкіх палявых работ: пасеву азімых культур, капання бульбы і асенніх сенакосаў.

На сядзібе пачынаецца збор яблыкаў, груш, сліў. Калі хочам атрымаць лепшыя запасы на зіму, трэба іх зрываць этапамі. Спачатку знізу дрэў, пасля — з галля, адлеглага ад ствала, а ў кастрычніку сабраць апошні ўраджай.

У агародзе закончыць збор памідораў. Даспелыя прызначаем на яду, сокі, канцэнтраты, а зялёныя складваем у скрынкі і пераносім у сухое месца. Карысна вырваць некалькі раслін з карэннямі і павесіць у адваротным напрамку да росту ў склепе над бульбай. Павінны яны захавацца да канца снежня. Трэба ўжо пасадзіць трускалкі, сабраць апошнія агуркі, а таксама насенне з кветак. Цыбулю перанесці пад страху і крыху прыкрыць ад сонца, каб не пазелянела.

Скляпы і ямы з бульбай захаваць ад дажджу, але пакінуць адкрытымі. Мокрая бульба хутка парыцца, а затым гніе.




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | зах. Сонца |
| 1 | 18 | С | Дануты, Рэмігіуша | Соф'і, Ірыны | 5.36— |
| *2* | *19* | *Н* | ***Тэафіля, Дзіяніза*** | ***Трафіма, Фёдара*** | 17.12 |
| 3 | 20 | П | Тэрэзы, Герарда | Яўстафія, Міхаіла | |
| 4 | 21 | А | Разаліі, Францішкі | Кандрата, Андрэя | |
| 5 | 22 | С | Пляцыда, Апалінара | Іоны, Фокі | 5.40— |
| 6 | 23 | Ч | Артура, Брунона | Андрэя, Іраіды | 16.56 |
| 7 | 24 | П | Марыі, Марка | Фёклы, Уладзіслава | |
| 8 | 25 | С | Брыгіды, Пелагеі | Сяргея, Ефрасінні | |
| *9* | *26* | *Н* | ***Людвіка, Дзіяніза*** | ***Івана, Яфрэма*** | |
| 10 | 27 | П | Паўліны, Францішкі | Пімена, Ігната | |
| 11 | 28 | А | Эміля, Альдоны | Харытона, Вячаслава | |
| 12 | 29 | С | Серафімы, Яўстафія | Феафана | 5.32— |
| 13 | 30 | Ч | Тэафіля, Эдварда | Рыгора, Міхаіла | 16.41 |
| 14 | *1* | П | *Дзень настаўніка* | ***Пакрова*** | |
| 15 | 2 | С | Тэрэзы, Ядвігі | Усціны, Канстанціна | |
| *16* | *3* | *Н* | ***Гаўла, Амбражэя*** | ***Дзяніса*** | |
| 17 | 4 | П | Віктара, Малгажаты | Ерафея, Гурыя | |
| 18 | 5 | А | Юльяна, Лукаша | Пятра, Аляксея | |
| 19 | 6 | С | Пятра, Земавіта | Фамы, Макара | 6.04— |
| 20 | 7 | Ч | Ірэны, Клеапатры | Сяргея, Юльяна | 16.26 |
| 21 | 8 | П | Уршулі, Гіляра | Пелагеі, Таісіі | |
| 22 | 9 | С | Філіпа, Кардуля | Якуба, Андроніка | |
| *23* | *10* | *Н* | ***Тодара, Севярына*** | ***Яўлампія, Васіяна*** | |
| 24 | 11 | П | Рафала, Марціна | Філіпа, Зінаіды | |
| 25 | 12 | А | Інгі, Крысціна | Андроніка, Кузьмы | |
| 26 | 13 | С | Люцыяна, Эварыста | Карпа, Веньяміна | 6.16— |
| 27 | 14 | Ч | Івоны, Сабіны | Назара, Параскевы | 16.11 |
| 28 | 15 | П | Тадэвуша, Сымона | Лук'яна, Яўхімія | |
| 29 | 16 | С | Эўзебіі, Віялеты | Лонгіна | |
| *30* | *17* | *Н* | ***Зенобіі, Пшэмыслава*** | ***Восія, Андрэя*** | |
| 31 | 18 | П | Урбана, Сатурніна | Лукі, Іосіфа | |

1.10.1949 — утварэнне Кітайскай Народнай Рэспублікі. 4.10.1957 — запушчаны ў СССР першы штучны спадарожнік Зямлі, 450-годдзе заканчэння «валочнага памеру» на Падляшшы. 24.10.1945 — утварэнне ААН. 30.10.1921 — заснаванне Бел. дзярж. універсітэта.



## КАСТРЫЧНІК НА СЯДЗІБЕ

Палявыя работы закончыць пераворваннем бульбянішча. Найбольш заняткаў у гэты час ў агародзе. Трэба сабраць агародніну. У палове месяца выкопваем буракі, сельдэрэй, моркву, а ў канцы — марозаўстойлівую капусту, рэпу, пятрушку, парэй, дыні, ліставую капусту (ярмуж). Карысна капаць агародніну ў пагодныя дні, але не прасушваць яе. Захоўваць у скляпах, побач з бульбай. Буракі і моркву можна закапаць непасрэдна ў сухім агародзе на глыбіню 60—70 см. Такое захоўванне забяспечвае гародніну ад знішчэння мышамі.

Усе адкіды агародніны складваем ў кампоставую кучу, у якую карысна дадаць вапны, крыху штучнага ўгнаення, гною і вады.

Глебу ў агародзе глыбока заворваем і вапнуем без баранавання. У «вострае ворыва» лепш уваходзяць вільгаць разам з вапнай.

У садзе трэба ўжо сабраць апошнія яблыкі і пакласці іх на захоўванне на зіму. Для сваіх дзетак недзе паміж галлём пакінуць некалькі кілаграмаў яблыкаў і паказаць ім з надыходам першых замаразкаў — будзе многа радасці.

Трэба закончыць пасадку дрэўцаў, згрэбці лісце і накрыць ім скляпы або падаслаць жывёле, хаця раяць яго спальваць. Пасадзіць ужо можна зімовы часнок, моркву, а таксама кветкі: цюльпаны, лілії, макі, перасадзіць ружы.

У кастрычніку пара ўжо ацаніць, ці хопіць запасаў дроў на паліва, а калі не — давезці з лесу.

Хатнюю жывёлу ўтрымліваем яшчэ на выганах. Трэба добра выкарыстаць скошаныя сенажаці, хмызнякі, зелень з агарода і саду. Жывёла любіць па іх бадзяцца і вышукваць для яды нешта незвычайнае.

 




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.— |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | зах. Сонца |
| *1* | *19* | *Н* | *Усіх Святых* | *Клеапатры* | |
| 2 | 20 | С | Багдана, Бажыдара | Арцёма, Матроны | |
| 3 | 21 | Ч | Сільвіі, Губерта | Іларыёна, Якуба | 6.31— |
| 4 | 22 | П | Кароля, Альгерда | *Казанскай*, Аверкія | 15.58 |
| *5* | 23 | С | Альжбеты, Славаміра | Якуба, Ігната | |
| *6* | *24* | *Н* | *Фелікса, Леанарда* | *Іаана, Афанасія* | |
| 7 | 25 | П | Антона, Мельхіёра | Кірылы, Лазара | |
| 8 | 26 | А | Севярына, Віктарына | *Дзмітрыя* | |
| 9 | 27 | С | Урсына, Тодара | Несцера, Марка | 6.42— |
| 10 | 28 | Ч | Андрэя, Любаміра | Іова, Параскевы | 15.47 |
| 11 | 29 | П | Марціна, Барталамея | Анастасіі, Клаўдзія | |
| 12 | 30 | С | Рэнаты, Вітольда | Зіновія, Марка | |
| *13* | *31* | *Н* | *Мікалая, Станіслава* | *Спірыдона, Нікадзіма* | |
| 14 | 1 | П | Серафіма, Ваўжынца | Кузьмы, Дзям'яна | |
| 15 | 2 | А | Альберта, Леапольда | Маркіяна | |
| 16 | 3 | С | Эдмунда, Гертруды | Іосіфа, Агапія | 6.55— |
| 17 | 4 | Ч | Саламеі, Рыгора | Нікандра, Сымона | 15.38 |
| 18 | 5 | П | Анелі, Рамана | Галакціёна, Рыгора | |
| 19 | 6 | С | Альжбеты, Севярыны | Аляксандры, Клаўдзіі | |
| *20* | *7* | *Н* | *Фелікса, Анатоля* | *Фядота, Кірылы* | |
| 21 | *8* | П | Януша, Конрада | *Міхаіла* | |
| 22 | 9 | А | Марка, Цэцыліі | Анісіфора, Парфіра | |
| 23 | 10 | С | Феліцаты, Клеменса | Эраста, Радзівона | 7.07— |
| 24 | 11 | Ч | Яна, Флоры | Віктара, Максіма | 15.30 |
| 25 | 12 | П | Эразма, Кацярыны | Іаана, Ніла | |
| 26 | 13 | С | Конрада, Сільвестра | Іаана, Нічыпара | |
| *27* | *14* | *Н* | *Валяр'яна, Віргінія* | *Піліпа* | |
| 28 | 15 | П | Рыгора, Здзіслава | Гурыя, Сымона | 7.18— |
| 29 | 16 | А | Блажэя, Сатурніна | Мацвея, Сяргея | 15.29 |
| 30 | 17 | С | Андрэя, Маўры | Рыгора, Нікана | |

3.11.1882 — нар. Я. Колас. 7.11.1917 — пачатак Кастрычніцкай рэвалюцыі. 11.11.1918 — фармальнае заканчэнне першай сусветнай вайны і аднаўленне незалежнасці Польшчы. 27.11.1903 — нар. П. Пестрак. 29.11.1859 — нар. М. Янчук. 30.11.1899 — нар. бел. пісьменнік М. Лынькоў.





Дуэт бельскага эстраднага калектыву «Маланка».
Фота *С. Грыняві́цкага*

## ЛІСТАПАД НА СЯДЗІБЕ

Улічваючы спрыяльнае яшчэ надвор'е, можна даканчыць работы на сядзібе. У садзе засцерагчы маладыя дрэўцы ад грызуноў — абкруціць ствалы саломай або пластмасавай спецыяльнай плёнкай і абсыпаць зямлёй ў форме копчыка.

Бульбу і гародніну захоўваем ад марозу. Праводзім таксама агляд хлявоў, у якіх будзе зімаваць жывёла.

У хаце неабходна адрамантаваць печкі і каміны, а таксама праверыць шчыльнасць замыкання вокнаў і дзвярэй. Зімою больш карыстаемся электрапаглынальнымі грэлкамі, электрапліткамі, млынкамі і іншымі электрапрыладамі. А трэба памятаць, што старая алюмініевая электраправодка магла ўжо сапсавацца. Злучэнні кабеляў пачнуць іскрыцца, а гэта выкліча пажар. Такую электраправодку неабходна змяніць. Але выканаць працу даручыце спецыялісту.



 




| Стыль | | Дні | Святы і імяніны | | Усх.-зах. Сонца |
|---|---|---|---|---|---|
| Новы | Стары | | Каталіцкія | Праваслаўныя | |
| 1 | 18 | Ч | Наталлі, Элігіуша | Платона, Рамана | |
| 2 | 19 | П | Бальбіны, Паўліны | Аўдзея, Іларыёна | 7.22— |
| 3 | 20 | С | Францішкі, Ксавера | Рыгора, Прокла | 15.27 |
| ***4*** | ***21*** | ***Н*** | ***Барбары*** | ***Увядз.ухр.Пр.Баг.*** | |
| 5 | 22 | П | Сабы, Крысціна | Філімона, Валяр'яна | |
| 6 | 23 | А | Мікалая, Эмільяна | *Аляксандра Неўскага* | |
| 7 | 24 | С | Амбражэя, Марціна | Кацярыны | 7.28— |
| 8 | 25 | Ч | Марыі | Клімента, Пятра | 15.24 |
| 9 | 26 | П | Веслава, Леакадзіі | Інакенція, Алімпія | |
| 10 | 27 | С | Юліі, Данеля | Якуба, Паладзія | |
| ***11*** | ***28*** | ***Н*** | ***Дамаза, Вальдэмара*** | ***Сцяпана, Васілія*** | |
| 12 | 29 | П | Адэлаіды, Аляксандра | Парамона, Філумена | |
| 13 | 30 | А | Люцыі, Атыліі | *Андрэя* | |
| 14 | 1 | С | Альфрэда, Ізідара | Навума, Філарэта | 7.35 |
| 15 | 2 | Ч | Цэліны, Вальдэмара | Авакума, Феафіла | 15.23 |
| 16 | 3 | П | Альбіны, Здзіславы | Іаана | |
| 17 | 4 | С | Алімпіі, Лазара | *Варвары* | |
| ***18*** | ***5*** | ***Н*** | ***Грацыяна, Багуслава*** | ***Савы, Гурыя*** | |
| 19 | 6 | П | Урбана, Дарыюша | *Мікалая* | |
| 20 | 7 | А | Дамініка, Багумілы | Амбражэя, Ніла | |
| 21 | 8 | С | Тамаша, Севярына | Патапа, Анфісы | 7.41— |
| 22 | 9 | Ч | Зянона, Ганараты | Ганны | 15.27 |
| 23 | 10 | П | Вікторыі, Славаміры | Фамы, Міны | |
| 24 | 11 | С | *Адама, Евы* | Данілы, Нікана | |
| ***25*** | ***12*** | ***Н*** | ***Каляды*** | ***Спірыдона, Аляксандра*** | |
| ***26*** | ***13*** | ***П*** | ***Каляды, Шчэпана*** | ***Яўгенія, Арсенія*** | |
| 27 | 14 | А | Яна, Максіма | Калініка, Апалона | |
| 28 | 15 | С | Тэафіліі, Цэзара | Паўла, Сцяпана | 7.44— |
| 29 | 16 | Ч | Тамаша, Дамініка | Агея, Феафаніі | 15.32 |
| 30 | 17 | П | Сабіны, Яўгенія | Данілы, Азарыя | |
| 31 | 18 | С | Сільвестра, Маланні | Севасцьяна, Зоі | |

1.12.1896 — нар. маршал Г. Жукаў. 9.12.1922 — заснаванне Гродзенскага гіст.-арх. музея. 9.12.1891 — нар. М. Багдановіч. 21.12.1896 — нар. маршал К. Ракасоўскі. 24.12.1798 — нар. А. Міцкевіч. 30.12.1922 — РСФСР, УССР, БССР і Зак. ССР утварылі СССР.





Зімовая журба.

Фота *Я. Целушэцкага*

## СНЕЖАНЬ НА СЯДЗІБЕ

Усе працы ў агародзе, у полі і ў неабагрэтых памяшканнях павінны быць закончаны раней. Можна яшчэ пракансерваваць змазкай да машын металачасткі прылад працы і захаваць іх.

Доўгія вечары не раім праводзіць выключна каля тэлевізара. У ніякім выпадку не дазваляйце гэтага дзецям. Яны патрабуюць руху — няхай бегаюць дома і на панадворку, ездзяць на санках, катаюцца на каньках, паляць пад апекай старэйшых вогнішчы і адпачываюць.

Старэйшым раім прааналізаваць вынікі сваёй гадавой працы і на іх падставе вырашыць, чым выгадней заняцца ў наступным годзе. Рынкавая сістэма — гэта бязлітасная канкурэнцыя. Гаспадарыць без разліку зараз нельга.

Не забудзьце аб адпачынку, аднаўленні кантактаў з суседзямі і знаёмымі.

*У. ЮЗВЮК*



# МАТЭРЫЯЛЫ XII З'ЕЗДА БГКТ

## Агульная інфармацыя

23 мая 1993 года ў памяшканні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку адбыўся XII з'езд БГКТ. У ім прынялі ўдзел 74 дэлегаты, якія былі выбраны ў час справаздачна-выбарчых канферэнцый ва ўсіх 17 аддзелах Таварыства, і 18 гасцей. Сярод іх былі: пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько, паслы Сейма Польшчы Уладзімір Цімашэвіч і Яўген Чыквін, прадстаўнікі мясцовага Епіскапату Праваслаўнай аўтакефальнай царквы айцы Уладзімір Місеюк і Анатоль Конах, прадстаўнік урада Рэспублікі Беларусь Наталля Голубева, намеснік старшыні таварыства «Радзіма» ў Мінску Уладзімір Навіцкі, старшыня абласнога фонда беларускай культуры ў Гродне Сяргей Габрусевіч, прадстаўнік беластоцкага ваяводы Гжэгаж Рыкоўскі, дырэктар Аддзела культуры Эўгеніуш Біль-Ярузэльскі, прэзідэнт г. Беластока Лех Руткоўскі і іншыя.

З'езд адкрыў старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі. Ён падкрэсліў, што БГКТ у апошні міжз'ездаўскі перыяд знаходзілася пад вострай крытыкай розных палітычных і грамадскіх арганізацый, але няспынна працавала, вытрымала неабгрунтаваныя націскі і прыйшло на з'езд з дасягненнямі. «З'езд гэты будзе мець пераломнае значэнне ў далейшай дзейнасці таварыства», — закончыў старшыня.

На пасаду старшынь XII з'езда былі прапанаваны Янка Сычэўскі і Тамара Русачык.

З першым прывітальным словам выступіў пасол Рэспублікі Беларусь У. Сянько. Ён прыгадаў знамянальныя падзеі апошніх гадоў, абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь і змяненне суадносін паміж нашымі суседнімі краінамі, якія ўкранулі таксама нацыянальнаменшасныя праблемы. «Сучасны ўрад зычліва адносіцца да сваіх суайчыннікаў за мяжой, станоўча ацэньвае дзейнасць іх грамадскіх арганізацый, у тым ліку БГКТ, якое мае ўжо багатую гісторыю».

Затым Н. Голубева і У. Місеюк зачыталі прывітальныя лісты сваіх устаноў (змест іх друкуецца). Ад імя Беластоцкай школьнай



кураторыі з прывітаннем і кароткім паведамленнем аб дасягненнях у галіне асветы выступіў намеснік куратара Ян Замбжыцкі.

Паслы У. Цімашэвіч і Я. Чыквін падкрэслілі, што ў цяжкі перыяд палітычных і эканамічных пераўтварэнняў у краіне дзеячы БГКТ «...уласнымі грамадскімі намаганнямі, з пачуццём адказнасці за арганізацыю выканалі вялікую працу... Таварыства было ўзорам для іншых грамадскіх арганізацый і такім павінна застацца». Неабходна, аднак, — падкрэслівалі, — вярнуцца да еднасці, у чым яго сіла.

Прадстаўнік таварыства «Радзіма» У. Навіцкі пашырыў інфармацыю аб формах супрацоўніцтва з БГКТ і Беларускім музеем у Гайнаўцы і запэўніў у далейшым яго ўдасканаленні.

Затым Э. Біль-Ярузэльскі шырока пазнаёміў прысутных з тымі напрамкамі дзейнасці Аддзела культуры, якія кранаюць тэматыку беларуска-польскага этнічнага сумежжа. У такім жа аспекце было вытрымана выступленне прэзідэнта г. Беластока Л. Руткоўскага і прадстаўніка Міністэрства культуры і мастацтва Паўла Казанэцкага.

Зычліва сустрэлі ўдзельнікі XII з'езда выступленне старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алега Латышонка, які падкрэсліў, што «...бурлівы перыяд у жыцці краіны ўжо мінуў, а надышоў час працы... Пасля XII з'езда БГКТ будзем супольна, паспяхова працаваць». На жаль, на першую частку з'езда ён спазніўся, а пасля выступлення хутка выйшаў і таму атмасферы яго не адчуў.

Затым быў прыняты рэгламент з'езда, выбраны чатыры камісіі: мандатная, выбарчая, пастаноў і статутная.

Перад дыскусіяй з уводнай інфармацыяй выступіў Аляксандр Баршчэўскі, а са справаздачай Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ — Уладзімір Юзвюк (друкуецца).

Пачалася дыскусія над праектам статута Таварыства (5 выступленняў), а затым аб рабоце арганізацыі і нацыянальнаменшасных праблемах на сучасным этапе (11 дыскутантаў).

Старшыня статутнай камісіі Хведар Галёнка пазнаёміў з праектам паправак у статуце БГКТ. Яны былі прыняты (ужо апублікаваны), а старшыня камісіі пастаноў Міхась Хмялеўскі зачытаў пастановы, якія з папраўкамі таксама былі прыняты (друкуюцца).

Згодна з рэгламентам з'езда, яўным галасаваннем было выбрана Галоўнае праўленне БГКТ у ліку 35 асоб і Галоўная рэвізійная камісія БГКТ у складзе 6 асоб. Супраць кандыдатаў ва ўлады Таварыства галасоў не было, устрымалася — адпаведна 4 і 2 асобы. Новыя ўлады правялі свае першыя пасяджэнні (асабовыя спісы публікуюцца).

У заканчэнне Я. Сычэўскі і А. Баршчэўскі падзякавалі ўсім за праведзеную грамадскую працу, давер і ўдзел у рабоце з'езда.

Адразу пасля гэтага пачаўся канцэрт самадзейнасці Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку і фальклорнага калектыву «Ліцвіны» з Мінска.

*У. ЮЗВЮК*

## Жывем і будзем жыць

*Праграмнае выступленне на XII з'ездзе БГКТ старшыні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы праф. д-ра Аляксандра Баршчэўскага*

Шаноўныя дэлегаты XII з'езда БГКТ!

Чатыры гады і сем месяцаў таму назад быў праведзены папярэдні XI з'езд нашай арганізацыі. За гэты час наступілі ў нашай краіне вялікія перамены. Змянілася дзяржаўная сістэма, распаўся Савецкі Саюз, перастала існаваць Савецкая Беларусь, узнікла незалежная дзяржава Рэспубліка Беларусь. Сацыялізм, які меў стацца будучыняй усяго свету, на нашых вачах адышоў у мінулае і стаўся гістарычным рэліктам.

Новая Польская Рэчпаспалітая* ад самага пачатку свайго існавання моцна падкрэслівала важнасць нацыянальных меншасцяў і істотнасць іх культурна-асветніцкай і нацыянальнай дзейнасці. Дзяржаўныя пераўтварэнні ў нашай краіне давялі да таго, што ў канцы здзейсніўся наш шматгадовы пастулат адносна пераходу Беларускага таварыства з-пад апекі Міністэрства ўнутраных спраў пад апеку Міністэрства культуры і мастацтва, што адкрыла новыя перспектывы для культурнай і асветніцкай дзейнасці нашай арганізацыі.

Беручы пад увагу сістэмныя пераўтварэнні ў нашай дзяржаве, Галоўнае праўленне БГКТ напачатку 1991 г. склікала пленарнае пасяджэнне, на якім была прынята праграмная дэкларацыя, якая ў сур'ёзнай ступені абнавіла Статут БГКТ, прыняты ў 1988 г. на XI з'ездзе Таварыства. У Дэкларацыі вызначыліся галоўныя напрамкі дзейнасці БГКТ, падкрэслівалася тое, што Беларускае таварыства з'яўляецца арганізацыяй незалежнай, самаўрадавай і непалітычнай — структурай, якая самастойна вырашае ўсе тыя заданні, што вынікаюць з яе культурна-асветніцкай і нацыянальнай праграмы.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства стаіць на грунце Канстытуцыі і дзяржаўных законаў Польскай Рэчыпаспалітай, кіруецца сістэмай правоў і абавязкаў, якія прыслугоўваюць усім яе грамадзянам. Пры гэтым Таварыства з сардэчным зацікаўленнем глядзіць на Рэспубліку Беларусь, прагнучы з ёю супрацоўнічаць і спрыяць яе росквіту. Асаблівай трывогай напаўняе нас амаль што поўная русіфікацыя ўсіх слаёў беларускага грамадства. Будзем верыць, што ўрад і прадстаўнікі беларусізуюць спачатку сябе, а пасля прыступяць да паслядоўнай нацыяналізацыі ўсіх сфер беларускага жыцця.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства будзе рабіць усё для таго, каб адносіны паміж незалежнымі дзяржавамі: Польскай Рэчпаспалітай і Рэспублікай Беларусь былі прыязнымі і абапіраліся на прынцыпы роўнасці, узаемнай карысці, прызнання актуальных межаў і няўмешвання ва ўнутраныя справы. Прагнем, каб Польшча і Беларусь максімальна спрыялі развіццю нацыянальных меншасцяў: беларускай у Польшчы і польскай у Беларусі, з улікам іх культурна-асветніцкіх інтарэсаў і патрэбаў.

Беларускае таварыства імкнецца да гарманічнага супрацоўніцтва з Праваслаўнай царквой у Польшчы, зыходзячы з палажэння, што ў Польшчы беларускасць і праваслаўе непадзельныя і што ў сувязі з гэтым іх інтарэсы аднолькавыя або вельмі падобныя. Дзякуючы ініцыятыве ГП БГКТ, былі праведзены сустрэчы з Яго Прасвяшчэнствам архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Саваю, якія далі пачатак некалькім вельмі карысным ідэям. Прыкладам можа быць збор грашовых ахвяраванняў у цэрквах Беластоцка-Гданьскай епархіі ў фонд пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, а таксама гатоўнасць царквы дапамагчы напоўніць адну з залаў Беларускага музея сакральнымі экспанатамі.

Як вядома, у выніку дэмакратызацыі нашай краіны пачалі ўзнікаць розныя беларускія арганізацыі. Беларускае таварыства вітала і вітае гэты здаровы працэс. Мы лічым, што ўсе беларускія арганізацыі роўныя і што ніводная з іх не можа накідваць іншым сваю волю, ідэалогію ці практыку. З агідай успрымаем атакі, якія некаторыя з гэтых арганізацый праводзяць на Беларускае таварыства. У такіх паводзінах праяўляецца адгалоссе практыкі КПСС, якая лічыла, што мае права ўмешвацца ў жыццё ўсіх існуючых не толькі ў СССР, але і ў цэлым свеце структур. Заяўляем, што і ў будучыні будзем захоўваць стоіцкі спакой, не пойдзем на ніякія правакацыі і не будзем адказваць на брудную лаянку тых, хто, маючы ніякіх поспехаў у дзейнасці сярод беларускай нацыянальнай меншасці, спецыялізуецца ў нападках, лаянках і дыктаце.

Беларускае таварыства заклікае ўсе беларускія арганізацыі ў Польшчы да здаровага спаборніцтва ў культурнай і асветніцкай дзейнасці ва ўсіх беларускіх асяроддзях, у якіх заўважаюцца парасткі адраджэння, зацікаўлення нацыянальным і родным.

Наша арганізацыя будзе канцэнтраваць галоўную ўвагу на такіх галінах, як:

пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы;

развіццё беларускага вакальнага руху сярод дарослых;

інспірацыя і арганізацыя аматарскай мастацкай дзейнасці сярод дзяцей;

пашырэнне вывучэння роднай мовы ў беларускіх асяроддзях;

арганізацыя культурных і навуковых мерапрыемстваў;

развіццё выдавецкай дзейнасці;

арганізацыя, супольна з Саюзам палякаў у Беларусі, пераменна ў Беластоку і ў Гродне, навуковых канферэнцый і фестываляў беларускай ды польскай песні.

Усе гэтыя мэты Беларускае таварыства ўжо рэалізуе з большымі

* У перакладзе з польскага — рэспубліка. — *Рэд.*

або меншымі эфектамі. Верым, што ў будучым наша арганізацыя пашырыць і ўзбагаціць формы сваёй культурнай дзейнасці.

У прыярытэтнай справе — пабудове Беларускага музея — мусім павялічыць уласную ахвярнасць, якая павінна выяўляцца ў грашовых складчынах, зборы экспанатаў, у фізічнай працы. Пры нагодзе мусім даць адпор тым, хто стараецца штучна адлучыць Беларускі музей ад Беларускага таварыства. Ведаем, што гэтая ідэя плыве ад тых людзей, якія дагэтуль не дапамаглі музею нават у сімвалічных размерах. Цяпер, калі музей стаўся будоўляй, якую відаць з усіх закуткаў не толькі ўсходняй Беласточчыны, але і з усёй Польшчы, стараюцца развальць тое, што ўжо зроблена. Прагну сказаць гэтым людзям: Панове, нічога з гэтага не атрымаецца, не ўдасца вам адзяліць БГКТ ад Беларускага музея хаця б з тае прычыны, што зямля, на якой будуецца музей і будынак «А», з'яўляюцца натарыяльнай уласнасцю Беларускага таварыства. Зробім усё, каб у хуткім часе Беларускі музей у Гайнаўцы быў не толькі зборам этнаграфічных экспанатаў, але таксама навуковым цэнтрам і асяродкам беларускай культуры.

Як у мінулым, так і ў будучым Беларускае таварыства будзе адводзіць вялікую ўвагу аматарскаму мастацкаму руху. Схіляем галовы перад такімі нашымі спевакамі, як Ніна Мушынская, Люба Гаўрылюк, Аля Дубэц, Юрка Налівайка, «Хлопцы-рыбалоўцы» і многімі дзесяткамі і сотнямі нашых народных артыстаў, якія з выключнай ахвярнасцю культывуюць беларускую фальклорную і беларускую літаратурную песню. Гэта дзякуючы ім выратаваны ад смерці дзесяткі і сотні народных тэкстаў ды мелодый, якія маглі б загінуць, калі б іх не перанялі ад найстарэйшых жыхароў Беласточчыны нашы слаўныя спевакі.

Пры нагодзе трэба сказаць, што такія формы папулярызацыі песні, як агляды, конкурсы, купаллі, канцэрты, поўнасцю сябе апраўдалі і павінны праводзіцца таксама ў будучыні. Асаблівую вітальнасць і эфектнасць праявілі фестыны*, на якія прыходзяць тысячы людзей. У гэтым годзе Беларускае таварыства плануе правесці каля дваццаці фестынаў, аглядаў, канцэртаў і свят песні, якія маюць шанц прыцягнуць да пяцідзесяці тысяч гледачоў і слухачоў. Тое, што на такія імпрэзы**, як Купалле ці свята беларускай песні, прыходзіць па пяць тысяч удзельнікаў, сведчыць аб тым, што нашы песенныя мерапрыемствы як магніт прыцягваюць чалавечыя сэрцы. І гэта найважнейшае. Можам ганарыцца тым, што ніводная свецкая арганізацыя на Беласточчыне не можа прыцягнуць на свае імпрэзы такой колькасці людзей, якую прыцягваюць мерапрыемствы Беларускага таварыства.

Справай, якая вымагае ўдасканалення, з'яўляецца наша супрацоўніцтва са школамі, настаўнікамі беларускай мовы і беларускімі дзецьмі. Колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў школе, малая. Са смуткам канстатуем, што не ўдалося нам адкрыць беларускага класа ў X Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку. Рашуча асуджаем тых пісакаў, якія час ад часу друкуюць у «Ніве» такія артыкулы, якія кампраметуюць нашых настаўнікаў. Толькі неразважнасцю рэдактара і журналіста можна вытлумачыць з'яўленне ў «Ніве» артыкула, у якім гаварылася, што беларускія ліцэі «абалваньваюць моладзь». Праявай бяздумнасці былі публікацыі, у якіх падаваліся ілжывыя інфармацыі аб немаральным, распусным захаванні моладзі ў Бельскім ліцэі. Усе такога тыпу з'явы добра служаць нашым ворагам і моцна шкодзяць беларускай справе.

Прагнем заявіць, што глыбока шануем беларускае настаўніцтва і хочам яму дапамагаць усімі даступнымі нам сродкамі. Прыгадваю, што мы сказалі моцнае слова падтрымкі для ідэі пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы ў час размоў паміж міністрамі адукацыі Польшчы і Беларусі Анджэем Стэльмахоўскім і Віктарам Гайсёнкам, а таксама ў час сустрэчы з намеснікам прэм'ера Польшчы Паўлам Ланчкоўскім, і цешымся, што польская дзяржава выдзеліла для гэтай мэты некалькі мільярдаў датацыі.

Адносна выдавецкай дзейнасці мусім заявіць слова пратэсту, скіраванае супраць Міністэрства культуры і мастацтва, якое арбітральна адабрала ў Таварыства яго орган — «Ніву». Будзем рабіць намаганні ў тым напрамку, каб выдаваць перыёдык «Беларуская згода», які служыў бы аб'ектыўнаму асвятленню беларускіх справаў у Польшчы. У мінулай кадэнцыі* мы выдалі некалькі навуковых і літаратурных кніжак. Іх колькасць не адпавядае ані нашым патрэбам, ані нашым магчымасцям, ані нашым амбіцыям. Кніга з'яўляецца найбольш трывалым следам дзейнасці кожнай арганізацыі, і таму будзем старацца, каб гэтыя сляды былі найбольш прыкметныя і частыя.

Каля года таму назад выйшлі мы з ідэяй супрацоўніцтва з Саюзам палякаў на Беларусі ў галіне арганізацыі супольных навуковых канферэнцый і фестываляў польскай і беларускай песні. Такая канферэнцыя першы раз у гісторыі была праведзена ў будынку Беларускага таварыства ўчора. Канферэнцыя прыцягнула больш чым сорак дакладчыкаў з Польшчы і з Беларусі. Матэрыялы з гэтай канферэнцыі намерваемся апублікаваць у наступным годзе. У 1994 г. навуковая канферэнцыя і фестываль беларускай песні, згодна з нашым паразуменнем з Саюзам палякаў у Беларусі, будуць арганізаваны ў Гродне.

Пры нагодзе прагнем выказаць словы падзякі Міністэрству культуры і мастацтва, якое з разуменнем і фінансавай падтрымкай аднеслася да ідэі канферэнцыі і фестывалю.

* Святы. — *Рэд.*
** Мерапрыемствы. — *Рэд.*

* Тэрмін правамоцтваў. — *Рэд.*

Паважаныя дэлегаты!

Беларускае таварыства не дзейнічала і не дзейнічае ў пустым вакууме. Усё, што мы дагэтуль рабілі і робім, не праводзілі ў кабінетах, а толькі ў вёсках, мястэчках і школах. Адным словам, працуем з людзьмі і для людзей. Так было дагэтуль, так будзе і ў будучыні. Пры нагодзе прагну падзякаваць за добрае супрацоўніцтва з Аддзелам культуры ў Ваяводскай управе ў Беластоку, Беластоцкаму дому культуры, шматлікім школам, войтам і гмінам, і ў першую чаргу Міністэрству культуры і мастацтва.

Асобнай трактоўкі вымагаюць нашы кантакты з Беларуссю. У мінулую кадэнцыю не раз мы наведвалі Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі і Міністэрства замежных спраў Беларусі. З кіраўнікамі названых міністэрстваў неаднойчы сустракаліся ў Таварыстве і на нашых імпрэзах. Добрае слова можам сказаць аб супрацоўніцтве з таварыствамі «Радзіма», «Бацькаўшчына» і з Фондам беларускай культуры. Карысна ўкладваюцца нашы адносіны з пасольствам Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Будзем верыць, што ў будучым Рэспубліка Беларусь акажа большую дапамогу нашым дзеянням, чым дагэтуль.

Дарагія Сябры! Уваходзім у новую чатырохгадовую кадэнцыю нашага Таварыства. Уваходзім з'яднаныя добрай воляй і ахвотай надалей працаваць для беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Не ўдалося і не ўдасца разбіць і знішчыць нас тым, хто выказаў максімум злой волі і нянавісці.

Будзем надалей ратаваць і развіваць беларускую духоўную субстанцыю ў Польшчы, па-грамадзянску служыць польскай дзяржаве, дзейнічаць у карысць ідэі партнёрскага супрацоўніцтва Польскай Рэчыпаспалітай і Рэспублікі Беларусь.

Жывем і будзем жыць, дарагія Сябры Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы!

## Справаздача з дзейнасці ГП БГКТ

*(скарочана)*

Галоўнымі напрамкамі дзейнасці ГП БГКТ у мінулай кадэнцыі 1988—1993 гадоў былі:

арганізацыйная дзейнасць;
развіццё беларускай культуры;
асвета і беларускае школьніцтва;
пабудова Беларускага музея;
выдавецкая дзейнасць;
супрацоўніцтва з уладамі і арганізацыямі Польшчы і Рэспублікі Беларусь.



### *АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ*

Дзейнасцю Таварыства кіраваў 12-асабовы Прэзідыум ГП у складзе: Аляксандр Баршчэўскі — старшыня; Мікалай Нікалаюк і Аляксандр Іваноўскі — намеснікі, Ян Максімюк і Віктар Стахвюк — сакратары; члены: Мікалай Аляксеюк, Мікалай Бушко, Валянціна Ласкевіч, Віталій Луба, Сяргей Лукашук, Аляксей Карпюк, Анатоль Мартыновіч, Юрый Каліна.

У канцы кадэнцыі адышлі з Прэзідыума і Пленума па сваёй волі Мікалай Бушко, Віталій Луба, Юрый Каліна, Ян Максімюк і Сакрат Яновіч. Пленумам былі ўведзены: Ян Сычэўскі, выбраны намеснікам старшыні, і Хведар Галёнка.

За справаздачны перыяд адбылося 8 пленумаў і 17 пасяджэнняў Прэзідыума Галоўнага праўлення. Тэмы пасяджэнняў тычыліся ўсіх галін статутнай дзейнасці Таварыства і былі нацэлены на выкананне статутных заданняў. Сярод некалькіх камісій, створаных раней пры Галоўным праўленні, высокую актыўнасць праяўлялі камісія асветы і камісія культуры. Пераломнае значэнне ў дзейнасці Таварыства ў апошнія гады меў Пленум ГП, які адбыўся 17 сакавіка 1991 года. Зыходзячы з сістэмных перамен у Польшчы, Пленум прыняў праграмную дэкларацыю, якая абнавіла статут Беларускага таварыства, выпрацавала далейшыя напрамкі дзейнасці арганізацыі.

Напачатку БГКТ налічвала 193 гурткі, у якія ўваходзіла 5438 членаў. Па-за межамі Беластоцкага ваяводства дзейнічала па аднаму гуртку ў Аўгустове, Кашаліне і Эльблёнгу.

Працавала таксама 18 аддзелаў Таварыства: у Беластоку, Бельску, Варшаве, Гайнаўцы, Гайнаўцы-гміне, Гарадку, Гданьску, Дуброве Беластоцкай, Дубічах Царкоўных, Міхалове, Кляшчэлях, Нарве, Нараўцы, Чаромсе, Чыжах. Актыўнасць паасобных гурткоў і аддзелаў была вельмі розная. Сярод іх знайшліся такія, якія не праяўлялі амаль ніякай дзейнасці, чакаючы толькі ініцыятывы і дапамогі Галоўнага праўлення. Але было нямала такіх гурткоў і аддзелаў, якія актыўна дзейнічалі на працягу кадэнцыі і ў якіх справаздачна-выбарчыя канферэнцыі праходзілі з вялікім зацікаўленнем і паспяхова.

Вопыт мінулай кадэнцыі і справаздачна-выбарчай кампаніі паказвае на неабходнасць увядзення новых крытэрыяў членства, абнаўлення арганізацыйных звенняў Таварыства і змены функцыі Галоўнага праўлення ў адносінах да гурткоў і аддзелаў. Арганізацыйную структуру БГКТ трэба прыстасаваць да новага адміністрацыйнага падзелу краіны, які будзе ўведзены ў бліжэйшыя гады. Галоўнымі арганізацыйнымі звеннямі Таварыства павінны стаць павятовыя яго аддзелы. Драмай усяго беларускага асяроддзя ў Польшчы сталася ўнутраная барацьба паміж паасобнымі арганізацыямі, безупынныя пошукі палітычнага ворага, маніпулянцтва і безадказнасць. У такой атмасферы беларускае асяроддзе

прайграла ў выбарах у сейм і сенат, а часткова таксама і ў гмінныя самаўпраўленні. Беларускае таварыства ад пачатку выбарчай кампаніі даказвала патрэбу стварэння супольнага выбарчага камітэта ўсіх беларусаў і праваслаўных у Польшчы, супраць чаго былі лідэры БДА* і Рада беларускіх арганізацый, якія ўтварылі свой выбарчы камітэт. Ізноў выбарчы камітэт праваслаўных прапанаваў нам стварыць супольны спісак кандыдатаў, на што БГКТ згадзілася з задавальненнем. Аднак хутка ад нас там адмовіліся. Прычынай такога рашэння з'явілася пагроза канкурэнтнасці аднаго з нашых кандыдатаў. Такім чынам выбарчая кампанія сталася для беларусаў не барацьбой за месцы ў польскім парламенце, а бессэнсоўнай вайной паміж сабою.

Мы перакананы, што без разумнага аб'яднання не можам разлічваць на ніякую палітычную перамогу і на пашану з боку другіх нацыянальнасцяў. Распачатую тады барацьбу з Таварыствам і яго дзеячамі прадстаўнікі другіх беларускіх арганізацый вядуць увесь час. Аб'ектамі іх нападкаў стала кіраўніцтва БГТК. Атмасферу скандалу выклікаў зварот камп'ютэраў у 1992 годзе з рэдакцыі тыднёвіка «Ніва» ў памяшканне БГКТ. Адзінай прычынай гэткага рашэння была неабходнасць спынення іх злоўжывання ў прыватных мэтах.

У мінулым годзе мелі месца драматычныя для Таварыства здарэнні: узлом і пакража з памяшканняў ГП многіх каштоўных прадметаў тэхнічнага абсталявання, пакража і знішчэнне аўтамашыны, нацыяналістычныя выступленні невядомых груп моладзі ў Беластоку, напад на дзеяча варшаўскага аддзела БГКТ і пазбаўленне яго памяшкання. Стратай для беларускага асяроддзя было таксама часовае закрыццё будынка Пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім, у якой дзеці навучаюцца беларускай мове.

У сувязі з фінансавымі цяжкасцямі Галоўнае праўленне не мае магчымасці плаціць арэнду за памяшканні. Мы вымушаны былі адмовіцца ад памяшканняў у Бельску Падляшскім, Саколцы, Дуброве Беластоцкай, Гданьску. Справе гэтай прысвячалася нямала ўвагі. Правялі мы многа размоў і напісалі немалую колькасць пісьмаў да ўлад гарадоў, якія адмініструюць памяшканнямі. Бадай найбольшыя праявы непрыхільнасці ў гэтай справе сустрэлі з боку бургамістра і самаўпраўлення Бельска Падляшскага, дзе пасля многіх сустрэч, пісьмаў і абяцанак справа да гэтага часу засталася не вырашанай. Вялікая пагроза павісла таксама над памяшканнямі Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку. Аднак дзякуючы прыхільнасці ўладаў горада будынкам мы карыстаемся і надалей.

## *РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ*

Справы развіцця беларускай культуры знаходзяцца заўсёды ў цэнтры ўвагі Беларускага таварыства. Ініцыятывы і актыўнасць

* Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. — *Рэд.*





Варшаўскі дуэт.
Фота *С. Грынявіцкага*

Галоўнага праўлення ў апошні час накіроўваліся на тыя мерапрыемствы, якія не дапускалі, незалежна ад цяжкасці, да заняпаду беларускай культуры ў Польшчы.

Адна з найкаштоўнейшых праяў беларускай культуры — мастацкі рух. На тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны, а таксама ў Гданьску і Варшаве існуюць дзесяткі аматарскіх калектываў, дзякуючы якім можна ганарыцца багаццем беларускай культуры. Асабліва вядомы дасягненні калектываў з Гарадка, бельскіх «Васілёчкаў» і «Маланкі», гайнаўскага хору і хору гарадскога аддзела ў Беластоку. Вялікую папулярнасць здабылі калектывы «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў, у існаванні якіх вялікую пазітыўную ролю адыгрывае Мікалай Ігнацюк, аўтар слоў і кампазітар амаль усіх песень, якія выконвае калектыў, а таксама самадзейнікі з Дашоў, Чыжоў, Ляўкова. Глыбокую ўдзячнасць заслужылі такія дзеячы культуры і спевакі, як Ніна Мушынская, Ніна Ціванюк з Гарадка, Сяргей Лукашук і Аліна Негярэвіч з Бельска Падляшскага, Мікалай Бушко з Гайнаўкі, Ірыней Лаўрэшук з Гданьска, Валянціна Міцэвіч з Дашоў, Валянціна Грыка з Ляўкова Старога, спадарствы Якімюкі з Чыжоў, Валянціна Марціновіч з Краснага Сяла.

Бадай найбольшую славу здабылі таленавітыя спявачкі з Беластока Люба Гаўрылюк і яе дачка Аля Дубэц, вядомыя не толькі на Беласточчыне, але і далёка па-за яе межамі. Аля Дубэц у 1991



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Танцоркі аддзела БГКТ у Гданьску.

годзе выступіла як салістка з аркестрам М. Фінберга ў Мінску. Канцэрт быў паказаны па тэлебачанні. Дзякуючы вяртанню ў Беласток, яна зноў звязала свой лёс з беларускім мастацкім рухам. Трэба сказаць, што першае месца, якое беластоцкі хор заняў у фінальным аглядзе «Беларуская песня—93», — гэта перад усім заслуга яе працавітасці і таленту.

Пры дапамозе Таварыства большасць нашых калектываў наладзіла кантакты з калектывамі з Беларусі. Узаемныя візіты і супольныя канцэрты спрыяюць павышэнню мастацкага ўзроўню і развіццю сяброўства. У апошні час Галоўнае праўленне БГКТ не мае грошай на ўтрыманне інструктараў у мастацкіх калектывах. Дзякуючы стараням і прыхільнасці гмінных самаўправаў да нашага аматарскага мастацкага руху яго ўзялі пад апеку інструктары з Беларусі, праца якіх аплачваецца нашымі гмінамі. Пад іх кіраўніцтвам працуюць ужо хоры гайнаўскі і беластоцкі, «Хлопцы-рыбалоўцы», «Тыневічанкі», «Каліна» з Дашоў, «Красуні» з Краснага Сяла, «Цаглінкі» з Ляўкова, «Чыжаўляне» з Чыжоў, а таксама калектывы з Орлі і Курашава. Ва ўмовах недахопу мясцовых інструктараў гэта з'ява вельмі карысная. Было б пажадана, каб і іншыя гміны знайшлі не такія ўжо вялікія сродкі на аплату інструктараў для тых калектываў, якія некалькі гадоў вядуць сваю дзейнасць на іх тэрыторыі.

Можна сказаць, што найпрыгажэйшымі праявамі культурнай дзейнасці БГКТ з'яўляюцца агляды беларускай песні, святы беларускай культуры, купаллі і беларускія фестыны. Штогадовыя раённыя агляды беларускай песні ў Гайнаўцы і Бельску Падляшскім, фінальны агляд і гала-канцэрты ў Беластоку сталі важнымі падзеямі ў культурным жыцці Беласточчыны. Перапоўненая зала Беластоцкай філармоніі на двух канцэртах, спантаннае рэагаванне публікі на выступленні выканаўцаў — доказ таго, што такая форма культурнай дзейнасці кранае сэрцы людзей.





Намеснікі міністраў культуры Рэспублікі Беларусь Б. Святлоў (злева) і Польшчы М. Ягела ў час канцэрта «Артыстычная сустрэча Беласток—Гродна» ў Беластоку.

У фінальным аглядзе «Беларуская песня — 93» прынялі ўдзел 63 выканаўцы (салісты, дуэты, тэрцэты, эстрадныя вакальныя, вакальна-інструментальныя калектывы і хоры), а колькасць выканаўцаў набліжалася да двухсот чалавек. Сярод гасцей гала-канцэрта мы мелі гонар бачыць архіепіскапа Саву, з Рэспублікі Беларусь: намесніка міністра культуры У. Рылатку, намесніка міністра інфармацыі І. Карэнду і пасла У. Сянько, а таксама ваяводу С. Пруціса, паслоў у Сейм Рэчыпаспалітай В. Цімашэвіча і Я. Чыквіна.

Вялікае зацікаўленне выклікаюць таксама святы беларускай культуры, якія праводзяцца кожны год у беластоцкім амфітэатры.

Вельмі важнае месца ў нашай дзейнасці займаюць арганізаваныя з 1985 года купаллі. З 1988 года яны праводзяцца ў Белавежы. Мясцовыя гмінныя ўлады на чале з войтам Аннай Байко аказваюць нам у гэтым вялікую дапамогу. У купаллі прымалі ўдзел такія знакамітыя госці, як міністр замежных спраў Пётр

 

Краўчанка і міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч, прафесар Бэрд з Амерыкі і другія. Апошняе купалле прыцягнула каля чатырох тысяч удзельнікаў і сталася адным з найбольш масавых і праграмна багатых прадстаўленняў усёй Беласточчыны. На белавежскай сцэне выступіла 10 мастацкіх калектываў з Рэспублікі Беларусь і 8 калектываў з Беласточчыны, разам каля трохсот выканаўцаў. У час купалля было сабрана чатыры мільёны злотых на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы, што сведчыць аб ахвярнасці яго ўдзельнікаў.

У 1992 годзе, нягледзячы на тое, што Міністэрства культуры не выдзеліла на гэтую мэту ніякіх фінансавых сродкаў, Беларускае таварыства арганізавала ў розных мясцовасцях Беласточчыны дзевяць фестынаў, якія сталі рэгіянальнымі святамі беларускай культуры. Правядзенне фестынаў стала магчымым дзякуючы сур'ёзнай дапамозе многіх гмін і гарадскіх самаўправаў. Яны прыцягнулі вялікую колькасць гледачоў. Спадзяемся, што ў бягучым годзе ўсе гміны ўсходняй Беласточчыны захочуць арганізаваць фестыны, каб падкрэсліць вітальнасць беларускай культуры.

Пры нагодзе сардэчна дзякуем такім войтам, як Анна Байко з Белавежы, Аляксандр Сяліцкі з Кляшчэляў, Рыгор Мацкевіч з Чыжоў, Вольга Грыгаровіч з Гайнаўкі, а таксама бургамістрам з Бельска, Гайнаўкі і Сямяціч за дапамогу, асабліва ў арганізацыі народных свят у іх мясцовасцях. Ва ўсіх упамянутых вышэй мерапрыемствах прымалі ўдзел мастацкія калектывы з Рэспублікі Беларусь, якія заўсёды дадаткова выступалі з канцэртамі ў розных мясцовасцях Беласточчыны. Перад нашай публікай выступалі такія вядомыя калектывы, як «Лявоны», «Гараднiца», «Медуніца», «Цэрніца», «Паляшукі», «Купалінка», «Крыніца», «Вытокі», «Забава», Ансамбль песні і танца ўзброеных сіл Рэспублікі Беларусь, аркестр і салісты Беларускага тэлебачання пад кіраўніцтвам М. Фінберга, калектыў з Мядзеля і многія другія.

Вялікае зацікаўленне выклікалі выступленні ў Беластоцкай філармоніі танцавальнага калектыву «Васілёк» са Злучаных Штатаў Амерыкі і канцэрты славутага спевака Данчыка.

У снежні 1991 года нашы калектывы і салісты ўдзельнічалі ў вечары, прысвечаным прэзентацыі беларускай культуры ў рамках цыкла «Сустрэчы з культурай пагранічча», арганізаваным Ваяводскім домам культуры ў Беластоку.

З нагоды 100-ай гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча Галоўнае праўленне супольна з гарадскім аддзелам БГКТ у Беластоку арганізавалі ўрачыстую вечарынку з дакладам праф. А. Баршчэўскага і канцэртам самадзейных калектываў.

Галоўнае праўленне, а таксама праўленні некаторых аддзелаў арганізавалі для членаў і актывістаў Таварыства навагоднія балі, а таксама ёлкі для дзяцей. Кожны год Таварыства было галоўным арганізатарам конкурсаў беларускай песні і дэкламатарскага чытання сярод школьнікаў, сцэнічнага слова для ліцэістаў і дарослых, а такса-





Заканчэнне канцэрта «Артыстычныя сустрэчы Беласток—Гродна» ў Беластоку.

ма конкурсу драматычных гурткоў для школьнікаў. Зацікаўленасць дзяцей і моладзі гэтымі конкурсамі даволі вялікая. Дзяцей падрыхтоўваюць да конкурсаў настаўнікі беларускай мовы, якія самі выбіраюць рэпертуар. Выказваем ім за гэта шчырую падзяку.

Беларускае таварыства і далей будзе арганізатарам усіх мерапрыемстваў, якія прыносяць прыемнасць гледачам, а ўдзельнікам задавальненне і пазваляюць захаваць нашую культуру ад заняпаду.

У бягучым годзе маем намер упершыню прыступіць да арганізацыі новага, аграмаднага мерапрыемства — фестывалю беларускай і польскай песні «Беласток—Гродна», які будзе арганізаваны пераменна адзін год у Беластоку, а другі — у Гродне пры супрацоўніцтве Саюза палякаў у Беларусі і Гродзенскага фонду культуры. Спадзяемся, што фестываль будзе спрыяць добрым сяброўскім кантактам паміж беларусамі і палякамі ў Польшчы і Рэспубліцы Беларусь.

## *АСВЕТА І БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЬНІЦТВА*

Асвета і беларускае школьніцтва — гэта складаная праблема для настаўнікаў беларускай мовы і для Таварыства. Больш 20 гадоў таму назад беларускую мову ў Польшчы вывучала каля 11 000 вучняў, у канцы папярэдняй кадэнцыі БГКТ — ужо толькі 4326 вучняў, у тым ліку 635 ліцэістаў, а цяпер — толькі 3529 вучняў, з



 

іх 630 — у ліцэях. Раней існавала каля 50 школ, у якіх навучанне вялося на беларускай мове, і каля 70 школ з беларускай мовай як прадметам. Сёння школ з беларускай мовай навучання няма ўвогуле, а беларуская мова як прадмет выкладаецца толькі ў 44 школах. Беларускае таварыства намагалася, каб усюды там, дзе беларусы складаюць больш чым 50 % насельніцтва, беларуская мова стала абавязковай. Пастулат гэты не быў, аднак, прыняты школьнымі ўладамі.

БГКТ падтрымлівае цесныя кантакты з настаўнікамі роднай мовы. Многія гады ў Мінску па прапанове Таварыства былі арганізаваны курсы ўдасканалення настаўнікаў. У мінулым годзе ў размовах з Міністэрствам адукацыі мы зноў закранапі гэтую праблему, аднак, на жаль, сярод настаўнікаў не знайшлося ахвотных паехаць на курсы. Звяртаемся з заклікам да ўсіх дэлегатаў XII з'езда і дзеячаў Таварыства, каб заахвочвалі беларускіх настаўнікаў да ўдзелу ў мінскіх курсах, якія эфектыўна павышаюць настаўніцкую кваліфікацыю і служаць іх азнаямленню з беларускай педагогікай і метадыкай навучання.

На працягу многіх гадоў сталым пастулатам Таварыства да асветных улад Беларусі былі пастаўкі дзіцячых газет і літаратуры. У апошнім часе справа вырашана паспяхова. Мы атрымалі каля 20 тысяч кніжак для пачатковых щкол і ліцэяў, а таксама распачалася сістэматычная пастаўка газет і часопісаў. Распаўсюджваннем іх у паасобныя школы займаецца Ваяводскае аб'яднанне ўстаноў удасканалення настаўнікаў, якім кіруе Янка Зенюк. Дзякуем яму за добрую работу для справы беларускай асветы.

Старшыня ГП прымаў актыўны ўдзел у перамовах, якія вяліся паміж міністэрствамі адукацыі Беларусі і Польшчы. У час гэтых размоў наш прадстаўнік акцэнтаваў увагу на датацыі для пабудовы беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Голас быў узяты пад увагу ў канчатковых пастановах міністраў адукацыі, і, згодна са словамі міністра Стэльмахоўскага, датацыя для ліцэя была прызнана.

З мэтай павелічэння колькасці вучняў з беларускага асяроддзя ў мінулым годзе Галоўнае праўленне выступіла з ініцыятывай арганізаваць у адным з агульнаадукацыйных ліцэяў у Беластоку першы клас, у якім беларуская мова вывучалася б як прадмет. З вялікай прыхільнасцю аднёсся да нашай ініцыятывы куратар асветы Пётр Літэрмус, а таксама дырэктар агульнаадукацыйнага ліцэя № 10. На жаль, гэтая ініцыятыва не выклікала зацікаўлення сярод бацькоў і моладзі.

Сур'ёзным нашым дасягненнем з'яўляецца тое, што Рэспубліка Беларусь задаволіла наш пастулат адносна прыёму на вучобу ў вышэйшыя ўстановы Беларусі 60 выпускнікоў беларускіх ліцэяў з Польшчы. Вялікую ролю ў практычным вырашэнні гэтай праблемы адыграў старшыня гродзенскага аддзялення Беларускага фонду культуры, прарэктар Дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы праф. Сяргей Габрусевіч. Студэнты маюць трывалую стыпендыю і бясплатнае жыллё ў інтэрнатах. У мінулым годзе ў ВНУ Беларусі трапіла 50 выпускнікоў сярэдніх школ з усходняй Беласточчыны.



Пагадненні з міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь праф. Віктарам Гайсёнкам дазваляюць павялічыць у бягучым годзе колькасць выпускнікоў, якія будуць прыняты на вучобу ў Беларусі.

Вялікае значэнне для развіцця беларускай культуры сярод дзяцей і моладзі будуць мець бясплатна атрыманыя з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь музычныя інструменты: 9 піяніна, 12 баянаў і 12 цымбалаў. Усе яны будуць выкарыстаны ў школах Орлі, Бельска Падляшскага і Гайнаўкі. Настаўнікі з Мінска будуць працаваць у нашых школах і фінансавацца куратарыяй асветы ў Беластоку.

Таварыства будзе і надалей цесна супрацоўнічаць з беларускім настаўніцтвам, з бацькамі школьнікаў, а таксама з куратарыяй, ставіцца да справы навучання беларускай мове як прыярытэтнай у сваёй дзейнасці.

## *ПАБУДОВА БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ*

Шэсць гадоў назад Беларускае таварыства прыступіла да практычнай рэалізацыі ініцыятывы I з'езда БГКТ аб стварэнні Беларускага музея. Спробы арганізацыі такога музея ў Белавежы не ўдаліся.

Дзякуючы выключнай актыўнасці дзеяча БГКТ Кастуся Майсені, асяроддзя беларусаў з Гайнаўшчыны і ўсёй Беласточчыны, а таксама ахвярнасці беларусаў з ўсяго свету Беларускі музей усё хутчэй становіцца рэчаіснасцю. Трэба тут таксама звярнуць увагу на вялікую дапамогу Рэспублікі Беларусь, якая падтрымлівае пабудову, пастаўляючы Беларускаму музею некаторыя будаўнічыя матэрыялы. У дапамогу пабудове музея ўключылася таксама Праваслаўная царква ў Польшчы. Дзякуючы вялікай прыхільнасці архіепіскапа Савы, выходзячы насустрач нашай просьбе, на падставе рашэння Сінода епіскапаў, ва ўсіх царквах у Польшчы 22 сакавіка 1992 года быў праведзены збор грошай на пабудову музея ў Гайнаўцы. Зараз трэцяя і апошняя частка музейнага будынку пакрыта дахам, а ўнутры вядуцца работы. Аднак для поўнага заканчэння будаўніцтва музея яшчэ патрэбна каля 3 мільярдаў злотых. Таму звяртаемся да нашых гурткоў і членаў Таварыства, а таксама да ўсіх беларусаў, каб у меру сваіх магчымасцей унеслі ўклад у пабудову Беларускага музея фінансавымі ахвяраваннямі, працай на пабудове, зборам экспанатаў, грошай у розных асяроддзях і т.п. Кожны член нашай арганізацыі павінен дапамагчы Беларускаму музею ў Гайнаўцы. Музей будзе гонарам усіх беларусаў у Польшчы і ва ўсім свеце, супольнай іх уласнасцю незалежна ад таго, дзе яны жывуць.

Вялікую дапамогу ў пабудове аказвае Міністэрства культуры і мастацтва. У апошні час яно выдзяляе па 500 млн. злотых датацыі ў год. Праграма музея была апрацавана ўжо даўно Галоўным праўленнем

БГКТ і Камітэтам пабудовы и выслана ў Міністэрства культуры і мастацтва. Беларускі музей у Гайнаўцы паводле гэтай праграмы будзе шматфункцыянальным цэнтрам беларускай культуры, а прафесійную апрацоўку экспанатаў ужо рыхтуе група спецыялістаў з Мінска.

*ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ*

За мінулы справаздачны перыяд БГКТ падрыхтавала і выдала чатыры Беларускія календары. У выніку інтрыг маладых беларускіх арганізацый таварыства страціла «Ніву», якая на працягу трыццаці пяці гадоў была яго органам.

Апрача каляндара БГКТ выдала кніжку А. Баршчэўскага «Białoruska obrzedowość i folklor Wschodnej Białostocczyzhy», зборнік вершаў Віктара Шведа «Вясёлка», дапамагло ў выданні кніжкі айца Рыгора Сасны «Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyzhie», выдала спеўнік З. Фэдэцкага «Цёплыя вечары ды халодныя ранкі», спрыяла выданню двух зборнікаў Шатыловіча «Эцюды падарожжа» і «Маё Падляшша». Таварыства будзе рабіць усё, каб атрымаць ад міністэрства фінансавыя сродкі на разгортванне выдавецкай дзейнасці, якая служыць усім агульнаасветніцкім мэтам сярод беларусаў у Польшчы.

*СУПРАЦОЎНІЦТВА З УЛАДАМІ І АРГАНІЗАЦЫЯМІ*

Не малое значэнне для існавання і дзейнасці нашай арганізацыі мелі шматлікія кантакты Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ з уладамі і арганізацыямі Польшчы і Беларусі, а перад усім з міністрамі Міністэрства культуры і мастацтва Ізабелай Цывінскай, Станіславам Сіцінскім і Ежым Гуралем, намеснікам міністра Міхалам Ягелам, міністрам адукацыі А. Стэльмахоўскім, намеснікам прэм'ера П. Ланчкоўскім, старшынёй сеймавай камісіі нацыянальных меншасцяў, з дэпутатамі ў сейм Я. Чыквінам і У. Цімашэвічам, з беластоцкім ваяводам С. Пруцісам, дырэктарам Ваяводскага аддзела культуры Э. Біль-Ярузельскім, прэзідэнтам г. Беластока Л. Руткоўскім і многімі іншымі. Кантакты, сустрэчы і размовы нашых дзеячаў і дэлегацый з прадстаўнікамі ўлад датычыліся спраў фінансавых, культурнай дзейнасці, памяшканняў, пабудовы Беларускага музея, вяртання экспанатаў, выбараў, навучання беларускай мове, юрыдычных праблем нацыянальных меншасцяў у Польшчы. З вялікай удзячнасцю трэба падкрэсліць прыхільнасць, з якою заўсёды адносіцца да беларускай справы архіепіскап Сава. Дзякуючы яму вядзецца на беларускай мове радыёперадача «Перад выхадам у царкву», быў праведзены ў царквах збор грошай на пабудову Беларускага музея, тэмы праваслаў'я прысутнічаюць на старонках Беларускага календара, добра развіваюцца кантакты паміж Праваслаўнай царквою і Беларускім таварыствам. Амаль заўсёды мы маем гонар бачыць



архіепіскапа як госця на гала-канцэртах конкурсаў беларускай песні ў Беластоцкай філармоніі.

Належна складваецца супрацоўніцтва з Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры* ў Беластоку і яго дырэктарам К. Дэркоўскім.

Добрыя вынікі даюць таксама кантакты з дырэктарам радыёвяшчальнай станцыі ў Беластоку Е. Мушынскім і кіраўніком беларускамоўнай радыёперадачы У. Праховічам.

Нашым партнёрам у культурна-асветніцкай дзейнасці з'яўляецца беларускае настаўніцтва, з якім склаліся добрыя адносіны і супрацоўніцтва. У апошні час пачало развівацца супрацоўніцтва з Брацтвам праваслаўнай моладзі ў Беластоку. Трэба падкрэсліць, што маладыя людзі, члены брацтва, адзначаюцца вялікай скромнасцю, працавітасцю, ініцыятывай і жаданнем супрацоўніцтва. Яны ахвотна ўключыліся ў справу стварэння маладзёжнага хору, разам з БГКТ арганізавалі ёлку для дзяцей, а таксама супрацоўнічаюць у другіх формах арганізацыйнай і культурнай дзейнасці нашага Таварыства.

Услед за абвяшчэннем незалежнасці Беларусі ў жніўні 1991 года ўзрасла зацікаўленасць Рэспублікі Беларусь беларускай нацыянальнай меншасцю ў Польшчы. Праявілася яна на ўрадавым узроўні і такіх структур, як таварыства «Радзіма», таварыства «Бацькаўшчына» і Фонд беларускай культуры. Наведалі нас прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і члены ўрада. Істотнае значэнне мелі візіты прэзідэнта Беларусі С. Шушкевіча, прэм'ер-міністра В. Кебіча, міністра замежных спраў П. Краўчанкі, міністра культуры Я. Вайтовіча, міністра адукацыі В. Гайсёнка, міністра інфармацыі А. Бутэвіча, надзвычайнага пасла Беларусі ў Польшчы У. Сянько, а таксама старшыні таварыства «Бацькаўшчына» Я. Лецкі, старшыні Беларускага фонду культуры І. Чыгрынава, намесніка старшыні таварыства «Радзіма» М. Васілёнка. Шмат разоў мы кантактаваліся са старшынёй Гродзенскага аддзялення Беларускага фонду культуры праф. С. Габрусевічам, а таксама з дырэктарам Гродзенскага абласнога ўпраўлення культуры Брыкачом і яго намеснікам Губічам. У апошні час мы наладзілі кантакты і падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве з брэсцкім абласным аддзяленнем Беларускага фонду культуры. Дзеячы БГКТ таксама многа разоў наносілі візіты ўладам і арганізацыям у Мінску і Гродне. Карысць ад гэтых кантактаў немалая. Беларускі бок дапамагае ў пабудове музея, ажыццяўленні кантактаў з мастацкімі калектывамі і інструктарамі, у забеспячэнні многіх нашых калектываў касцюмамі, музычнымі інструментамі, кадрамі настаўнікаў музыкі, прымае выпускнікоў ліцэяў у свае ВНУ. Аднак Таварыства не атрымлівала ніякай грашовай дапамогі з боку якой-небудзь беларускай арганізацыі. У гэтым сэнсе сітуацыя наша намнога горшая, чым, напрыклад, Саюза палякаў на Беларусі.

* Ваяводскі дом культуры. — *Рэд.*

Стрымліваюць гэта ў першую чаргу вельмі некарысныя валютныя пералікі.

Новыя беларускія арганізацыі, якія ўзніклі на Беласточчыне ў апошнія гады, распачалі сваю актыўнасць ад інтэнсіўнай кампаніі, мэтай якой стала кампраметацыя і развал БГКТ. Гэтыя атакі прымалі мы ўвесь час са спакоем, не даліся ўцягнуць у барацьбу, вайну, разбіць Беларускае таварыства не дазволілі. У адносінах да тых арганізацый кіраваліся прынцыпам неўмяшання ў іх ідэалогію ці практычную дзейнасць. Лічым, што кожная арганізацыя мае канстытуцыйнае права на самастойнасць, парушаць яе ніхто пры ніякай падставе не павінен. Разлічваем, што такі рацыянальны падыход завалодае таксама важакамі ўсіх пабрацімных беларускіх арганізацый.

Беларускае таварыства вучыцца існаваць і дзейнічаць без дзяржаўных датацый. У такой сітуацыі мусім перад усім абапірацца на энтузіязм і ахвярнасць нашых членаў і прыхільнікаў. Ніколі лёс беларускай культуры і асветы не залежаў ад нас саміх у такой ступені, як сёння.

### *ВЫВАДЫ*

1. Прагнем падтрымліваць ужо існуючыя мастацкія калектывы і арганізоўваць новыя ў тых мясцовасцях, у якіх ёсць такія магчымасці.
2. Хочам надалей падтрымліваць супрацоўніцтва з беларускім настаўніцтвам і асветнымі ўладамі. Ад настаўніцтва залежыць фармаванне поглядаў і характараў нашага маладога пакалення.
3. Будзем пашыраць акцыю збору фінансавых сродкаў і экспанатаў дзеля хутчэйшага заканчэння пабудовы і адкрыцця Беларускага музея ў Гайнаўцы.
4. Хочам развіваць цеснае супрацоўніцтва з усімі гміннымі і гарадскімі ўправамі ўсходняй Беласточчыны.
5. Будзем супрацоўнічаць у сваёй дзейнасці з Праваслаўнаю царквою, якую лічым фундаментальным чыннікам захавання беларускасці ва ўсходняй Беласточчыне.
6. Імкнемся падтрымліваць беларусаў, якія выказваюць зацікаўленасць гаспадарчай ініцыятывай, што садзейнічае развіццю эканомікі ўсходняй Беласточчыны.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства, згодна з праграмнай дэкларацыяй, прынятай 17 сакавіка 1991 года, хоча заставацца «арганізацыяй незалежнай, самакіравальнай, пазапартыйнай, з грамадскімі, культурнымі і асветнымі заданнямі». Падтрымлівае яно дэмакратычныя перамены ў Польшчы, стаіць на пазіцыі шанавання канстытуцыі і абавязваючых у Польшчы законаў, кіруецца перакананнем, што ў нашай рэчаіснасці будуць поўнасцю ўзяты пад увагу правы і імкненні беларускай нацыянальнай меншасці.

*Прэзідыум*
*Галоўнага праўлення Беларускага*
*грамадска-культурнага таварыства*



## Справаздача галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ
*(вытрымкі)*

...Ніводны з мінулых справаздачных перыядаў нашай арганізацыі не праходзіў у такіх складаных знешніх і ўнутрыарганізацыйных абставінах, як гэты.

Палітычныя падзеі пераломнага характару канца васьмідзесятых і пачатку дзевяностых гадоў у Польшчы вялікага непасрэднага ўздзеяння на Беларускае таварыства не мелі. Прасалідарніцкі напрамак перамен застаўся збоку ад нас. Беларускае асяроддзе ацэньвала яго ад пачатку як антыбеларускі, антыправаслаўны рух, які парушыў да гэтага добрае, нават прыкладнае ў Польшчы сужыццё насельніцтва, пачаў пагражаць заняпадам гаспадаркі, затрымаў грамадскае развіццё беларусаў, надта цяжка здабытае ў пасляваенны перыяд. Сумесна з акцэнтамі варожасці да СССР такую палітыку насельніцтва ўспрыняло як вяртанне да даволі змрочнага для нас міжваеннага перыяду ў Польшчы.

БГКТ разлічвала на значны прырост новага актыву ў сваю арганізацыю, які раней стрымлівала дысцыпліна Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Аднак гэтага не адбылося. Такія людзі былі і застаюцца яго прыхільнікамі, а па сутнасці — за полем дзейнасці, ім заўсёды нешта перашкаджае.

Значна большыя вынікі далі змены ў падпарадкаванні БГКТ: не ранейшаму апекуну — Міністэрству ўнутраных спраў, а Міністэрству культуры і мастацтва. Раней Таварыства мела многа нагляду, але і сціплы бюджэт на дзейнасць усёй арганізацыі ў акрэсленых статутам цвёрдых рамках. Зараз не адчуваем нагляду, але і датацыі, якія атрымлівае Таварыства, толькі на дафінансаванне культурных мерапрыемстваў, давялі да ліквідацыі 19-асабовага штатнага апарату, з якога палова працавала ў аддзелах БГКТ, памяшканняў, у тым ліку традыцыйных ужо ў Варшаве, Бельску, Гданьску, абмежавання ўсялякіх арганізацыйных пачынанняў з-за немагчымасці аплаціць кошт падарожжа для дзеячаў, абслугоўваючых аддзелы і гурткі Таварыства, за бензін, неабходныя рамонты і гэтак далей.

Цяпер у ГП БГКТ па штату — тры з паловай адзінкі, якія атрымліваюць ганарары, калі самі іх выпрацуюць.

Найбольш цяжкая сітуацыя склалася з аплатай за памяшканні Галоўнага праўлення. Бюро арганізацыі займае ўсяго невялікую яго частку. Астатняя плошча занята каля трыццаці гадоў заламі, дзе праводзяцца рэпетыцыі мастацкіх гурткоў, розныя культурна-асветныя мерапрыемствы, арганізацыйныя пасяджэнні. Трэба, аднак, за іх плаціць 16 мільёнаў злотых у месяц, а БГКТ даходаў не мае — расце пагражальная задоўжанасць. Страту памяшкання для 100-тысячнай беларускай грамадскасці горада цяжка ўявіць.

Не менш складанымі аказаліся ўнутрыарганізацыйныя аб-

ставіны. Раней Беларускае таварыства, як адзіная грамадска-культурная арганізацыя ў нашай краіне, займалася ўсімі пытаннямі сваёй нацыянальнай меншасці без права нейкай выключнасці яе юрыдычна прадстаўляць. Яно мела свой самастойны прэсавы орган «Ніву», якога ніколі не фінансавала.

У палове кадэнцыі пачала арганізоўвацца партыя — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне,— якую ГП нават падтрымлівала, таксама як і Беларускае аб'яднанне студэнтаў. У плюралістычным палітычным жыцці краіны беларусы павінны мець партыйнае прадстаўніцтва. Аднак адначасова з узнікненнем Беларускага дэмакратычнага аб'яднання першым пакінуў Прэзідыум ГП яго лідэр Сакрат Яновіч.

Пачалося стварэнне беларускай рады, якая б каардынавала дзейнасць усіх сямі арганізацый і выбарчых кампаній у сейм і гмінныя самаўправы, але пад кіраўніцтвам Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Прэзідыум ГП дазволіў ім выкарыстоўваць транспарт, памяшканні, празмерна доўга штатным супрацоўнікам займацца партыйна-камерцыйнымі справамі. Пасяджэнні Прэзідыума першай паловы кадэнцыі, на жаль, пачалі выкарыстоўвацца як нагода да палітычнай барацьбы, сталіся бясконцымі гаварыльнямі.

Ніякія кантрольныя заўвагі Рэвізійнай камісіі не браліся пад увагу. Прыйшлося паставіць на пленум ГП прапанову адклікання з Прэзідыума трох яго членаў, у тым ліку абодвух штатных супрацоўнікаў. Адзін быў непатрэбны, другі адмовіўся рэалізаваць статутныя заданні БГКТ. Адышоў з Прэзідыума ГП штатны намеснік старшыні Аляксандр Іваноўскі, штатныя сакратары, па чарзе: Віталі Луба, Ян Максімюк і Віктар Стахвюк, а таксама Юры Каліна і Мікалай Бушко. Усе зрабілі гэта дэманстрацыйна з палітычных меркаванняў і з разлікам на дэзарганізацыю або развал Таварыства. Страта сямі членаў Прэзідыума была вельмі непрыемнай. Дзве асобы прыйшлося ўвесці ў склад Прэзідыума.

Самае горшае тое, што пачаліся сталыя атакі ў «Ніве» на БГКТ і яго найбольш актыўных дзеячаў. Працягваюцца яны і да сёння. З I.VI.1992 года Таварыства страціла свой прэсавы орган «Ніву», якая патаемна была падпарадкавана наспех створанай нейкай Выдавецкай радзе. Ніхто нашай арганізацыі нават не паведаміў аб адарванасці тыднёвіка пасля 38-гадовай лучнасці ад БГКТ. Нічога дзіўнага, што кантакты з ім былі спынены.

Беларускае асяроддзе па-рознаму перажывае ўзнікшыя падзелы, але найчасцей беспадстаўна абвінавачвае за гэта Беларускае таварыства. Яно захоўвае надалей да ўсіх беларускіх арганізацый аднолькава талерантныя адносіны. Хоча з імі супрацоўнічаць, але адкідае ўсякае падпарадкаванне яго палітычным партыям. Не мае, аднак, зараз магчымасцей інфармавання грамадскасці аб сваёй працы, а нават абароны на старонках беларускамоўнай прэсы.

Рэвізійная камісія далей лічыць, што ўсе існуючыя беларускія арганізацыі павінны перагледзець сваю дзейнасць, пазбыцца людзей, якія парушаюць еднасць, і пачаць добразычлівае супрацоўніцтва на карысць сваёй нацыянальнай меншасці. Найбольш масавая арганізацыя з разбудаванай базай і традыцыямі — гэта БГКТ. Гісторыя пасля ацэніць, хто быў правы, а хто вінаваты.

...Галоўная рэвізійная камісія хоча падкрэсліць дасягненні ў галіне аматарскага руху, правядзенні фестываў, пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы, пашырэнні кантактаў з прадстаўнікамі дзяржаўных устаноў і арганізацый Рэспублікі Беларусь.

...Пачалі нармавацца адносіны да БГКТ нашых цэнтральных і мясцовых дзяржаўных улад. Усё прыемней нам з імі развважацца, але не з кожнай сустрэчы Таварыства мае якую-небудзь карысць. Дзякуем Міністэрству культуры і мастацтва за частковае дафінансаванне нашых культурных мерапрыемстваў. Дзякуем таксама мясцовым уладам за дапамогу ў рэалізацыі статутных заданняў. Просім аб яе павелічэнні. Мы не эмігранты ці анексіраваныя, а жывём як аўтахтоны. Прызнаем законы сваёй краіны, карыстаемся яе правамі, агульнадзяржаўнай скарбніцы гаспадаркі і культуры, сумленна выконваем свае абавязкі, але хочам захаваць сваю беларускую тоеснасць. Нам не адпавядае ўжыванне ўладамі Беларусі і Польшчы паняцця так званага парытэту ў дапамозе сваім нацыянальным меншасцям. Павінен быць дбайны, бацькоўскі, чалавечы падыход да вырашэння нацыянальнаменшасных патрэб. Трэба прызначаць такія фінансавыя сродкі, якія забяспечаць развіццё іх культуры, асветы, турызму.

...Не была звернута ў гэтай кадэнцыі належная ўвага на аплачванне складчын, працу гурткоў і каляндарныя выданні.

...Фінансавыя абставіны БГКТ на працягу апошняга перыяду дзейнасці выразна дзеляцца на два этапы. Ад апошняга XI з'езда, які адбыўся 23.X.1988 года, да канца 1989 года Таварыства атрымлівала датацыі з Міністэрства ўнутраных спраў, таксама як іншыя грамадскія арганізацыі, адпаведна складзенага ў ГП і зацверджанага міністэрствам каштарыса. Рэвізійная камісія даследавала мэтанакіраванасць выдаткаў і гадавыя балансы. Найчасцей, згодна са станам фактычным, сцвярджала ашчаднае гаспадаранне з улікам агульнадзяржаўных фінансавых крытэрыяў. Так, напрыклад, планам на 1989 год прадбачана 81 млн. злотых, а выдаткавана 72 млн. злотых. Рэалізаваць планавыя сумы не ўдалося таму, што з 12 млн. злотых уласнага даходу атрымалі ўсяго каля паловы. У тым жа годзе структура выдаткаў склалася наступным чынам: 32 млн. злотых выдаткавана на ганарары штатных супрацоўнікаў БГКТ, 11 млн. злотых склалі затраты паліграфічныя, 7 млн. злотых — гадавая плата за памяшканні, 4 млн. злотых — набыццё новага абсталявання, 2 млн. злотых — аплата інструктажу, астатнія сумы склалі яшчэ ніжэйшыя раздробленыя выдаткаванні.

У 1990 годзе ад Міністэрства культуры і мастацтва БГКТ атры-





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

мала вельмі высокія датацыі — 4 284 млн. злотых, у тым ліку на патрэбы тыднёвіка «Ніва» — 1 434 млн. злотых і пабудову музея ў Гайнаўцы — 1 млрд. злотых.

Прызначаныя 1 850 млн. злотых датацыі Беларускаму таварыству былі выдаткаваны на набыццё аўтакара «Ельч», мікробуса «Ныса», аўтамашыны «Полёнэз», каляровых тэлевізараў, камп'ютэраў, відэакамеры. Тэрмінова аплачваліся плацяжы за памяшканні, ганарарныя, выдавецтвам, кошты арганізаваных мерапрыемстваў, дэлегацыі, аўтапаліва і іншае. Усе выдаткі былі разлічаны непасрэдна з Міністэрствам культуры і мастацтва.

Галоўнае праўленне БГКТ не магло нацешыцца новым мецэнатам і новым энергічным сакратаром, які ўпамянутыя датацыі звязваў са сваімі захадамі. Не маючы праўдзівай інфармацыі, кожны набытак быў успрыманы за шчасце. І так ёсць у сапраўднасці. Але Прэзідыум ГП хутка даведаўся, што ўсе нацыянальныя таварыствы атрымалі аналагічныя сумы на падратаванне свайго цяжкага становішча і па-рознаму іх загаспадаравалі.

У 1991 годзе Міністэрства, згодна з новай сеймавай пастановай, абмежавала датацыі да 1 287 млн. злотых у год, у тым ліку 500 млн. злотых на пабудову музея і 587 млн. злотых на выдаванне «Нівы». На патрэбы Таварыства засталося ўсяго 200 млн. злотых у год. Самае горшае, што перайшло тое на дафінансаванне толькі культурных мерапрыемстваў.

Да паловы наступнага (1992) года Прэзідыум ГП утрымліваў фінансаванне ўсёй дзейнасці арганізацыі на папярэднім узроўні. Але 30.VI.92 года вымушаны быў зліквідаваць штаты з-за недахопу сродкаў. Не змог далей аплачваць таксама плацяжы за памяшканні аддзелаў, страціў іх, а разам з гэтым страціў і аўтарытэт у асяроддзях.

У тым жа 1992 годзе датацыі Міністэрства на дафінансаванне культурных мерапрыемстваў склалі ўсяго 732 млн. злотых, у тым ліку на пабудову музея 500 млн. злотых. Апошнія 232 млн. злотых былі скарыстаны на фінансаванне фальклорнага зборніка З. Фэдэцкага (50 млн. злотых), астатнія — на частковае забеспячэнне патрэб аматарскага руху, аплату выдавецтвам, утрымліванне запрошаных мастацкіх калектываў з Рэспублікі Беларусь і іншыя бягучыя выдаткі.

На 1993 год Прэзідыум ГП прадбачыў 1 527 млн. злотых на культурныя мерапрыемствы БГКТ і 500 млн. злотых на пабудову музея ў Гайнаўцы. Запатрабаванні фармальна яшчэ не зацверджаны, а гэта ўскладняе культурную дзейнасць...

*Галоўная рэвізійная камісія БГКТ*



## ВІНШАВАННІ
## ўдзельнікам XII з'езда БГКТ

Беласток
вул. Варшаўская, 11
Беларускае грамадска-культурнае таварыства
Удзельнікам XII з'езда БГКТ

Шаноўнае спадарства!

Прыміце шчырыя віншаванні з пачаткам работы XII з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства і пажаданні плённай працы ў абмеркаванні Вашых пытанняў.

Урад Рэспублікі з вялікай павагай адносіцца да сваіх суайчыннікаў за мяжой, да іх імкнення да захавання і развіцця беларускай культуры, зацверджання гуманных адносін паміж людзьмі розных нацыянальнасцей.

Хочацца запэўніць, што Вы заўсёды знойдзеце падтрымку з боку сваёй Радзімы ў дзейнасці Вашага таварыства.

З павагай

*Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*
*В. Ф. КЕБІЧ*

---

## Да ўдзельнікаў XII з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Беласток

Паважаныя Спадарыні і Спадары — Удзельнікі XII З'езда БГКТ! Шчыра дзякую Галоўнаму праўленню БГКТ за запрашэнне да ўдзелу ў Вашым З'ездзе. З увагі на тое, што сам аніяк не магу пакінуць маіх архіпастырскіх абавязкаў, на адкрыцці З'езда прадстаўляць мяне айцы пратаерэі: Рыгор Місеюк і Анатоль Конах. Запрашэнне і прысутнасць духавенства на З'ездзе ўспрымаю як добры знак у дзейнасці Вашага Таварыства, які сведчыць аб Вашым жаданні быць арганізацыяй, якая яднае людзей і не забывае таго, што, нягледзячы на ўсялякія непрыхільныя падзеі ў мінулым, толькі Царква дапамагла народу захаваць сваю таясамасць. У вашых меркаваннях у час З'езда варта памятаць і пра тое, што здарылася з беларусамі ў эміграцыі, напрыклад у Канадзе ці Бразіліі, дзе многатысячныя ў сваіх пачатках арганізацыі згуртаваліся толькі на нацыянальнай ды культурнай базе. Пасля некалькіх дзесяткаў год не засталося па іх і следу. Захаваліся толькі тыя, якія адначасна заснавалі свае праваслаўныя прыходы, бо памяталі, што праваслаўная вера спакон вякоў была верай беларускага народа. Зараз мы ўсе прыстасоўваемся да зменаў, якія наступаюць у на-

шай краіне,— палітычных, эканамічных, культурных, сацыяльных. Не рэдка і не адны беларусы не могуць знайсці сабе месца ў гэтых новых умовах. Руйнуюцца, даходзяць да краху не толькі прадпрыемствы, але і культурныя арганізацыі, навуковыя інстытуты і аддзельныя людзі. Сумую, як кожны чалавек, назіраючы падзел беларускага асяроддзя ў нашай краіне. Спадзяюся, што памяркоўнасць возьме верх над галасамі некаторых дзеячаў, якія, каб адвярнуць увагу ад сваіх няўдачлівых ідэй, за свае грахі абвінавачваюць Царкву. Яны дзеляць народ, а Царкву ставяць на адным узроўні з палітычным творам, якім была і ёсць унія. Не ўмеючы рэфармаваць свае дзейнасці, хочуць рэфармаваць Царкву. Царква — гэта Маці, але Яна не старэе, не паддаецца правам прыроды. Яе прырода — Божая. Арганізацыя ж, такая як БГКТ, павінна быць платформай, на якой аб'ядноўваецца беларускае асяроддзе. Гэтага чакае ад Таварыства Царква. Ужо час ліквідаваць усялякія падзелы ў народзе. Напамінаю аб гэтым не дзеля таго, каб Вашую Арганізацыю падпарадкаваць Царкве. Жадаю Вам пашырэння Вашае дзейнасці так, каб веруючыя праваслаўныя людзі, якімі Вы ёсць і на якіх Вы лічыце, не адчувалі сябе ў Вашай Арганізацыі чужымі. Царква хоча ганарыцца сваімі дзецьмі, а Вы можаце дапамагаць і росту, і пашырэнню гэтага гонару! Выказваю Удзельнікам З'езда маё архіпастырскае бласлаўленне. Жадаю, каб Вашая нарада была плённаю, а пастановы дапамаглі ў яднанні беларускага асяроддзя нашай краіны. Малюся за Вас, каб тыя, хто верай жывуць,— у Царкве, у малітве шукалі падтрымку для свае дзейнасці і дабро здзяйснялі на карысць усіх і славу Богу.

*Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава*

---

Беласток
вул. Варшаўская, 11
Беларускае грамадска-
культурнае таварыства
Удзельнікам XII з'езда БГКТ

Шаноўныя дэлегаты, госці і ўдзельнікі з'езда!

Шчыра і сардэчна вітаю вас з чарговым з'ездам, з магчымасцю сабрацца разам для абмеркавання сваіх праблем і для мацавання дзелавых, культурных, навуковых кантактаў з суверэннай дзяржавай Беларусь. Сёння ў нас, як ніколі раней, спрыяльныя ўмовы для супрацоўніцтва, для развіцця самых разнастайных стасункаў. Каб жа нам ды дастойна скарыстаць гэта. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь будзе спрыяць вашай дзейнасці.

Жадаю ўсім вам поспеху, плёну і дбайнасці ў працы і жыцці.

З павагай

*Міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч*



## Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства

1. Аляксеюк Мікалай
2. Баршчэўскі Аляксандр
3. Галёнка Хведар
4. Гаўрылюк Люба
5. Голуб Дарота
6. Голуб Міхась
7. Грыка Валянціна
8. Добаш Янка
9. Зенюк Янка
10. Іванюк Аляксандр
11. Кананюк Крысціна
12. Карпач Вальдэмар
13. Карпюк Аляксей
14. Кацэйка Таіса
15. Крышэнь Сяргей
16. Ласкевіч Валянціна
17. Лаўрыновіч Янка
18. Лукашук Сяргей
19. Майсеня Кастусь
20. Місевіч Валянціна
21. Навіцкая Зінаіда
22. Нікалаюк Мікалай
23. Пракапюк Мікалай
24. Прышчэпка Пётр
25. Рошчанка Сцяпан
26. Русачык Тамара
27. Саевіч Лідзія
28. Сакоўскі Васіль
29. Суліма Аркадзь
30. Сычэўскі Янка
31. Сяткоўская Ала
32. Харытанюк Лявон
33. Хшаноўскі Віктар
34. Шыманская Анна
35. Якімюк Рыгор

## Прэзідыум ГП БГКТ

1. Сычэўскі Янка — старшыня
2. Баршчэўскі Аляксандр — ганаровы старшыня
3. Нікалаюк Мікалай — намеснік старшыні
4. Русачык Тамара — намеснік старшыні
5. Ласкевіч Валянціна — сакратар
6. Галёнка Хведар — член
7. Добаш Янка — член
8. Іванюк Аляксандр — член
9. Майсеня Кастусь — член
10. Навіцкая Зінаіда — член
11. Пракапюк Мікалай — член
12. Прышчэпка Пётр — член
13. Саевіч Лідзія — член

### Галоўная рэвізійная камісія БГКТ

1. Юзвюк Уладзімір — старшыня
2. Хмялеўскі Міхась — намеснік старшыні
3. Іванюк Анна — член
4. Лемеш Павел — член
5. Ліцкевіч Уладзімір — член
6. Масальскі Кастусь — член



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

## Пастановы XII з'езда БГКТ

На аснове справаздач Галоўнага праўлення і Галоўнай рэвізійнай камісіі, выступленняў дэлегатаў, гасцей, паслання архіепіскапа Савы і складзеных пісьмовых пастулатаў, кіруючыся крытэрыямі палітычнага нейтралітэту, з'езд лічыць першапланавым заданнем бягучай кадэнцыі далейшае развіццё асветы на беларускай мове ва ўсходняй Беласточчыне. Дзеля дасягнення гэтай мэты арпастанаўляе:

1. Пашырыць вывучэнне роднай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах.
2. Узмацніць супрацоўніцтва з настаўнікамі, якія працуюць у беларускіх і змешаных асяроддзях, у тым ліку асабліва з настаўнікамі беларускай мовы.
3. Развіваць далей кантакты з асветнымі ўладамі Польшчы і Рэспублікі Беларусь у справе дасканалення кадраў, абмену вопытам, вучэбнымі дапаможнікамі, дзіцячай літаратурай і часопісамі, пашырэння кантактаў паміж настаўнікамі і дзецьмі абедзвюх краін.
4. Намагацца арганізаваць вывучэнне беларускай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах горада Беластока.
5. Больш настойліва пашыраць сярод насельніцтва свядомасць патрэбы вывучэння роднай мовы.

***У галіне культуры:***

1. Удасканальваць і пашыраць тыя формы дзейнасці, якія служаць захаванню беларускай культуры і традыцыі.
2. Дабіцца паўнейшага забеспячэння інструктажам існуючыя гурткі мастацкай самадзейнасці.
3. Садзейнічаць арганізацыі новых аматарскіх гурткоў.
4. Удасканаліць формы супрацоўніцтва з уладамі, установамі, фірмамі дзеля лепшага фінансавага забеспячэння аглядаў і фестынаў як у цэнтральным, так і ў паасобных аддзелах БГКТ.
5. Яшчэ з большай адданасцю праводзіць Свята беларускай культуры ў Беластоку і Купалле ў Белавежы.
6. Імкнуцца арганізаваць як мага большую колькасць фестынаў БГКТ у тых гмінах, у якіх пражывае беларускае насельніцтва.
7. Аказаць большую дапамогу ў зборы сродкаў на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы, акрэсліць яго характар, папоўніць новымі экспанатамі і экспазіцыямі.
8. Больш шырока ўключаць у дзейнасць Клуба беларускай інтэлігенцыі ў Беластоку мясцовую інтэлігенцыю.
9. Намагацца стварыць клубы беларускай інтэлігенцыі пры аддзелах БГКТ.
10. Адзначаць урачыстымі вечарынамі слаўныя гадавіны нашай мінуўшчыны.
11. Пашыраць выдавецкую дзейнасць Таварыства.
12. Прадумаць пытанне аб арганізацыі прэсавага органа ГП.

***У галіне грамадскіх і арганізацыйных спраў:***

1. Інтэнсіфікаваць дзейнасць аддзелаў БГКТ.
2. Выпрацаваць новыя формы працы гурткоў БГКТ.
3. Акрэсліць членскія складчыны (індывідуальныя і калектыўныя).
4. Абмеркаваць магчымасці павелічэння ўласных даходаў арганізацыі.
5. Аднавіць працу навуковага гуртка БГКТ.
6. Развіваць супрацоўніцтва з існуючымі грамадска-культурнымі арганізацыямі.
7. Умацоўваць супрацоўніцтва з арганізацыямі і ўстановамі Рэспублікі Беларусь і Пасольствам у Польшчы.
8. Узмацніць супрацоўніцтва з Праваслаўным брацтвам і Царквою. Падтрымліваць іх намаганні ў галіне раўнапраўнасці веравызнанняў у нашай краіне, звароту маёмасці, у тым ліку Супрасльскай лаўры.
9. Намагацца наладзіць супрацоўніцтва паміж усімі існуючымі беларускімі арганізацыямі ў нашай краіне.
10. Вырашыць узнікшыя ў апошнія гады цяжкасці ўтрымлівання памяшканняў БГКТ у Беластоку, Бельску, Варшаве, Гданьску, Дуброве Беластоцкай, Мілейчыцах і Саколцы.



# З ЖЫЦЦЯ БГКТ

## Летапіс дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства

1 9 9 1 год

2.XI. Візіт дэлегацыі ГП БГКТ у Мінск. У міністэрстве адукацыі, міністэрстве культуры, таварыстве «Радзіма», Фондзе беларускай культуры, Саюзе кампазітараў абмяркоўваліся пытанні аб дапамозе Рэспублікі Беларусь у пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы, праграмах, падручніках і дапаможніках для вывучэння беларускай мовы, аб абмене мастацкімі калектывамі, а таксама супрацоўніцтве паэтаў і кампазітараў. У складзе дэлегацыі былі А. Баршчэўскі — старшыня ГП БГКТ і Я. Сычэўскі — намеснік старшыні.

7—9.XI. Удзел прадстаўнікоў ГП БГКТ (В. Ласкевіч, Я. Сычэўскі) у канферэнцыі таварystваў нацыянальных меншасцяў і таварystваў культуры ў Бжэгу-на-Одры. Вырашаліся праблемы супрацоўніцтва і ўзаемнай дапамогі паміж таварыствамі аднаго і другога тыпу.

10.XI. Канцэрт самадзейнага калектыву з Мядзеля ў канцэртнай зале БГКТ.

13.XI. Сустрэча намесніка старшыні ГП з камісіяй адміністрацыі па памяшканням, на якой вырашаліся пытанні рамонту будынку на вул. Варшаўскай, 11.

18. XI. У канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы падставовых школ Беласточчыны, якая адбылася ў бельскай «тройцы», прынялі ўдзел Я. Сычэўскі (намеснік старшыні ГП), В. Ласкевіч (сакратар ГП) і Я. Целушэцкі (рэдактар «Нівы»). Апрача метадычнай часткі абмяркоўваліся праблемы вывучэння беларускай мовы і супрацоўніцтва БГКТ з настаўнікамі.

19.XI. Сустрэча Я. Сычэўскага і В. Ласкевіч з настаўнікамі і бацькамі вучняў падставовай школы ў Рыбалах, на якой абмяркоўваліся пытанні аб пашырэнні вывучэння беларускай мовы.

21.XI. У ГП адбылася сустрэча актыву ГП і Клуба беларускай інтэлігенцыі з праф. С. Габрусевічам (старшыня Фонда беларускай культуры ў Гродне), М. Васілёнкам (намеснік старшыні таварыства «Радзіма» ў Мінску) і В. Кавалеўскім (старшыня саўгаса «Ракаўскі» пад Мінскам). Сустрэча была прысвечана справам дапамогі ў пабудове Беларускага музея і супрацоўніцтва БГКТ з арганізацыямі і ўстановамі на Беларусі.

22.XI. Сустрэча прадстаўнікоў ГП (В. Ласкевіч, Я. Сычэўскі) з лідэрам новай арганізацыі беларускай моладзі «Звяз» — Маркам Заброцкім па пытаннях дапамогі і супрацоўніцтва.

23.XI. У Бельскім доме культуры адбылася сустрэча членаў Прэзідыума ГП (А. Баршчэўскі, Я. Сычэўскі, В. Ласкевіч) з харыстамі «Васілёчкаў», дырэктарам Дома культуры, а таксама інструктарам хору — С. Лукашуком, на якой абмяркоўваліся пытанні далейшага існавання і працы хору. Удзельнікі прынялі пастанову аб далейшай працы хору пад новым музычным і мастацкім кіраўніцтвам Аліны Негярэвіч.

24.XI. У памяшканнях ГП адбылося пасяджэнне камісіі асветы ГП БГКТ. Былі выбраны новыя члены і ўлады камісіі (старшыня — Я. Зенюк, сакратар — Я. Чэрнякевіч) і прынята праграма яе дзейнасці. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ па разгляду кадравых спраў Таварыства, разліку беларускага календара на 1991 г., рэдакцыі календара на 1992 г., камісіі асветы і ўдзелу нашых калектываў у канцэрце «Сустрэчы пагранічча», арганізаваным Ваяводскім домам культуры ў Беластоку.

1. XII. У рамках «Сустрэч паграніччa» адбыўся ў памяшканнях ГП Беларускі вечар (канцэрт), у якім прынялі ўдзел: беларускі хор з Гайнаўкі, хор з Беластока, калектывы з Гарадка і Рыбалаў. Свае мастацкія вырабы на выстаўцы паказалі: У. Наўмюк з Канюкоў, Л. Гаўрылюк і І. Паўлючук з Беластока, Н. Мушынская і Н. Цыванюк з Гарадка. Канцэрт вёў Мікалай Бушко.

4.XII. Сустрэча прадстаўнікоў гаспадарчых устаноў і грамадскіх арганізацый у рэдакцыі «Нівы» у сувязі са скліканнем Фонда беларускай культуры. Ад імя ГП удзельнічалі В. Ласкевіч і Я. Сычэўскі.

9.XII. У Дзяржаўным акадэмічным вялікім тэатры оперы і балету ў Мінску адбыўся сход і ўрачысты канцэрт з нагоды 100-ай гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Ва ўрачыстасці прысутнічала дэлегацыя БГКТ: А. Баршчэўскі, Я. Сычэўскі, В. Ласкевіч і К. Майсеня. Старшыня ГП А. Баршчэўскі выступіў з прамовай і прачытаў урывак свайго верша, прысвечанага М. Багдановічу.

15.XII. У канцэртнай зале ГП адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 100-ай гадавіне з дня нараджэння Максіма Багдановіча. З дакладам выступіў А. Баршчэўскі, а ў мастацкай частцы — гродзенскі тэатр мод і студэнцкае кабарэ.

20.XII. У рэдакцыі «Газеты вспулчэснай» адбылася сустрэча журналістаў з прадстаўнікамі беларускіх асяроддзяў і арганізацый,

прысвечаная становішчу беларускай меншасці ў Польшчы. У сустрэчы прынялі ўдзел В. Ласкевіч, С. Яновіч, В. Стахвюк.

На Беласточчыну з Мінска прыехалі журналісты з часопіса для дзяцей «Вясёлка». Яны сустрэліся з рэдактарам «Зоркі», а таксама з вучнямі і настаўнікамі некалькіх школ, у якіх выкладаецца беларуская мова.

23.XII. У Гайнаўскім беларускім музеі адбылася сустрэча прадстаўнікоў кіраўніцтва ГП (А. Баршчэўскі, В. Ласкевіч, Я. Сычэўскі) з мясцовым актывам БГКТ і Камітэтам пабудовы музея, на якой абмяркоўвалася дзейнасць Таварыства на Гайнаўшчыне і прадаўжэнне працы ў музеі.

31.XII. У памяшканнях Галоўнага праўлення БГКТ адбыўся навагодні баль для актывістаў і прыхільнікаў Таварыства.

## 1992 год

13.I. Пра становішча беларусаў у Польшчы і суадносінах паміж беларусамі ў Польшчы і Рэспубліцы Беларусь гаварылі па цэнтральным тэлебачанні ў Варшаве. А. Баршчэўскі — старшыня ГП БГКТ і праф. С. Габрусевіч — старшыня Гродзенскага абласнога ўпраўлення Беларускага фонду культуры.

14.I. Раённы агляд дэкламатарскага конкурсу вучняў пачатковых школ адбыўся ў Бельскім доме культуры.

18.I. У Гайнаўскім доме культуры прайшоў раённы агляд дэкламатарскага конкурсу вучняў пачатковых школ.

26.I. У ГП БГКТ у Беластоку адбыўся цэнтральны агляд дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» вучняў пачатковых школ. Прынялі ў ім удзел 49 выканаўцаў, у тым ліку: 23 з 1—5 класаў, 26 — з 6—8.

27.I. Адбылася сустрэча прадстаўнікоў Галоўнага праўлення БГКТ і Камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы з дырэктарам Акруговага музея ў Беластоку Анджэем Ляхоўскім па справе звароту беларусам экспанатаў, забраных дзяржавай у 70-ыя гады.

2.II. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, на якім абмяркоўваліся справы ўдзелу Таварыства ў фондзе «Усход», фінансавыя праблемы, план дзейнасці на 1992 г. і справы працягвання пабудовы музея.

3.II. На сустрэчы прадстаўнікоў ГП (А. Баршчэўскі, В. Ласкевіч, Я. Сычэўскі) з куратарам асветы П. Літэрмусам абмяркоўваліся справы беларускага школьніцтва на Беласточчыне, навучання беларускай мове, выбрання інспектара беларускіх школ і супрацоўніцтва з беларускімі арганізацыямі.

Адбылася сустрэча дэлегацыі ГП з архіепіскапам Савам, прысвечаная справам царкоўнай залы ў Беларускім музеі, збору грошай у царквах на пабудову музея, царкоўнай старонкі ў «Ніве», выдання кніжкі Р. Сасны «Бібліяграфія праваслаўных цэркваў на Беласточчыне» і перанясення старажытнай царкоўкі на музейную плошчу.



13.II. Адбыўся бацькаўскі сход у падставовай школе ў Рыбалах, на якім размову з бацькамі аб навучанні дзяцей беларускай мове правялі члены ГП В. Ласкевіч і Я. Сычэўскі.

15.II. Раённы агляд конкурсу «Беларуская песня — 92» адбыўся ў Беластоку.

16.II. Раённы агляд конкурсу «Беларуская песня — 92» адбыўся ў Гайнаўскім доме культуры. У мерапрыемстве прыняло ўдзел больш за 20 выканаўчых адзінак, праходзіла яно пры вялікай зацікаўленасці гайнаўскай публікі.

23.II. Таксама раённы конкурс «Беларуская песня — 92» адбыўся ў Бельскім доме культуры.

29.II. У Беластоцкай філармоніі прайшоў фінальны агляд конкурсу «Беларуская песня — 92». Прынялі ў ім удзел 142 выканаўцы, у тым ліку: 11 салістаў, 5 дуэтаў, 19 вакальных і 5 вакальна-інструментальных калектываў, 2 хоры.

1.III. У Беластоцкай філармоніі адбыліся 2 гала-канцэрты фінальнага конкурсу-агляду «Беларуская песня — 92». Сярод гасцей прысутнічалі: міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, архіепіскап Сава, намеснік міністра культуры Польшчы Міхал Ягела, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рылатка. У канцэрце гасцінна выступіў эстрадны прафесіянальны калектыў з Дзяржаўнай філармоніі ў Мінску «Купалінка».

Канцэрты вялі: Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко.

2.III. Адбыліся сустрэчы начальніка аддзела ВНУ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь М. Плескацэвіча, намесніка старшыні ГП Я. Сычэўскага і старшыні асветнай камісіі ГП Я. Зенюка з кандыдатамі ў ВНУ Рэспублікі Беларусь з Бельскага і Гайнаўскага агульнаадукацыйных ліцэяў.

4.III. Сустрэча Я. Сычэўскага і К. Майсені з ломжынскім ваяводам па справе звароту экспанатаў з сельскагаспадарчага музея ў Цеханоўцы ў Беларускі музей у Гайнаўцы.

5.III. Пра справы беларускага школьніцтва і асветы ў Польшчы з міністрамі адукацыі Польшчы — А. Стэльмахоўскім і Рэспублікі Беларусь — В. Гайсёнкам гаварылі старшыня ГП БГКТ А. Баршчэўскі і яго намеснік Я. Сычэўскі.

6.III. У клубе БГКТ адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый з міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь В. Гайсёнкам. Тэмай сустрэчы былі справы развіцця беларускай асветы ў Польшчы, супрацоўніцтва паміж міністэрствамі адукацыі Польшчы і Рэспублікі Беларусь, а таксама справы дапамогі ў гэтай галіне беларусам у Польшчы. Пасля дэлегацыі разам з прадстаўніком міністэрства адукацыі Польшчы і прадстаўнікамі ГП БГКТ сустрэліся з вучнямі, настаўнікамі і дырэктарам падставовай

школы ў Чыжах, Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім, камітэтам пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і дырэктарам Гайнаўскага беларускага ліцэя. Міністр В. Гайсёнак звярнуў увагу на патрэбу пабудовы новага будынку для ліцэя.

9.III. Сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый з міністрам культуры і мастацтва праф. Станіславам Сіцінскім у Варшаве. Ад імя БГКТ у сустрэчы прынялі ўдзел: А. Баршчэўскі, В. Ласкевіч і Я. Сычэўскі. Тэмай сустрэчы была інфармацыя аб культурнай дзейнасці ў беларускім асяроддзі ў Польшчы і магчымасцях фінансавай дапамогі паасобным арганізацыям з боку міністэрства. Старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алег Латышонак пакрытыкаваў міністэрства за фінансавую дапамогу Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, як палітычнаму ворагу БДА і Рэчыпаспалітай.

16.III. Аб праблемах існавання і дзейнасці беларускіх арганізацый у Польшчы гаварылі іх прадстаўнікі на сустрэчы з паслом у сейм Яўгенам Чыквіным.

17.III. У Ваяводскім доме культуры ў Беластоку адбылася сустрэча прадстаўнікоў Галоўнага праўлення БГКТ (В. Ласкевіч і Я. Сычэўскі) з дырэктарам К. Дэркоўскім і музычнымі інструктарамі (С. Копа і Ю. Зысь) па справе супрацоўніцтва ў развіцці самадзейных мастацкіх калектываў у беларускіх асяроддзях на Беласточчыне.

18.III. У Сейме Рэчыпаспалітай у Варшаве адбылася сустрэча прадстаўнікоў розных арганізацый меншасцяў у Польшчы з сеймавай камісіяй па справах нацыянальных меншасцяў. Сустрэча была прысвечана выбарам пасады ўпаўнаважанага Ураду Рэчыпаспалітай па справах нацыянальных меншасцяў, а таксама справе праекта Закону аб нацыянальных меншасцях.

22.III. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, прысвечанае ацэнцы дзейнасці Таварыства на працягу мінулых 2 месяцаў, абмеркаванню вынікаў кантролю Галоўнай рэвізійнай камісіі, справам пабудовы музея і ацэнцы дзейнасці тыднёвіка «Ніва».

23.III. Дэлегацыя Галоўнага праўлення (А. Баршчэўскі, В. Ласкевіч, К. Майсеня і Я. Сычэўскі) сустрэлася з прадстаўнікамі ваяводскіх улад: ваяводам С. Пруцісам, намеснікам ваяводы С. Усакевічам, дырэктарам аддзела па грамадзянскіх справах Рыкоўскім і дырэктарам аддзела культуры Э. Біль-Ярузельскім. Абмяркоўваліся справы дзейнасці БГКТ у беларускім асяроддзі, справы штатаў, памяшканняў, грашовай і арганізацыйнай дапамогі Таварыству ў яго дзейнасці, а таксама справы пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Сустрэча не ўнесла ніякага аптымізму на будучыню.

У клубе БГКТ у Бельску Падляшскім адбылося пасяджэнне камісіі асветы Галоўнага праўлення, прысвечанае вывучэнню беларускай мовы ў школах на Беласточчыне, а таксама праграмам навучання і падручнікам.



28.III. У Гайнаўскім доме культуры адбыўся фінальны агляд тэатральных калектываў пачатковых школ. Прынялі ўдзел 6 калектываў. Зборнікі вершаў падпісвалі нашы аўтары Віктар Швед і Янка Целушэцкі.

30.III. Прадстаўнікі Галоўнага праўлення БГКТ (В. Ласкевіч і Я. Сычэўскі) сустрэліся з архіепіскапам Савам па справе старонкі ў «Ніве», прысвечанай праваслаў'ю, і памяшкання для Гданьскага аддзела БГКТ.

31.III. У клубе БГКТ адбылася сустрэча актыву ў сувязі з адкрыццём у адным з агульнаадукацыйных ліцэяў у Беластоку I класа з выкладаннем беларускай мовы як прадмета. Такі клас вырашана арганізаваць у X агульнаадукацыйным ліцэі, што на вул. Звыценства.

7.IV. У Нарве адбылася метадычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы пачатковых школ. У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі Галоўнага праўлення БГКТ (А. Баршчэўскі, В. Ласкевіч і Я. Сычэўскі). Настаўнікі выбралі новага метадыста беларускай мовы — Вольгу Сянкевіч.

9.IV. У Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску Падляшскім адбылася метадычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы з удзелам А. Баршчэўскага, В. Ласкевіч і Я. Сычэўскага. Абмяркоўваліся справы выкарыстання камп'ютэраў на ўроках беларускай мовы і супрацоўніцтва настаўнікаў з Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

12.IV. У канцэртнай зале БГКТ у Беластоку адбыўся фінальны агляд конкурсу «Сцэнічнае слова» сярод ліцэістаў і дарослых. Прадстаўлена 4 малыя сцэнічныя творы і 17 выканаўцаў.

14.IV. Адбылося пасяджэнне камісіі культуры ГП, прысвечанае планам дзейнасці БГКТ у летнім сезоне 1992 г.

17.IV. Прэзідыум Галоўнага праўлення на выязным пасяджэнні ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы прыняў адмову Віталя Лубы з пасады галоўнага рэдактара тыднёвіка «Ніва» і выбраў на гэтую пасаду Янку Целушэцкага.

29.IV. Сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый з прадстаўніком бюро па справах нацыянальных меншасцяў пры Міністэрстве культуры і мастацтва Б. Бэрдыхоўскай у сувязі з вырашэннем становішча тыднёвіка «Ніва».

4.V. Сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый па справе склікання праграмнай рады тыднёвіка «Ніва».

16.V. Фінальны агляд конкурсу «Беларуская песня — 92» сярод вучняў пачатковых школ адбыўся ў Бельскім доме культуры. Выступіў 21 выканаўца, у тым ліку 11 салістаў і 10 вакальных калектываў.

20.V. Адбыліся сустрэчы дэлегацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (Б. Іваноў, С. Габрусевіч, М. Плескацэвіч) з кандыдатамі ў ВНУ з беларускіх ліцэяў у Бельску Падляшскім і Гайнаўцы.

27.V. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, прысвечанае абмяркаванню матэрыялаў да Пленума ГП, супрацоўніцтву з Рэспублікай Беларусь і вярбоўцы студэнтаў у ВНУ Беларусі.

31.V. На пленарным пасяджэнні Галоўнага праўлення БГКТ абмяркоўваліся пытанні актуальнай сітуацыі ў БГКТ, пабудовы Беларускага музея і планы правядзення справаздачна-выбарчай кампаніі. Вельмі адмоўную ацэнку ўсёй дзейнасці БГКТ даў у сваім выступленні Янка Тапалянскі. Ён падкрэсліў адначасова, што сапраўднымі беларускімі дзеячамі і патрыётамі на Беласточчыне з'яўляюцца браты Максімюкі, В. Стахвюк і М. Ваўранюк.

5.VI. Дэлегацыя ГП (А. Баршчэўскі, В. Ласкевіч, Т. Русачык, Я. Сычэўскі) сустрэлася з кіраўніцтвам таварыства «Радзіма», намеснікам старшыні Савета Міністраў РБ М. Дзямчуком, намеснікам міністра культуры У. Рылаткам, міністрам замежных спраў П. Краўчанкам і міністрам адукацыі В. Гайсёнкам. Абмяркоўваліся пытанні аб студэнтах, пабудове музея, праграмах, падручніках і дапаможных матэрыялах для навучання беларускай мове, арганізацыі курсаў павышэння кваліфікацыі настаўнікаў і супрацоўніцтве ў галіне культуры.

6—7.VI. Дэлегацыя ГП удзельнічала ў рэспубліканскім свяце народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» у Паставах, што на Віцебшчыне.

9.VI. Пасяджэнне арганізацыйнага камітэта беларускага свята Купалле ў Белавежы (А. Байко, В. Ласкевіч, М. Бушко, К. Майсеня). Арганізатары свята: ГП БГКТ і самаўправа гміны ў Белавежы.

14.VI. Беларускае народнае свята адбылося ў вясковай святліцы ў Ячне. Выступілі фальклорныя калектывы з Грабянёў і Хільмонаў, «Хлопцы-рыбалоўцы», вакальна-інструментальныя калектывы «Грант» і «Гарадніца» з Гродна. Кніжкі падпісвалі Я. Целушэцкі і В. Швед.

21.VI. У беластоцкім амфітэатры адбылося Свята беларускай культуры з удзелам калектываў з Беласточчыны і «Гарадніца» з Гродна.

25.VI. Сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый і асяроддзяў са старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам, міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам і пісьменнікам Васілём Быкавым у Ваяводскай управе ў Беластоку. Пра справы беларусаў у Польшчы і праблемы Праваслаўнай царквы гаварылі: А. Баршчэўскі, Я. Сычэўскі, М. Гайдук, С. Яновіч, М. Бушко, С. Мартынюк, М. Тарасевіч.

26.VI. На пасяджэнні аддзела БГКТ у Бельску Падляшскім з удзелам прадстаўнікоў ГП абмяркоўваліся пытанні аб памяшканнях для аддзела і падрыхтоўцы да друку беларускага календара на 1993 год.

11.VII. Беларускае свята Купалле ў Белавежы з удзелам 10 калектываў з Беласточчыны і 8 калектываў з Брэстчыны. На свяце прысутнічалі міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка і міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч.



20.VII. Сустрэчы прадстаўнікоў ГП з самаўправамі, войтамі і дзеячамі культуры ў Бельску Падляшскім, Боцьках, Мілейчыцах, Дашах, Кляшчэлях і Гайнаўцы па пытаннях інструктароў аматарскага руху і арганізацыі беларускіх святаў.

21.VII. У Міністэрстве культуры і мастацтва ў Варшаве адбылася сустрэча А. Баршчэўскага, В. Ласкевіч і Я. Сычэўскага з намеснікам міністра М. Ягелам і дырэктарам бюро па справах нацыянальных меншасцяў Б. Бэрдыхоўскай. Абмяркоўваліся пытанні аб працы тыднёвіка «Ніва» і фінансаванні беларускай культуры ў 1992 годзе.

26.VII. Адбыліся 2 беларускія народныя святы: у Гайнаўцы і ў Бельску Падляшскім.

2.VIII. Беларускае народнае свята адбылося ў Старым Ляўкове. Выступілі калектывы з Чыжоў, Гайнаўкі, Беластока і Рыбалаў.

3.VIII. Сустрэча В. Ласкевіч і Я. Сычэўскага з намеснікам бургамістра г. Бельска Падляшскага — Жэпнеўскім, на якой абмяркоўваліся пытанні аб памяшканні для аддзела БГКТ, а таксама ганарарах для інструктараў і акампаніятараў бельскіх беларускіх калектываў: «Васілёчкі» і «Маланка».

21.VIII. Сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый з паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы У. Сянько адбылася ў клубе БГКТ. У канцэртнай зале БГКТ прайшло выступленне эстраднага калектыву «Лявоны» з Воранава.

23.VIII. У Кляшчэлях адбылося беларускае народнае свята з удзелам пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы У. Сянько. У канцэрце выступілі: эстрадны калектыў з Абухава, «Каліна» з Дашоў, «Любашкі» з Дабрывады, «Хлопцы-рыбалоўцы» з Рыбалаў, хор ГДК з Гайнаўкі, хор з Беластока і «Лявоны» з Воранава. Вечарам адбыўся канцэрт «Лявонаў» у вясковай святліцы ў Старым Ляўкове.

30.VIII. Беларускае народнае свята адбылося ў Сямяцічах на спартыўнай пляцоўцы Падставовай школы № 2. Выступілі: «Хлопцы-рыбалоўцы», «Васілёчкі», «Красуні», хор з Гайнаўкі, «Цаглінкі» і «Каліна». На кірмашы кніжкі падпісвалі: В. Петручук, Я. Целушэцкі і В. Швед.

6.IX. Запланаванае беларускае народнае свята ў Нарве не адбылося з прычыны выключна дрэннага надвор'я. У мясцовай святліцы прайшоў канцэрт фальклорнага калектыву «Гарадніца» з Гродні.

12.IX. Канцэрт калектыву «Медуніца» з Ашмянаў у Доме культуры ў Гарадку і ў святліцы ў Агародніčках каля Беластока. Канцэрт калектыву «Крыніца» ў Нараўцы.

13.IX. Беларускае народнае свята адбылося ў садочку каля Дома культуры ў Чыжах. У канцэрце выступілі: «Васілёчкі», «Маланка», «Хлопцы-рыбалоўцы», хор БГКТ з Беластоку, хор з Гайнаўкі, «Цаглінкі», «Крыніца» з Гродна і «Медуніца» з Ашмянаў. Свята адкрылі: войт гміны Чыжы Рыгор Мацкевіч і старшыня ГП

3 - 633

Аляксандр Баршчэўскі. На выстаўцы дэманстраваліся жывапісныя і графічныя працы мастака з Гродна Аляксея Аляксеева. Кніжкі чытачам падпісвалі аўтары: Віктар Швед і Янка Целушэцкі.

Вечарам у вясковай святліцы ў Рыбалах адбыўся канцэрт калектыву «Медуніца» з Ашмянаў, хору БГКТ з Беластоку і «Хлопцаў-рыбалоўцаў».

На 10-дзённы курс дзеячаў мастацкай самадзейнасці ў Мінск паехалі: Аля Дубэц, Антон Семянковіч, Ірына Дыкаловіч, Альжбета Сушко і Ірыней Лаўрашук.

18.IX. Сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый, журналістаў беларускамоўных часопісаў і беларускамоўнай радыёперадачы з галоўным рэдактарам Беластоцкага радыё Ежы Мушынскім у сувязі са зменай часу беларускамоўных радыёперадач.

22.IX. У падставовай школе ў вёсцы Рыбалы адбылася сустрэча В. Ласкевіч, Я. Сычэўскага, В. Сянкевіч (метадыст беларускай мовы), настаўнікаў і дырэктара школы з бацькамі вучняў па пытаннях навучання беларускай мове.

25.IX. У канцэртнай зале ГП БГКТ адбыўся канцэрт калектыву «Забава» з Вілейкі, у якім прысутнічала многа гледачоў.

28.IX. Візіт дэлегацыі ГП БГКТ (А. Баршчэўскі, К. Майсеня, Я. Сычэўскі) у Фонд культуры ў Гродна. У Саюзе палякаў адбылася сустрэча з яго старшынёю Тадэвушам Гавіным з мэтай супрацоўніцтва ў арганізацыі супольных культурных і асветных мерапрыемстваў.

29.IX. Дэлегацыя ГП сустрэлася ў Мінску з М. Васілёнкам (таварыства «Радзіма»), В. Гайсёнкам (міністр адукацыі), А. Бутэвічам (міністр інфармацыі), У. Рылаткам (намеснік міністра культуры), П. Краўчанкам (міністр замежных спраў), М. Плескацэвічам (начальнік аддзела ВНУ ў міністэрстве адукацыі). Абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва і дапамогі Рэспублікі Беларусь у культурнай і асветнай дзейнасці ў асяроддзі беларусаў Беласточчыны, а таксама пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.

4.X. Сумеснае пасяджэнне камісіі асветы і камісіі культуры ГП было прысвечана ацэнцы мерапрыемстваў, арганізаваных у 1991/92 культурна-асветным сезоне, прыняццю планаў працы камісіі і зацвярджэнню правіл конкурсаў, запланаваных на 1993 год.

10.X. Сустрэча дэлегацыі ГП і камітэта пабудовы музея з намеснікам міністра культуры Рэчыпаспалітай М. Ягелам і паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы У. Сянько, якая адбылася ў гайнаўскім музеі, была прысвечана справам фінансавання пабудовы, праграме музея і праблемам развіцця беларускай культуры ў Польшчы.

25.X. У памяшканні ГП БГКТ адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення, спалучанае з урачыстым адкрыццём культурна-асветнага года з наступным парадкам:



інфармацыя аб дзейнасці БГКТ у мінулым годзе;
планы дзейнасці на 1992/93 асветны сезон;
умовы жыцця беларускай меншасці ў Польшчы;
справаздачна-выбарчая кампанія ў БГКТ;
значэнне мясцовых самаўправаў у развіцці культурнай і асветнай дзейнасці ў беларускіх асяроддзях;
канцэрт калектыву «Спадчына» з Гродна.

28.X. У ГП адбылася сустрэча Я. Сычэўскага, М. Хмялеўскага і У. Праховіча з прадстаўнікамі Рэспублікі Беларусь — міністрам інфармацыі А. Бутэвічам и старшынёю тэлерадыёкампаніі А. Сталяровым — па пытаннях пастаўкі газет, часопісаў і кніжак, а таксама продажы беларускіх выданняў у Польшчы.

30.X. Сустрэча прадстаўнікоў ГП з дырэктарам Ваяводскага дома культуры К. Дэркоўскім і інспектарам куратарыі асветы А. Чарнэцкім, прысвечаная арганізацыі конкурсаў для дзяцей і моладзі.

6.XII. На канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы ліцэяў, якая адбылася ў Гайнаўцы, абмяркоўваліся пытанні праграмаў навучання, метадаў і дапаможных матэрыялаў, конкурсаў і ўдзелу настаўнікаў у курсах павышэння кваліфікацыі.

21.XII. У Гайнаўскім доме культуры адбылася ўрачыстасць з нагоды 10-годдзя гайнаўскага беларускага хору.

22.XII. У гарнізонным клубе ў Беластоку адбыліся 2 канцэрты Ансамбля песні і танца ўзброеных сіл Рэспублікі Беларусь з удзелам Ігара Лучанка, вядучага беларускага кампазітара.

## 1993 год

13.I. У клубе БГКТ у Беластоку адбыўся навагодні баль для актыву і членаў Таварыства.

16.I. Навагодні баль у БГКТ адбыўся з удзелам пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзіміра Сянько і членаў Прэзідыума ГП БГКТ.

20.I. У Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбыўся раённы агляд дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» сярод школьнікаў.

22.I. Члены Прэзідыума ГП прынялі ўдзел у навагодняй сустрэчы ў Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Прысутнічалі прадстаўнікі пасольстваў другіх краін, журналісты.

23.I. У Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбыўся фінал дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» сярод вучняў пачатковых школ. Прынялі ўдзел 46 выканаўцаў.

26.I. На Беласточчыне гасцявалі журналісты газет і часопісаў з Рэспублікі Беларусь, якія сустрэліся з беластоцкім ваяводам, прадстаўнікамі ГП БГКТ, а пасля наведалі Беларускі музей, ліцэй, царкву і магістрат у Гайнаўцы.

27.I. Прадстаўнікі ГП павіншавалі архіепіскапа Саву з днём нараджэння і запрасілі на гала-канцэрт «Беларуская песня — 93».

7.II. У Сямяціцкім доме культуры адбылася сустрэча актыву БГКТ у рамках перадвыбарчай кампаніі ў самаўправы. На сустрэчы прысутнічалі В. Ласкевіч і Я. Сычэўскі, якія паінфармавалі аб дзейнасці Таварыства і падрыхтоўцы да XII з'езда БГКТ.

У Сямяцічах адбыўся раённы агляд конкурсу «Беларуская песня — 93», у якім удзельнічалі 3 салісты і квартэт з Мельніка. Пасля агляду з канцэртам перад сямяціцкай публікай выступілі хор Беластоцкага аддзела БГКТ і «Хлопцы-рыбалоўцы».

Вечарам канцэрт у выкананні беластоцкага хору і «Хлопцаўрыбалоўцаў» адбыўся ў вясковай святліцы ў Дубяжыне для 80 чалавек публікі.

8.II. Прадстаўнікі ГП сустрэліся з дэпутатам у сейм Уладзімірам Цімашэвічам па справе становішча беларускай меншасці ў Польшчы і вырашэння цяжкіх праблем дзейнасці Таварыства ў беларускім асяроддзі.

9.II. У беластоцкай кураторыі асветы адбылася сустрэча прадстаўнікоў ГП, дырэктараў беларускіх ліцэяў з Гайнаўкі і Бельска Падляшскага, дырэктара падставовай школы ў Орлі з куратарам, намеснікам куратара і загадчыкам аддзела кадраў па справе штатаў настаўнікаў музыкі ў гэтых школах. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прыслала бясплатна Беларускаму таварыству музычныя інструменты (9 піаніна, 12 баянаў і 12 цымбалаў), якія вырашана ў прысутнасці і пры згодзе дырэктараў школ падзяліць наступным чынам:

бельскаму ліцэю — 1 піаніна
гайнаўскаму ліцэю — 4 піаніна, 6 баянаў і 6 цымбалаў
школе ў Орлі — 3 піаніна, 5 баянаў і 5 цымбалаў
Беларускаму музею — 1 піаніна, 1 баян, 1 цымбалы.

Вырашана, што кураторыя гарантуе працу настаўнікам з Беларусі, якія будуць вучыць ігры на інструментах дзяцей і моладзь у школах Беласточчыны.

13.II. Раённы агляд конкурсу «Беларуская песня — 93» адбыўся ў Беластоцкім клубе БГКТ.

14.II. Раённыя агляды конкурсу «Беларуская песня — 93» адбыліся ў Гайнаўцы і Бельску Падляшскім.

20.II. Фінальны агляд конкурсу «Беларуская песня — 93» адбыўся ў Беластоцкай філармоніі. Удзельнічалі 63 выканаўчыя адзінкі з Беласточчыны, Гданьска і Варшавы, у тым ліку: 16 салістаў, 18 дуэтаў, 26 вакальных і вакальна-інструментальных калектываў, 3 хоры.

21.II. У Беластоцкай філармоніі адбыліся 2 гала-канцэрты фінальнага агляду «Беларуская песня — 93». Выступілі лаўрэаты фінальнага агляду і калектыў «Вытокі» з Рэспублікі Беларусь. На канцэрце прысутнічалі: архіепіскап Сава, ваявода С. Пруціс, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь У. Рылатка, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь І. Карэнда.

2.III. У Міністэрстве культуры і мастацтва ў Варшаве адбылася





Бельскі эстрадны калектыў «Маланка».
Фота *С. Грынявіцкага*



Маладзёжная група калектыву Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.
Фота *С. Грынявіцкага*

сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый з намеснікам міністра М. Ягелам і дырэктарам бюро па справах нацыянальных меншасцяў Б. Бэрдыхоўскай. Разглядалася пытанне аб размеркаванні фінансавых сродкаў для рэалізацыі культурна-асветных мерапрыемстваў у 1993 годзе.

8.III. Прадстаўнікі ГП сустрэліся з калектывам «Красуні» ў Красным Сяле і з хорам «Васілёчкі» ў Бельску Падляшскім. Ішла размова аб касцюмах, далейшай дзейнасці і фінансаванні інструктараў.

13—14.III. Хельсінскі камітэт арганізаваў у Варшаве семінар, прысвечаны правам нацыянальных меншасцяў і іх ажыццяўленню. Удзел прынялі А. Баршчэўскі, В. Ласкевіч і Я. Сычэўскі.

16.III. Сустрэча прадстаўнікоў ГП з прэзідэнтам г. Беластока. Абмяркоўвалася пытанне аб памяшканнях Галоўнага праўлення на вул. Варшаўскай, 11.

20.III. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, прысвечанае справам статута, выбарчай кампаніі і бягучай дзейнасці Таварыства. У канцэртнай зале БГКТ прайшла ўрачыстая вечарына з нагоды 75-ай гадавіны ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. З дакладам выступіў праф. Аляксандр Баршчэўскі, а з канцэртам — беластоцкі беларускі хор.

21.III. У памяшканнях БГКТ у Беластоку адбылася перадвыбарчая канферэнцыя актыву БГКТ з Сакольскага, Дуброўскага і Беластоцкага раёнаў.

23.III. У клубе БГКТ адбылася сустрэча прадстаўнікоў ГП і актыву Таварыства (В. Ласкевіч, Я. Сычэўскі, А. Пісанка, Г. Куршэль, С. Зенюк, М. Хмялеўскі, У. Юзвюк) з Ю. Валкавыцкім у сувязі з 70-ай гадавінай з дня яго нараджэння.

3.IV. Фінальны агляд конкурсу «Сцэнічнае слова» для ліцэістаў і дарослых адбыўся ў Беластоку. Прынялі ўдзел 2 тэатральныя калектывы і 20 выканаўцаў. У Пашкаўшчыне адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя аддзела БГКТ з удзелам прадстаўнікоў ГП. Старшынёю аддзела выбраны Янка Добаш.

4.IV. Адбыліся справаздачна-выбарчыя канферэнцыі аддзелаў БГКТ у Беластоку (раён) і Бельску Падляшскім.

20.IV. Справаздачна-выбарчыя канферэнцыі аддзелаў БГКТ адбыліся ў Саколцы і ў Дуброве Беластоцкай. У Саколцы старшынёю выбраны Сяргей Крышэнь, а ў Дуброве — Аркадзь Суліма.

24.IV. Урачыстая сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый з паслом У. Сянько ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве з нагоды велікодных праваслаўных святаў.

30.IV. У клубе БГКТ адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Старшынёю аддзела выбрана В. Ласкевіч.

1.V. Адбылося пасяджэнне камісіі ГП па справах апрацоўкі новага статута БГКТ.

2.V. Пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, якое




Квартэт Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.
Фота *С. Грынявіцкага*

адбылося ў Беластоку, было прысвечана новаму статуту і зацвярджэнню справаздачы аб дзейнасці Таварыства XII з'езду.

6.V. Цэнтральны агляд тэатральных калектываў пачатковых школ адбыўся у Гайнаўскім доме культуры. Выступіла 9 школьных тэатраў.

13.V. Фінальны агляд конкурсу «Беларуская песня — 93» для пачатковых школ адбыўся ў Бельскім доме культуры. Прынялі ўдзел 16 выканаўцаў, у тым ліку 5 салістаў, 6 дуэтаў, 5 вакальных калектываў.

18.V. Сустрэча прадстаўнікоў ГП з войтам гміны Нараўкі ў сувязі з правядзеннем беларускага свята ў Свінароях. У Нараўцы адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя аддзела БГКТ.

21—22.V. Навуковая канферэнцыя «Дарога да ўзаемнасці», арганізаваная Польскім таварыствам беларусістаў і Беларускім грамадска-культурным таварыствам, адбылася ў Беластоку. У канферэнцыі прынялі ўдзел 43 дакладчыкі з Польшчы і Рэспублікі Беларусь. Дэбаты праходзілі ў 2 секцыях: літаратурна-культуразнаўчай і гістарычнай.

23.V. Малебен з нагоды XII з'езда БГКТ у беластоцкім Саборы св. Мікалая адслужыў архіепіскап Сава.

XII з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбыўся ў Беластоку. З'езд выбраў новыя ўлады, прыняў пастановы і зацвердзіў новы статут Таварыства.




Калектыў аддзела БГКТ у Бельску Падляшскім «Васілёчкі».
Фота *С. Грынявіцкага*

2.VI. Сустрэча старшыні ГП (Я. Сычэўскі) з рэд. Ежы Мушынскім. Размова ішла аб удзеле Беластоцкага радыё ў Святе беларускай культуры, фестывалі польскай і беларускай песні і беларускіх фестынах.

6.VI. Беларускае народнае свята адбылося ў Свінароях каля Нараўкі. Выступілі беларускія калектывы з Беласточчыны, школьны калектыў з Нараўкі і «Крыніца» з Гродна.

13.VI. Пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, якое адбылося ў Беластоку, вырашала пытанне аб удзеле Таварыства ў выбарчай кампаніі ў Сейм і Сенат Рэчыпаспалітай.

16—17.VI. Сустрэчы дэлегацыі міністэрстваў адукацыі, аховы здароўя і культуры Рэспублікі Беларусь з выпускнікамі беларускіх ліцэяў у Бельску Падляшскім і Гайнаўцы, на якіх абмяркоўваліся пытанні вучобы ў ВНУ на Беларусі. Зацікаўленасць вучобай выказалі 28 асоб.

18—19.VI. У Млынарах каля Ельблёнга адбыўся фестываль нацыянальных меншасцяў, у якім з вялікім поспехам выступіў хор Беластоцкага аддзела БГКТ.

23.VI. У гайнаўскім музеі адбылася сустрэча намесніка міністра культуры Гілена, мастакоў з Беларусі з прадстаўнікамі міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, БГКТ і Камітэта пабудовы Беларускага музея. Абмяркоўваліся праект загаспадарвання памяшканняў і пытанне аб фінансаванні музея.






Адкрыццё канцэрта «Артыстычныя сустрэчы Беласток—Гродна». Беласток. 1993 г.

27.VI. У беластоцкім амфітэатры адбылося Свята беларускай культуры, у якім прынялі ўдзел 12 беларускіх калектываў з Беласточчыны. Канцэрт вялі Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко.

3.VII. У Белавежы адбылося беларускае Купалле. Выступіла 15 калектываў з Беласточчыны і 4 калектывы з Беларусі.

5—10.VII. 36-асабовая дэлегацыя БГКТ прыняла ўдзел у Першым з'ездзе беларусаў свету ў Мінску.

11.VII. Беларускае народнае свята адбылося ў Пашкоўшчыне. Выступіла 6 калектываў з Беласточчыны і 2 калектывы з Рэспублікі Беларусь.

18.VII. Беларускае народнае свята адбылося ў Кляшчэлях. Выступілі калектывы з Беласточчыны і мінская «Церніца». Свае кніжкі падпісвалі Віктар Швед і Мікола Гайдук.

19.VII. Сустрэча прадстаўнікоў арганізацыйнага камітэта (Я. Сычэўскі, Э. Біль-Ярузельскі, К. Дэркоўскі і В. Дамброўскі) з намеснікам старшыні Саюза палякаў у Беларусі Т. Малевічам і кіраўнікамі польскіх калектываў па справе арганізацыі фестывалю польскай і беларускай песні ў Беластоку адбылася ў памяшканні Саюза палякаў у Гродна.

25.VII. У беластоцкім амфітэатры адбыліся першыя «Мастацкія сустрэчы «Беласток—Гародня» з удзелам польскіх калектываў з Рэспублікі Беларусь і беларускіх калектываў з Беласточчыны. На канцэрце прысутнічалі намеснік міністра культуры і мастацтва

 



Калектыў Гайнаўскага дома культуры.
Фота *С. Грынявіцкага*

Польшчы М. Ягела, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Б. Святлоў, беластоцкі ваявода С. Пруцiс і прэзідэнт г. Беластока. Свае творы падпісвалі «белавежцы» Міра Лукша, Віктар Швед, Янка Целушэцкі і Мікола Гайдук.

31.VII. Адбылося адкрыццё клуба ў Старым Беразове, на якім выступілі з канцэртам хор Гайнаўскага дома культуры, калектыў з Арэшкава і калектыў «Церніца» з Мінска.

1.VIII. У гарадскім парку ў Гайнаўцы адбылося беларускае народнае свята. Выступілі калектывы з Беласточчыны і калектыў «Церніца» з Мінска.

8.VIII. На спартыўнай пляцоўцы Падставовай школы № 2 у Сямяцічах адбылося беларускае народнае свята.

15.VIII. Беларускае свята прайшло ў Барыку каля Гарадка. Выступілі калектывы з Беласточчыны і народны ансамбль песні і танца завода «Оптык» з Ліды. Свае кніжкі падпісвалі Віктар Швед і Мікола Гайдук.

22.VIII. Беларускае народнае свята адбылося ў Нарве.

28.VIII. Беларускае народнае свята адбылося ў Вярстоку, што ў гміне Дубічы Царкоўныя.

29.VIII. Беларускае народнае свята адбылося ў Чыжах.

5.IX. Беларускія народныя святы ў Дуброве Беластоцкай і Саколцы.



## Гутарка з новым старшынёю ГП БГКТ Янкам Сычэўскім

*Пытанне:*

— Для многіх дзеячаў БГКТ з'яўленне ў кіраўніцтве Галоўнага праўлення Янкі Сычэўскага, як шматгадовага працаўніка асветных устаноў на Беласточчыне, было нечаканасцю. Чым Вы кіраваліся ў прыняцці абавязкаў намесніка старшыні ў складаным для арганізацыі 1991 годзе?

*Адказ*:

— Сапраўды, не толькі для дзеячаў БГКТ, але таксама і для мяне новая пасада ў Таварыстве «ўварвалася» ў маё жыццё як нейкая нечаканасць. Думаю, што ў жыцці кожнага чалавека выступаюць з'явы ці пажаданыя вырашэнні, запланаваныя, прадуманыя на працягу доўгага часу, а побач з імі і такія, якіх раней не плануем і асабліва не жадаем. Вядома, што як сярод першага, так і другога тыпу з'яў бываюць вартасці для нашага асабістага жыцця добрыя і дрэнныя. Не заўсёды тое, што прадумана і запланавана, прыносіць толькі дабро, а тое, што прыходзіць у жыццё нечакана,— толькі зло.

Прапанову прыняць абавязкі намесніка старшыні ў 1991 годзе я атрымаў ад старшыні ГП Аляксандра Баршчэўскага і яшчэ некалькіх членаў Прэзідыума ГП. Прапанова была вынікам маіх кантактаў з Галоўным праўленнем ад пачатку дзейнасці ў Беластоку Клуба беларускай інтэлігенцыі. На маё рашэнне дзейсны ўплыў мелі 3 фактары: па-першае, давер да многагадовых дзеячаў БГКТ і актывістаў, дзякуючы якім можам ганарыцца дасягненнямі беларускай асветы і культуры ў Польшчы; па-другое, цяжкія абставіны, у якіх апынулася БГКТ у 1991 годзе, і добрая воля дапамогі (становішча было як быццам безканкурэнтным); па-трэцяе, нейкі вопыт маёй працы на ніве культуры, асветы, а таксама дзейнасці ў грамадскіх арганізацыях. Мушу, аднак, сказаць, што такое рашэнне было адным з найбольш цяжкіх у маім жыцці, бо і яго вынікі — гэта найбольш складаны перыяд у маім жыцці.

*Пытанне:*

— Як Вы ацэньваеце цяперашнія магчымасці дзейнасці БГКТ у змененых абставінах?

*Адказ:*

— Новыя ўмовы дзейнасці грамадскіх арганізацый у Польшчы выклікаюць сур'ёзныя праблемы і абмежаванні. Недахоп фінансавых сродкаў на штаты і арэнду памяшканняў, на ўтрыманне інструктараў аматарскага руху, на касцюмы і тэхнічнае абсталяванне, а таксама цяжкасці з прыстасаваннем дзеячаў да новых умоў працы даюць вельмі адмоўны ўплыў на становішча беларускай культуры і асветы ў нашай краіне. Да новых умоў жыцця і грамадскай дзейнасці трэба ўмець актыўна прыстасавацца, і толькі тады можна мець надзею або



 



Старшыня ГП БГКТ Я. Сычэўскі.

нават упэўненасць, што не дапусцім да заняпаду беларускай культуры і асветы. Усё ж трэба дадаць, што дапамога дзяржавы, з аднаго боку, і правільнае разуменне праблем беларускай меншасці гарадскімі і гміннымі самаўправамі — з другога, з'яўляюцца неабходнымі стымуламі развіцця грамадскага жыцця і культуры беларусаў у Польшчы. Будучыня беларускай культуры і будучыня, а таксама і сучаснасць БГКТ залежаць ад таго, наколькі мы ўсе, як беларуская меншасць у Польшчы, будзем цікавіцца і ўдзельнічаць у грамадскім, культурным і асветным жыцці нашай нацыі. Беларускае таварыства, яго актывісты і арганізацыйныя звенні даюць доказы таго, што яны ўмеюць і хочуць клапаціцца і паспяхова арганізоўваць многія культурныя і асветныя мерапрыемствы, будаваць Беларускі музей у Гайнаўцы і г. д.

*Пытанне:*

— Падзяліцеся з нашымі чытачамі Вашымі намерамі па ажыццяўленні вызначаных XII з'ездам Таварыства заданняў.

*Адказ:*

— Пастановы XII з'езда БГКТ з'яўляюцца пералікам галоўных задач Прэзідыуму Галоўнага праўлення і ўсім звенням, а таксама членам нашага Таварыства. Звяртаючыся да свайго выказвання ў заключным выступленні на з'ездзе, хачу яшчэ раз прыпомніць, што чатыры гады дзейнасці, якія перад намі, вырашаць, наколькі наша арганізацыя мае сэнс існавання. Новыя грамадска-палітычныя і эканамічныя ўмовы жыцця ў краіне дазволяць паспяхова рэалізаваць пастановы з'езда толькі тады, калі грамадскай дзейнасці БГКТ у галіне культуры і асветы будуць ахвотна дапамагаць самаўправы гарадоў і гмін, камерсанты, беларуская інтэлігенцыя і асабліва настаўнікі, актывісты і члены Таварыства. Галоўная задача Прэзідыума — гэта ўдалая актывізацыя ўсіх іх для дабра беларускага асяроддзя ў Польшчы. Думаю, што добрай волі, ініцыятывы і актыўнасці як для мяне, так і для маіх супрацоўнікаў хопіць.

*Пытанне:*

— Ці лічыце Вы, што ў бліжэйшай перспектыве БГКТ зможа



давесці да супрацоўніцтва падзелены на міні-арганізацыі беларускі рух?

*Адказ:*

— Супрацоўніцтва паміж многімі арганізацыямі, якія існуюць у асяроддзі беларусаў у Польшчы, будзе магчымым толькі тады, калі, па-першае, кожная з гэтых арганізацый у сваёй штодзённай працы будзе служыць беларускім асяроддзям, а, па-другое, у суадносінах з іншымі арганізацыямі будзе паказваць добрую волю супрацоўніцтва, талерантнасці, неўмешвання ў чужыя справы і дэмакратыі. Пакуль гэтага не хапае, няма ніякіх спрыяльных умоў да супрацоўніцтва. Прычыны актуальнага стану я бачу перад усім у неадказнасці, ілжывасці і палітычным маніпулянцтве некаторых «дзеячаў» беларускіх міні-арганізацый. Я перакананы, што жыццё іх нечаму навучыць, і тады з'явяцца ўмовы для нармальных адносін як у плане маральным, так і грамадска-палітычным. Хацелася б, каб гэта наступіла як мага хутчэй.

*Пытанне:*

— Просім каротка праінфармаваць чытачоў Беларускага календара аб сваім жыццёвым шляху.

*Адказ:*

— Нарадзіўся я ў беларускай вёсцы Стрыкі, што на Бельшчыне, і там пражыў беднае і цяжкое дзяцінства. Пасля заканчэння пачатковай школы паступіў у беларускі клас педагагічнага ліцэя ў Бельску Падляшскім. Сваю прафесійную актыўнасць пачаў як кіраўнік пачатковай школы ў вёсцы Чаромха, потым працаваў настаўнікам у вёсцы Арэшкава, сакратаром павятовага аддзела Саюза польскіх настаўнікаў у Гайнаўцы, кіраўніком Дома культуры прафсаюзаў у Беластоку, а з 1970 года — выкладчыкам у Беластоцкай палітэхніцы. Вышэйшую адукацыю здабыў я на педагагічным факультэце Гданьскага універсітэта. Прафесія настаўніка і грамадская культурна-асветная дзейнасць — гэта галіны майму сэрцу вельмі блізкія.

*Гутарыў У. ЮЗВЮК*

## Хор з найвышэйшай ацэнкай

Цэнтральны агляд беларускай песні на працягу шэрагу гадоў — вялікая падзея ў культурным жыцці Беластоцкага ваяводства. Адбываецца ён у найпрыгажэйшай канцэртнай зале горада Беластока — у філармоніі. Заўсёды агляд пачынаецца ў суботу і працягваецца ад раніцы да вечара. На гэтыя канцэрты-марафоны прыбывае шмат людзей, якія хочуць бачыць усе калектывы: слабейшыя і мацнейшыя. У гэты дзень выступаюць салісты, дуэты, тэрцэты, эстрадна-вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы і хоры — усе тыя, хто выйшаў на фінал на раённых аглядах беларускай песні.



Гледачы цэнтральнага агляду «Беларуская песня — 93» у Беластоку.
Фота *С. Грынявіцкага*

Журы цэнтральнага агляду, якое, як правіла, складаецца з запрошаных выдатных знаўцаў і спецыялістаў беларускай музыкі і песні — з Беластока і Варшавы, з Гродна і Мінска, — мае складанае заданне: даць ацэнку ўсім удзельнікам конкурсу і выбраць найлепшых на заўтрашнія нядзельныя два гала-канцэрты.

У цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 93» журы неабходна было ацаніць шэсцьдзесят тры выканаўчыя нумары, а колькасць выканаўцаў набліжалася да двухсот.

На гала-канцэрты і гэтым разам, нягледзячы на тое што білеты былі па сорак тысяч злотых, прыйшло мноства людзей. Прыбыло шмат прадстаўнікоў гарадскіх, ваяводскіх і цэнтральных улад і арганізацый Польшчы, а таксама прадстаўнікоў з Беларусі.

Ад імя Галоўнага праўлення БГКТ, арганізатара агляду, гасцей вітаў старшыня ГП Янка Сычэўскі. Сярод прыбыўшых, між іншым, прысутнічалі: Яго Праасвяшчэнства архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава, Беластоцкі ваявода С. Пруціс, намеснік прэзідэнта г. Беластока М. Саснкоўскі, дэпутаты ў сейм У. Цімашэвіч і Я. Чыквін, з Беларусі: пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы У. Сянько, намеснік міністра інфармацыі І. Карэнда, намеснік міністра культуры У. Рылатка, намеснік старшыні таварыства «Радзіма» Н. Васілёнак і іншыя.

На гэтым мерапрыемстве, як рэдка дзе, заўсёды пануе ўзнёслы настрой беластоцкай беларускай публікі, якая захапляецца сваімі роднымі песнямі і спантанна рэагуе на выступленні выканаўцаў.



Доўгімі, гучнымі воплескамі ўдзячнасці прынялі харавы калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Менавіта гэты хор на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 93» быў удастоены найвышэйшай ацэнкі — атрымаў першае месца. Такім чынам цяпер ён — найлепшы беларускі калектыў у Польшчы. Аб ім менавіта пойдзе гутарка ў гэтым артыкуле.

Складаецца гэты хор з таленавітых спевакоў-аматараў, якія любяць спяваць і лічаць вялікім гонарам прывіваць любоў да сваіх родных беларускіх песень. Не мала тут і здольных салістаў. Сёлета сярод іх лаўрэатамі фінальнага агляду з'яўляюцца: саліст Юрка Налівайка, у дуэце выступалі Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк, Галіна Карбоўская і Яўгення Богдан, а таксама Анна Богус і Марыся Вярбіцкая, а тэрцэт складаўся з Алі Дубэц, Міраславы Ціханюк і Міры Дэмянюк.

Без удзелу гарадскога беластоцкага калектыву БГКТ не адбываецца цяпер ніводная ўрачыстаць. Выступаў ён на святкаванні ў БГКТ 75-ай гадавіны абвяшчэння Радай БНР Беларускай Рэспублікі і падчас урачыстасці ў амфітэатры ў Беластоку, у Дзень беларускай культуры, з нагоды святкавання Купалля ў Белавежы і падчас спаткання ў Беластоку польскіх калектываў з Беларусі з беларускімі калектывамі з Польшчы — «Гродна—Беласток». Без удзелу хора БГКТ з Беластока не адбылося ніводнае беларускае народнае свята, а гэта — рэгіянальныя святы беларускай культуры ў дадзенай мясцовасці. Было такіх святаў у 1993 годзе 14, і на кожным прысутнічала не менш адной тысячы, а на некаторых па некалькі тысяч чалавек.

На рахунку калектыву многа выступленняў у розных мясцовасцях не толькі Беласточчыны. Выязджаў калектыў з канцэртамі ў шматлікія мясцовасці Польшчы, а таксама пабываў ён і на Беларусі. Усюды акружала яго сярдэчнасць, усюды належна справіўся са сваімі задачамі.

Беларускае таварыства ад пачатку свайго існавання цесна звязана з беларускай песняй, з прапагандай яе.

Хор пры БГКТ у Беластоку быў заснаваны ў чэрвені 1956 года. Меў ён свае ўзлёты і заняпады, нават зусім знікаў, каб пасля зноў адраджацца і надалей славіць беларускую песню.

Цяперашні хор гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку з'яўляецца прадаўжальнікам хору «Каласкі», які перастаў існаваць, між іншым, з той прычыны, што не было дзе праводзіць рэпетыцыі, бо доўга, больш за два гады, працягваўся рамонт памяшкання Беларускага таварыства.

Адсутнасць хору ў Гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку перапыніла інструктар ГП Альжбета Жукоўская. Дзейсную дапамогу ў гэтай справе аказала Люба Гаўрылюк, якая не толькі дазволіла праводзіць спеўкі ў сваёй кватэры, але і заахвоціла да ўдзелу ў хоры царкоўных харыстак: Галіну Карбоўскую, Ліду Янчук, Раісу Тынєвіцкую, Веру Белу, ну і, вядома, сваю дачку Алю. Пасля да



Дуэт Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.
Фота *С. Грынявіцкага*

іх далучыліся іншыя, у тым ліку і Валянціна Ласкевіч. Памаленьку хор набіраў мастацкае майстэрства і пачаў выступаць на сцэне. Першымі яго акампаніятарамі былі: Лешак Русэль, Анатоль Семяняка, Андрэй Радзівановіч. Доўгі час кіраваў гэтым калектывам вядомы ў БГКТ спецыяліст па музыцы Сцяпан Копа.

З другой паловы 1992 года Сцяпана Копу замяніў Віктар Маланчык з Гродна. Ён хутка паказаў сябе як выдатны мастацкі кіраўнік, адразу здружыўся з калектывам і здабыў яго аўтарытэт.

А калі вярнулася з Санока са сваёй сям'ёй у Беласток Аля Дубэц (лета 1992 г.) і зноў уключылася ў калектыў, было гэта вялікім мастацкім узмацненнем.

Аля Дубэц як спецыяліст па музыцы арганізавала маладзёжную харавую групу, якая пад яе кіраўніцтвам пачала выступаць на сцэне, і, калі была патрэба, стала далучацца да існуючага хору старэйшага пакалення. Цяпер беластоцкі харавы калектыў БГКТ складаецца з дзвюх груп. Адна працуе пад кіраўніцтвам Віктара Маланчыка, другая — Алі Дубэц. А калі гэтыя дзве групы выступаюць як адзіны калектыў, тады Аля Дубэц дырыжыруе, а Віктар Маланчык акампаніруе. Супольны спеў гучыць надта ж прыгожа, прывабліва, проста велічна.

Варта падкрэсліць той факт, што харавы калектыў — гэта своеасаблівая сардэчная супольнасць, яго дружнасць і згуртаванасць






Калектыў Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.
Фота *С. Грынявіцкага*

дапамагаюць яму пераадольваць рознага роду цяжкасці, у тым ліку і фінансавыя. А ўсё гэта таму, што ўдзельнікаў хору саграваe пачуццё, што яны патрэбны людзям, патрэбны нашаму беларускаму грамадству ў Польшчы. Высокая, проста нязвыклая ахвярнасць усіх харыстаў. Яны ж адрываюцца ад сваіх сямейных, часам істотных, спраў і заўсёды прыходзяць на рэпетыцыі, выязджаюць на канцэрты і нярэдка даволі позна вяртаюцца дамоў. Калі ж выязджаюць з канцэртамі за межы Беласточчыны, яны адсутнічаюць дома па некалькі дзён.

Выключнай у гэтым калектыве з'яўляецца сям'я Гаўрылюкоў. Люба Гаўрылюк з невялікімі перапынкамі спявае ў хорах БГКТ трыццаць гадоў. Яе дачка Аля (цяпер Аля Дубэц), якую шчодра адарыла прырода музыкальнасцю і прыгожым голасам, спявае разам з маці з маленства. Падчас выступленняў яна станавілася на крэсла, каб было яе відаць прысутным на канцэрце. А з вясны 1993 года разам з Аляй спявае яе сын — першакласнік Давід, унук Любы. І так, як калісьці маці, ён зачароўвае сваімі выступленнямі слухачоў і атрымлівае вельмі многа гарачых воплескаў.

Адметным членам калектыву з'яўляецца таксама Анатоль Стэпанюк. Ён, апрача таго, што добра пяе, уласнымі рукамі вырабляе музычныя інструменты. Калектыў ужо карыстаецца зробленымі ім клекатунамі,ваўкаўніцаю, «чортавымі скрыпкамі», як гэта там на-



Квартэт Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.
Фота *С. Грынявіцкага*

зываюць, ды яшчэ адным інструментам, якому назвы так і не прыдумалі.

Немалаважным з'яўляецца і той факт, што старшыня Гарадскога аддзела БГКТ, а цяпер сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Валянціна Ласкевіч увесь час спявае ў хоры і заўсёды на ўсіх мерапрыемствах БГКТ вядзе канферансье. Так што ўсе праблемы ў дзейнасці хору адразу і на месцы вырашаюцца. Таму няма цяпер ніколі ніякіх недаразуменняў з уладамі Таварыства, як бывала калісьці. Гэта вельмі важна, асабліва цяпер, калі хор нясе аграмадную грамадскую нагрузку, бо ва ўсе нядзелі чэрвеня, ліпеня і жніўня выязджае з канцэртамі на беларускія народныя святы.

А калі імчыцца аўтобус з харыстамі па дарогах праз вёскі і мястэчкі, з яго вокнаў чуюцца мілагучныя мелодыі. Зачыншчыкам спеваў у дарозе пераважна бывае Люба Гаўрылюк, Казімір Богдан і Уладзімір Іванюк. З песняй дарога не доўжыцца і язда становіцца прыемнай.

Успамінаюцца мне першыя агляды беларускай песні ў час майго старшынства ў Галоўным праўленні БГКТ. Было гэта ў кастрычніку 1963-га і ў канцы чэрвеня 1965 года. Праўда, тады агляды мелі іншы характар, аднак жа гэта былі агляды. У першым конкурсе ўдзельнічала 13 асоб. Першае месца прызналі дуэту з Трасцянкі: Любе Гаўрылюк і Яўгенні Мінько. І мне прыйшлося тады ўручаць ім сімвалічную ўзнагароду — семсот злотых, аб чым ад-



нойчы прыпомніла мне Люба Гаўрылюк. У другім аглядзе беларускай песні ўжо ўдзельнічала 30 чалавек, а першае месца здабыла тады Люба Сахарчук (пазней Блізнюк) з Паўлаў. У тыя часы мала людзей прыходзіла на агляды. Трэба было шмат працаваць, каб сабраць публіку. І працавалі. І паступова разрасталася слава аглядаў беларускай песні.

Калі азірнемся назад, на пройдзены шлях, сэрца радуецца, што нездарма прайшлі гады дзейнасці БГКТ, а таксама яго хароў. Усё гэта прывяло да асмялення беларусаў, прызнання сваёй нацыі і праваслаўнага веравызнання, да большай пашаны да сваіх нацыянальных традыцыяў і звычаяў, фальклору, сцэнічнага слова і перш за ўсё — сваёй нацыянальнай песні, да развіцця мастацкай самадзейнасці, да засноўвання самадзейных калектываў з беларускім рэпертуарам, у тым ліку і харавога калектыву Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. А ён трывала запісаўся ў гісторыю мастацкай беларускай самадзейнасці не толькі на Беласточчыне, мне здаецца — і ў гісторыю аматарскага руху нашай краіны.

Ніжэй падаю імёны і прозвішчы асоб, якія выступалі ў цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 93».

**Старэйшая група:**

Аля Дубец, Люба Гаўрылюк, Галіна Карбоўская, Уладзімір Карбоўскі, Галена Арцішэўская, Аркадзь Арцішэўскі, Марыя Арцішэўская, Вера Белая, Анатоль Белы, Яўгенія Богдан, Казімір Богдан, Леакадзія Васілюк, Ірына Дыкаловіч, Раіса Тыневіцкая, Валянціна Ласкевіч, Марыя Пісанка, Анна Пісанка, Уладзімір Іванюк, Антон Семянковіч, Юрка Налівайка, Ірына Паўлючук, Яўген Матвеюк, Анатоль Стэпанюк, Вера Баўтрамюк.

**Маладзёжная група:**

Эдыта Баравік, Кацярына Баравік, Анна Петкун, Ірына Петкун, Агнеса Крэйза, Маргарыта Панько, Іаанна Штабкоўская, Анна Богус, Ева Ласкевіч (дачка Валянціны Ласкевіч), Аляксандра Паўлючук, Міраслава Ціханюк, Марыя Вярбіцкая, Хрыстафор Тарасюк, Андрэй Ганчар, Яраслаў Ганчар, Адам Баравік.

Далейшых Вам поспехаў, дарагія сябры харысты.

*Міхась Хмялеўскі*

## Супрацоўніцтва таварыства «Радзіма» з БГКТ будзе пашырацца

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой (таварыства «Радзіма») з'яўляецца грамадскай арганізацыяй з рэспубліканскім статусам. Створана яно ў красавіку 1976 года на базе Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой, якое існавала з 1964 года ў якасці дзяржаўнай установы і было рэарганізавана ў грамадскую арганізацыю па рашэнню рэс-

 

публіканскіх улад. Таварыства мае друкаваны орган — газету «Голас Радзімы».

У кастрычніку 1991 года на IV рэспубліканскай канферэнцыі таварыства «Радзіма» прыняты яго новы статут, у якім канкрэтызаваны мэты і задачы таварыства, пашыраны сферы яго дзейнасці.

Згодна са статутам, асноўнымі задачамі таварыства з'яўляюцца: наладжванне і развіццё сувязей з замежнымі суайчыннікамі і іх арганізацыямі на падставе духоўнай, культурнай, патрыятычнай, рэлігійнай і іншай агульнасці; азнаямленне суайчыннікаў з жыццём, культурай, гісторыяй і нацыянальнымі традыцыямі беларускага народа, выхаванне ў іх пачуцця лучнасці з гістарычнай бацькаўшчынай; садзейнічанне ўмацаванню міру і дружбы, давер'я і ўзаемаразумення, усебаковага супрацоўніцтва паміж народамі і дзяржавамі.

У сучасны момант таварыства падтрымлівае сувязі з арганізацыямі суайчыннікаў — выхадцаў з Беларусі ў краінах Еўропы, Амерыкі (ЗША, Канада, Аргенціна, Бразілія, Уругвай), Азіі і Афрыкі, усяго ў 22 краінах свету. Буйнейшымі з іх з'яўляюцца такія арганізацыі, як Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы (БГКТ), Беларуска-амерыканскае Задзіночанне (БАЗА), Федэрацыя рускіх канадцаў (ФРК), Федэрацыя культурна-асветніцкіх таварыстваў у Аргенціне, Карпарацыя «Араў парк» у ЗША і іншыя.

Асноўным накірункам у рабоце таварыства «Радзіма» з'яўляецца культурна-асветніцкая дзейнасць сярод замежных суайчыннікаў. Для гэтага выкарыстоўваюцца разнастайныя формы работы: прыём дэлегацый і груп суайчыннікаў, правядзенне сустрэч моладзі, курсаў для ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, садзейнічанне ў прыёме на вучобу ў навучальныя ўстановы рэспублікі, арганізацыя летняга адпачынку дзяцей і іншыя. У арганізацыі суайчыннікаў накіроўваецца вучэбная, метадычная і мастацкая літаратура, перыядычныя выданні, кінафільмы, запісы беларускай музыкі, узоры нацыянальных сцэнічных касцюмаў і г.д. Так, у 1991—1992 гг. на курсах у Мінску прайшлі падрыхтоўку 25 кіраўнікоў і ўдзельнікаў калектываў мастацкай самадзейнасці БГКТ, для беларусаў Аргенціны выраблены і перададзены 12 беларускіх сцэнічных касцюмаў, у арганізацыі замежных суайчыннікаў накіравана больш 5 тысяч асобнікаў падручнікаў, кніг і перыядычных выданняў і г.д.

Асабліва цесныя сувязі таварыства існуюць з Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы. Яшчэ ў даперабудовачныя часы таварыства «Радзіма» прымала захады для наладжвання сувязей з гэтай буйнейшай грамадскай арганізацыяй беларускай меншасці ў Польшчы. Але толькі з пачаткам карэнных зменаў у грамадска-палітычным жыцці нашай дзяржавы мы змаглі ажыццявіць свае намеры. Менавіта ў гэты час, у 1988 годзе, таварыства «Радзіма» і БГКТ зрабілі важныя крокі для ўзаемных,



больш шырокіх кантактаў. Тады ж адбыўся абмен дэлегацыямі на ўзроўні кіраўніцтва арганізацый. На гэтых сустрэчах і былі вызначаны асноўныя накірункі нашых сувязей і, у першую чаргу, былі дасягнуты дамоўленасці аб нашым супрацоўніцтве ў культурна-асветніцкай галіне. Многа ўвагі мы аддаем дапамозе ў будаўніцтве музея беларускай культуры ў Гайнаўцы. Таварыства «Радзіма» было першай арганізацыяй рэспублікі, якая ажыццявіла важныя крокі для практычнай дапамогі ў справе будаўніцтва гэтага музея. Яно арганізавала збор у рэспубліцы дабрачынных ахвяраванняў на музей, для чаго быў адкрыты спецыяльны рахунак у банку. На сабраныя сродкі былі закуплены і перададзены ў Гайнаўку розныя будаўнічыя матэрыялы, абсталяванне і нават мікрааўтобус. Апошнім часам мы садзейнічалі БГКТ у справе ўладкавання ў рэспубліцы яго выдавецкай дзейнасці, а таксама выдання твораў беларускіх пісьменнікаў і даследчыкаў з Беласточчыны. Прадстаўнікі таварыства «Радзіма» прымалі ўдзел у розных мерапрыемствах, якія ладзіліся БГКТ на Беласточчыне. І ўсюды яны адчувалі, што БГКТ карыстаецца немалым аўтарытэтам і падтрымкай шырокага кола беларускага насельніцтва гэтага рэгіёна. Масавасць удзелу ў такіх мерапрыемствах, як агляды мастацкай самадзейнасці калектываў, фестывалі беларускай песні, навукова-практычныя канферэнцыі, і інш. сведчаць менавіта аб гэтым. Гэта можна патлумачыць толькі тым, што асноўныя накірункі дзейнасці БГКТ адпавядаюць інтарэсам беларускай меншасці ў Польшчы.

Калі ж працягваць гаворку аб дзейнасці таварыства «Радзіма», то трэба адзначыць, што адным з важных яе накірункаў у апошнія гады з'яўляецца выкарыстанне магчымасцей замежных суайчыннікаў для аказання дапамогі рэспубліцы ў пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Зварот да суайчыннікаў, прыняты ў 1988 годзе сумесна з іншымі грамадскімі арганізацыямі рэспублікі, знайшоў водгук сярод зарубежных сяброў таварыства. Гуманітарная дапамога рэгулярна паступае з многіх краін свету: Германіі, Бельгіі, Галандыі, ЗША, Канады, Аргенціны, Алжыра, Ганы і іншых. Таварыства перадае яе ў медыцынскія ўстановы, дзе лечацца дзеці і дарослыя, пацярпеўшыя ад радыяцыі. У 1992—1993 гг. ад суайчыннікаў атрымана медыкаментаў, вітамінаў і медыцынскага абсталявання на суму больш 15 мільёнаў нямецкіх марак. Толькі дэлегаты Першага з'езда беларусаў свету — сябры таварыства з Аргенціны, Германіі і ЗША прывезлі такой дапамогі на суму каля мільёна марак ФРГ і перадалі ў Беларускі дзіцячы фонд 11 тысяч. долараў ЗША з мэтавым прызначэннем для абласнога дзіцячага анкалагічнага цэнтра ў Бараўлянах і клінікі радыяцыйнай медыцыны ў г. Мінску.

Таварыства «Радзіма» вядзе таксама работу па вяртанню ў Беларусь згубленых у розны час гістарычных і культурных каштоўнасцей. Так, ад суайчынніка А. Цеханавецкага, які жыве ў Англіі, атрыманы унікальны слуцкі пас і рэдкае выданне кнігі на



 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

старабеларускай мове. Гэтыя рэліквіі перададзены на захаванне ў музей старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук рэспублікі.

Таварыства «Радзіма» прымае пэўныя захады на новым, але вельмі важным накірунку — садзейнічанні рэспубліцы ў навукова-тэхнічнай і эканамічнай галінах шляхам прыцягнення капіталаў замежных суайчыннікаў для стварэння змешаных і сумесных прадпрыемстваў і фірм.

З узнікненнем беларускіх суполак у краінах СНД і Балтыі таварыства аказвае ім дапамогу ў станаўленні і арганізацыі работы.

На нашу думку, супрацоўніцтва таварыства «Радзіма» з БГКТ у будучым можа працягвацца і пашырацца па ўсіх накірунках, але перш за ўсё ў культурна-асветніцкай галіне, дзе мы маем яшчэ пэўныя рэзервы. Нам патрэбна сумесна сур'ёзна абмеркаваць магчымасці для наладжвання супрацоўніцтва ў галіне эканомікі, каб выкарыстаць гэта для дапамогі нашай рэспубліцы, а таксама для ўмацавання фінансавага становішча нашых арганізацый.

Што тычыцца таварыства «Радзіма», то яно будзе ўсё рабіць, каб супрацоўніцтва з БГКТ плённа развівалася і мацавалася надалей.

*Намеснік старшыні*
*таварыства «Радзіма»*
*Уладзімір НАВІЦКІ*



# НА ХВАЛЯХ СУЧАСНАГА ЖЫЦЦЯ

## Першы з'езд беларусаў свету

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» Рэспублікі Беларусь правяло ў Мінску з 8 па 10 ліпеня 1993 года свой першы з'езд. Яго мэтай было «...яднанне і кансалідацыя беларусаў дзеля духоўнага, дзяржаўнага і эканамічнага адраджэння нашае Маці-Беларусі». Так гаварылася ў запрашэннях.

У з'ездзе прынялі ўдзел 996 чалавек, у тым ліку 255 з далёкага замежжа (ЗША — 108, Канады — 16, Аргенціны — 10, а таксама з Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Чэхіі, Швейцарыі і іншых краін). Адным з большых прадстаўніцтваў было з Рэчыпаспалітай Польшчы — 72 чалавекі, у тым ліку з БГКТ — 36, а таксама БДА, рэдакцыі «Нівы», літаратурнага аб'яднання «Белавежа», арганізацый і суполак, якія супрацоўнічаюць з аналагічнымі ўстановамі Рэспублікі Беларусь.

З блізкага замежжа, гэта значыць з рэспублік былога СССР, удзельнічала 235 чалавек (Літвы — 31, Латвіі — 28, Украіны — 25, Сярэдняй Азіі — 24, Эстоніі — 13, а таксама з Малдовы, Грузіі і Расіі, у тым ліку з Масквы — 38, С.-Пецярбурга — 18, Якуціі, Комі, Калінінграда, Новасібірска і іншых раёнаў).

Значную частку складалі замежныя карэспандэнты, прадстаўнікі грамадска-культурных устаноў. У з'ездзе прынялі ўдзел старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, намеснік прэм'ера Міхась Дзямчук, міністры замежных спраў Пётр Краўчанка і інфармацыі Анатоль Бутэвіч, вучоныя, дзеячы культуры, святары асноўных веравызнанняў у Беларусі — праваслаўнага, рымска-каталіцкага і уніяцкага, а таксама вайскоўцы, карэспандэнты мясцовай прэсы, радыё і тэлебачання.

Першы з'езд беларусаў свету папярэдзілі двухдзённыя экскурсіі па сталічным Мінску, музеях і ўстановах, а вечарамі — удзелы ў Купаллях у сталіцы і паасобных абласцях. Частка ўдзельнікаў з'езда прысутнічала ў канферэнцыі мясцовых дэмакратычных партый і арганізацый.

У кароткай інфармацыі немагчыма перадаць усё багацце ўражанняў са з'езда. У першым яго дні (8.VII.93), пасля адкрыцця, прэзідэнт згуртавання «Бацькаўшчына» В. Быкаў адмоўна аха-



Удзельнікі Першага з'езда беларусаў свету з Беласточчыны.
Фота *А. Харкевіча*

рактарызаваў усю мінуўшчыну БССР і першыя гады дзейнасці ўладаў незалежнай Рэспублікі Беларусь. Я асабіста ўспрыняў такое выступленне як няўмесную антыўрадавую прапаганду. Затым з вельмі прыемным прывітальным словам да ўсіх удзельнікаў звярнуўся старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч. Пасля яго выступілі народны пісьменнік Н. Гілевіч, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Р. Гарэцкі і намеснік прэм'ера ўрада М. Дзямчук. Першы засяродзіў увагу прысутных на значэнні роднай мовы ў жыцці народа, другі — на гістарычных аспектах яго развіцця, а апошні паінфармаваў аб сучасным эканамічным і культурным становішчы краіны. Паводле дакладчыка, незалежную Беларусь прызнала ўжо 80 краін свету, у большасці якіх адкрыты пасольствы РБ. Урад імкнецца захаваць эканамічныя сувязі з Усходам і Захадам дзеля захавання базавых галін гаспадаркі. Аднachасова праводзіцца нерэвалюцыйны пераход да рынкавых адносін. Аднак на аднаўленне прамысловага патэнцыялу не хапае яшчэ валютных сродкаў. Арганізуюцца толькі дробныя беларуска-замежныя суполкі. У сельскай гаспадарцы захоўваюцца надалей калгасы і саўгасы, але ўжо арганізавалася каля 4 тысяч фермерскіх гаспадарак. У галіне культурнага адраджэння зроблены добрыя пачаткі — прыняты закон аб роднай мове, яе навучанне ўведзена ў школах, некаторых установах. Аднак беларусізацыя ўсяго жыцця — гэта складаны, доўгатрывалы працэс.



Ва ўсіх адраджэнскіх дзеяннях урад Рэспублікі хоча наблізіцца да беларускай дыяспары, наладзіць з ёю цеснае супрацоўніцтва.

Пасля кароткай прамовы старшыні Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Я. Лецкі першым з замежных гасцей выступіў Янка Запруднік (ЗША), які сказаў, што амерыканская беларуская дыяспара заўсёды захоўвала вернасць сваёй Бацькаўшчыне, а зараз «...цёпла на душы, калі мы ўсе гатовы да кампрамісу».

Крытычна да мінуўшчыны і не заўсёды згаджаючыся з сучаснасцю Беларусі, выказаліся Расціслаў Завістовіч (ЗША) і Мікола Гайко (Канада).

Затым ад імя БГКТ выступіў Аляксандр Баршчэўскі, які заўважыў, што «сцены гэтай залы тэатра оперы і балета бачылі многа з'ездаў і прэм'ераў, але такой прэм'еры яшчэ не было». У адраджэнскіх плынях ён прыгадаў значны ўдзел беларускай эміграцыі, звярнуў увагу на неабходнасць рэалізаваць пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб роднай мове, патрэбу ўпарадкавання праездаў праз заходнюю граніцу, прывёў прыклады найбольш эфектыўнай дзейнасці Беларускага таварыства і грамадскай пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.

Шчыра выказалася Раіса Жук з Канады, паводле якой усе мы хочам «працаваць і змагацца за незалежнасць Беларусі ў яе этнаграфічных межах і дэмакратычным ладзе...» Абставіны яшчэ складаныя, але ёсць у народзе асілкі духу і інтэлекту.

Першым з мясцовых лідэраў палітычных груповак выступіў Зянон Пазняк (БНФ). Яго нязменна татальная крытыка ўсіх адраджэнскіх пачынанняў на Беларусі, якую зараз праводзіць урад, была ўспрынята авацыямі, і можна ёй, як новай з'яве ў палітычнай барацьбе, папляскаць у далоні, асабліва яго ідэі «каб Беларусь была беларускай». Але нават і гэтая ідэя ў народзе не атрымлівае належнай падтрымкі. «Салідарнасць» у Польшчы здолела запаланіць усе слаі насельніцтва, хаця пасля, у выніку непрадуманых дзеянняў, страціла яго давер. БНФ і таго не здолеў дасягнуць. Выступаць з абвінавачваннямі ўсіх урадавых структур у прысутнасці гасцей і таго ж урада — неразважна.

Пасля выступіла яшчэ чарговых каля 15 прамоўцаў. Найбольш драматызму і агрэсіі было ў выказваннях прадстаўнікоў мясцовых апазіцыйных партый або згуртаванняў і ўдзельнікаў блізкага замежжа. Апошнія апынуліся, найчасцей не па сваёй ахвоце, у былых рэспубліках СССР, зараз сталіся ім непатрэбныя, а Беларусь на сталае месца жыхарства таксама прыняць іх не хоча.

Прадстаўнікоў левых партый паслухаць не прыйшлося, магчыма, на з'езд яны не атрымалі запрашэнняў.

Другі дзень з'езда быў прысвечаны працы «круглых сталоў» на тэмы: «Беларуская дзяржаўнасць», «Беларуская гаспадарка і прадпрымальніцтва», «Беларуская культура», «Дзеці Чарнобыля» і іншыя. Мэтай «круглых сталоў» было выпрацаваць прапановы, каб

палепшыць супрацоўніцтва беларусаў замежжа з Бацькаўшчынай і Рэспублікі Беларусь з беларускай дыяспарай усяго свету. Частка ўдзельнікаў знаходзілася ў гэты дзень на ўрадавых сустрэчах дзеля вырашэння многіх бягучых пытынняў дзейнасці сваіх арганізацый.

Трэці дзень з'езда зноў пачаўся з выступленняў удзельнікаў. Налічыў я іх каля дваццаці пяці, таму ўспамянуць можна толькі некаторыя.

Прадстаўнік Сялянскай партыі Беларусі дамагаўся (ад каго?) рэферэндума для ўрада, Вярхоўнага Савета і ўсіх структур таму, што не пашыраецца лік індывідуальных гаспадарак, але колькасць заявак на іх атрыманне не прыгадаў, не акрэсліў неабходнага зямельнага арэалу. Сучасны абсяг іх акрэсліў каля 11 гектараў кожнай гаспадаркі. Нічога не ўспамянуў аб атрымліванні крэдытаў, дамагаўся «зямлі і волі» — сказ гістарычны, але з ім у Заходнюю Еўропу няма чаго набліжацца.

Наступны прамоўца з Беларусі заўважыў, і слушна, што «Мінск з'яўляецца унікальнай сталіцай таму, што тут не чуецца роднай беларускай мовы, а рэспубліка не мае прэзідэнта». Але унікальнасці разбудовы горада ў кароткі пасляваенны перыяд, прыросту насельніцтва — да 1,7 млн. жыхароў, яго заводаў, метро, навуковых устаноў, паркаў не прыкмеціў. Ігнараваў цяжкую працу тысяч людзей.

Увагі заслугоўвае спакойнае, аптымістычнае пасланне мітрапаліта Філарэта, у якім гаварылася, што яшчэ «жыве ў народзе асноўнае, што яго яднае — беларушчына...» Было адзначана, што з дзесяці епіскапаў восем — беларусы, многія вярнуліся з Расіі. Але выказаныя прынцыпы пагаднення ўсіх беларусаў свету, спалучаныя з прыхільнасцю да маскоўскага патрыяршаства, бурлівых воплескаў не атрымалі.

Прадстаўнік яўрэйскай дыяспары з Беларусі дамагаўся ўключыць іх у гаспадарчыя і культурныя працэсы адраджэння Радзімы. Выступіў таксама К. Майсеня на тэму дасягненняў і цяжкасцяў у пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы. Да дыскусіі з Беласточчыны запісаліся таксама галоўны рэдактар «Нівы» Я. Мірановіч і лідэр БДА А. Латышонак, выклікаліся яны прэзідыумам з'езда, але на трыбуне не паявіліся.

Змястоўна і шчыра выступіў пасланнік архіепіскапа Савы а. Уладзімір Місеюк. Яго словы «нашае заданне ўзгадаваць добрых патрыётаў» прысутныя ўзнагародзілі працяглымі воплескамі.

Мне вельмі спадабаліся фармулёўкі некаторых прамоўцаў: «Калі мы знаходзімся ў сваёй грамадзе, мы моцныя, а калі ў чужой — трацім свой гонар», «Сын ёсць па крыві, а не па зямлі, на якой ён нарадзіўся», «Тых, хто не хоча беларускай мовы і адраджэння Беларусі, а хоча расейшчыны, просім прыязджаць да нас у Сібір. Там беларушчыны няма», «Адны дамагаюцца падвойнага грамадзянства, а іншыя яго адкідваюць», «Прадстаўнікі замежжа павінны быць у парламенце Рэспублікі Беларусь» і многа іншых.



Адказвалі на закранутыя пытанні міністры: замежных спраў Пётр Краўчанка і інфармацыі Анатоль Бутэвіч.

Дыскусія была спынена дзеля прыняцця дакументаў: Зварот беларускага замежжа да беларускага народа, Зварот удзельнікаў Першага з'езда беларусаў свету да беларускага народа, Дэкларацыя аб прынцыпах незалежнасці Рэспублікі Беларусь, Зварот да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь аб працы з беларускай дыяспарай, Заява Першага з'езда па вайсковаму пытанню, Рэзалюцыя аб дзейнасці Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і Рэзалюцыя ў падтрымку рэдакцыі радыё «Свабода».

Тры першыя дакументы былі прыняты аднагалосна. Супярэчлівыя меркаванні выклікала заява па вайсковаму пытанню, у час абмеркавання якой пачаліся ў зале сваркі, крыкі, якія суцішалі Зянон Пазняк і Пётр Краўчанка. Шумліва прайшло таксама прыняцце апошняй рэзалюцыі.

Затым адбылося зацвярджэнне крыху раней выбранай амаль 100-асабовай Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». У склад гэтай Рады ўвайшлі з Беласточчыны: Аляксандр Баршчэўскі, Мікалай Бушко, Кастусь Майсеня, Янка Сычэўскі і Ян Чыквін. Старшынёй Рады выбрана Ганна Сурмач. Дзеля лепшай аператыўнасці ў працы выбралі толькі з мінчан так званую Малую раду і Управу Рады ў ліку 17 членаў.

Шчырымі падзякамі арганізатарам з'езда, прэс-канферэнцыяй, канцэртам і сяброўскай вячэрай закончыўся з'езд. Сотні знаёмстваў, гутарак з землякамі, прадстаўнікамі ўрада і паасобных партый пакінулі незабыўныя ўражанні.

*У. ЮЗВЮК*

## Пачатак вялікага пачатку

*(Слова на Першым з'ездзе беларусаў свету)*

Паважаныя дэлегаты і госці з'езда!

Мне выпаў гонар ад імя сяброў Таварыства беларускай мовы вітаць вас і віншаваць з вялікай падзеяй у гісторыі нашага народа — Першым сусветным з'ездам беларусаў.

Хаця мае слова і прывітальнае, але наш з'езд — гэта не толькі свята, а перш за ўсё — работа, і таму дазвольце мне выказаць некалькі думак не зусім святочных.

Галоўная ідэя з'езда — аб'яднаўчая. Гэта наша першая спроба сабрацца разам, з усяе зямное кулі, каб пагаварыць пра тыя супольныя задачы, што ўзніклі перад усімі намі ў лёсавызначальны для нашай Бацькаўшчыны час. Сэнс іх, гэтых задач, зводзіцца да аднаго: практычна забяспечыць тое, што абвешчана дэкларатыў-

на,— пабудаваць свабодную, дэмакратычную, суверэнную дзяржаву Беларусь. Значыць, нам ёсць у імя чаго аб'ядноўвацца, ёсць той найсвяцейшы алтар, каб на яго пакласці свае найдарагія ахвяраванні: лепшыя сілы душы і сэрца, а калі трэба — і само жыццё. Не будзем утойваць: згуртаванню нашых сіл перашкаджаюць не толькі аб'ектыўныя ўмовы, але і пэўныя прычыны суб'ектыўнага парадку. Перашкаджае наша негатоўнасць да гэтага на ўзроўні свядомасці, псіхалогіі, палітычнай і агульнай культуры.

Ідэя нацыянальнага адраджэння Беларусі — ідэя перш за ўсё патрыятычная, родалюбная і, вядома ж, усенародная.

Ніхто ў паасобку не мае манапольнага права на беларускі патрыятызм. Між тым, ёсць, я сказаў бы, сектанты, якія хацелі б адлучыць некаторых грамадзян ад права клапаціцца пра наша нацыянальнае Адраджэнне. Маўляў — вы трымаліся асуджаных часам пераканнанняў і поглядаў, і таму цяпер мы абыдземся без вас. Цяжка прыдумаць нешта больш неразважнае, чым такая пазіцыя.

У пошуках шляхоў станаўлення нашай незалежнай дзяржавы трэба помніць, што цяпер кожны памылковы крок можа вельмі дорага нам абысціся, іншы крок можа аказацца катастрафічна непапраўным. Для Беларусі, для беларусаў наступіў самім Богам наканаваны час збіраць каменні... Дагэтуль не толькі нашы нядобразычліўцы, але, здаецца, і мы самі ж рабілі ўсё магчымае і нават немагчымае, каб разрозніць беларусаў між сабой, каб адчужыць і аддаліць беларуса ад Беларусі. Хочацца верыць, што нарэшце з гэтым нашым самаедствам мы канчаем назаўсёды.

Клопат пра беларускае нацыянальнае адраджэнне доўгі час бралі на сябе пераважна прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі. Сёння сітуацыя істотна мяняецца — да ідэі адраджэння далучаюцца людзі з усіх іншых сфер грамадскага жыцця. І аднак жа — задачай задач застаецца: разбудзіць ад нацыянальнай спячкі ўвесь беларускі народ — павярнуць усіх грамадзян нашых да вялікай ідэі адраджэння Беларусі. Зрабіць так, каб літаральна кожны беларус усвядоміў, што і ад яго залежыць будучыня Бацькаўшчыны, і гэта ўсведамленне зрабіў сваім найпершым, сваім святым абавязкам. Каб кожны, як малітву, штодня сабе паўтараў: я павінен жыць і працаваць так, каб маёй Беларусі было лепш, каб яна багацела і дужэла, расла духоўна і набывала ўсё больш высокі аўтарытэт у свеце.

На вялікі жаль, і ў нашым парламенце, і ва Урадзе, і ў іншых дзяржаўных і недзяржаўных структурах супроць лініі на станаўленне суверэннай, незалежнай, нейтральнай, бяз'ядзернай Беларускай Дзяржавы выступаюць не толькі даўнія, загартаваныя і асатанелыя «ворагі беларушчыны» (Купала), але і некаторыя дэмакраты, прыхільнікі і абаронцы эканамічных рэформ. Што гэта значыць? Гэта значыць, што па-ранейшаму Беларуская ідэя яшчэ не стала галоўнай аб'яднаўчай сілай — і ў гэтым найвялікшая наша бяда. Гаварыў неаднойчы і скажу яшчэ раз з гэтай высокай трыбуны: наша дзяржава яшчэ далёка не стала ў поўным сэнсе слова беларускай дзяржавай. Нам гэта яшчэ належыць зрабіць. І гэта стане тады, калі беларускімі пачуюцца нашы парламент і ўрад. Вядома, рэч не толькі ў мове, і аднак жа — перш за ўсё і сто разоў перш за ўсё — у мове! Толькі тады, калі ўсе да адной паперы і паперкі з Вярхоўнай Рады і з Рады Міністраў пойдуць на беларускай мове, — толькі тады мы зможам нарэшце шчасліва ўздыхнуць і сказаць: Пачалося! Аве, Беларусь!.. Просіцца на абвяшчэнне адно параўнанне. Ніколі яшчэ гэты дом, наш Вялікі тэатр, так не поўніўся роднымі гукамі, роднымі словамі, роднымі галасамі, як сёння. Дык вось, не ведаю, ці судзіць мне доля дажыць, але быў бы бязмежна шчаслівы пачуць аднойчы, што ўся Беларусь, уся зямля наша, як гэты дом сёння, поўніцца роднымі гукамі, словамі, галасамі! Што для гэтага мы павінны рабіць і зрабіць? Усё, каб яўныя і замаскіраваныя антыбеларускія сілы ў Беларусі пацярпелі поўны крах. Упэўнен, што гэта пытанне часу. Мы не дазволім ужо, каб наш народ і краіна зноў былі адкінуты далёка назад!..

Вядома, ад многіх дзяржаўных людзей у нас наўрад ці можна чакаць, што яны аднойчы зразумеюць трагічны лёс беларускага народа і павернуцца душой да нашых жыццёвых клопатаў. Але не яны надалей будуць задаваць тон і прадвызначаць магістральны кірунак развіцця нашай дзяржавы. Хоць сітуацыя і застаецца складанай, нават вельмі складанай, адбываецца мабілізацыя здаровых грамадскіх сіл — як у Беларусі, так і за яе межамі, там, дзе жывуць беларусы. Нарастае палітычная, маральная і матэрыяльная падтрымка ў справе нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Нарастае і дужэе наша вера ў тое, што на гэты раз ашукаць нас нікому не ўдасца, і мы ўжо не выпусцім з рук сваю ўласную долю.

Карыстаюся выпадкам і выказваю шчырую падзяку ўсім грамадзянам Беларусі і замежным суайчыннікам, якія падтрымліваюць Таварыства беларускай мовы і супрацоўнічаюць з намі.

Дарагія людзі, яшчэ раз віншую вас з пачаткам вялікага Пачатку і ад усяго сэрца зычу вам поспехаў у працы.

Жыве Беларусь!

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## Стан навучання беларускай мове ў Беластоцкім ваяводстве ў 1992/93 школьным годзе

Праграма навучання беларускай мове складае неад'емную частку ўсёй сістэмы асветы і выхавання ў Рэчыпаспалітай Польшчы. Яна ажыццяўляе ўсе мэты і заданні, якія стаяць перад адукацыйнай сістэмай, прадугледжвае прывіццё і пашырэнне ў маладога па-

кalення роднай культуры, культываванне нацыянальнага фальклору, народных песень, танцаў, рэгіянальнага мастацтва, выяўленне польска-беларускіх сувязей, асаблівасцяў свайго рэгіёна. Арганізацыю навучання роднай мове для няпольскага насельніцтва нарміруе распараджэнне Міністэрства нацыянальнай адукацыі ад 24 сакавіка 1992 г.

Навучанне беларускай мове вядзецца ў 43 пачатковых школах і двух агульнаадукацыйных ліцэях (Бельск Падляшскі, Гайнаўка). Гэтыя школы знаходзяцца ў асветных раёнах Бельск Падляшскі, Беласток і Сямяцічы. Беларускай мове навучаецца каля 3790 вучняў, у тым ліку 3163 — у пачатковых школах. У сувязі з тым, што беларуская мова звышабавязковая, на працягу навучальнага года бываюць змены ў дадзеных, сабраных у пачатку школьнага года. Падаем дзеля параўнання дадзеныя з розных гадоў:

школьны год 1969/70 — 11 291 навучэнцаў
—"— —"— 1979/80 — 4263 —"—
—"— —"— 1987/88 — 3691 —"—
—"— —"— 1991/92 — 3508 —"—

У бягучым школьным годзе не працягвалася навучанне беларускай мове ў Пачатковай школе ў Зубрах, а таксама ў школе ў Рагачах у сувязі з яе далучэннем да Мілейчыцаў. Такое ж становішча пагражае і дзецям са школы ў Малешах. Затое ўзноўлена навучанне роднай мове ў Гарадку (у мінулым годзе вывучала яе 5 чалавек, а ў бягучым — 70). У апошнім навучальным годзе павялічылася колькасць вывучаючых родную мову ў Гарадку, Гайнаўскай пачатковай школе № 2, Бельскай пачатковай школе № 3, Нарве, Ляўкове Старым, Семяноўцы, Клейніках, Гайнаўскай школе № 1.

Аднак памяншаецца навучэнцаў у вясковых школах. У асноўным гэта звязана з агульным змяншэннем колькасці вучняў у гэтых школах, а таксама з адносінамі дырэктара школы, настаўнікаў да гэтага прадмета і педагагічнымі здольнасцямі настаўніка. Заўважаецца некаторая залежнасць паміж замежнай мовай, якая вывучаецца ў дадзенай школе, і станам навучання беларускай мове. Там, дзе ўведзена навучанне заходнееўрапейскай мове, павялічылася колькасць вучняў, якія наведваюць урокі беларускай мовы (Гарадок, Нарва, Гайнаўка). Новае распараджэнне Міністэрства нацыянальнай адукацыі стварае выгадныя варункі для захавання нацыянальнай тоесамасці вучняў, аднак у большасці школ пра яго не ведаюць бацькі, вучні, педагагічныя саветы.

На добрым узроўні праходзіць навучанне беларускай мове ў школах: у Ласінцы, Пашкоўшчыне, Бельскай № 3, Клейніках, Малінніках. У нявыгадным становішчы апынулася навучанне роднай мове ў гарадскіх і маламестачковых школах: у Гайнаўскай школе № 1, дзе яе вывучае ўсяго каля 2 % ад усёй колькасці вучняў, Гайнаўскай школе № 2 — каля 4 %, у Гайнаўскай школе № 5— там цалкам адсутнічае яе навучанне, у Чаромсе. Беларускай мове ў 1992/93 школьным годзе навучалі 74 настаўнікі. Гэтая колькасць паказвае на аграмаднае расцярушанне ўрокаў у многіх школах (Дубіны, Ляўкова Старое, Сакі, Гайнаўская школа № 2).



Дадзеныя пра настаўнікаў беларускай мовы (адукацыя):
вышэйшая (беларуская філалогія) — 29 чалавек;
іншыя напрамкі (вышэйшая, вышэйшая праф.) — 19;
настаўніцкія курсы (расейская філалогія, матэматыка, фізкульт.) — 9;
сярэдняя педагагічная — 18, у тым ліку 7 чалавек займаецца на 4-ым курсе беларускай філалогіі.

Толькі два настаўнікі маюць спецыялізаваныя званні па беларускай мове. Настаўнікі беларускай мовы ўдзельнічаюць у прафесіянальна-прадметным дасканаленні (праводзяцца курсы ў Гродне і Мінску). У бягучым годзе 10 чалавек удзельнічалі ў курсе па методыцы навучання беларускай мове ў Гродне. Там апрача тэарэтычных заняткаў настаўнікі ўдзельнічалі ў практычных працах.

Колькасць кабінетаў беларускай мовы недастатковая. Самастойныя кабінеты маюць толькі ліцэі і пачатковыя школы: № 3 у Бельску Падляшскім, Орлі і Нарве. У многіх школах кабінеты беларускай мовы злучаны з іншымі прадметамі або маюцца «куточкі» беларускай мовы. Блага выглядае справа з забеспячэннем школ дыдактычнымі сродкамі, дапаможнікамі для навучання беларускай мове. Гэта выклікана тым, што на нашым выдавецкім рынку няма такіх дапаможнікаў па беларускай мове, як фанатэкі, магнітафонныя касеты з адпаведнымі матэрыяламі, метадычныя інструкцыі. Таксама няма сучасных падручнікаў. Падручнікамі для 3, 4, 5, 6-га класаў трэба карыстацца выбарачна (вялікія фрагменты матэрыялу ў іх непрыгодныя, бо яны былі выдадзены ў васьмідзесятых гадах). Няма падручніка для 8-га класа. У бягучым годзе школы атрымалі новыя падручнікі для 7-га класа. Добры толькі падручнік для 2-га класа. Значна лепшае становішча ў галіне беларускай літаратуры.

Беларускія кнігазборы ў розных школах моцна розняцца і па колькасці і па якасці, аднак агульны іх стан трэба лічыць добрым. У 1992/93 школьным годзе кнігазборы ўсіх школ павялічыліся дзякуючы кнігам, ахвяраваным Рэспублікай Беларусь. Аб'яднанне ўстаноў дасканалення настаўнікаў у Беластоку ў рамках рэалізацыі міждзяржаўных пагадненняў атрымала 19 318 кніг з Рэспублікі Беларусь і раздало іх па бібліятэках усіх школ, дзе вядзецца навучанне беларускай мове. Найбольш кніг атрымалі агульнаадукацыйныя ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім і Гайнаўцы. Адчасна дзякуючы стараням Аб'яднання ўстаноў дасканалення настаўнікаў заключана дамоўленасць з Міністэрствам асветы Рэспублікі Беларусь, ў выніку чаго мы сістэматычна атрымліваем беларускамоўныя часопісы. Праз раённыя аб'яднанні калектываў дасканалення настаўнікаў яны дастаўляюцца ў педагагічныя бібліятэкі і школы, у якіх адбываецца

навучанне беларускай мове. Гэта наступныя часопісы: «Літаратура і Мастацтва» (9 экз.), «Настаўніцкая газета» (9 экз.), «Роднае слова» (9 экз.), «Дзеці і мы» (53 экз.), «Пралеска» (56 экз.) і «Вясёлка» (56 экз.).

У сваёй працы выкладчыкі абапіраюцца на праграмы навучання беларускай мове 1987 г. і папраўленую праграму 1992 г., якую склалі настаўнікі Т. Русачык і В. Сянкевіч. У ліцэях з беларускай мовай навучання няма новай праграмы. Гэтыя ўстановы маюць вялікія цяжкасці ў сувязі з недахопам падручнікаў, таму што іх не выдаюць у Польшчы, яны паступаюць з Рэспублікі Беларусь.

Кожны год Беларускім грамадска-культурным таварыствам праводзяцца непасрэдна звязаныя з навучаннем беларускай мове конкурсы: «Беларуская песня» (для дзяцей і моладзі), «Дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі і прозы», агляд школьных тэатраў. На гэтых мерапрыемствах у 1992/93 навучальным годзе ўдала выступілі: Пачатковая школа № 3 у Бельску Падляшскім, Пачатковая школа № 2 у Гайнаўцы, школы ў Нарве, Орлі, Чыжах, Маліnніках, Клейніках, Ласінцы, Нараўцы, Дубяжыне, Гарадку.

Дзеля паляпшэння арганізацыі навучання беларускай мове і павышэння яе ўзроўню, а таксама пашырэння абсягу неабходна мецъ на ўвазе наступныя вывады:

1. Беручы пад увагу дабравольнасць навучання гэтаму прадмету, настаўнікі, якія яго вядуць, абавязаны мець вельмі добрую падрыхтоўку, разнастайна і займальна арганізоўваць заняткі. У сувязі з гэтым у школе беларускай мове павінен вучыць адзін, а не, як здараецца, чатыры настаўнікі, якія маюць па два ўрокі ў тыдзень дзеля дапаўнення абавязковай колькасці сваіх гадзін ці для дадатковага заробку.

2. Неабходна як мага хутчэй падрыхтаваць праграмы навучання беларускай мове з улікам элементаў гісторыі, культуры, традыцый і рэлігіі, узгадніць іх з праграмамі, дзейнічаючымі ў Рэспубліцы Беларусь, дзеля забеспячэння вучэбнай літаратурай і навучальнымі дапаможнікамі.

3. З мэтай наладжвання падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы на адпаведным узроўні, якія будуць звязаны з рэгіёнам, дзе жывуць беларусы, вядзення шырокіх даследаванняў па гісторыі, традыцыям, культуры, грамадскаму і палітычнаму жыццю, узаемаадносін нацыянальнасцей, а таксама культурных уплываў пагранічча неабходна заснаваць Усходнеславянскі інстытут у філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

4. Разам з асветнымі ўстановамі Рэчыпаспалітай Польшчы і Рэспублікі Беларусь выпрацаваць сістэму дасканалення настаўнікаў беларускай мовы.

5. Школа ў беларускім асяроддзі, у якой вядзецца навучанне беларускай мове, павінна ўлічваць усе нацыянальныя і рэлігійныя абумоўленасці, павінна быць спецыфічнай, непаўторнай, моцна звязанай з адметнасцямі асяроддзя.

*Вольга СЯНКЕВІЧ, Ян ЗЕНЮК*



# Панарама Чыжоўскай гміны

### *Геаграфічнае палажэнне*

Чыжоўская гміна знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства. Займае плошчу ў 13420 гектараў. Мяжуе яна з гмінамі: Гайнаўскай, Нараўскай, Бельскай, Арлянскай і Дубіцкай. З вёскі Чыжы, сядзібы гмінных улад, у бліжэйшыя гарады: Гайнаўку — 14 кіламетраў і ў Бельск Падляшскі — 19 кіламетраў. Цераз тэрыторыю гміны праходзіць чыгуначная лінія (паўстанак каля вёскі Мора) з Гайнаўкі ў Бельск Падляшскі. Гміна складаецца з дваццаці вёсак, у тым ліку васемнаццаці салэцкіх. Найбольшыя з іх гэта: Кленікі, Чыжы, Курашава, Мора, Збуч, Койлы і Камень. Варта адзначыць, што вёскі Камень, Курашава і Збуч заснаваны ў палове XVI стагоддзя ў выніку валочных перамераў. Вёска Мора заснавана ў той самы час Астафеем Малецкім.

Па тэрыторыі гміны працякае рака Локніца, яна належыць да басейна ракі Нараў. Найбольшая вышыня знаходзіцца недалёка ад Кленікаў — 171 м над узроўнем мора.

### *Зямля гаворыць аб мінулым — курганы*

У натуральным пейзажы Чыжоўскай гміны можна заўважыць элементы, якія ў сапраўднасці не з'яўляюцца творам прыроды, а слядамі дзейнасці чалавека ў мінулыя стагоддзі. З першага погляду іх цяжка нават заўважыць. Невялікія ўзгоркі, паўкруглыя земляныя валы, купалістыя копчыкі, парослыя травой, — гэта амаль незаўважальныя ў сваёй сённяшняй форме месцы, дзе ў далёкім мінулым людзі жылі, працавалі, узносілі ахоўныя канструкцыі, хавалі сваіх памёршых. Захаванне іх да нашага часу на зямной паверхні магчыма было дзякуючы адпаведным канструкцыйным формам і выкарыстанаму матэрыялу — дрэву, каменням і зямлі. Аднак шмат такіх аб'ектаў нічым не выдзяляецца на зямной паверхні. Яны скрываюць свае таямніцы пад пластамі зямлі.

Гэтыя сляды жыцця і дзейнасці чалавека з даўніх часоў, якія захаваліся на тэрыторыі Чыжоўскай гміны, адносяцца да перыяду ранняга сярэдневякоўя, да XI—XIII стагоддзяў. Прыгадаем некаторыя з іх.

**Камень.** Курган, які называюць «Косцева Горка», знаходзіцца ў 100 метрах ад дарогі з Тыневіч, недалёка ад будынкаў вёскі. Гэта купалавідны ўзгорак, дыяметрам 10 метраў. Курган унесены ў спісак помнікаў. Адносіцца ён да XI—XII ст.

**Курашава.** На землях гэтай вёскі знаходзіліся археалагічныя аб'екты бронзавай эпохі, рымскага перыяду і ранняга сярэдневякоўя. Зараз, пасля таго, як былі выбраны камяні, на іх не засталося відавочных слядоў, як, напрыклад, на могілках, якія



4 633

знаходзяцца побач з вёскай, ля скрыжавання дарог, дзе некалі стаяў вятрак.

Захаваліся могілкі на левым баку ад дарогі ў вёску Ляды. Самі магілы пакрыты брукам, па рагах абкладзены вялікімі камянямі. У 1961 годзе частку могілак даследавала група археолагаў з Беластоцкага музея. Яны адкрылі, між іншым, спаленыя астанкі, прыбраныя ўпрыгожаннямі і керамікай XI і XII стагоддзяў. Магілы са спаленымі астанкамі з таго часу — рэдкасць і прадстаўляюць яны сабой рэлікт паганскай абраднасці.

**Збуч.** На землях вёскі ёсць розныя сляды пасяленняў. Адзін з іх — гарадзішча з абаронным валам — размешчаны каля вёскі, недалёка ад шашы Бельск—Гайнаўка. Кіламетр на поўнач, на ўскраіне лесу, знаходзяцца часткова захаваныя раннесярэдневяковыя магілы ў каменных абкладах. Некалькі з іх было даследавана. Памёршых перад пахаваннем не спальвалі. Пры іх знайшлі шкляныя пацеркі і іншыя ўпрыгожанні з бронзы, а таксама жалезны нож. Недалёка адсюль знаходзяцца кургановыя магілы ў выглядзе высокіх капцоў. Абодва аб'екты — «Вал» і «Могілкі-Грабняк» — занесены ў спісак помнікаў і знаходзяцца пад аховай.

### *Прыродныя ўмовы*

Зямныя нетры ў Чыжоўскай гміне вывучаны слаба і немагчыма рабіць канчатковыя вывады аб іх багацці. Дапускаецца думка, што тут залягае крэйда, агульная таўшчыня якой дасягае ад 70 да 100 метраў, але яна прыкрыта глаўканітавымі пяскамі, цёмна-зялёнымі глінамі і марэнамі. Сустракаюцца розныя віды глінаў, між іншым, каля Чыжоў, Кленікаў і Каменя. Найчасцей нам вядомы толькі тыя залежы гліны, якія знаходзяцца на паверхні зямлі, або тыя, якія былі выпадкова адкрыты насельніцтвам ці шукальнікамі, занятымі іншымі працамі.

Гравій бяруць тутэйшыя жыхары, ды не толькі яны, з так званых жвіроўняў каля Кленікаў і Лядаў.

Сустракаюцца тут усе тыпы глебаў, якія фарміраваліся ва ўмераным клімаце нашай геаграфічнай паласы. З улікам умоў (падсцілаючыя іх пароды, механічны склад і т.п.) глебы на тэрыторыі гміны разнастайныя. Найчасцей падсцілаючымі пародамі з'яўляюцца марэнныя гліны, суглінкі, сартаваныя пяскі або ілы. Такія глебы камкаватыя, яны добра захоўваюць вільгаць і лічацца ўражайнымі, пшанічнымі, у гміне. Паказчык прадукцыйнасці аж 0,98. Выступаюць яны каля Чыжоў і Кленікаў. Значная частка тэрыторыі гміны занята пераважна ворывам, а затым выганамі і сенажацямі.

### *Сельская гаспадарка*

Да 1950 года ў Чыжоўскай акрузе існавала трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі. Мела яна тыповы характар — ворыўныя землі



дзяліліся на тры часткі: пад азімыя, яравыя культуры і папары. З часам гэтая трэцяя частка — папары — стала дзяліцца яшчэ на 2—3 часткі, з якіх палова, а часам і больш, засявалася лубінам, канюшынай, сарадэляй. Такім чынам прынялася мадэрнізаваная трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі.

Раздробленыя гаспадаркі былі надта нізкапрадуктыўнымі, асноўваліся на самазабеспячэнні, на іх не прымянялі сучаснай агратэхнікі. Таму была пастаўлена задача паступовага аб'яднання раздробленых гаспадарак у прадукцыйныя спулдзельні (сельскагаспадарчыя кааператывы. — *Рэд.*). Малазямельныя сяляне пачалі аб'ядноўвацца ў 1950—1958 гадах у таварыствы па супольнай апрацоўцы зямлі. Першае такое таварыства было арганізавана 1 сакавіка 1950 года якраз у вёсцы Чыжы.

Таварыствы пачалі карыстацца, між іншым, ПОМаўскімі сельскагаспадарчымі машынамі. ПОМы былі пабудаваны ў Гайнаўцы, Кляшчэлях і Нарве. Кошт механічна выкананых прац быў у 2—3 разы ніжэйшы за кошт ручных. Дзякуючы прымяненню штучных угнаенняў узраслі ўраджаі зернавых культур на 1,5—2 цэнтнеры з гектара. Павялічылася плошча пасеваў кармавых культур, на палях прадукцыйных спулдзельняў у Чыжах і Кленіках паявіліся плантацыі цукровых буракоў і кукурузы.

У Чыжоўскай гміне сельскагаспадарчыя ўжыткі займаюць плошчу ў адзінаццаць тысяч гектараў. На працягу апошніх дваццаці гадоў колькасць сялянскіх гаспадарак паменшылася з 1500 да 950. Адначасова некаторыя сяляне павялічылі свае гаспадаркі з сямі гектараў да 20, 30 і 40. Гэта Ян Адамчук і Васіль Франкоўскі з Чыжоў, Пётр Фірсюк і Мікалай Кобац з Кленікаў, Андрэй Галёнка і Вітальд Яконюк з Асоўкі ды Анатоль Пракапюк з Вулькі.

Глебы тут даволі ўраджайныя. Дзе было неабходна, там іх меліяравалі, але ёсць яшчэ такія патрэбы ў мясцовасцях Курашава і Вулькі. Сяляне сеюць менш жыта, затое больш пшаніцы. Засяваюць ёю 1765 гектараў ворыўнай плошчы, а жытам — 840.

Утрымліваюцца вялікія пасевы бульбы — 740 гектараў. Асноўнымі гатункамі з'яўляюцца бульба чырвоная і белая. Хуткаспелых гатункаў сустракаецца мала. Больш устойлівая супраць гніцця падчас зімовага захоўвання чырвоная бульба займае найбольшыя плошчы.

Чыжоўская гміна мае спрыяльныя геаграфічныя ўмовы для развядзення, напрыклад, алейных культур — рапсу (рапаку) і цукровых буракоў. Засяваюць імі 70 гектараў. Пры спрыяльных кліматычных умовах лепшы ўраджай валакна сярод тэхнічных культур дае лён-даўгунец. Аднак больш устойлівы лён нізкарослы, грубавалакністы (гатункі ільна-кудраша). У вышэйзгаданай гміне вырошчваюць таксама кукурузу — 40 гектараў.

Урэшце неабходна хоць коратка затрымацца над такой культурай, як лубін, таму што можа ён вырошчвацца на ўсіх глебах. Пасевы лубіну маюць велізарнае значэнне ў севазвароце. Як зялёнае ўгнаенне (лубін горкі), ён высяваецца і заворваецца тут галоўным




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

чынам пад азімыя культуры. Безалкалоідныя гатункі лубіну раз- водзяцца на корм для жывёлы. Кармавы лубін — займае ён тут 300-гектарную плошчу — высяваецца ў Чыжоўскай гміне, між іншым, таму, што тут мала натуральных сенажацяў. Рас- паўсюджаны пасевы канюшыны (350 га), вікі і сарадэлі (200 га абедзвюх культур).

### *Агародніцтва і садоўніцтва*

Аддзяліць агародніцтва ад садоўніцтва вельмі цяжка, таму што на прысядзібных агародах часта растуць фруктовыя дрэвы, а ў са- дах садзяцца гароднінныя культуры. Тут жа, на больш вільготных глебах, разводзіцца капуста, цыбуля, агуркі, морква, буракі, памідоры, гарбузы і многія іншыя культуры. Сушэйшыя часткі ага- рода заняты пад сады, кармавыя травы, бульбу, трускалкі. Аддег- ласць ад гарадоў, адсутнасць перапрацовачных прадпрыемстваў на месцы адмоўна ўздзейнічае на развіццё агародніцтва і садоўніцтва. Сяляне таму і не павялічваюць плошчы пад агароды і сады. У Чы- жоўскай гміне пад імі занята звыш 70 гектараў. Асноўныя пароды фруктовых дрэў: яблыня, прадстаўленая гатункамі: антонаўка, наліўка, бурачка, лігіроўка і іншыя; груша — бялушка, круглоўка, бэра, полька, дзічка; сліва, вішня і чарэшня. Садаводства даволі папулярнае ў вёсцы Курашава. Шмат агародніны ды трускалак вы- рошчваюць у Ляневе і Падрэчанах.

### *Дэмаграфія гміны*

У Чыжоўскай гміне пражывае 3500 чалавек. Для параўнання: дваццаць гадоў таму назад у гміне налічвалася 5300 чалавек, а дзесяць гадоў таму — 5000. Жыхары гміны вядуць 950 гаспадарак. Трэцяя частка жыхароў — пажылыя людзі. Налічваецца каля 500 інвалідаў. Больш за 90 год маюць пяць асоб. Сярод іх найстарэй- шыя: Фёдар Александрук — 98 год і Галена Ліцкевіч — 97 год. Абое пражываюць у Чыжах.

Зараз у летапісе Чыжоўскай парафіі адзначаецца ў сярэднім у год пятнаццаць хрэсьбінаў, дванаццаць шлюбаў і каля трыццаці пахаванняў памерштых.

### *Гмінная асвета*

Зараз школы фінансуюцца з дзвюх касаў — з куратарыі асветы і з гмінных управаў. Чыжоўскія гмінныя ўлады фінансуюць даш- кольныя аддзелы і давоз дзяцей у школы.

У Чыжах навучаецца 218 дзяцей. На ўрокі беларускай мовы ходзіць 127. Чыжоўская школа мае сваю невялікую гаспадарку. Гміна перадала ёй пяць гектараў зямлі, з іх чатыры — варыўнай. Школа гаспадарыць на ёй і вядзе гадоўлю на патрэбы сваёй ста- лоўкі, — праінфармаваў дырэктар Сяргей Насковіч. Настаўнікамі ў Чыжах працуюць людзі з вышэйшай адукацыяй і педагагічнай падрыхтоўкай.



У Падставовай школе ў Кленіках навучаецца 112 дзяцей. Акра- мя мясцовых вучняў школу наведваюць яшчэ дзеці з навакольных вёсак Ляхі, Гародчына, Радзькі, Істок, Вялікія і Малыя Тыневічы, Лапухоўка, Гуковічы і Сапава. Дзеці з гэтых вёсак складаюць больш за дзве трэція агульнага ліку вучняў. Прадшкольны аддзел у Кленіках (5 і 6-годкі) налічвае 27 дзяцей, — аб гэтым паведаміў дырэктар Ян Лабузінскі.

Нягледзячы на добраахвотнасць вывучання беларускай мовы, у школе ў Кленіках 74 вучні вывучаюць гэты прадмет. Настаўніцай беларускай мовы ў Кленіках працуе Вера Флёрчук. Існуе ў школе, між іншым, вакальна-музычны хлапечы гурт.

У Падставовай школе ў Курашаве вучыцца 51 дзіця. На ўрокі роднай мовы, якія вядзе настаўніца Людміла Дмітрук, ходзіць 38 дзяцей (беларускай мовы не вывучаюць у першым класе). У школе ёсць этнаграфічны куточак, а ў ім экспанаты мясцовай народнай творчасці. У школе экспануюцца кнігі беларускіх выдавецтваў, між іншым, кніжкі «белавежцаў», беларускія календары ды газеты і часопісы, у тым ліку наш тыднёвік «Ніва». Ёсць мемарыяльныя фотаальбомы. Варта адзначыць, што ва ўсіх трох школах упамяну- тай гміны ў бягучым навучальным годзе меў аўтарскія сустрэчы «белавежац» Янка Целушэцкі. Найбольш кніжак падпісаў у школе ў Курашаве.

Усім школам многа дапамагае гмінная ўправа ў Чыжах. За яе фінансавыя сродкі купілі відэамагнітафоны, касеты і неабходную колькасць вугалю.

### *Культурнае жыццё*

Зараз у многіх гарадах, гмінных цэнтрах ды пасёлках заняпала культурнае жыццё. Спынілі сваю дзейнасць шматлікія дамы куль- туры ды святліцы. У Чыжоўскай гміне, аднак, дзейнічае Дом куль- туры ў Чыжах (быў ён заснаваны 31 снежня 1974 года) ды клубы ў Моры, Збучы, Койлах, Курашаве, Камені і Кленіках, а таксама гмінная публічная бібліятэка і яе філіял у Кленіках. Варта адзна- чыць, што не быў ліквідаваны ні адзін вясковы клуб! — гэта не без задавальнення ў час нашай размовы падкрэсліў войт Рыгор Мац- кевіч. Маладзёжныя танцавальныя вечарыны, рэпетыцыі мастацкіх калектываў ды сямейныя ўрачыстасці — вяселлі, хрэсьбіны — і іншыя мерапрыемствы адбываюцца ў іх. У святліцы гмінныя ўлады купляюць клубнае абсталяванне. Працуюць у іх фальклорныя ка- лектывы «Чыжавяне» ў Чыжах і «Незабудкі» ў Карашаве ды ва- кальны калектыў «Мангатан» у гмінным Доме культуры. Вядомы яшчэ сваёй актыўнасцю клуб спутнікавага тэлебачання «Астра» і бойкі спартыўны гурток «ГОК» з футбольнай камандай.

У Чыжоўскай гміне арганізоўваюцца, між іншым, беларускія святы і іншыя народныя гулянні, сустрэчы з беларускімі літаратарамі і мастакамі, канцэрты мастацкіх калектываў з суседніх гмінаў, а таксама з Беларусі, Расіі і Украіны. Добра зарэкамендавалі сябе на штогадовых конкурсах беларускай песні, а таксама дэкламатарскага чытання юныя спевакі са школ у Чыжах, Кленіках і Курашаве.

*Шляхі, дарогі*

Дарогі — таксама візітная картачка гміны. На працягу дваццаці гадоў (1973—1993) у Чыжоўскай гміне заасфальтавана 23 кіламетры важнейшых дарог: са Збуча ў Кленікі (10 км), з Новага Беразова ў Курашава і з Кленікаў у Гародчына (па 6 км), з Асоўкі ў Койлы (1 км). Асфальтавы дыван паклалі таксама ў вёсках Мора, Збуч, Кленікі, Камень, Курашава, Койлы, Шастакова і Асоўка. Тратуары атрымалі вёскі Чыжы і Кленікі І. Сёлета ў маі праклалі тратуар у Кленікі II, даўжынёю каля кіламетра. Запланавалі пабудову гравійных дарог з Асоўкі ў Новае Беразова (2,5 км) і з Шастакова ў Старое Беразова. Можна спадзявацца, што сёлета паложаць асфальт на 700-метровым адрэзку дарогі з Чыжоў у Асоўку.

Ёсць вялікае запатрабаванне на пабудову выязных дарог з вёсак на палі і сенажаці. Сёлета пры пабудове такой дарогі працавалі па грамадскаму пачыну жыхары Збуча, Шастакова, Кленікаў і Слівова. Зараз па роўнай дарозе ездзяць у Бурыцкія. Для збучан войт даслаў землечарпалку. Пясок і жвір сяляне вазілі ўласнымі трактарамі. Выехала на пачын некалькі дзесяткаў трактароў.

Зараз у гміне мясцовыя (лакальныя) дарогі складаюць 84 кіламетры.

*Вада, чыстая як крышталь*

Найперш ваду з крана мелі жыхары Шастакова, затым — Мора, Чыжоў, Збуча і Кленікаў. Зараз на такога роду пабудовы ў гміне вялікае запатрабаванне. Рыхтуецца дакументацыя на пабудову вадаправоднай лініі ў Асоўцы, Койлах і Курашаве. Глыбінныя калодзежы ўжо ёсць у Койлах, Чыжах і Кленіках.

У вёсках пабудавалі шматлікія супрацьпажарныя басейны. У некаторых — па некалькі. У 1991 годзе пабудавалі запруджваючую плаціну на рацэ Локніцы, каля вёскі Ляды, дзеля таго каб павысіць узровень вады. Як вядома, меліярацыя палёў, лугоў і сенажацяў апрача карысці мае і адмоўны ўплыў. Між іншым, зусім высахлі некаторыя студні, не хапае дастатковай колькасці вільгаці для збожжавых культур.



*Ало! па тэлефоне*

Зараз у Чыжоўскай гміне ўсе васемнаццаць вёсак маюць тэлефоны. У 1990 годзе пошта ў Чыжах аддала ў карыстанне аўтаматычную тэлефонную станцыю. Тады па пяцьдзесят тэлефонаў падключылі ў вёсках Мора і Збуч, у пасёлку Слівова — пятнаццаць. Жыхары ўпамянутых вёсак і пасёлка самі дапамаглі пабудаваць падземную тэлефонную лінію — капалі равы і праклалі кабель.

*Новыя пабудовы*

У Чыжоўскай гміне ёсць тры царквы: у Чыжах, Кленіках і Курашаве. Зараз храм у Чыжах адбудоўваюць пасля пажару.

І другая важная пабудова. Каля вёскі Збуч, побач шасейнай дарогі з Гайнаўкі ў Бельск Падляшскі, суполка «Пронар» у Нарве распачала пабудову бензастанцыі. На месцы будзе бар-кавярня. Дагэтуль у гміне не было грамадскай сталовай ці заезнага дома.

*Бібліятэкі*

Наведаў я гмінную публічную бібліятэку ў Чыжах і яе філіял у Кленіках. У Чыжах бібліятэкаршай працуе Галена Стоцкая. Бібліятэка налічвае амаль восем з палавінай тысяч тамоў, у тым ліку беларускія кніжкі, ды 235 чытачоў. Сёлета купіла яна 89 кніжак за мільён злотых.

Найбольш тут чытаюць: Марыя Якімюк, Георгі Якімюк, Надзея Бэбко, Ян Велясюк, Хрысціна Пятроўская, Ніна Данелюк і Яўген Саенка. З моладзі кніжкамі найбольш цікавяцца Агнешка Ваўранюк, Кася і Анжэліна Галёнка ды Юліта Астапчук. Пастаяннымі наведвальнікамі публічнай бібліятэкі з'яўляюцца перш за ўсё вучні, між іншым, з Чыжоў, Койлаў, Асоўкі, Мора і Збуча.

Бібліятэкарша з Кленікаў Марыя Купрыяновіч паведаміла, што таксама, як і ў гміннай, у іх бібліятэцы каля 8,5 тысячы кніжак, але менш чытачоў — усяго 140. Думаю, што цікава будзе прасачыць, колькі кніжак куплялася ў бібліятэку раней і колькі — у бягучым годзе. У 1989 годзе — 364, 1990 г. — 141, 1991 г. — 104, 1992 г. — 74 і ў 1993 — 47 кніг.

У кленіцкай бібліятэцы сярод іншых газет і часопісаў на паліцы ёсць наш беларускі тыднёвік «Ніва». Карыстаюцца бібліятэкай чытачы з Кленікаў, Курашава і Лянева. Найбольш чытачоў ва ўзросце да 15 гадоў — 77, ва ўзросце 15—19 гадоў — 22, 20—29 гадоў — 14 і больш за 30 гадоў — 27.

*Янка ЦЕЛУШЭЦКІ*

 



# З НАШАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

## Да 50-годдзя вызвалення Беласточчыны

Набліжаецца 50-ая гадавіна вызвалення Беласточчыны. Цяжка прадбачыць, як мясцовая грамадскасць паставіцца да яе — з пашанай ці абыякавасцю. У Беластоку анулявалі назву вуліцы «Арміі Радзецкей», дэманстратыўна разбураны помнік загінуўшым воінам Савецкай Арміі, помнік удзячнасці, вяліся перагаворы аб знішчэнні сімвалічнага савецкага танка, які першым уварваўся ў горад і пасля апынуўся на п'едэстале. Захаваны, аднак, назвы вуліц «Звыценства», «27 ліпца», «Бэрлінга».

Для нас дзень вызвалення стаў зваротным пунктам у жыцці. Упершыню ў гісторыі ўсходняй Беласточчыны яе насельніцтва атрымала магчымасць неабмежаванага грамадскага авансу, а гаспадарка даволі хуткага развіцця. Таму беларускае насельніцтва не пусціць у забыццё ахвярнасці і гераізму савецкіх людзей розных нацыянальнасцей. Ушанаваць трэба памяць 25 мільёнаў грамадзян былога СССР, якія загінулі ў гады другой сусветнай вайны.

Пачатак вайны быў выключна трагічны. Гітлераўскія полчышчы нечакана 22 чэрвеня 1941 года атакавалі адначасова ўсю заходнюю граніцу і глыбокія тылы. На сваім шляху яны знішчалі ўсё: ваенныя склады, аэрадромы, сувязь, цэлыя гарады. 10-ая армія, штаб якой знаходзіўся ў Беластоку, перастала існаваць. Аграмадныя страты наносіла нямецкая авіяцыя і дыверсійныя спецслужбы. Дастаткова ўспомніць, што Беласток і Мінск былі захоплены ў першы тыдзень ваенных дзеянняў. Наступленне супынена ў канцы верасня ў раёне Вязьмы, Бранска і Арла, а напачатку снежня Чырвоная Армія перайшла ў контрнаступленне. Яе пачатковыя перамогі шырока вядомы.

Вызваленне Беласточчыны звязана з найвялікшай наступальнай аперацыяй другой сусветнай вайны, так званай Беларускай аперацыяй. На тэрыторыі Беларусі гітлераўцы стварылі моцную лінію абароны «Фатэрлянд» (Бацькаўшчына), а гарады Віцебск, Орша, Магілёў, Бабруйск, Барысаў і Мінск былі абвешчаны крэпасцямі, якія па загаду Гітлера павінны абараняцца «да апошняга салдата,





«Помнік удзячнасці» ў беластоцкім парку, знішчаны 14.08.1990 г. па ініцыятыве Камітэта незалежнай Польшчы з дазволу гарадскіх уладаў.
Фота *У. Юзвюка*

нават пры ўмовах акружэння». Тут яны сканцэнтравалі 1,2 мільёна салдатаў розных радоў войск.

Савецкі бок падрыхтаваў план наступлення пад назвай «Баграціён», сканцэнтраваў двайную перавагу над ворагам у жывой сіле, трайную і больш — у артылерыі, танках і самалётах. Найбольш адказнае заданне было пастаўлена перад трыма беларускімі франтамі, асабліва перад 1-ым Беларускім пад камандаваннем маршала СССР К. Ракасоўскага.

23 чэрвеня 1944 года пачалося наступленне, і на працягу аднаго тыдня ўся нямецкая абарона была разгромлена. У Бабруйскім і Мінскім акружэннях вораг страціў 180 тысяч салдат, афіцэраў і асноўную ваенную тэхніку. Адна з наймацнейшых нямецкіх армій група «Цэнтр» была настолькі аслаблена, што не змагла замкнуць да канца Беларускай аперацыі 400-кіламетровы прарыў фронту. На працягу аднаго месяца было захоплена ў палон або знішчана больш паўмільёна варожых салдат і афіцэраў, у тым ліку 22 генералы. Поспеху спрыяла адкрыццё Заходняга фронту, які звязваў значныя сілы ворага, і дзейнасць беларускіх партызанскіх злучэнняў. Яны самі вызвалялі гарады, знішчалі чыгунку, ваенныя склады і тылавыя гарнізоны.

Аднак на лініі Гродна—Беласток—Брэст наступленне беларускіх франтоў паслабла. Пачаліся контратакі праціўніка каля Крынак, Міхалова, а затым на подступах да Беластока, асабліва



 

каля вёскі Кур'яны. Горад быў вызвалены 27 ліпеня 1944 года. Яшчэ больш заўзятыя баі пачаліся на поўдні Беласточчыны, у раёне Бельска, Кляшчэляў і Чаромхі, дзе танкавая дывізія СС «Вікінг», дзве пяхотныя і адна венгерская кавалерыйская дывізіі баранілі подступы да Брэста. Аб поспехах Савецкай Арміі можна меркаваць па датах вызвалення паасобных мясцовасцей: 22.07 былі вызвалены Крынкі, Міхалова, Гайнаўка, Нарва, Боцькі, Сямяцічы; 23.07 — Кленікі, Трысцянка; 24.07 — Саколка; 25.07 — Заблудаў, Супрасль, Ліпск; 27.07 — Беласток, Васількова, а 30.07 — Бельск Падляшскі.

Гады акупацыі і ваенныя дзеянні нанеслі мясцовай гаспадарцы аграмадныя спусташэнні. На тэрыторыі сучаснай Беласточчыны загінула або было перасялена 250 тысяч чалавек насельніцтва, што складала тады 25 % ад яго агульнай колькасці, у тым ліку 161 тысяча — гараджан. Беласток страціў 52 тысячы, Саколка — 12, Сямяцічы — 8, а Бельск і Гайнаўка — кожны каля 5 тысяч чалавек. Асноўную частку іх складалі яўрэі. Была знішчана ўся прамысловасць, 67 тысяч пабудоваў, у тым ліку 96 вёсак, асабліва спустошана заходняя ўскраіна Белавежскай пушчы, а таксама чыгунка, масты, энергетычная сістэма і звыш паловы свойскай жывёлы ў сельскай гаспадарцы.

Станаўленне народнай улады і адбудова эканомікі праходзілі ў вельмі складаных абставінах. Да нанесеных вайной знішчэнняў далучылася супярэчлівасць інтарэсаў палякаў усходняй і заходняй палітычнай арыентацыі. Лонданскі эміграцыйны ўрад, маючы добра разбудаваную на Беласточчыне Армію Краёву, вырашыў захапіць уладу за тры дні да вызвалення Беластока і ў рамках плана «Бужа» аб'явіў мабілізацыю. Поспехаў ён не дасягнуў, хіба, таму, што на перамогу разлічваць было ўжо немагчыма. Не ўдаліся спробы арганізаваць сваю адміністрацыю таксама пасля вызвалення горада. Камандаванне Савецкай Арміі падтрымлівала станаўленне народнай улады праз прадстаўнікоў Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення. Грамадскасць Беласточчыны раздзялілася на дзве групы: беларусы падтрымлівалі народную ўладу, а палякі захоўвалі нейтралітэт або станавіліся яе ворагамі. Факты гэтыя шырока асветлены ў рэгіянальнай літаратуры.

*У. ЮЗВЮК*

## Беларуская гімназія ў Гайнаўцы

Пасля вызвалення Беласточчыны ў канцы ліпеня 1944 года тут пачалося аднаўленне беларускіх школ, якія працавалі ў перыяд савецкай улады (1939—1941 гг.), а таксама падчас нямецкай акупацыі. Аднаўленне школ праводзілася стыхійна самім зацікаўленым насельніцтвам, без ранейшых пастаноў Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення ў Любліне.





Будынак беларускай гімназіі ў Гайнаўцы. 1944 г.

Першая пастанова Камітэта, якая давала беларускаму насельніцтву Беласточчыны права да асветы на роднай мове, была аб'яўлена 3 кастрычніка 1944 года, фактычна пасля месяца працы існуючых ужо беларускіх школ. Але неўзабаве кіраўнік ведамства асветы Камітэта Ст. Скшэшэўскі спыніў ажыццяўленне гэтай пастановы, спасылаючыся на акцыю перасялення беларусаў з Польшчы ў БССР. Перасяленчая акцыя нічога, аднак, не змяніла, толькі частка беларускага насельніцтва выехала з Беласточчыны. Таму перасяленне беларусаў не было аргументам, якім у 1946—1947 гадах кіравалася Беластоцкая куратарыя пры ліквідацыі беларускага школьніцтва.

Адной з першых школ, якая была ліквідавана ўжо пасля года навучання, была Дзяржаўная беларуская гімназія ў Гайнаўцы.

Надзвычай энергічная дырэктар беларускай гімназіі ў Гайнаўцы Ніна Нічыпарук з Нараўкі на працягу жніўня 1944 года згуртавала педагагічны калектыў, які забяспечваў вывучэнне амаль усіх прадметаў на беларускай мове.

1 верасня распачалі працу тры класы гімназіі — першы, другі і трэці, а таксама Беларуская падставовая школа.

На жаль, ужо ў самым пачатку школьнага года гімназія мела аграмадныя цяжкасці. У палове кастрычніка 1944 года куратар асветы ў Беластоку Яўгенія Красоўская паклікала для размовы па справе далейшага лёсу школы яе дырэктара Ніну Нічыпарук. Яна адправілася ў Беласток грузавым аўтамабілем.

Афіцыйна сцвярджалася, што Ніна Нічыпарук загінула ў аўтамабільнай катастрофе па дарозе ў Беласток.

Кіраўнік аддзела запісу актаў грамадзянскага стану ў Нараўцы, сп. Ніна Янцэвіч, перадала па тэлефоне змест царкоўнага акта смерці пад нумарам 27/44 (на рускай мове), у якім сцвярджаецца, што Ніна Андрэеўна Нічыпарук, год 31, панна, забітая 16 кастрычніка 1944 года, пахавана 23 кастрычніка ў Нараўцы.

Уся школа ездзіла на пахаванне свайго дырэктара.

Адразу ж пасля трагічнай і загадкавай смерці Ніны Нічыпарук дырэктарам гімназіі быў назначаны Васіль Бахар, вопытны педагог, які працаваў у беларускай школе у Гайнаўцы падчас нямецкай акупацыі. Закончыў ён да вайны беларускую гімназію ў Навагрудку і тэхнікум меліярацыі ў Вільні. З незвычайнай самаахвярнасцю ўключыўся ён у нялёгкую працу і, не шкадуючы сваіх маладых сіл, стварыў нам, вучням, неабходныя ўмовы для вучобы.

Позняй восенню, пасля заканчэння палявых работ, надумаўся я са сваім аднагодкам, сынам суседа — Дзмітрыем Аліферуком, са згоды сваіх бацькоў, пайсці вучыцца. Адправіліся мы пехатою ў Гайнаўку і, не ведаючы аб існаванні беларускай школы, трапілі ў польскую гімназію. Там нас паінфармавалі, што на вул. Вызвалення, 5, існуе беларуская гімназія. Знайшлі мы сваю школу. Прыняў нас сардэчна дырэктар Васіль Бахар. Закончылі мы 6 класаў беларускай дзесяцігодкі ў Орлі і на гэтай падставе прынялі нас у трэці, апошні з існуючых, клас гімназіі. Пасяліліся на кватэры ў Кастуся Грыца, члена бацькоўскага камітэта нашай школы, пазнейшага актыўнага дзеяча БГКТ. Уключыліся ў нармальныя заняткі, наварстаючы праграмны матэрыял ад пачатку школьнага года. Даведаліся мы аб матэрыяльных нястачах школы, аб недахопе падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, аб складаных жыццёвых абставінах нашых настаўнікаў, якія атрымлівалі мізэрныя зарплаты з Інспектарату асветы ў Бельску Падляшскім. Таму яны былі вымушаны дарабляць да зарплаты рэпетытарствам з адстаючымі вучнямі. Беларуская гімназія на працягу цэлага навучальнага года не атрымала згоды ўлад на сваю пячатку.

Усе школьныя дакументы падбіваў пячаткай войт Гайнаўскай гміны, якім быў Міхась Баравік, пазнейшы сакратар рэдакцыі «Нівы». Пасведчанні аб заканчэнні класа друкаваліся на старой школьнай машынцы, а не на дзяржаўных бланках, і выдаваліся вучням без пячаткі, толькі з подпісам дырэктара і адначасова класнага апекуна.

Вучыліся мы ў неспакойны час. Цэнтральная Польшча знаходзілася яшчэ ў руках нямецкага акупанта. Да школьнай залы пастаянна даносіўся грукат гармат з-над Віслы.

Надзвычай жудаснае ўражанне на ўсё наша жыццё пакінула эксгумацыя астанкаў з брацкай магілы расстраляных гітлераўцамі жыхароў Гайнаўкі. Былі, на шчасце, і вясёлыя хвіліны — незабыўнае святкаванне Дня перамогі над Германіяй. Таксама





Вучні беларускай гімназіі і Пачатковай школы ў Гайнаўцы перад сваім будынкам. 1944 г.

ўрачыста адзначалі мы Дзень маці. У рамках школьнай мастацкай самадзейнасці ставіўся на сцэне мой вершаваны скетч «Дзве кумушкі», тэкст якога, на жаль, не захаваўся.

З вялікай радасцю ўдалося мне пасля паўстагоддзя адшукаць сярод жыхароў Беластока дзвюх настаўніц Гайнаўскай беларускай гімназіі — сясцёр Алену і Людмілу Панько. Тым больш прыемна было пачуць ад паважанай спадарыні Алены, што яна захоўвае мой верш, прысвечаны ёй на імяніны, з аўтографамі ўсіх вучняў нашага трэцяга класа. З дапамогай тэлефоннай кніжкі ўдалося мне адшукаць у Беластоку аднакласніц — Лідзію Крутэль, Леаніду Міцэвіч, Надзею Юзвюк і аднакласнікаў — Дзмітрыя Аліферука, Аркадзя Васілюка, Паўла Мароза, Мікалая Пракапюка і Алега Сланіцкага.

Сустрэчы былі надзвычай сардэчнымі. На жаль, з маладых дзяўчат і хлопцаў пасля паўстагоддзяператварыліся мы ў пасівелых пенсіянераў. Успаміналі мы разам перажытыя ў школе хвіліны. Аднак не зашмат іх ужо захавала наша памяць. Калі б на адвароце супольнага здымка нашага класа не напісаў я калісьці імён і прозвішчаў вучаніц і вучняў, цяжка было б ужо іх сёння прыпомніць.

Зрабілі мы тады падлік, з якога вынікае, што з трыццаціасабовага трэцяга класа двое выехала ў БССР у рамках рэпатрыяцыі, трое заўчасна памерла. З шаснаццаці хлопцаў аж 12 атрымалі вышэйшую адукацыю (8 інжынераў, 2 лекары, 2



Вучні беларускай гімназіі ў Гайнаўцы. 1944 г.

філолагі-журналісты). З чатырнаццаці дзяўчат — 1 фармацэўт, 1 эканаміст, астатнія пайшлі на настаўніцкі хлеб, які стаўся ўжо пенсіянерскім.

З гадавога пасведчання, якое захавалася, вынікае, што мелі мы ў школе наступныя прадметы: рэлігія, беларуская, польская, нямецкая і лацінская мовы, гісторыя, геаграфія, фізіка і хімія, матэматыка, ручныя працы, гімнастыка. Цікава, што не было ў нашай школе навучання рускай мове.

Успаміналі мы супольна сваіх колішніх настаўнікаў.

Васіль Бахар, рослы прыстойны брунет, вельмі падабаўся асабліва нашым дзяўчатам. Прыходзіў ён у школу заўсёды ў чысценькай адпрасаванай кашулі з гальштукам і ў цёмна-зялёным касцюме, які з прычыны матэрыяльных нястач у палове школьнага году быў пераніцоўваны краўцом. Звяртаўся ён да вучняў выключна на беларускай мове.

Надзвычай цікава вёў ён з намі заняткі беларускай мовы. Ведаў на памяць мноства паэтычных твораў беларускіх пісьменнікаў і дэкламаваў іх нам сапраўды па-мастацку. Меў ён аграмадны ўплыў на нас, вучняў. Нічога тады дзіўнага, што да сёння захавалі мы любоў да роднай мовы, народа і засталіся шчырымі беларусамі.

Даведаўшыся, што я пішу вершы, дырэктар чытаў іх і даваў мне крытычныя заўвагі. Сшытак маіх вершаў, які я ўручыў яму напрыканцы школьнага года, загінуў недзе падчас вобыску і арышту Васіля Бахара польскімі ўладамі ў ліпені 1945 года. Васіль Ба-





Вучні беларускай гімназіі ў Гайнаўцы
(у другім радзе першы злева — дырэктар Васіль Бахар). 1944 г.

хар быў перададзены савецкім уладам, вывезены ў лагер, дзе неўзабаве памёр.

Дасканалым педагогам быў інжынер Павел Сламянка, які вучыў нас матэматыцы, фізіцы і хіміі. Уваходзіў ён у клас заўсёды з усмешкай на твары і заваёўваў прыязныя адносіны да сябе нават тых вучняў, што не надта любілі матэматыку. З нашых назіранняў было вядома, што Павел Сламянка заўсёды ходзіць сцяжынай паза тратуарам, ашчаджаючы падноскі сваіх ботаў.

Пасля ліквідацыі беларускай гімназіі ў Гайнаўцы П. Сламянка выехаў у Гданьск, дзе абараніў дактарат (кандыдацкая дысертацыя.— *Рэд.*) і працаваў выкладчыкам у Марскім інстытуце. Памёр два гады таму назад.

Добра запамяталася мне Зінаіда Грыцкевіч, маладая настаўніца, прыгожая брунетка, якая, вядома, падабалася нам, падрастаючым ужо хлопцам. Цікавымі былі яе заняткі па польскай мове. Я заўсёды атрымліваў у яе пяцёркі.

Зінаіда Грыцкевіч пераехала спачатку ў Беласток, была дырэктарам беларускай гімназіі, а пасля — у Вроцлаў. Абараніла там кандыдацкую дысертацыю і працавала выкладчыцай у мясцовым універсітэце. Памерла два гады назад у Беластоку.

Другой нашай прыгажуняй была маладзенькая тады Алена Панько. Вяла яна заняткі, зразумела, па-беларуску, па лацінскай і нямецкай мовах. Арганізавала і кіравала школьным інструменталь-

ным гуртком, які выступаў на розных урачыстасцях. Закончыла яна ў 1939 годзе Дзяржаўны педагогікум імя Ст. Канарскага ў Варшаве. Пасля ліквідацыі Гайнаўскай гімназіі пераехала ў Беласток, працавала нейкі час у Ваяводскай управе, а потым, да пераходу на пенсію, у аддзеле інвестыцыі Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Выйшла замуж за лекара Уладзіміра Карповіча і пражывае ў Беластоку.

У беларускай гімназіі ў Гайнаўцы таксама працавала настаўніцай сястра Алены — Людміла Панько. Многа часу прысвячала яна музычнаму выхаванню дзяцей. Сама напісала і паставіла ў выкананні школьнага самадзейнага гуртка некалькі інсцэніровак, між іншым, «Прывітанне вясны». Пасля ліквідацыі гімназіі яна пераехала ў Беласток, працавала ў школе і беларускай гімназіі. Затым выехала ў Варшаву, працавала ў асвеце для дарослых і вучылася на педагагічна-інструктарскім аддзяленні Варшаўскай кансерваторыі, пасля заканчэння якой вярнулася ў Беласток выкладчыкам методыкі музычнага выхавання ў Педагагічным ліцэі і Настаўніцкай студыі. Потым працавала старшым выкладчыкам філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і была кіраўніком музычнага кабінета. Варта прыгадаць, што Людміла Панько арганізавала і кіравала хорам пры ГП БГКТ, пісала музыку да ўласных слоў і слоў беларускіх паэтаў і апрацавала многа беларускіх фальклорных песень. Пражывае ў Беластоку.

Праваслаўнай рэлігіі вучыў нас на беларускай мове паважаны айцец Серафім Жалезняковіч, які з'яўляецца пратапрэсвітарам у Саборы св. Мікалая ў Беластоку.

Палысеўшы ўжо тады, сімпатычны нізкарослы Георгі Голуб вучыў нас гісторыі. Потым выехаў у Дарлова, дзе арганізаваў уласнае прадпрыемства. Памёр у сямідзесятыя гады і пахаваны ў Дарлове.

Геаграфіі навучаў нас настаўнік Ціхан Антасюк.

Заняткі гімнастыкі вёў Васіль Літвінчык, пазнейшы актыўны дзеяч БГКТ, кіраўнік Клуба міжнароднай кніжкі і прэсы ў Беластоку. Памёр у 1969 годзе.

Беларуская гімназія ў Гайнаўцы працавала толькі адзін навучальны год. Ліквідацыя школы пачалася пасля арышту яе дырэктара. Нягледзячы, аднак, на кароткі час сваёй працы паслужыла яна вучням трамплінам да здабывання далейшай адукацыі.

Мясцовыя вучні пайшлі ў польскую гімназію ў Гайнаўцы, а вучні з навакольных вёсак, у іх ліку і я, у беларускую гімназію ў Бельску Падляшскім, якая, на жаль, годам пазней таксама перастала існаваць.



## НАШ НАСТАЎНІК

*Памяці Васіля Бахара*

Над шматпакутнаю зямлёй
Дыхнула ўрэшце мірам неба.
Апаленыя ўсе вайной
Асветы праглі мы, як хлеба.

І нас усіх ласкавы лёс
З сёл навакольных, проста з поля
Сабраў ля гайнаўскіх бяроз
У роднай беларускай школе.

А на парозе школы Ён,
Як бацька, усіх вітаў сардэчна,
І сэрцы нашыя ў палон
З часіны той узяў навечна.

Умела прывіваў любоў
Ён да народа, да Радзімы,
Да родных беларускіх слоў,
Якія сталі нам святымі.

Віктар ШВЕД

## Беларуска-руская гімназія ў Беластоку
*(успаміны)*

Усяго два месяцы пасля вызвалення ўсходняй Беласточчыны, у канцы верасня 1944 года ў Беластоку была арганізавана Дзяржаўная беларуска-руская гімназія. Заняла яна частку двухпавярховага мураванага будынка па вуліцы Кіеўскай, 1, дзе раней знаходзіўся Беларускі камітэт. Абставіны стварэння школы былі даволі спрыяльныя. Савецка-нямецкі фронт затрымаўся амаль на паўгода ў 60—80 кіламетрах ад горада, улада знаходзілася ў руках савецкіх ваенных камендантаў, якія таксама, як і насельніцтва, вызваленне ўспрынялі як працяг савецкай улады 1939—41 гадоў. З'явіліся, праўда, прадстаўнікі польскіх улад супрацьстаўных палітычных арыентацый: Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення, які падтрымлівала савецкая камендатура, і ігнараванай Лонданскай дэлегатуры.

Паводле выказванняў Піліпа Кізевіча, арганізатарамі гімназіі былі Дзмітрый Гаскевіч, Барыс Субоцін і ён. Зараз усіх ужо няма ў жывых. П. Кізевіч вядомы нашым чытачам як дзеяч БГКТ. Аб Б. Субоціне не ведаем нічога. Жыццё Д. Гаскевіча трагічна абар-

валася 5 сакавіка 1945 года. Вечарам у яго кватэру ўвайшлі двое незнаёмых, крыху з ім пагутарылі ў прысутнасці жонкі і папрасілі выйсці. Непадалёк ад кватэры застрэлілі яго, а цела пакінулі да ранку ў снягу. Забіты быў ураджэнцам Беластока, яго бацька належаў, хіба, да царскіх дваран і дбайна адносіўся да адукацыі сына. Дзмітрый закончыў Віленскі універсітэт ветэрынары, але па спецыяльнасці не працаваў. Увесь міжваенны перыяд не мог атрымаць работу ў Беластоку, працаваў настаўнікам біялогіі ў Ломжы. Там заставаўся ў гады акупацыі. Пасля вызвалення Беластока зноў вучыў у мясцовых школах біялогіі і працаваў у кураторыі, дзе падрыхтаваў планы развіцця асветы ў ваяводстве. За прадстаўленне іх на канферэнцыі атрымаў ад тагачаснага польскага падполля папярэджанне аб расстрэле. Са слоў сям'і, да ніякай партыі ён не належаў, захоўваў беларускасць, паводзіў сябе рашуча і, магчыма, таму апынуўся сярод першых ахвяраў пасляваеннай братазабойчай вайны на Беласточчыне. У яго пахаванні прымалі ўдзел вучні і настаўнікі беларуска-рускай гімназіі. Апошнія з гарыччу ўспаміналі непрыязнае выступленне над яго магілай К. Касінскага.

Гімназія была названа беларуска-рускай дзеля заахвочвання да навукі ў ёй не толькі беларускай моладзі, але і дзяцей савецкіх ваеннаслужачых. Апошніх, аднак, у гімназіі не было.

Шырэйшай прапаганды набору вучняў арганізатары не праводзілі з прычыны кадравых і жыллёвых абмежаванняў. Мы, вяскоўцы, апынуліся ў гімназіі выпадкова. Найбольш моладзі прыбыло з самога Беластока і раёнаў Гарадка, Міхалова, Заблудава, крыху з вёсак на захад ад горада. Аб існаванні гімназіі я даведаўся ад Піліпа Грынявіцкага з суседняй вёскі Іванкі, які ехаў у Беласток на веласіпедзе, каб даведацца аб магчымасці вучобы. Далучыліся да яго і мы з дваюрадным братам Аляксандрам Семянюком, а праз месяц — чарговыя чатыры чалавекі.

Горад сустрэў нас непрыхільна: трое маладых веласіпедыстаў з клумкамі, можа дэзерціры, можа гандляры. Кантроль пры ўездзе ў горад правяла вайсковая савецкая застава. Але пры ўваходзе на панадворак нашай знаёмай, у якой мы мелі намер затрымацца, заўважыў нас паручык Польскага войска, западозрыў у дыверсіі і адразу хацеў арыштаваць. Праверыўшы нашы, нямецкія яшчэ, дакументы, загадаў назаўтра ранкам з'явіцца ў камендатуру. Перапалоханыя гэтым, мы хацелі вяртацца дамоў, але набліжаўся каменданцкі час, і таму накіраваліся да другога, апошняга ў Беластоку, нашага знаёмага. З перапалоху ён угаварыў нас ісці ў школу і прызвычайвацца да такіх абставін.

У канцылярыі гімназіі нас сустрэла сімпатычная сакратарка Таня (пасля Лашэвіч), і тут настаўнікі правялі з намі «экзамен», проста гутарку. Мелі мы пасведчанні аб заканчэнні ў 1941 годзе шостага класа школы, якія выдаў нам яе былы дырэктар. У яго захавалася ўся дакументацыя разам з пячаткамі. На аснове некалькіх адказаў





Будынак Дзяржаўнай беларуска-рускай гімназіі ў Беластоку. 1945 г.

на пастаўленыя пытанні настаўнікі тут жа прапанавалі кожнаму з нас другі або трэці клас гімназіі. Мне нехта з іх сказаў аб трэцім, але я спалохаўся і на трэці не згадзіўся.

У палове кастрычніка 1944 года ў старэйшых класах былі яшчэ свабодныя месцы, а чацвёрты, апошні, не змаглі ўкамплектаваць. Тагачасныя беларускія асяроддзі не мелі моладзі з васьмікласнай адукацыяй.

Сакратарка завяла нас у клас. Кожнага новага вучня настаўнікі знаёмілі з класам на ўроках. Прасілі расказаць пра сябе, сваю мясцовасць, пра сям'ю. Я гаварыў крыху па-беларуску, крыху па-руску. Вучні прынялі нас ветліва, былі здзіўлены, што мы паходзім з Бельшчыны і карыстаемся некалькі іншым дыялектам. Выхадцы з вёсак усюды гаварылі па-беларуску, беластаччане — па-польску або па-руску. Мы хутка да такіх абставін прызвычаіліся. На працягу аднаго года навучыліся валодаць кожнай з гэтых моваў і нават не заўважалі, што да Пеці Шыманскага звяртаемся па-польску, а да Лены Бліновай па-руску. У пасляваенным Беластоку гэта было апошняе месца неантаганістычнага разнамоўя.

У 1944/45 навучальным годзе ў трох класах гімназіі вучылася каля 100 вучняў, з якіх трэцюю частку складалі дзяўчаты. Наш інтэлектуальны ўзровень, веды, ацэнка палітычных тагачасных абставін, адносіны да нацыянальных пытанняў былі вельмі розныя. Але ў атмасферы павагі гэтая моладзь хутка інтэгравалася.

Аб поспехах кожнай школы вырашае, як вядома, настаўніцкі калектыў. У нашай гімназіі быў ён невялікі, 6—7 асабовы, але выключны з пункту гледжання кваліфікацыі і адданасці сваёй справе. Заняткі па матэматыцы, фізіцы і лацінскай мове вёў дацэнт Аляксандр Корзун, рускай літаратуры і граматыцы — філолаг Сцяпан Бліноў, па прыродазнаўчых прадметах і хіміі — біёлаг Анна Цімафеева, беларускай мове і іншых прадметах — launchedпераменна дырэктар Барыс Субоцін і Зінаіда Грыцкевіч. Нямецкую мову вяла Яўгенія Каваленка, а вучыла спевам і кіравала аматарскім мастацкім гуртком Людміла Панько.

Шчырыя, цёплыя ўспаміны аб нашых настаўніках змясціла тагачасная гімназістка, зараз кандыдат філалагічных навук, Лідзія Стадулка (Зарэцкая) у Беларускім календары ГП БГКТ на 1988 г., с. 98—107.

Урокі вяліся на той мове, якую найлепш ведаў сам настаўнік, да чаго мы хутка прызвычаіліся. З перспектывы мінулага 50-годдзя ад часу вучобы ў гімназіі шчыра заўважу, што для моладзі разнамоў'е — карысная з'ява. Яно дазволіла без асаблівых намаганняў спазнаць некалькі моў. Мы не ведалі нават, якая з гэтых моў будзе нам патрэбная ў будучыні. Пытанне дзяржаўнай належнасці ўсходняй Беласточчыны было яшчэ не вырашана.

Атмасфера ў гімназіі была сардэчная, сяброўская, амаль сямейная. Не ведаю, стварылі яе толькі настаўнікі ці пры дапамозе вучняў, якія адчувалі на сабе нацыскі варожага акружэння. Нам хацелася дагнаць страчаныя гады ў вучобе і жыцці. А тут яшчэ першы паверх пад намі заняла гаманлівая дзетвара пачатковай школы.

Гімназія не мела школьных дапаможнікаў. Вісела толькі абыякавая школьная дошка, а побач ляжала глінка, замест школьнай крэйды. Не было падручнікаў. Выкарыстоўвалі мы савецкія, польскія, нават падручнікі царскіх часоў. Маё становішча было не найгоршае. Рыхтуючыся ў 1941 годзе да экзамену экстэрнам у нейкую Ленінградскую сярэднюю школу, я купіў сабе большасць падручнікаў для сёмага і восьмага класаў. Захаваў кнігі па рускай граматыцы і сінтаксісу, якія добра служылі мне ўсё жыццё, а таксама частку дапаможнай літаратуры. Падручнікі па геаграфіі свету, біялогіі і матэматыцы дасталіся мне ў спадчыну яшчэ ад Дзям'яна Апалінскага, ён быў студэнтам царскай Рэвельскай ВНУ. Меў я нават вучэбныя разнаколерныя рысункі па анатоміі чалавека, якія мне ў 1940 годзе падарыў дзядзька Косця — ленінградзец, а я перадаў іх гімназіі.

Вучняў нашай гімназіі адразу, незалежна ад цяжкасцяў, ахапіў нейкі этнузіязм да навукі. Ішла вайна, восенню 1944 года некалькі разоў перажылі мы нават слабенькія налёты нямецкай авіяцыі, трывожна было ў краіне — вялася барацьба за ўладу, невядома нават за якую, часта здараліся выпадкі бандытызму, разбойніцтва, ашуканства. А мы асноўны час прысвячалі вучобе. Пасля заняткаў



заставаліся ў класе без настаўніка і самі рашалі задачы па матэматыцы, фізіцы, чыталі абавязковую літаратуру, якую пазычалі ў незнаёмых людзей, нават гутарылі між сабою па-нямецку, каб лепш запамятаць вывучаныя на ўроках звароты. Верш «Ім гартэн» памятаю і сёння.

Змест урокаў неабходна было канспектаваць, але не хапала сшыткаў. Іх і ўсё, на чым толькі можна было пісаць, пачалі купляць на Сенным рынку, які тады быў цэнтрам эканамічнага жыцця горада. Дрэнная ўпаковачная папера быццам вата ўбірала чарніла, зробленае з хімічных алоўкаў.

І ўсё ж часта пасля заняткаў танцавалі, спявалі, праводзілі рэпетыцыі інструментальнага калектыву або хору, якім кіравала Л. Панько. Дзякуючы нашаму сябру Яўгену Гурскаму з Міхалова, ўсе навучыліся іграць на мандалінах, балалайках, гітарах і нават на гармоніках. Пад іх музыку танцавалі. Увечары хадзіць было небяспечна. Аднойчы мы крыху засядзеліся і трапілі ў рукі савецкіх патрулёў. Ледзь адпрасіліся дамоў на падставе вучнёўскіх білетаў.

Не было інтэрнатаў, жылі ў запушчаных кватэрах, па 3—5 чалавек у пакойчыку. Спачатку трапіў я на Рабінскую. Холад, адна газавая лямпа на чатырох вучняў і частыя п'янствы гаспадыні з нейкімі гандлярамі не стваралі ўмоў для вучобы. Хутка і міліцыя пачала праводзіць у кватэры вобыскі. Аднойчы знайшлі пад маім ложкам каністру нафты. Было вядома, каму яна належала. Але каб выратаваць гаспадыню, прызнаўся, што каністра мая. Забралі мяне на пастарунак, па дарозе намаўлялі адмовіцца або кінуць каністру ў снег. Не згадзіўся я, і замкнулі мяне на адзін дзень ў арыштанцкай, што на скрыжаванні вуліцы Сянкевіча і алеі (апошняй ячшэ не было).

Іншым разам западозрылі нас, вучняў кватэры, ва ўдзеле ў забойстве сяржанта міліцыі, які жыў па-суседску. Пры арышце мелі мы шчасце трапіць пад апеку савецкага партызана, тады працаўніка міліцыі, нейкага Пашку. На цяжкім допыце ён у нашай прысутнасці пацвердзіў, што ведае атмасферу ў беларускай гімназіі, што падазраваць нас у забойстве беспадстаўна і што сам хоча памясціць нас у арыштанцкай. Проста ўратаваў нас ад катаванняў і сказаў паводзіць сябе ціха. На наступны дзень высветлілася, што замах быў арганізаваны на нямецкага агента. Выстралы пачуў сяржант міліцыі. Толькі падышоў ён да дзвярэй сваёй кватэры — і загінуў ад аўтаматнай чаргі.

Уцяклі мы ўрэшце з нашай кватэры на вул. Сасновую, 2, дзе далучыліся да трох іншых вучняў. Ушасцярых было добра, спакойна, весела.

Дадому (30 км) ездзілі часцей за ўсё на старэнькіх веласіпедах, а зімою — выпадковымі савецкімі або польскімі вайсковымі грузавікамі, якія вазілі для сваіх армій бульбу, збожжа, сена.

У канцы школьнага года атрымалі пасведчанні. Маё на «Ю» мела 24-ы нумар, значыць, другі клас быў перапоўнены. У выніку

адыходу часткі вучняў трэцяга класа на працу быў не ўкамплектаваны чацвёрты клас. Прапанавалі нам у час канікул семестравы курс, дзеля папаўнення гэтага класа. Згадзілася ўсяго дзесяць чалавек. Заняткі вялі нашыя настаўнікі ўвесь дзень, а больш заўзятыя вучні працягвалі вучобу і ноччу. Узгадаваныя ва ўмовах вайны, усе вытрымалі максімальную нагрузку, здалі экзамены і сталі вучнямі чацвёртага класа.

Чарговы 1945/46 школьны год пачалі без дырэктара. Западозраны ў ідэйнай варожасці да народнай улады, Б. Субоцін выехаў у заходнія землі. Добры арганізатар, зычлівы чалавек, ён не атаясамліваўся з ніякай варожасцю. Доўга не было кандыдата на яго месца. Пад націскам настаўнікаў згадзілася часова прыняць абавязкі дырэктара Анна Цімафеева. Разам з адыходам на захад, за фронтам, частак Савецкай Арміі, узмацнілася барацьба польскага падполля за ўладу. Узрасла недаверлівасць польскай грамадскасці да школы. Усё часцей адбываліся забойствы прыхільнікаў «Саветаў», народнай улады і Польскай рабочай партыі. У гімназіі большасць вучняў належала да маладзёжнай арганізацыі «ЗВМ», частка актыўна дзейнічала ў яе гарадскіх і ваяводскіх органах. Я не належаў да гэтай арганізацыі, слухаўся бацькоў, якія лічылі асноўным маім абавязкам вучобу, відаць, марылі, што я паеду ў Ленінград да дзядзькі, каб там яе працягваць. Быў я прыхільнікам дзейнасці — ізаляванасці, так як многія іншыя, не адчуваў. Прыпамінаецца мне некалькі вечарын, у час якіх у гімназіі павыбівалі шыбы, а адзін раз авантурысты нават уварваліся ў залу. Але былі акружаны вучнямі і без бойкі пакінулі школу. Для нас было бяспечна, калі на такія вечарыны, школьныя святы ці гульні прыходзілі савецкія лётчыкі, якіх хуліганы выразна баяліся.

Гімназія нармальна дзейнічала, аднак толькі недзе да паловы школьнага года. У выніку абвастрэння барацьбы са «здраднікамі народа» пачаліся рэпрэсіі ўсіх тых грамадзян СССР на Беласточчыне, якія тут знаходзіліся ў гады нямецкай акупацыі. Да гэтай катэгорыі людзей былі залічаны нашыя любімыя настаўнікі А. Корзун і С. Бліноў.

Відаць, каб ўратаваць бацьку, сын Корзуна, які быў ваенным інжынерам па будаўніцтву мастоў, вырашыў забраць яго ў Цэнтральную Расію. Гімназія страціла добрага матэматыка, а на яго месца іншага з вышэйшай адукацыяй не знайшлі. З цяжкасцямі дамовіліся прадоўжыць заняткі па гэтаму прадмету з ваенным інжынерам, тагачасным дыяканам (прозвішча не памятаю). Яго становішча было таксама хісткае, таму на заняткі па матэматыцы і фізіцы мы пачалі хадзіць на яго кватэру.

Няшчасці на школу звальваліся адно за другім. Вясною прадстаўнікі савецкай улады загадалі ўсім сваім грамадзянам вярнуцца на айчыну у сувязі з перадачай Беласточчыны Польшчы. Сям'я настаўніка С. Блінова не спяшалася з выездам, але была амаль сілай завезена на беластоцкую станцыю і пасаджана ў вагон. Даведаўшыся аб гэтым, мы пачалі іх групамі наведваць. Адны развітваліся, іншыя перадавалі ўласныя харчовыя прадукты. Вартавым гэта ўжо надакучыла, і яны забаранілі ўваходзіць у вагон або збірацца каля яго натоўпам. Цягнік ад'ехаў недзе ноччу. Бліновы апынуліся ў далёкай Сібіры.



Руская мова як прадмет нам клопатаў не прычыняла, да кожнага экзамена мы рыхтаваліся самастойна. Перад заканчэннем школьнага года дырэктар гімназіі Марыя Цімафеева паведаміла нам, што яна таксама вырашыла скарыстаць міждзяржаўную дамоўленасць аб дабравольнай эвакуацыі беларускага насельніцтва з Беласточчыны ў СССР. Прапанавала яна таксама вучням рэпатрыяцыю дзеля працягвання вучобы. Аднак параіла рашэнні ўзгадніць з бацькамі. Была ўпэўнена, што эвакуацыяй будзе ахоплена ўсё беларускае насельніцтва Беласточчыны і таму арганізаваны выезд усёй гімназіі створыць карыснейшыя ўмовы для вучобы. Згадзілася выехаць усяго некалькі вучняў, астатнія ўстрымаліся. Мне бацькі таксама не далі дазволу на выезд.

У школе засталося ўсяго тры настаўнікі неабавязковых на экзаменах прадметаў. Паніка і горыч. Вучні ніжэйшых класаў гімназіі пачалі самастойна ўладкоўвацца ў іншых школах, а мы, выпускнікі, чакалі экзамен на ўзроўні так званай «малой матуры».

Урэшце Беластоцкая школьная кураторыя прызначыла нас на экзамены ў Дзяржаўную гімназію і ліцэй (мужчынскі) № 2 у Беластоку на вуліцы Фабрычнай, дзе дырэктарам быў усім вядомы праціўнік народнай улады К. Касінскі. Ён запатрабаваў ад нас удзелу ў месячных рэпетыцыях па матэматыцы і фізіцы. Правесці іх згадзілася А. Зубулевіч. Становішча ўскладнілася. Нашы будучыя экзаменатары бралі ўдзел у ідэалагічнай барацьбе асветнікаў, але на баку, супрацьлеглым народнай уладзе. Здаецца, па гэтай прычыне на экзамен з 23 вучняў з'явілася ўсяго 11. Здалі ўсе. Гэта добра сведчыла аб нас і аб экзаменатарах.

Выдадзенае на маё прозвішча 28.VI.1946 года «Свядэцтво ўконьчэня гімназіюм огульнокшталцонцэго» № 17 падпісалі замест дырэктара З. Грыцкевіч і Е. Каваленка. Сярод дысцыплін фігуруюць: паводзіны, рэлігія, польская, беларуская, нямецкая і руская мовы, геаграфія, гісторыя, біялогія і спевы. Дапіска ад 15 і 16 ліпеня 1946 г. дапаўняе яго ацэнкамі па матэматыцы і фізіцы за подпісам старшыні Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі К. Касінскага і членаў А. Зубулевіч і А. Маркоўскага.

Нашы калегі, вучні чацвёртага класа, здавалі экзамены пазней у гімназіях Беластока, Бельска, трапілі на падрыхтоўчыя курсы ў Варшаву, Лодзь. Многія пайшлі на работу, каб вярнуцца да вучобы пры іншай нагодзе.

Доўга мы звязвалі ліквідацыю гімназіі са стратай настаўніцкіх кадраў. Аказалася, аднак, што ў бельскім асяроддзі праблема такая не існавала, а гімназія ўсё ж была ліквідавана. Зрабілі гэта ўлады, куратар Яўгенія Красоўская па выдуманай прычыне: перасяленне ўсяго мясцовага беларускага насельніцтва ў Беларусь.

Але вучні захавалі аб сваёй гімназіі добрую памяць, незалежна ад тагачаснага складанага іх становішча. Добрая школа — гэта такая школа, якая навучыць самастойнасці і працавітасці. Лёсы навучэнцаў беларуска-рускай гімназіі прасачыць цяжка. Іх нацыянальную свядомасць фармавалі розныя асяроддзі, уласныя амбіцыі, паводзіны. Беларускасць і перспектыва ў апошнім 50-годдзі часта пярэчылі адно другому. Але мне давялося сустрэць толькі аднаго поўнага рэнегата, які здолеў пазбыцца ўсякіх нацыянальных беларускіх пачуццяў.

З нашай шасціасабовай трысцяніцкай групы вучняў чатыры атрымалі вышэйшую адукацыю: Аляксандр Семянюк — геолаг, доўгія гады начальнік геалагічных пошукаў на Беларусі; Уладзімір Ясюк — інжынер-канструктар, будаўнік фабрык паперы ў многіх краінах свету; Уладзімір Якаўчук — інжынер-хімік дольнашлёнскіх заводаў і я — жыццёвы шлях якога чытачам вядомы. Дзве нашы сяброўкі ўладкавалі сваё жыццё крыху скрамней: Вольга Антанюк працавала ў маладзёжных арганізацыях Шчэціна, а Анна Паланкевіч сталася гаспадыняй у роднай вёсцы.

Многія іншыя вучні гімназіі атрымалі вышэйшую адукацыю і працавалі ў розных тыпах школ. Найвышэй пайшоў Аляксей Трахімчык, які быў дацэнтам Варшаўскай палітэхнікі. Лідзія Зарэцкая — доктар рускай філалогіі ў філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, а Мікалай Юзвовіч — доктар Беластоцкай палітэхнікі. Настаўнікамі сталі Лілія і Мікалай Бакаўшын, Галя і Яўген Жук, Яўгенія Гаўрылюк, Мікалай Герасімюк, Ніна Коўшык, Софія Літвін, Аляксандр Несцярчук, Клаўдзія Суравеч, Тамара Савіцкая, Уладзімір Мялешка — нам. куратара. Высокія пасады ў іншых галінах займалі Яўген Бусловіч, Яўген Гурскі, Сяргей Анціпюк, Яўген Дзякоўскі, Алена Міхальчук і іншыя.

Будучы студэнтам БДУ, я выпадкова сустрэў у Мінску Пятра Шыманскага. Па яго прапанове ў 1953 годзе наведаў у Брэсце дырэктара Анну Цімафееву, якая працавала ў сярэдняй школе. Мой візіт крыху перапалохаў яе, таму што ўспамянуў я аб аднаўленні сяброўства з П. Шыманскім. Пры нагодзе даведаўся, што ён хацеў без дазволу вярнуцца праз граніцу да бацькоў, быў схоплены і асуджаны. Пасля ўсё ж закончыў медыцынскі інстытут.

Заслугай гімназіі было прабуджэнне ў моладзі цягі да вучобы, пераадольвання найвялікшых перашкодаў. Жыццёвы шлях кожнага гімназіста быў насычаны нейкімі складанасцямі. Вось я: беларуска-руская гімназія, польскі педагагічны ліцэй, Беларускі дзяржаўны універсітэт (на рускай мове), аспірантура на яго геаграфічным факультэце (ужо на беларускай мове), а працаваць прыйшлося ў ПНР, зразумела, на польскай мове. Комплексаў не меў.

Наіўным лічу сцвярджэнне тых, хто матывіруе жыццёвай няўдачай атрыманне адукацыі на той ці іншай няпольскай мове. Набытыя веды, працаздольнасць захоўваюцца. Лёс меншасці



заўсёды празмерна складаны, калі яна хоча захаваць сваю нацыянальнасць і ёю ганарыцца.

*У. ЮЗВЮК*

## Беларуская гімназія і ліцэй у Бельску Падляшскім

Пасля вызвалення Бельшчыны ад нямецкай акупацыі ў ліпені 1944 года мясцовае грамадства імкнулася да аднаўлення беларускай сярэдняй школы. Ужо ў верасні 1944 года ў Бельску Падляшскім арганізавалася Беларуская дзяржаўная гімназія і ліцэй. У двух старых драўляных будынках на вуліцы 1 Мая размясціліся чатыры класы гімназіі і першы клас ліцэя. Згуртавалася тут пераважна моладзь, якая вучылася ў час савецкай улады ў 1939—1941 гадах у беларускіх дзесяцігодках у Бельску Падляшскім і Орлі.

Тагачасны дырэктар школы Анатоль Мікалаевіч Тымінскі, дасканалы матэматык і вопытны педагог, разам з дасведчаным выхаваўцам, энергічным Яраславам Васільевічам Кастыцэвічам, згуртавалі вакол сябе лепшых педагогаў горада, пераважна тых, якія працавалі ў школах Бельска ў 1939—1941 гадах.

У першы год навучання заняткі ў школе вялі наступныя настаўнікі: Еўдакія Асташэвіч — фізіка і хімія, Сяргей Багдановіч — матэматыка, Брыш Ёсіп — беларуская мова, Яраслаў Кастыцэвіч — лацінская і руская мовы, Яўген Занкевіч — геаграфія, Аляксей Кісецкі — біялогія, Вера Тымінская — руская і французская мовы, Варвара Цімніцкая — польская мова, праваслаўны святар Канстанцін Байко — рэлігія. Сакратаркай школы была прыгожая дзяўчына Марыя Гароднік.

Пры гімназіі і ліцэі працаваў добры хор, якім кіраваў Ян Тарноўскі, і музыкальны гурток. Вельмі цікавым быў драматычны гурток пад кіраўніцтвам дырэктара школы Анатоля Тымінскага. Гурток ставіў п'есы для мясцовага насельніцтва, між іншым, жартоўную камедыю Леапольда Радзевіча «Збянтэжаны Саўка».

На пачатку 1945/46 навучальнага года школа папоўнілася новымі вучнямі. Былі гэта пераважна хлопцы і дзяўчаты, якія вярнуліся з прымусовых работ у Нямеччыне, і юнакі, што дэмабілізаваліся з Савецкай арміі і Войска польскага. Моладзь была ўжо перарослая, і для яе ўтварылі трэці семестравы клас. Такім чынам у 1945/46 навучальным годзе працавалі першы, другі, трэці, трэці (семестравы), два чацвёртыя класы гімназіі («А» і «Б»), а таксама першы і другі класы ліцэя.

У сувязі з ліквідацыяй пасля году працы беларускай гімназіі ў Гайнаўцы перавяліся ў чацвёрты «Б» клас Бельскай гімназіі Дзмітры Аліферук, Вера і Мікалай Бірылка, Міхась Грыгарук, сёстры Галіна і Яўгенія Куптэль, Аляксей Куптэль і я.

У школе навучалася каля 150 асоб, з якіх амаль усе закончылі потым вышэйшыя навучальныя ўстановы.



Вучні 4 «Б» класа беларускай гімназіі ў Бельску Падляшскім. 1946 г.

Паважна папоўніўся таксама настаўніцкі калектыў школы. Прыйшлі працаваць у школу бацька з сынам: старэнькі ўжо дасканалы педагог Уладзімір Ніканові́ч навучаў фізіцы і хіміі, а яго сын, прыстойны рослы брунет Галакціён Ніканові́ч — гісторыі і чарчэнню, а таксама быў апекуном чацвёртага «Б» класа. Меў ён мастацкія здольнасці і заўсёды дапамагаў нам афармляць школьныя насценгазеты. Любіў надта мастацкую літаратуру і з поспехам ставіў з вучнямі чацвёртага «Б» класа бытавую камедыю Д. Фанвізіна «Недарасль», у пастаноўцы якой я таксама прымаў удзел. П'еса карысталася вялікім поспехам у гледачоў.

Школьным хорам кіраваў Ян Тарноўскі. У школе пачалося маё з ім супрацоўніцтва. На мае тэксты Тарноўскі пісаў музыку і выконваў потым гэтыя песні наш школьны хор, у якім я таксама спяваў.

Беларускай мове навучаў настаўнік Н. Гайсакоў, які цярпліва правіў няўклюдныя яшчэ радкі маіх вершаў, імі я пісаў дамашнія сачыненні.

Вялікая дысцыпліна была на занятках рускай і лацінскай моваў, якія вёў паважаны ўсімі Яраслаў Кастыцэвіч. Ён таксама меў многа дадатковай працы над маімі вершаванымі сачыненнямі па рускай мове.

Настаўнік польскай мовы Дзмітры Пухнарэвіч пад маім вершаваным сачыненнем «Konopnicka — pieśniarka ludu» («Канапніцкая — народная паэтэса») напісаў: «Praca bardzo dobra. Wypracowania w przyszłosci należy pisać prozą». («Праца вельмі добрая. Сачыненне ў будучым трэба пісаць прозай»).

З тае пары я перастаў пісаць дамашнія сачыненні вершам і мучыць сваіх настаўнікаў дадатковай працай.

Заняткі па нямецкай мове вяла старэнькая ўжо настаўніца Аляксандра Смалеўская. Ведаючы яе слабасць да мастацкай літаратуры, вучні, якія не надта любілі нямецкую мову, сцвярджалі: «Швед напісаў новыя вершы». Настаўніца прасіла мяне прачытаць. Я, вядома, чытаў, потым адбывалася дыскусія над маёй паэзіяй, і ўрок мы мелі, як гэта кажуць, з галавы. Добра, што гэта не так часта паўтаралася.

Уладзімір Тымінскі вёў цікава заняткі па матэматыцы, і яго ўрокі падабаліся нават тым, хто не надта любіў гэты прадмет. Варта таксама прыгадаць, што польскай мове ў ліцэі навучаў Уладзіслаў Врублеўскі. Рэлігіі ў школе вучыў праваслаўны святар Мікалай Вінцукевіч.

Увесну 1946 года савецкія ўлады загадалі ўсім сваім грамадзянам, якія апынуліся на Беласточчыне, вярнуцца на радзіму. Наш дырэктар, Анатоль Тымінскі, неадкладна выехаў у Вільню. Дырэктарам школы асветныя ўлады назначылі Яраслава Кастыцэвіча. У асобе Яраслава Васільевіча школа знайшла выдатнага арганізатара працы і чуллівага выхаваўцу моладзі. Яго светлай памяці трэба адвесці тут крыху больш месца.

Яраслаў Кастыцэвіч быў чалавекам высокай асабістай культуры і чулага сэрца. Прынёс ён у школу атмасферу сямейнай цеплыні і добразычлівасці да моладзі, пры адначасова высокіх патрабаваннях ад яе ў вучобе. Вопытны выхаваўца моладзі і актыўны грамадскі дзеяч, ён закончыў гімназію ў Белай Падляшскай. Вучыўся на юрыдычным факультэце Петраградскага універсітэта. Закончыў Афіцэрскае артылерыйскае вучылішча ў Кіеве. У час савецкай улады працаваў настаўнікам рускай і беларускай моваў у школах Бельска. Арыштаваны ўладамі як сын праваслаўнага святара, сядзеў у турме ў Ломжы, а яго сям'я была вывезена ў Сібір, адкуль вярнулася ў пасляваенны перыяд. Дачка Святлана ў 1946 годзе закончыла беларускі ліцэй у Бельску Падляшскім, фармацэўтыку ў Любліне, выйшла замуж за навучэнца беларускага ліцэя ў Бельску, Аляксея Сычэўскага, таксама фармацэўта, з якім разам вядуць прыватную аптэку ў Бельску Падляшскім.

Яраслаў Васільевіч сачыў таксама за парадкам і чысцінёй школы, за эстэтычным выглядам сваіх вучняў. Загадаў ён дзяўчатам пашыць белыя берэты на летнія месяцы і карычневыя — на зімовыя, а хлопцам белыя пілоткі. У кожную нядзелю вучні школы абавязаны былі раніцай сабрацца ля школьнага будынка, а потым маршыравалі па чатыры (асобна хлопцы і асобна дзяўчаты) пад камандай Яраслава Васільевіча на малебен у Міхайлаўскую царкву ў Бельску Падляшскім. Вельмі прыгожа выглядалі нашыя калоны. Многія вучні спявалі ў царкоўным хоры. Іван Іванюк, ву-

чань другога класа ліцэя, вельмі добра чытаў заўсёды «Апостал» і «Псалтыр».

Прыпамінаецца мне і надта сумнае здарэнне, якое мела месца ўвесну 1946 года. Да вучня першага класа ліцэя, Валодзі Супрунюка з Рыбалаў, прыехаў на матацыкле дзядзька-франтавік, палкоўнік Савецкай арміі. Паехалі яны разам у Беласток. Па дарозе папалі ў засаду польскага падполля і абодва загінулі ад куль. Школа ездзіла на пахаванне свайго вучня. Над яго магілай прачытаў я свой верш «Памяти Володи Супрунюка» (на рускай мове):

В минуту смерти друга дорогого
Я не могу, о братья, замолчать.
В душе моей печали очень много,
Хоть часть ее желаю передать.

Хотя частично грустными строками
Желаю я с души излить печаль.
От слез пишу я с влажными глазами,
Мне друга жаль, так беспредельно жаль.

О, где же он, о друг наш драгоценный,
И почему его уж не видать?
Как трудно верить, что во всей вселенной
Нигде, нигде его не отыскать.

Что он погиб так смертию ужасной,
Пал от рук кровавых зверских палачей.
И уж по нем, лишь только, жаль, напрасно,
Пуста тоска по нём его друзей.

У 1946 годзе адбыўся першы выпуск навучэнцаў гімназіі і ліцэя. Выпускнікі ліцэя амаль усе закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы. Выпускнікі гімназіі пайшлі вучыцца ў польскі ліцэй і потым таксама атрымалі вышэйшую адукацыю.

У канцы жніўня 1946 года загадам асветных улад беларуская гімназія і ліцэй у Бельску Падляшскім былі ліквідаваны. Гэта быў вынік памылак тагачаснай нацыянальнай палітыкі ў Польшчы.

Тры гады не было беларускай школы. У жніўні 1949 года міністр асветы выдаў дэкрэт аб адкрыцці ў Бельску Падляшскім пачатковай школы і агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання. Дырэктарам гэтай школы ўлады назначылі зноў Яраслава Кастыцэвіча. На гэтай пасадзе працаваў ён нязменна да 1965 года, да адыходу на пенсію. Шмат намаганняў прыклаў пры пабудове новага будынку школы. Памёр Яраслаў Кастыцэвіч 1 красавіка 1971 года.

Пасля мінулага паўстагоддзя, на жаль, няма ўжо ў жывых нікога з настаўнікаў ліквідаваных у 1946 годзе Беларускай дзяржаўнай гімназіі і ліцэя ў Бельску Падляшскім.



*Віктар ШВЕД*

## Успаміны з мінулага

«У горадзе, дзе няма больш-менш развітой прамысловасці, галеча і голад проста неверагодныя і пастаянна ўзрастаюць. Становішча бязвыхаднае, нечалавечае, горш за жывёльнае... Галечу ў вёсцы і горадзе, людзі у якіх жывяцца са снежня да канца ліпеня маладой карой і карэннямі, галечу многасямейных гараджан без жылля і заробкаў... ці магчыма нават параўнаць з галечай і беднасцю жыхароў у цэнтры дзяржавы». Так пісаў у 1924 г. палескі ваявода ў міністэрства сацыяльнага забеспячэння.

І хоць не ўсюды ў Заходняй Беларусі становішча было такое трагічнае, малазямелле і беспрацоўе і звязаныя з гэтым голад і галеча былі нармальнай з'явай. У гэткіх абставінах нямногім сярод сялянскіх дзяцей удавалася скончыць нават сямігодку, не гаворачы аб сярэдняй школе, а толькі лічаным адзінкам удавалася трапіць у вышэйшую школу. Гэта адносілася асабліва да сялян ва ўсёй дзяржаве, дзе ва універсітэтах студэнтаў сялянскага паходжання было 10 %, а рабочага — 8 %. Значна горш гэта выглядала ў Польшчы «Б».

Асноўная маса студэнтаў у Вільні паходзіла з асяроддзя абшарнікаў, прамыслоўцаў, служачых, прафесіянальных вайскоўцаў. Адпаведна з гэтым фарміраваліся палітычныя групоўкі. Сярод студэнтаў найбольш мела прыхільнікаў эндэцкая (нацыяналшавіністычная) «Млодзеж вшехпольска» — інспіратарка пагромаў яўрэяў.

Санацыйную правіцу прадстаўляла «Мысль моцарствова», апекуном якой быў брат Пілсудскага — Раймунд. Яна ідэалагічна мала чым адрознівалася ад «Млодзеж вшехпольска».

Левым крылом санацыі быў «Легён млодых-акадэміцкі звёнзэк працы для паньства». Арганізацыя характарызавалася радыкальнай фразеалогіяй і вяла барацьбу з эндэцыяй.

І хоць эндэцыя сваю прыналежнасць да касцёла абвяшчала як адзін з галоўных лозунгаў сваёй праграмы, існавала асобная каталіцкая арганізацыя Таварыства каталіцкай акадэміцкай моладзі «Одродзэне», якая мела больш памяркоўную тактыку. З яе радоў выйшаў найбольш таленавіты правадыр акадэміцкай левіцы Генрых Дэмбінскі. Адароны нязвыклымі здольнасцямі, высакародны і бескарыслівы, ён цешыўся пашанай нават сярод сваіх праціўнікаў. Яго асноўнай базай быў Акадэміцкі саюз сацыялістычнай моладзі. Большасць яго членаў арыентавалася на Польскую сацыялістычную партыю. Па ініцыятыве Дэмбінскага ўзнік Саюз акадэміцкай левіцы «Фронт», які са жніўня 1935 г. выдаваў двухтыднёвік «Попросту». Часопіс хутка стаў папулярны ва ўсім краі.

Беларускія студэнты мелі сваю арганізацыю Беларускі студэнцкі саюз (БСС). У трыццатыя гады тэрыторыя універсітэтаў была адзіным месцам, дзе яшчэ маглі дзейнічаць арганізацыі левіцовага напрамку і нацыянальных меншасцяў.

БСС меў сваё памяшканне, у якім адбываліся дыскусійныя вечары і культурна-асветныя мерапрыемствы. Да арганізацыі належалі студэнты розных палітычных напрамкаў.

Найбольш прыхільнікаў мела хрысціянская дэмакратыя, якая ў 30-ых гадах выступала пад назвай Беларускага народнага аб'яднання (БНА). Праграма БНА стаяла на грунце прыватнай уласнасці, дапускала пераход яе ў грамадскую «калі гэтага вымагае дабро працоўных». Гэтага было дастаткова, каб не абвінавачваць яе ў пракамуністычных сімпатыях.

БНА кіравала культурна-асветнай арганізацыяй «Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры», дзейнасць якой спатыкалася з праследаваннямі з боку ўладаў. Найбольш прагрэсіўныя члены БНА гуртаваліся каля ксяндза Адама Станкевіча, чалавека вялікага розуму і высакароднасці.

Левы напрамак прадстаўлялі прыхільнікі былой «Грамады». Легальнай, але жорстка праследаванай арганізацыі, кіраванай былымі грамадоўцамі, было Таварыства беларускай школы (ТБШ). Гімн «Грамады» «Ад веку мы спалі...» быў гімнам Беларускага студэнцкага саюза.

Значную групу складалі прыхільнікі КПЗБ. Яны гатовы былі для дабра народу на найбольшыя ахвяры. Пра сталінскія злачынствы ў БССР яны не ведалі, а антыкамуністычнай прапагандзе, якая паходзіла ад тых, каму ўдалося ўцячы з СССР, народ таксама не верыў.

Шматлікіх нацыяналістаў сярод беларускіх студэнтаў не было. Беларуская нацыянал-сацыялістычная партыя, у якой былі Акінчыц і Казлоўскі і мо некалькі законспіраваных членаў, або сімпатыкаў, якія публічна саромеліся ў гэтым прызнацца, уплываў у БСС не мела.

Санацыйныя ўлады стварылі сваю партыю, якая выдавала часопіс «Родны край» і паклікала культурна-асветную арганізацыю — Таварыства беларускай асветы (ТБА). Уступаючы ў партыю, некаторыя дзеячы спадзяваліся, што ў яе складзе можна будзе штосьці зрабіць для беларускай справы. Аднак хутка пераканаліся, што санацыя арыентуецца на паланізацыю беларускага насельніцтва і супрацоўніцтва з ёй не стварае ўмоў нават для культурна-асветнай працы. Гурткі ТБА не змаглі атрымаць дазволу паставіць беларускую п'есу нават блізкага ім Аляхновіча. Пад канец 30-ых гадоў, калі ліквідавалася ўсё беларускае, была спынена і дзейнасць «беларускай санацыі».

Беларускія студэнты бралі ўдзел у працы грамадскіх і культурна-асветных арганізацый. А праца гэта, як і сама прыналежнасць да Студэнцкага саюза ў тагачасным палітычным становішчы, патрабавала адвагі і ахвярнасці.



Беларусы з Заходняй Беларусі — гэта сяляне, пераважна малазямельныя, і невялікая праслойка рабочых. Значныя абшары зямлі належалі польскім памешчыкам. Праблемы зямлі для сялян, працы для рабочых, асветы на роднай мове, культуры і грамадзянскіх правоў складалі патрабаванні кожнага беларуса незалежна ад яго палітычных і ідэалагічных поглядаў. Розніца была толькі адносна метадаў барацьбы. Але і найбольш памяркоўныя патрабаванні ў гэтых пытаннях прызнаваліся камуністычнымі, што павялічвала папулярнасць камуністаў, якіх самыя іх ворагі прадстаўлялі як змагароў за лепшую долю народа.

*Вінцук СКЛУБОЎСКІ*

## Забытыя факты, забытыя людзі

Спакон веку паміж беларускім, расейскім і ўкраінскім народамі ва ўсіх галінах жыцця не спынялася блізкае і плённае супрацоўніцтва. Адзін з мноства яго прыкладаў — гэта дзейнасць трох беларускіх друкароў: Івана Фёдарава (Федаровіча), Пятра Цімафеевіча Мсціслаўца і Грыня Івановіча ў другой палове XVI ст. у Маскве, Заблудаве, Львове і Астрогу.

Калі беларускае паходжанне Пятра Цімафеевіча Мсціслаўца (мянушка «Мсціславец» непахісна паказвае, што паходзіў ён з беларускага горада Мсціслаўля) і Грыня Івановіча (пра яго паходжанне з Заблудава, што на Беласточчыне, сведчаць пісьмовыя дакументы), то беларускі радавод Івана Фёдарава (Федаровіча) доўгія стагоддзі замоўчваўся, каб лісліва дагадзіць імперыяльнай пысе суседзяў. У апошнія гады беларускія гісторыкі патрыятычнага, адраджэнскага накірунку ўсё часцей выказваюцца ў карысць беларускага паходжання Івана Фёдарава. І маюць на тое падставу.

Выдатны расійскі спецыяліст у галіне геральдыкі В. К. Лукомскі ў сваім артыкуле ў зборніку «Іван Фёдараў — першадрукар» (1935) аўтарытэтна даказаў, што друкар Іван паходзіў з Беларусі. А яго мянушкі «Фёдараў» і «Федаровіч», якімі ён карыстаўся, зусім не ягонае фактычнае прозвішча, а ўсяго толькі імя па бацьку (сын Фёдара), адно ў расейскамоўнай форме, а другое — уласнабеларускае. Пры тым варта адзначыць, што мянушкай «Федаровіч» ён карыстаўся на Украіне (па-ўкраінску яна павінна гучаць — Федоренко).

Той жа Лукомскі адзначыў, што друкар Іван карыстаўся сваім родавым гербам Сьрэнява і то ў такім яго варыянце, які належаў моцна разгалінаванаму, асабліва на Міншчыне, баярскаму роду Рагозаў. Ён выказаў меркаванне, што друкар Іван або яго продкі атрымалі права на герб шляхам усынаўлення (адопцыі). Род Рагозаў належаў у XV—XVI стст. да самых выдатных на Беларусі, з яго паходзіў мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі Міхал Рагоза, якога рукапалажыў у 1589 г. патрыярх канстанцінопальскі Ерэмія. У якім

часе і за якія заслугі наступіла гэтае «ўсынаўленне», сёння цяжка сцвердзіць. Ва ўсякім выпадку нельга адкінуць і такой магчымасці, што праўдападобна адбылося тое ў выніку вельмі важкіх заслугаў родзіча Івана падчас абароны Мсціслаўля ў 1507 г. ад маскоўскіх палкоў.

У карысць таго, што друкар Іван герба Сьрэнява паходзіў з Мсціслаўля, гаворыць і тое, што другі беларускі друкар Пётр Цімафееў (значыць: сын Цімафея) Мсціславец (інакш: родам з горада Мсціслаўля), а не хто іншы (хаця друкароў у тагачаснай Маскве было некалькі, наладзіў лучнасць са сваім земляком, тады яшчэ дыяканам царквы святога Міколы Густынскага і па загаду і на сродкі самога цара Івана Жахлівага каля 1563 г. разам пачаў у Маскве працу над друкаваннем «Апостала».

Няхай не зводзіць нас у зман «расейскае» ці «маскоўскае» гучанне мянушкі «Фёдоров». Вядомы беларускі антрапаніміст, які быў членам Беларускай Акадэміі навук, праф. М.В. Бірыла ў сваёй працы «Беларуская антрапанімія» (1966) падае надта ж багаты фактаалагічны матэрыял пра розныя формы імёнаў «Фёдар» і «Тэодар» на беларускіх землях у XII—XVIII стст. і сцвярджае, што ад іх паходзіць аж 51 форма сучасных беларускіх прозвішчаў, а на першым месцы па пашыранасці стаіць менавіта «Фёдараў».

Маюць пэўную вартасць і адкрыцці другога беларускага вучонага Л.С. Абэцэдарскага, які ў сваёй працы «Белорусы в Москве XVII в.» (1957) называе сярод многіх рамеснікаў, што паходзілі з Беларусі і пасяліліся на стала або часова ў Маскве і выконвалі царскія даручэнні, трох Фёдаравых; Фёдараў Андрэй — сталяр з Оршы, Фёдараў Пётр — ювелір з Магілёва і Фёдараў Фока — таксама сталяр (месца паходжання не пададзена). Цікава, што ў гэтым пераліку апынуўся таксама «Іваноў Сцяпан» — цэніннік (майстар па вырабу мастацкіх кафляў) з Мсціслаўля.

Варта таксама браць пад увагу і тое, што толькі ў XVI—XVII стст. ва Усходняй Еўропе ўсталёўваецца ўжыванне прозвішчаў сярод сярэдніх і ніжэйшых пластоў грамадства. Даволі зазірнуць у багатыя разнастайнымі рэгістрамі і спіскамі з XVI—XVII стст. зборы Галоўнага архіва старажытных актаў (AGAD) у Варшаве, якія датычацца, напрыклад, Падляшша, каб самастойна прасачыць працэс, як у той ці іншай мясцовасці (напр., у в. Чыжы, Гнілая, м. Мельнік і інш.) хросныя імёны продкаў на працягу некалькіх дзесяцігоддзяўператвараюцца ў трывалыя, афіцыйныя прозвішчы, часцей за ўсё яны там захаваліся і ўжываюцца і ў наш час.

Той жа Лукомскі сцвярджае, што друкар Іван мянушку «москвитин» (г. зн. «масквіч») ужывае толькі ў тых выпадках: калі піша пра сваю друкарскую дзейнасць («друкарь Москвитин»), а не ў значэнні свайго месца нараджэння.

Выдатны знаўца мінулага друкарства ва Усходняй Славяншчыне Я.Л. Неміроўскі ў архівах Ягелонскага універсітэта ў Кракаве знайшоў дакумент, які пацвярджае, што ў 1533 г. гэтую вышэйшую школу закончыў са ступенню бакалаўра (па-сённяшняму — магістра) нейкі «Іван сын Фёдара з Пятковічаў». Некалькі мясцовасцей з такою назвай гэты вучоны знайшоў на Міншчыне, якраз там, адкуль паходзілі баярскія роды Рагозаў герба Сьрэнява. На гэтай падставе Неміроўскі мяркуе, што той бакалаўр Іван сын Фёдара — гэта пазней друкар Іван Фёдараў. Адразу хацелася б успляснуць у далоні ды ўхваліць цудоўнейшае адкрыццё. Аднак, задумаўшыся і памеркаваўшы, пачынаюць узнікаць пытанні і сумненні. Чаму ж гэта друкар Іван нідзе не згадвае пра сваю вучобу ў Кракаве? Ці толькі таму, што выхаванец «лацінскага» універсітэта не меў магчымасці або былі ў яго вялікія цяжкасці з доступам да пасвячэння ў духоўны сан у тагачаснай, надзвычай старанна дбаючай пра чысціню веры праваслаўнай, пра благачэсце, Маскве? Чаму ў такім выпадку не раскрыў свае таямніцы ў Заблудаве ці Львове, дзе яна прынесла б яму славу і аўтарытэт? Або ў Астрогу, у якім у Астрожскай акадэміі выкладаў прафесар Кракаўскага універсітэта католік Ян Лятос? У абарону меркаванняў Неміроўскага, праўда, існуе важкі аргумент: друкара Івана падчас яго працы ў Маскве западозрылі ў нечыстаце яго веры, прапагандзе заходніх ідэй і дзеянняў, амаль што ў ерасі, і таму ён з Пятром Мсціслаўцам мусіў уцякаць на захад. Магчыма, што пад гэтымі закідамі скрываліся звесткі пра яго вучобу ў «лацінскім» універсітэце. Пазней, працуючы ў праваслаўным асяроддзі і ў карысць праваслаўя, ён не жадаў афішаваць сваёй «лацінскай» адукацыі, таму і не згадваў пра яе, каб часам не шкодзіць самому сабе і сваёй дзейнасці.

Задума займець уласную друкарню ўзнікла ў браціі Супрасльскага манастыра (заснаваны Аляксандрам Хадкевічам у 1498 г. спачатку ў Гарадку, затым па яго дазволу манастыр перасяліўся ў 1500 г. ва ўрочышча Сухі Груд над ракою Супраслю ў Блудаўскай пушчы, на сумежжы яе з Крынецкай пушчай) вельмі рана. Відаць, яшчэ пры архімандрыце Сергіі Кімбары (выбраны архімандрыт у 1532 г.), пры якім Супрасльскі манастыр дасягнуў найбольшага росквіту. Няйнакш, як па яго ініцыятыве і просьбе апякун-ктітар манастыра Рыгор Аляксандравіч Хадкевіч высылае ў 1561 г. манаха Іаакіма — Ісаію Камянчаніна (мянушка паказвае, што ён паходзіў з мястэчка Камянец на паўднёва-ўсходняй ускраіне Белавежскай пушчы) у Маскву «с листом да и с почтенными радами со златом и бисером и предражайшими камками ко благовернейшему христианскому государю князю Ивану Васильевичу всея Руси», — як паведамляюць дакументы. А гэта дзеля здабыцця адпаведных рукапісаў Святога Пісання, каб затым іх «в нашем государстве христианском русском Великом княжестве Литовском выдати тиснением печатным нашему народу христианскому русскому Литовскому, да и русскому московскому, да и повсюду всем православным христианам иже в Болгарех, и в Сербех, в Мыльтя-





© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

 

нех и Волосех», — як гаварылася ў лісце гетмана Рыгора Хадкевіча, які ўручыў Камянчанін цару Івану IV Васільевічу.

Лёс для пасла закончыўся трагічна, бо а. Іаакіма — Ісаію западозрылі ў адступніцтве ад праваслаўя і пасадзілі ў манастырскі астрог у Растове і невядома, што з ім потым сталася.

Усё ж чуткі пра задуму гетмана Р. Хадкевіча і архімандрыта С. Кімбара дайшлі, відаць, да Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца. І калі пасля выдання «Апостала» (1564) і «Часоўніка» (1565) яны былі вымушаны пакінуць Маскву, то падаліся не куды-небудзь, але якраз у Старабеларускую дзяржаву (Вялікае княства Літоўскае), да гетмана Р. Хадкевіча ў Заблудаў.

Чаму ў Заблудаў, а не ў Супрасльскі манастыр? Таму, што ў Супраслі пасля смерці С. Кімбара (1565) манастыр узначаліў архімандрыт Ціхан. У гэты перыяд «устава и обычай в некоторых... (справах. — *М.Г.*) не выполнялися и многое нестроение было вчинилося», — так матывавалі ўвядзенне ў 1568 г. новага «Устава» ў манастыры яго апекуны Рыгор і Юры Хадкевічы. Відаць, тое «нестроение» сярод манаскай брацііі сапраўды было вялікае, калі ва «Уставе» неабходна было аж у 40 артыкулах даваць падрабязныя ўказанні ў розных справах манастырскага жыцця. Нават пра кнігазбор, між іншым, чытаем: «книги церковныя в позычки не мают быти даваны, а которыя роспожичаны, тыя абы все были собраны и знову мают быти зреестрованы». Магчыма, былі яшчэ і іншыя прычыны, што Іван Фёдараў і Пятро Мсціславец не заснавалі свае друкарні ў Супраслі, але ў суседнім Заблудаве — родавай сядзібе гетмана Р. Хадкевіча. Аднак няма сумнення, што друкары карысталіся не толькі багацейшым супрасльскім кнігазборам, але і дапамагала ім у працы супрасльская манаская брацція. Менавіта дзякуючы яе плённай дапамозе друкары, пачаўшы 8 ліпеня 1568 г. друкаванне «Евангелия учительного», змаглі закончыць працу над ім ужо 17 сакавіка 1569 г. (болей за 50 друкарскіх аркушаў у фаліянце), а пачатае 26 верасня 1569 г. друкаванне «Псалтыри з Часословцем» было закончана 23 сакавіка 1570 г. Невядома з-за чаго дарогі Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца нечакана разышліся яшчэ перад выхадам у свет гэтай кнігі. Неразлучныя дагэтуль сябры дзеляць паміж сабою абсталяванне друкарні і іншую ўбогую маёмасць, і Пётр Мсціславец падаецца ў Вільню, а Іван Фёдараў заканчвае працу над кнігай і застаецца яшчэ на некалькі гадоў у Заблудаве.

Магчыма, што Пятра Мсціслаўца спакусілі нейкімі вельмі заманлівымі абяцанкамі віленскія праваслаўныя мяшчане Кузьма і Лукаш Мамонічы, забяспечыўшы яго сродкамі на заснаванне друкарні ў Вільні. З гэтай друкарні ўжо каля 1574 г. выйшаў «Часовник», у 1575 г. — «Евангелие», а ў наступным годзе — «Псалтырь», пасля гэтага друкар Пётр адсудзіў частку абсталявання друкарні і раптоўна след па ім знікае. Віленскія выданні П. Мсціслаўца па мастацкім узроўні былі дасканалымі, непе-















Ініцыялы з заблудаўскага выдання «Евангелие учительное» 1569 г.



 

раўзыдзенымі для тых часоў, «выданні Мсціслаўца ўражваюць сваёй раскошай — ніколі яшчэ пасля Скарыны беларускія стараддрукі не вылучаліся такой дасканаласцю», — піша знаўца гісторыі мастацтва беларускай кнігі В.Ф. Шматаў і дадае, што друкар стварыў свой адметны стыль, сваю «школу», пад уздзеяннем якой цэлае стагоддзе знаходзілася беларускае, украінскае і польскае кнігадрукаванне.

Таму нас не перастае інтрыгаваць таямніца знікнення гэтага выдатнага прадстаўніка беларускага Адраджэння. Прамень святла на гэтую справу кідае тое, што ў XVII ст. у адным з перапісаў маёмасці Супрасльскай лаўры ўспамінаецца пра нейкі загадкавы збор шрыфту «заблудаўскага крою», які доўгі час захоўваўся ў манастырскай кладоўцы. Ці часам не быў гэта след побыту тут Пятра Мсціслаўца? Мог жа ён атрыманую ў выніку падзелу з І. Фёдаравым частку абсталявання заблудаўскай друкарні перавезці да Мамонічаў у Вільню, а пасля суда з імі забраць яе ў Супрасль з намерам заснаваць тут друкарню. Мо на схіле жыцця, стомлены працай і сталымі няўдачамі, тут шукаў прытулку, каб дажыць сваіх дзён у зацішшы манастырскай келлі, і прывёз з сабой самае дарагое яго сэрцу — камплект шрыфту, адзіны набытак за ўсё доўгае, працавітае і запісанае выдатнымі здзяйсненнямі жыцця таленавітага майстра друкарскай справы?

Аднак трэба адразу засцерагчыся, што не гэты шрыфт «заблудаўскага крою» даў пачатак супрасльскай друкарні, якая пачала сваю дзейнасць у 1695 г., праз 125 гадоў ад часу спынення працы заблудаўскай друкарні. Пачаткі супрасльскай друкарні зыходзяць да друкарні Мамонічаў, якая і пасля адыходу з яе П. Мсціслаўца, праз некалькі гадоў узнавіла сваю дзейнасць — і то дзякуючы заблудавяніну Грыню Івановічу.

Мы ж вернемся ў Заблудаў, калі там яшчэ кіпела супольная друкарская праца І. Фёдарава, П. Мсціслаўца і манахаў Супрасльскага манастыра. Менавіта тады да друкароў далучыўся ў памочнікі мясцовы юнак Грынь (Рыгор) Івановіч. Відаць, быў ён родзічам, а мо нават сынам таго Івановіча, які ў 1520 г. перапісаў «Супрасльскі летапіс» і ў подпісе падаў: «Рукоделие многогрешного раба Божиего Григория Ивановича, Богу в честь и во славу во векы. Аминь». Грынь таксама валодаў немалой як на тыя часы адукацыяй. У друкароў здабыў прызнанне не толькі сваімі ведамі, але і талентам у выяўленчым мастацтве, а таксама саліднасцю і працавітасцю. Ужо ў Заблудаве І. Фёдараў даручыў яму выканаць гравюры герба Хадкевіча і цара Давіда ў «Псалтыры». Пасля выхаду гэтай кнігі ў друкара і яго маладога памочніка насталі цяжкія часы, бо хаця іхні апякун Р. Хадкевіч і абяцаў у прадмове да «Апостала»: «Я такоже и впред працы и накладу моего жаловати не буду и другыя книги... друковати дам». Аднак свайго абяцання не здзейсніў, бо, як піша сам друкар, «...егда же приити ему в глубоку старость и начасте, главе его болезнею одержиме бывати, повеле нам работания сего престати и художьство рук нашия



нивочтоже положити». Урэшце запрапанаваў І. Фёдараву нейкую прыбытковую пасаду ў сваіх аграмадных зямельных маёмасцях. Друкар, як сам потым пісаў, адмовіўся прыняць прапанову, кажучы: «Не удобно ми бе ралом ни же семен сеянием время живота своего ськращати, но имам убо вьместо рала художьство наручных дел сьсуды, вьместо же житных семен духовныя семена по вселенней разсевати». Усё ж І. Фёдараў са сваім памочнікам заставаліся ў Заблудаве. Аднак у 1572 г. па Падляшшы і суседніх землях прайшла эпідэмія, ці, як тады казалі, «маравое паветра», падчас якога вымірае не толькі амаль увесь Супрасльскі манастыр, два яго чарговыя архімандрыты Іаахім і Рыгор, а 7 чэрвеня памірае ў Кнышыне кароль Зыгмунт Аўгуст, але таксама 12 лістапада таго ж года памірае і сам гетман Рыгор Хадкевіч. У такім становішчы заставацца ў Заблудаве не было чаго, і друкар са сваім памочнікам падаліся ў далёкі Львоў, з аднаго боку шукаючы занятку для «художьства рук» сваіх у сеянні «семен духовных», а з другога — уцякаючы ад смяротнае пошасці. Прыбылі яны ў Львоў на пераломе 1572 і 1573 гадоў. Там І. Фёдараў на свой кошт накіраваў Г. Івановіча да майстра гравёрскай справы Лаўрэна Філіповіча на дасканаленне яго майстэрства ў жывапісе, сталярстве, разьбе па дрэву, выразанню са сталі літар і іншых рэчаў, а таксама друкарскай справе, — гаворыцца ў дакуменце. У тым жа часе яны заснoўваюць у Львове першую на ўкраінскіх землях друкарню і ў 1574 г. выдаюць у ёй першую на Украіне друкаваную кнігу «Апостал» з гравюрамі Г. Івановіча, у тым жа годзе выдаюць таксама «Азбуку» — першы на ўсходнеславянскіх землях друкаваны падручнік царкоўнаславянскае мовы з практыкаваннямі.

Усе гэтыя, заблудаўскія і львоўскія, здзяйсненні «художьства рук» беларускіх друкароў не засталіся незаўважанымі выдатным дзяржаўным дзеячам і абаронцам праваслаўя князем Васілём-Канстанцінам Астрожскім. Ён сабраў у сваёй родавай сядзібе — Астрогу на Валыні значны гурток выдатных вучоных з розных краін (Грэцыі, Егіпта, Балгарыі, Сербіі, Польшчы, і перш за ўсё з Вялікага княства Літоўскага) і заснаваў там славутую Астрожскую Акадэмію. Гэтая навучальная ўстанова выхавала сотні грунтоўна адукаваных да душпастырскай і культурнай дзейнасці праваслаўных духоўных і актыўных свецкіх дзеячаў, між іншым, будучага абаронцу праваслаўя, слаўнага гетмана Пятра Сагайдачнага. За прыкладам князя Астрожскага школы вышэйшай ступені заснавалі іншыя праваслаўныя магнаты, іерархі Праваслаўнае царквы, праваслаўныя брацтвы. Гэта былі часы гераічнага змагання народаў Усходняй Славяншчыны супраць акаталічвання і паланізацыі. Барацьба ішла на розных франтах, асабліва ж небяспечнае было наступленне езуіцкага ордэна на праваслаўную веру.

Абаронцам праваслаўя ў іх змаганні з праціўнікамі найболей дакучаў недахоп выданняў Святога Пісання, асабліва тэкстаў, ачышчаных ад усялякіх скажэнняў і пазнейшых напластаванняў. Праўда, у гадах 1517—1519 першы беларускі друкар Георгій

(Францыск) Скарына выдаў на старабеларускай мове, мабыць, усе кнігі Бібліі (да нас дайшла толькі частка іх), але ўжо ў другой палове XVI ст. гэтае выданне было вялікай, цяжка даступнай рэдкасцю. Спачатку таксама князь Астрожскі намерваўся выдаць Біблію на тагачаснай украінскай мове. Аднак пад уздзеяннем князя Андрэя Курбскага, знаўцы Святога Пісання і таленавітага палеміста, які ўцёк у 1564 г. з Масквы, баючыся расправы Івана Жахлівага над ім, ён пасяліўся ў Мілевічах каля Ковеля на Валыні. Астрожскі вырашыў выдаць Святое Пісанне на царкоўнаславянскай мове, каб ім магла карыстацца ўся Усходняя Славяншчына.

Самыя вялікія цяжкасці былі са здабыццём, супастаўленнем і адрэдагаваннем тэкстаў. У тагачасных біблiёлагаў найбольшым аўтарытэтам карыстаўся гэтак званы Генадзіеўскі спіс Бібліі, які быў зроблены ў гадах 1489—1499 па змове архіепіскапа Ноўгарадскага Генадзія. Пераадольваючы неймаверныя перашкоды, Астрожскі гэты спіс у палове 70-ых гадоў атрымаў ад самога цара Івана Жахлівага. Аднак пры непасрэдным знаёмстве са спісам сабраныя ў Астрогу вучоныя сцвердзілі, што ён не змяшчае ў сабе ўсяго Святога Пісання ды не пазбаўлены памылак. Таму пачаліся пошукі і збіранне разнастайных спісаў амаль з усяе тэрыторыі, дзе толькі карысталіся Святым Пісаннем на царкоўнаславянскай мове, у тым ліку і кніг Бібліі Г. Скарыны. Звярнуліся таксама і да грэчаскага тэксту, гэтак званага «72-х перакладчыкаў», нават праштудзіравалі лацінскую Вульгату. Пасля доўгіх і пранiклівых разважанняў астрожскія біблiёлагі рашылі ў аснову новага выдання Бібліі пакласці царкоўнаславянскі пераклад з грэчаскага тэксту, дапаўняючы яго самымі верагоднымі іншымі спісамі.

Лягчэй пайшла справа з друкам. Проста: князь Астрожскі запрасіў са Львова абодвух беларускіх друкароў у Астрог і даручыў ім заснаваць там друкарню. Пакуль біблiёлагі канчаткова справіліся з падрыхтоўкай тэкстаў Бібліі, друкары не толькі абсталявалі ў Астрозе друкарню, але Г. Івановіч падрыхтаваў шрыфт і графічнае аздабленне, а І. Фёдараў (Федаровіч) склаў і выдрукаваў «Азбуку» (1578) з дадаткам грэчаскага алфавіту і грэчаска-старaславянскіх тэкстаў для практыкаванняў, а таксама «Псалтырь с Новым Заветом» (1580). Абодва выданні былі вельмі карыснымі ў дзейнасці Праваслаўнае Царквы і адначасна сталі вельмі ўдалым «выпрабаваннем друкарскага варштату» перад працай над славутай «Астрожскай Бібліяй» (1580—1582). Выдатны гэты твор стаўся міжнароднаму калектыву астрожскіх біблiёлагаў, абодвум беларускім друкарам, а таксама князю Васілю-Канстанціну Астрожскаму самым вялікім здзяйсненнем іхняга жыцця, асабліва ж для таленавітага мастака-гравёра Грыня Івановіча з Заблудава. Гэта ж з ягоных рук сышлі элегантны шрыфт, які адразу набыў сусветную славу «біблійнага астрожскага шрыфту», густоўныя багатыя графікі. «Астрожская Біблія» (628 лістоў у фальянце) стаў побач са скарынаўскімі выданнямі адным з самых выдатных дасягненняў



друкарскага майстэрства на Славяншчыне і наогул у Еўропе. І нямногім перабольшвалі яе стваральнікі, калі гаварылі, што гэта «рэчы не зямныя, але дар Неба». Доўгія стагоддзі гэты твор належаў да тых каштоўнейшых выданняў, якія былі непераўзыдзеным узорам і прыкладам для ўсіх царкоўнаславянскіх і іншых выданняў Святога Пісання.

Аднак найвялікшую і найважнейшую місію здзейсніла «Астрожская Біблія» ў самыя цяжкія для праваслаўных і іх Царквы часы перад і пасля Берасцейскай уніі 1596 года. Таму што яна сталася самай аўтарытэтнай падставай і дзейснай зброяй у абароне праваслаўя духоўнымі і свецкімі пісьменнікамі і рытарамі, а разам з іншымі выданнямі з Заблудава, Львова і Астрога, пра якія ўжо гаварылася ў гэтым артыкуле, была надзейнай падтрымкай для шырокіх мас праваслаўных. І гэтая слава твора «художьства рук» Грыня Івановіча заахвоціла Мамонічаў запрасіць яго ў Вільню дзеля пуску ў рух іхняй друкарні, якая пасля адыходу з яе П. Мсціслаўца 6 гадоў не дзейнічала. Хаця Грынь Івановіч і абавязаўся І. Фёдараву за ягоныя выдаткі на адукацыю ў Л. Філіповіча «без волі і парады» свайго «дабрадзея» нікому не нарыхтоўваць літар і не абсталёўваць друкарнь, усё ж рашыўся паехаць у сталіцу Вялікага княства Літоўскага. На парушэнне дамоўленасці з І. Фёдаравым схіліла Г. Івановіча не толькі, відаць, спакуслівая заплата, але таксама жаданне паспрыяць развіццю і пашырэнню друкарства як спосабу павышэння ўзроўню культуры, ды ахвота майстра паказаць у сталіцы дзяржавы свае ўменне і талент. Выезду паспрыяла тое, што І. Фёдараў з невядомых прычынаў у 1582 г. таксама пакінуў Астрог і вярнуўся ў Львоў. Г. Івановіч выехаў з Астрога ці Львова ў пачатку 1582 г. і прабыў у Вільні роўна год, бо 26 лютага 1583 г. ён быў ужо ў Львове. За гэты кароткі час таленавіты і працавіты заблудавянін здолеў нарыхтаваць два камплекты арыгінальных курсіўных шрыфтоў, якія друк упадаблялі да ручнога выразнага курсіўнага почырку. Такім надзвычай далікатным шрыфтам быў надрукаваны ў друкарні Мамонічаў «Зборнік», а затым «Трыбунал Вялікага княства Літоўскага» (1586) і славуты «Статут Вялікага княства Літоўскага» (1588). Апрача таго, Івановіч пусціў у рух друкарню Мамонічаў і прывучыў новых людзей яе абслугоўванню і наогул друкарскаму рамяству. Вярнуўшыся ў Львоў, ён пагадзіўся з І. Фёдаравым, і далей яны заключылі дамоўленасць, паводле якой у выдавецкіх справах выступалі на роўных правах. У тым жа часе заблудаўскі гравёр абавязаўся нарыхтаваць новыя шрыфты для друкарні, якую яны з І. Фёдаравым збіраліся абсталяваць у Львове.

Аднак сродкаў на друкарню неставала, І. Фёдараў дзеля іх здабыцця заняўся адліваннем гарматаў, нават вынайшаў мнагаствольную марціру, наведаў Кракаў і Вену. У канцы 1583 г. вярнуўся ў Львоў і тут нечакана памёр. Пахаваны ён у Свята-Ануфрыеўскім манастыры (у 1977 г. у ім адкрылі Музей Івана Фёдарава).

Які быў далейшы шлях Г. Івановіча пасля смерці І. Фёдарава і

дзе ён закончыўся, цяжка меркаваць па ўскосных фактах, бо дагэтуль ніякія дакументы пра гэта не знойдзены. Пэўна толькі тое, што «художьство рук» яго яшчэ доўгія дзесяцігоддзі жыло ў дзейнасці абедзвюх друкарняў: Астрожская працавала да 1612 г., а Мамонічаў — да 1623 г. Плёнам іхнім было каля сотні назваў кніг, выдадзеных з выкарыстаннем шрыфтоў і гравюр, падрыхтаваных Грынем Івановічам. Не выключана мажлівасць, што ў адну з друкарняў ён вярнуўся са Львова, але цяжка прымеркаваць у якую, бо ў адной і другой да канца іх існавання з'яўляліся выданні, што мелі ў сабе выразныя прыкметы (шрыфт, гравюры) яго працы. Магла гэта быць друкарня ў Астрогу, якая выпускала творы найбольш трапна баронячыя праваслаўе і выступаючыя супраць уніі і каталіцызму, а гэта якраз і было прыкметай усіх папярэдніх выданняў, над якімі працаваў Грынь Івановіч. Гэтак з Астрожскай друкарні выйшаў «Апакрысіс або водпаведзь» (1597—1598) Хрыстафора Філалета на кнігу «Апісанне і абарона сабору рускага берасцейскага» (1597) заядлага ворага праваслаўя Пятра Скаргі. У «Апакрысісе» Філалет абараняе Праваслаўную Царкву і даказвае, што унія — гэта злачынны акт. Аўтар папярэджвае, што насаджэнне уніі можа давесці да ўнутранай грамадзянскай вайны, якая «межи всели злыми речами на свете есть наигоршею», бо азначае братазабойчую разню, зніштажэнні, здзічэнне, што, як вядома, і вылілася ў 1648—1655 гадах у вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў пад кіраўніцтвам Б. Хмяльніцкага. Філалет звяртаецца да каталіцкіх і уніяцкіх дзяржаўных і касцельных дзеячаў, каб яны ўсвядомілі сабе цяжкае становішча супольнае айчыны, Рэчыпаспалітай, і змянілі свае адносіны да праваслаўных, бо неабходны еднасць і згода ўсяго грамадства для яго сілы перад знешнімі ворагамі. З тае ж друкарні выйшлі ў свет адметныя сваімі важкімі доказамі і знакамітыя літаратурным майстэрствам трактат «История... о разбойническом, ферарском або флофенском синоде» (1598) (на гэтым саборы было аб'яўлена прымусовае далучэнне Праваслаўнае Царквы да Каталіцкага Касцёла) і два лісты, «водпісы» уніяцкаму мітрапаліту Іпацію Пацею, які па-зверску праследаваў праваслаўных, невядомага па фактычнаму імю і прозвішчу Астрожскага Клірыка. У гэтых творах аўтар раскрывае захопніцкія намаганні папы рымскага, дае таксама дасціпныя адказы на прагандысцкія пасланні І. Пацея. У Астрожскай друкарні таксама была складзена кніжачка нейкага свяшчэнніка Васілія «О единой правдивой вере православной», яна моцна падтрымлівала праваслаўных на духу на ўкраінскіх і беларускіх землях.

У артыкуле мы звярнулі ўвагу толькі на трох беларускіх дзеячаў другой паловы XVI — пачатку XVII ст. А падобныя да іх людзі — беларусы, рускія, украінцы — сваімі выдатнымі здзяйсненнямі запісалі багацейшую гісторыю суадносін паміж трыма ўсходнеславянскімі народамі. Варта пра гэта ведаць, асабліва ў сённяшні час падзелаў і ўзаемных прэтэнзій.

*Мікола ГАЙДУК*



# ЛІТАРАТУРНАЯ ЧАСТКА

*Алесь БАРСКІ*

## ВЕРШ

Ты мой, непадзельны,
Як бацька,
Як сын.
Дык і крытык далоў,
І апекун далоў!
Плевакоў не сцярплю ў сваю кроў,
І апекі над вершам сваім не сцярплю!
Калі б нават лёс
Схацеў скрэсліць радок
Срэбрам маланкі,
Ці зграяю хмар-ваўчанят
Злізаць вастрыё ў паэзіі,
Не дазволю,
Не дам,
Не змяню
Ні радка,
Ні страфы,
Ні метафар.
Прэч, дыктатар!
Я тут сам адвакат,
Пракурор і суддзя.
Я кахаю, як Бог,
І, як чорт, ненавіджу.
Верш мне грудзі прабіў,
Ён мне з сэрца тырчыць,
Як Эйфлева вежа з Парыжа.
Мне ўсё роўна:
Ці крытык з анельскім пяром,
Ці з паліцэйскай дубінай.

Так ці сяк,
Не дам сына!
Я яго нарадзіў
Пад сэрца дыктат,
І мая ў тым воля,
Ці жыць будзе, ці не,
Ці ён пойдзе ў свет,
Ці ў кошык са смеццем.
І ніхто ў цэлым свеце
Не мае права сказаць:
Перайнач,
Дастасуй,
Упрыгож!
Не зманю пад загад,
Не зманю і пад трунак —
Калі сільныя схочуць,
Магу замаўчаць.
Вось варунак:
Хай адкормлены гад
Пратне ў сэрцы маім
Струны.

### ІСЛАЧАНСКІЯ ЗАДУМЕННІ

Пад лесам
Спатыкнуўся дзень,
І вечар
Абхваціў яго рукамі,
Выйшаў з гушчараў
Хмурны цень
І прывязаў да шыі
Камень.
У рэчку злосна
Баўтануў
І абтрапаў далоні,
Свет багабойзна ўздыхнуў
Сонны.
А мне сягоння
Не да сну,
Рукой кранаю вецце,
Успомніў раннюю вясну
І белавежскі вецер.
Як добра,
Калі ў цябе ёсць
Свой дом
І свае мары,



Тады ты гаспадар,
Не госць
Нааграмадным шары.
Як добра,
Калі з тысяч моў
Твая
На месцы першым
І калі можаш
Сваю кроў
Аддаць айчынным вершам.

* * *

Зрабілася мне сумна
І маркотна,
Бо дзень прайшоў
Так неяк дзіўна.
Стог ёлкі
Прыбядняецца гаротна,
Прыбіты да зямлі
Жніўнёвым ліўнем.
Ды гэты
Мае сумныя настроі
Хутчэй за ўсё тэатрам,
Не сапраўдным станам,
Ой, не адзін з нас прагне
Вечным быць героем
У антрацытах гартаваным.
А мне ўсё мроіцца
Святыня баравая,
Дзе кожны клён
І алтаром, і одай.
Няхай жыве,
Ніколі не канае
На лес,
На пушчу,
На дуброву мода.
Стаю пад цёплым
Небам іслачанскім
І паднябесных
Ліхтароў чакаю.
Я ад вякоў быў
Парастком сялянскім
У Белавежскім краі.

* * *

Песня атавы
Маё сэрца лечыць
З-над Нарвы — той
І Іслачанскай — гэтай.
Апошні промень
Мне паўзе на плечы,
І сумна мне,
Што блізка канец лета.
Хаця і восень
Мне не раз шаптала
Такія рыфмы,
Што аж міла,
І шчодраю рукой давала
Маёй паэзіі
Настрой і сілу.
Стаю над рэчкаю
І слухаю маленні
Адвечных пацераў
Вады нястомнай.
Каб толькі творчае гарэнне
Не стала на зямлі
Бяздомным.
Люблю лугі зялёныя,
Духмянасць
Паўзе па беразе
Ад соннае атавы.
Мне лепш тут батраком,
Чым на чужыне панам,
Служыць айчыннай справе.

* * *

Маё каханне да зямлі
Высакародней,
Чымсьці каханне да жанчыны,
Бо ад зямлі не прагну я
Інтымнай дані.
О, колькі ж вырадкаў
Сярод сыноў
Маёй краіны,
Якія здрадніцтвам яе
Паганяць.
Як лёгка ім плюецца
На айчынныя магілы,



Як лёгка мову родную
Яны частуюць ранай!
Хто сэрца выдраў ім,
Якой магічнай сілай?
І ў грудзі памясціў
Халодны камень?!
О, колькі трэба доўгіх
І ўпартых сутак,
Адкрытых і закрытых
Горычных сеансаў,
Каб з мовы зняць
Нявольніцкія путы
І даць пачатак Рэнесансу!

* * *

Пабачыў я бусла
У краі Іслачанскім.
Здавалася б, банальны
На лугах абразак,
Але ў маёй душы,
Лірычнай і сялянскай,
Усплыў настрой журбы
За белавежскім вязам.
Здаецца сёння мне,
Што я таксама птахам
Ў зялёным краі ўзгадаваным,
І перажыў не раз
Жыццёвыя я крахі
І без віны быў пакараны.
Зялёны родны край!
Усё ў табе маё,
Жывеш з адкрытаю душою,
Але чаму кахаеш
Меней ты сваё,
Чымсьці чужое?

* * *

Ты, Ісланчанскі край,
Красаў з мяне агонь
Надзвычай эфектыўна.
І не зглуміў яго,
Не пагасіў яго
Ні рэчкаю,

Ні ліўнем.
Дабавіў сіл ты мне
І творча ўзбагаціў,
І нашаптаў матываў,
А я іх, як умеў,
У вершы пераліў,
Шчаслівы.

* * *

Цяжар сялянскіх рук,
Ты выявіўся ў зернях,
Спачатку адшумеў
У коласе зялёным.
Любоў сялянская зямлі
Даніну зноўку верне
На загоны.
Асірацелі ўжо
Жытнёвыя прасторы,
А зерне спіць у пунях,
На таках далёкіх,
Ды рэха шчэ звініць
Бурштынавага мора,
Якое тут шумела
На палях шырокіх.
І як жа радасна,
І як пры гэтым млосна
Майму сялянскаму нутру
На полі гэтым!
Ізноў паўторыцца
Раман мілосны
І пры пасевах,
І пры жніве летам.
Чаго, чаго
Я зараз тут баюся?
Гняце мяне
Загадкавасць дылемы:
Ці не забіла ў сэрцы беларуса
Любові да зямлі
Калгасная сістэма?

* * *

*Напісана ў Іслачы Валожынскага раёна*
ад 23 да 25 жніўня 1988 года



*Віктар ШВЕД*

## КВІТНЕЙ, МАЯ РАДЗІМА!

Квітней, мая радзіма,
Квітней і багацей,
Каб сталася магчымым
Тут шчасце для людзей.

Каб мы жылі спакойна
І лепей з кожным днём,
Каб больш ніколі войны
Не нішчылі наш дом.

Каб ганарыўся працай
Стваральнай наш народ,
Квітнець і красавацца
Радзіме з году ў год!

## КАБ БОЛЬШ НІКОЛІ

Унук маленькі просіць дзеда:
— Скажы мне, што гэта вайна?
Дзед адказаў: — Лепш, каб не ведаў,
Як і завецца нат яна.

Каб войнаў не было ніколі,
Каб і ўспамін пра іх кануў,
Каб і ў падручніках у школе
Больш не пісалі пра вайну.

Каб вечна ў міры, у спакоі
Пачаў урэшце жыць наш свет.
Каб чалавек ніколі з боем
Не лётаў да другіх планет.

## Я НАРАДЗІЎСЯ БЕЛАРУСАМ

Я нарадзіўся беларусам,
Беларусам буду жыць!
Мову родную вучуся
Шанаваць, цаніць, любіць.

Сваю родную старонку
Я люблю, як і бацькоў,
Што вучылі песні звонкай,
Прывівалі мне любоў:

І да мовы, да дубровы,
Да палёў і да лугоў.
І заўсёды да народу,
Што жыве тут ад вякоў.

Я клянуся: не зракуся
Сваё роднае любіць.
Быў і буду беларусам,
Пакуль толькі буду жыць!

## ПЫТАННІ І АДКАЗЫ

— Адкажыце на пытанне, дзеці:
Што найдаражэйшае на свеце?
— Народ, край, маці.

— Адкажыце на пытанне, дзеці:
Што найбагацейшае на свеце?
— Зямлі багацці.

— Адкажыце на пытанне, дзеці:
Што найвесялейшае на свеце?
— Палі, дубровы.

— Адкажыце на пытанне, дзеці:
Што найпрыгажэйшае на свеце?
— Родная мова.

## АЛЕСЯ З ПАДЛЕССЯ

Малая Алеся
Паходзіць з Падлесся,
З-пад вялікай гушчы
Белавежскай пушчы.
Яна назаўсёды
Зроднена з народам,
Святыя ёй словы
Беларускай мовы.
У долі, нядолі
Не здрадзіць ніколі
Родныя мясціны
І гонар Айчыны.



## ЗАПАВЕТ

Ты, дружа мой, запамятай:
У жыцці ніколі ў агарод,
Дзе кроўны твой жыве народ,
Каменем не кідай,
Не кідай.

Мой мілы дружа, размяркуй:
Калі са студні заўсягды
Напіцца хочаш ты вады,
У студню гэтую не плюй,
Не плюй.

Ніколі, дружа, не кажы:
«Я не люблю айчынных слоў,
Мова мая, найгоршая з моў».
Ты мовай роднай даражы,
Даражы.

Калі б ты многа меў спакус:
Нейк адцурацца ад сваіх,
Прыліпнуць недзе да другіх,
Кажы заўсёды: беларус,
Я — беларус.

## МАТУЛЯ ВУЧЫЛА СЫНА

Матуля вучыла сына:
— Кахай дарагую Айчыну!

Матуля прыгадвала словы:
— Шануй беларускую мову!

Матуля вучыла штогод:
— Любі беларускі народ!

Пакляўся сын слова стрымаць:
Любіць, шанаваць і кахаць.

Сынок, ці стрымаць ты гатовы
Матулі дадзена слова?



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

### ШАНУЙЦЕ МАЦІ, ДЗЕЦІ

Шануйце маці, дзеці,
Яна ж адна на свеце.
Кахае вельмі матка
Заўжды сваё дзіцятка.
Таму і мы павінны
Кахаць матуль няспынна.
Найбольш мы цэнім маці,
Калі яе ўжо страцім.
Няма такое крамы,
Дзе прадаюцца мамы.
Шануйце маці, дзеці,
Яна ж адна на свеце.

### КАЛЫХАНКА

Спі, засні, мая дачуся,
Хай жа прыйдзе сон.
Узняла над Беларуссю
Ноч свой парасон.

Чорную надзеўшы блузку,
Ноч пайшла ў абход.
Спіць народ наш беларускі
Пасля ўсіх турбот.

Сціхлі гукі роднай мовы,
Песенны напеў.
Сціхла ў векавых дубровах
Шапаценне дрэў.

Спіць прырода, твая матка
Пачала драмаць,
Спі, засні, маё дзіцятка,
Мусім рана ўстаць.

### НАША ПРЫРОДА

Прыроду беражы,
Прыродай даражы!
Яна ж не пад замком,
Даступна ўсё кругом.
І рэкі, і лясы,
І птушак галасы,



І сполахі звяроў,
Тваіх лясных сяброў.
І цудных кветак пах,
І ягады ў лясах,
Пад дрэвамі грыбы,
Ідзі, збірай любы!
Прыроду беражы,
Прыродай даражы!

*Юрка БАЕНА*

### АГАРОДНІКУ

Кветкі твае, як дзеці,
растуць цудоўна ў агародзе.
Вадой крынічнай ты ўсе поіш
на акуратных градках.

Сонца цалуе іх, а ветрык
сардэчнай абнімае ласкай.
Людзям яны, як песні,
няхай прыносяць славу!

Агароднік, кветкі ты заўсёды
даглядай і сцеражы, ды ведай:
Штодня ім прыглядацца трэба
глыбінёй празрыстых зрэнак.

Бо толькі як задумаешся
або адвернешся, то зараз
пустазелля хмары,
як варвары,
блакітнае закрыюць неба.

### ДРАМА Ў КАНЦЫ АКТА

Тут усё ўжо было сказана,
Усё ўжо было выслухана,
Усё прадумана,
Запісана на белай,
Як снег, паперы,
У тоўстых кнігах,
Энцыклапедыях — мэблі.

Дык вось —
    упала заслона...

Што асталося? —
  Надзея тых,
Якія ў апошнім радку стаялі...
Ці думалі? —
Слухалі, маўкліва слухалі,
І верылі, глыбока верылі,
У магутнасць верылі
Маці святой — паперы.

* * *

На дошцы шахматнай,
перасоўваючыся,
губляю дні і ночы
і гады цэлыя.

Па дарозе нястомнай,
крутой і прастой
выглядаю тэатра,
у якім здзейсню ўсе задумы.

У пагоні за часам
і зямлёй пад нагамі
пакідаю ўсё новыя тэатры.

Бо здаецца,
што заўжды ў далонях
выношу недаспелыя яблыкі...

## У НАШЫМ ДОМЕ

У нашым старым доме
Заўжды было шматлюдна:
Адны жылі ў ім на паверсе,
А мы — заўсёды ўнізе.

Аднойчы штосьці трэснула,
Нешта лопнула —
І паняслося рэха
Ад сцен,
Падлог,
Скляпенняў дома.

З той пары ўжо ў снах
Часта з'яўляюцца прывіды:



Быццам нашыя субкватаранты
З паверха,
Як з вяршыняў,
Замест па лесвіцы зыходзіць міла,
Прама ідуць
Па нашых спінах...

* * *

Аддаляўся я ад вокнаў,
  расчыненых уранні.
Ад хваляў
  жыта з валькамі.
Ад бору
  з тайнамі спрадвечнымі.
Ад песняў,
  што трымцелі ў скронях.
Ад рэха —
  яно журботна клікала...

Потым ужо быў вечар.
І ноч. І брэх сабак
Над светам.

## НЕПРЫКМЕТНЫЯ

Рашылі не пакідаць нічога,
што прыпамінала б ім даўні час.
Вынеслі ўсё пад тапор:
куфры, сталы, партрэты.

Вецер стукоча аканіцамі душ.
Зелле сцяною закрывае вочы.

Непрыкметныя, з тэатральным «л»,
маюць да адыграння яшчэ
(свядома, або і не)
некалькі галоўных,
вельмі важных,
канкрэтных неназваных роляў —
камічных?
драматычных?
якіх?

## САМОТНАСЦЬ

Сяджу я за сталом
І стомленым зрокам
Гляджу ў аконца.

А там па дарозе
Імчыцца белая конніца
Мінулых стагоддзяў.

Раптам бачу: усе ездакі
Спынілі каней, ідуць
Будучыні насустрач.

Ох, што я скажу?
Што я скажу
Ім на прывітанне?

* * *

У вёсцы маіх прадзедаў
Нехта мяне вітае,
Аглядае дзівосным зрокам.
Нехта ўсміхаецца,
Абдымае рукамі жывымі
Або з-за свету.

І кожны тады пытае,
Ці ведаю, хто я.

Слухаю імёны і прозвішчы
Незнаёмых дзядоў і бабуляў.
Прыглядаюся тварам,
Шукаючы падабенстваў сваіх
І сяброў з дзяцінства.

А ці помніць хто-небудзь,
Пытаю,
Майго прадзеда Юзьвюка Васілія.

Я тут, —
Здалёку крычыць жаўнер,
Засыпаны ў траншэі.



## ВОСЕНЬ

Трыццаць гадоў таму назад
наша вёска
танула ў мелодыях песняў...
Пятнаццаць гадоў таму назад
у кожнай хаце
раіліся мары...
Сёння — ціша...
Або глухі шум ветру.
Восень жоўтай лістотай
упрыгожвае сцежкі.
Мары ў магілах,
У марах — часцінкі сэрцаў.

Мы, маладыя беларусы,
ідзём наперад.
Пад нагамі залатыя лісты памяці
шалясцяць несціханай просьбай.

## ВЫРАТАВАННЕ РОДНАЙ МОВЫ

Выратаваць мову бацькоў —
гэта значыць: засланіць яе грудзьмі і тварам
ад замеці, пажараў,
паводкі і бур'янаў...

Гэта значыць: адчыніць ёй дзверы
у кожны новы дом,
кожны пакой, салон,
вялікія, як сэрцы.

Выратаванне мовы —
гэта прага, каб паслухаць,
як словы родныя, пявучыя
жывуць,
красуюцца на вуснах сына
і ў мудрых гутарках унукаў.

## У АБАРОНЕ МІРУ

Ніхто ніколі не заплача,
калі ўжо спеў людскі пагасне
нібы зара апошняя
ў папялішчы свету.

Але я веру,
што дзень такі не прыйдзе,
бо людзі добрай волі
з кожным днём мацней яднаюцца
у абароне міру,
а іх шарэнгі, эстафеты
даўжэюць і растуць у сілу.

Каб дом наш чалавечы
мы будаваць маглі супольна
для шчасця ўсіх,
хто ёсць на той планеце,
у радасці
і ў песнях.

Дзякуючы і мне таксама
светласць ясная з вяршыняў
на гоні родныя лажыцца
і так, як цёплы горны вецер,

снягі і холад паглынае
у канцы зімы
і напрадвесні.

### ЭДЭЛЬВЕЙС

Эдэльвейс, як зорка, павіснуў у небе:
З аднаго боку граніт, з другога — прорва,
А гарызонт, як сон,
К даліне хіліцца.

Эх! падумайце: халодныя вятры
Не раз будзілі ў калысцы.
Убогая зямля скалістая —
Маці яго, карміліца.
А ён? Ну што ж,
Кветка гордая, прыгожая,
Смела ўгору к сонцу ўецца,
Цэлая праменнямі абнятая,
Уся ў ясных захапленнях.

Эдэльвейс! зара пад небам!
Аб табе ўсё сняцца сны,
З табой яднаюся я сэрцам.

І яшчэ здаецца мне,
Што ў штодзённасці, у жыцці
Часта іду тваім я следам.



* * *

Недапетую песню — даспявай.
Недазбіранае — дазбірай.
Несказанае — да канца — скажы.

Толькі крокаў сваіх — не лічы.
Толькі думак сваіх — не тушы.

Веру — жывым перадай.
Веру жывую — пакінь!

*Янка ЦЕЛУШЭЦКІ*

## ЛІРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

### АДЗІНОТА

Сню я цябе і бачу, калі з думкамі адзін. Не слухаючы, чую твой голас. Са мной ты ў думках у ліпнёвую спёку, і ў люты мароз, і калі зязюляй заходзіцца майскае ранне. Нас раздзялілі назаўсёды завілістыя горкія шляхі.

...Але той круты абрыў пад вербамі, дзе мы хадзілі, і сёння мне сніцца. У шэпце верхавін кашлатых алешын шукаю слоў. Бяссонне не дае мне закрыць павекі нават за поўнач. І на досвітку з'яўляецца твой дзявочы вобраз, як стыхія. Ува мне ціхенька звініць твой голас, твая ўсмешка. Сэрца п'е тугу без голасу, без крыку.

...Мой гадзіннік цікае адзіноту. Адзіноту з болем.

### НІВА

Абапал дарогі, пад сонцам, ласкава шуміць калоссе загонаў, калоссе жаданняў, калоссе глыбокага лета. Абшар, пранізаны святлом і чаканнем.

Ля ўзмежку, нібы сіні матылёк, на тонкай дрыготкай сцяблінцы плыве трапяткая валошка. Над ёй зумкаюць пчолы. У марыве неба лье трэлі жаўрук. Паветра пахне крамяным водарам яблыкаў і лустай гарачага хлеба.

...З белага поля вяртаюся дадому пад нізкім сонцам адвячорка, калі так хораша, так чыста на душы пасля працавітага дня. За мной астаюцца прамяністыя мэндлікі снапоў. І песня плыве здалёк, лунае на волі між саспелых ніў: «А ў перапёлачкі ножкі баляць...»

## АБРАЗКІ

Жнівень

Пагодлівая раніца. У сонцы рабіна родзіць цёмна-аранжавымі шышкамі церпкіх, аскомістых ягад. На ржышчы — росная, дробненькая канюшына. На ўзмежках палеткаў чарнеюць буйныя ягады ажыны. Ад мэндляў — жытні пах. Мокры рамонак паспускаў пялёсткі абапал жоўтых лысін. Многа яго на поплаве. А на дарозе — адна пушыстая, апырсканая расой галоўка дзьмухаўца. Здымаў гэта, стоячы на каленях у роснай атаве.

...Прайшла навальніца. Толькі што страляла, ляскала. Неба злосна крамсалі бліскавіцы. Але ж адпаўзлі на аглухлых басах грымотаў і ўжо здалёк толькі вуркочуць. Па страсе сплылі апошнія нацягнутыя ніткі дажджу.

Над зямлёю падковай выгнулася вясёлка. Высока над полем азваўся жаўрук — пяюн нябеснай оперы. У прамоклым садзе салаўі зноў раскладаюць ноты. Сланечнік таксама адхіліў шапку.

А я так люблю, калі ля маіх акон зноў так прыемна, так ціха шумяць бярозы. Ды дзікім мёдам пахнуць палыны.

Вясна зноў падарыла дрэвам адзенне. Зялёным полымем гараць лугі. Сонца сцеле лотаць ля ракі. У кустоўі свішча салавей, то зноў кукуе зязюля-вяшчунка. Ля дарогі ляціць матылёк светла-жоўтага колеру — крушынніца.

На ўзлессі зноўку на свет пралескі ды ландышы зірнулі. Пачынаюць квітнець сады. Паветра напоена пахам чаромхі і бэзу. Над духмянымі кветкамі гудуць працавітыя пчолы.

У сваё гняздо на старым дрэве вярнуліся даўганосыя буслы. На балоцістым лузе жалосна крычыць кнігаўка. Усюды рух, гоман, спевы. Вясна, я цешуся твайму вяртанню.

...Спякотны дзень. Жыта — радаснае мноства калоссяў, узнятых над зямлёй. Высока ў небе звініць нябачны жаваранак. Пагрозліва, пякуча зумкаюць, уюцца нябачныя пчолы. Час ад часу на залатой сцяблінцы застракоча зялёны конік.

А пад вечар — першыя жытнія мэндлікі ды плыве, лунае жніўная песня. Стаю заслуханы, загледжаны, зачараваны... Не знаходжу слоў, каб апісаць гэты астравок жыцця...

Стаю на крутым беразе Нарвы, над паплаўком. Нада мною раскошнае сонца, жаваранкі і белыя воблачкі. Плывуць паволі, амаль не плывуць. І высока, высока!..

У кустах перасвіст салаўёў ды разгублены, ці што, зязюлін сум. На кветках у траве гаспадарліва завіхаюцца пчолы. Лёгкі ветрык прыносіць пах першых пракосаў. І на душы прыемна, светла!



...Лес... Настоены на жывіцы, травах і кветках свежы халадок. Вятры заснулі на сцішаных галінах. З елак ападаюць іголкі і суха пахрустваюць на сцяжыне. На сасне празрыстая, як мёд, жывіца. Святлеюць бярозкі ў белых фартушках. На пастарэлым клёне спалохана зашчабятала нейкая птушка. Па камлі дуба шарганула лапкамі бурахвостая вавёрка. Знайшла грыб і ўжо ласуецца.

На палянцы над кветкамі джынгаюць пчолы. Весела трапечацца, перабіраючы чырвона-чорнымі крыламі, матылёк. Туды, дзе струменіць крыніца, выйшла з сасонніку насцярожаная ласіха з малым. Травы патаемна нешта шэпчуць.

...Плыве адвячорак. Цішыня. Камары таўкуцца стаўпом. Вільгаццю дыхнула сенажаць. Копы сена ў далінах пахнуць, як насонная настойка. Гэтым пахам замірае ў захапленні рэчка.

Закраўся ўжо змрок у яліны. Іскрацца толькі ліхтары чырвоных шышак.

Дагарае акраец сонца. Гасне млявым дымам апошняя хвіліна дня. Ціха-шэра вечарэе ў бярозавых завулках. Вечар туліцца да яшчэ цёплых бяроз.

## ВОСЕНЬСКАЕ

Адзвінела вясёлае, зялёнае лета. На дрэвах іскрыстыя жоўта-чырвоныя вэлюмы. Дубы ссыпаюць лісце, як сцёртыя чырвонцы. Быццам хрушчы, сыплюцца буйныя, спелыя жалуды.

Птушкі разляцеліся. Аціхлыя, апусцелыя палі заліў тужлівым курлыканнем жураўліны кліч. Агрубелая трава на лузе нібы пабілася сівізной — скрозь усыпана белым павуціннем. Гараць жарынкамі ягады каліны, якія няма каму збіраць.

З папялістых хмараў сыплецца дробны дождж. Шэрасць дня навявае сум. Сівее абветраны сад. Зямля пакрысе шэрхне ў холадзе. Трывожна шапаціць трысцё над халодна-шэрым люстрам ціхай ракі.

Журботная восень...

## АСЕННЯЕ

Сцелецца туман на наднарачанскія паплавы. У вадзе стаяць шурпатыя вольхі. Пажаўцеў клён над хатай. Крыху счакаўшы, усё гэта забірае з акна маўклівы асенні вечар. У печы тлеюць яшчэ незгарэўшыя дровы. Дрэмле кошка, яна мурлыкае нешта праз сон. Прысеўшы да стала, маці збіраецца з пісьмом сыну. Ужо ўправілася з капаннем бульбы, выбрала ўсю капусту, пазбірала познія апаўшыя яблыкі. Нездаровіцца ёй.

— Зраблю яму цёплы світар ды шкарпэткі! Як толькі ачуняю... Як пахаладнее, то і свежанінка з парсючка будзе! Сынок мой прыедзе!

Верыць яна ў гэта, як у вясну пажоўклы клён за акном.

## ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

Светлы, аснежаны лес. Магутныя дубы і меднастволыя сосны, абсыпаныя снегам, стаяць нерухома ў мёртвым сне. Не варухнецца ні адна галінка, быццам усё застыла навек... А вось як зрасліся кашлатая елка з бярозкаю, і елка, як рукою, абняла суседку... Аберагае... Маленькія елкі, знясіленыя пад цяжарам снегу, прыгнуліся.

А ў бары за гарой стук сякер і шоргат піл. Карычнева-сівая сасна пахіснулася. Дрывасекі ўпіраюцца сякерамі ў камель, як толькі можна дастаць над сабою, і яна плыве верхавінай уніз. Цярэбячы голле ўсяму, што трапляецца ёй на дарозе, магутная прыгажуня са стогнам падае ў снег. На ране буйныя, як слёзы, празрыстыя кроплі жывіцы...

Далей, на палянцы, воўчы след. Шэры прайшоў над абрывам і, выбраўшы месца, спусціўся ў яр, гразнучы ў глыбокім, без цвёрдай скарынкі снезе.

Пад вечар неба пацямнела. Зноў пачаў церушыць снег, і морак не гусцеў, а калыхаўся дрыготкаю стракатаю сеткаю. Ціха шумелі верхавіны сосен, і, здавалася, выразна чуўся мяккі шолах снегападу.

*Васіль ПЕТРУЧУК*

## ЗІМОВАЯ ЗВОЗКА СЕНА

Над маім тапчаном, у малюсенькім пакоі, дзе я сплю, слухаю радыёперадачы і часам нешта пішу, вісіць рэпрадукцыя карціны Іларыёна Міхайлавіча Пранішнікава, арыгінал якой знаходзіцца ў славутай Траццякоўскай галерэі ў Маскве. Рэпрадукцыя зроблена ў Лейпцыгу. Калі глядзіш на карціну, бачыш снежную раўніну аж па нейкі заімглёны карычневы кругагляд, снежную дарогу, па якой едуць сем падвод, хіба па сена. На снезе — вароны, чымсьці занятыя, і побач апошніх, найбліжэйшых да нас, санак — сабачка, уткнуўшы ў снег мордачку, чагосьці шукае.

На апошняй падводзе сядзіць хлапец гадоў 18—20, захутаны ў нейкую вопратку, шыя абмотана шалем, ці хусткаю чырвонага колеру, а на галаве зусім не зімовая шапка. Ён сядзіць маркотны і, відаць, яму холадна.

Гэтая карціна, хаця і — рэпрадукцыя, мне самая дарагая з усёй маёй маёмасці, бо яна заўсёды напамінае адзін дзень з майго жыцця, жыцця дзіцяці. Было гэта ў міжваенны перыяд, у 1939 годзе, за пару дзён да прыходу ў Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі мне споўнілася трынаццаць гадоў.

Аднойчы вечарам, дагледзеўшы жывёлу, бацька зайшоў у хату і сказаў жонцы, што назаўтра бярэцца яшчэ большы мароз, бо неба на захадзе полымем гарыць і дым з комінаў у людзей ідзе праслютка ў неба. Платы пачынаюць трашчаць, а вароны садзяцца на самыя вяршыні дрэў...

— Хаця балота пад Малочкамі і так ужо замёрзла, заўтра паеду па сена, бо тое, што было ў клуні, ужо канчаецца, — зазначыў ён.

Бацька так гаварыў, як бы мяне нічога і не датычыла. Уначы мачыха падпаліла печ, каб наварыць на снеданне прысмакаў, закіпяціла гаршчок вады, наліла нам з бацькам па кубку і ўкінула ў іх па крухельчыку цыкорыі. Гэтая вада стала крыху салодкай і крыху гаркаватай. Але, Божа ты наш! Гэта ж не абы вада, а з цыкорыяй. Бацька паклаў перада мной лусту нашага, жарнавога, хлеба і сказаў:

— Добрэ наідайся, бо поедэм по сено.

Я злякнуўся і адначасова ўсцешыўся, што хаця на адзін дзень адарвуся ад калыскі.

Выпілі мы па кубку «цыкорыі», апрануліся ў тое, што мелі на штодзень і, запрогшы Сіўку ў санкі, Карузеліка — у другія (для мяне), паімчаліся па корм для жывёлы, які быў летам нарыхтаваны за Маскоўцамі, ў дрыгве. Бедныя сяляне былі вымушаны купіць яе ў памешчыка, каб мець чым карміць жывёлу, хаця б у такой ступені, як гэтае нашае снеданне перад выездам на балота.

Холадна мне было ад самага выхаду з хаты, але ж бацьку не скажаш праўду, бо аблае і высмее. Трэба было бегчы за санкамі а не ў іх сядзець, і я бег амаль усю дарогу. Калі загрузілі мы санкі сенам (барані, Божа, сённяшнюю жывёліну ад такога сена), дык коні ўжо бягом бегчы не маглі. Пляліся мы з імі гэтыя пятнаццаць кіламетраў некалькі гадзін, а ў ногі ўвесь час мне было холадна. Я ішоў за сваім Карузелікам і паціху плакаў, рукі піхаў у рукавы, але ног жа пад сябе не схаваеш, трэба ісці і каня паганяць. Бачу, што бацька таксама не можа ўседзець на фуры; сыходзіць з яе і пешшу паганяе Сіўку, але мяне не пытае, як я сябе адчуваю.

Прыехалі мы дамоў, склалі сена поцемкам у старану, выпраглі коні і — дахаты. Тут я хутчэй зняў башмакі, нягледзячы на крык мачыхі, што змарожу яе дзіцё, бо ўваходжу ў хату, як вол, і... сам першы ўбачыў, што мае ступні белыя... Пасля аказалася, што адмарозіў не толькі ногі, але нос і вушы.

Нікога занадта гэта не ўсхвалявала, і ніхто нават не пашкадаваў мяне. Наадварот, бацькі брыдкімі словамі выказалі сваё незадавальненне, што маюць у хаце такога недарэку, які мерзне.

Адмарожаныя ногі доўга гнілі, не зажывалі. Але загаіліся. Толькі як такім жыць, ведае той, хто сустрэўся з гэтай бядою. Не трэба нават марозу, каб ад болю рук і ног (адмарожаных, вядома) боль хапаў аж за сэрца. І людзі смяюцца з такіх, недаробленых.

*Беласток, красавік 1993*

## ЗЯЗЮЛЯ-ПЕРАГАРУЛЯ

Зязюлю-птушку, якая кукуе ў нашых садах і лясах (не ведаю, ці яшчэ ў садах, бо даўно не быў у вёсцы), — усе ведаюць. Але чаму Перагаруля — не ўсе. Да тых, хто не ведае, належу і я. Аднак, думаю, што мянушку Перагаруля далі ёй людзі, прызнаючь яе за птушку гаротную чамусьці і таямнічую. З гэтае прычыны, бадай, ад вякоў у нашым народзе бытуе перакананне, што зязюля ўмее адгадваць, калі яе запытаюць, колькі год хто будзе жыць.

Калісьці пагнаў я ў Малажэвіну шэсць кароў дзедавых (пас іх там ад зімы і да зімы) і, як бы на прычэпку, нібыта бедную швачку, худзенькую, бо яшчэ не паспела адкарміцца пасля галоднае зімы, чырвоненькую каровінку сваіх бацькоў. Ногі, як заўсёды, меў пакалечаныя вострымі пянькамі, шклом, каменнем і чым толькі хочаце, ды аж да касцей патрэсканыя пяткі. Апроч таго, заўсёды раніцай хацелася спаць, а начны холад дапаўняў гора.

Гадзінніка не было нават у бацькоў, а што можна сказаць пра мяне, які начаваў пад дашкам або за хлявом? Заўсёды баяўся, каб не праспаць і, не дай, Божа, выгнаць рагаціну перад усходам сонца. Са страхам зрываўся ноччу і крочыў да дзедавых хлявоў. Каровы яшчэ ляжалі і перажоўвалі ежу, але я іх зганяў і гнаў у лес. (Дзядзька быў ляснікам, пагэтаму іх можна было пасвіць у лесе.)

І вось, якраз у гэтую ноч, валокся я за жывёлаю, як душа без цела, плачучы ад болю і холаду, і наступіў на заіржаўлены цвік, зрабіў дадатковую рану ў назе. Гэта не балела болей за іншыя раны, але цякла кроў, і таму было крыўдна. Сеў, выцягнуў пракляты цвік і пакульгаў далей за ўсё яшчэ соннымі каровамі.

Было яшчэ зусім цёмна, калі я з кароўкамі запоўз у Малажэвіну, дзе была найлепшая трава і дзед заўсёды наказваў, каб там пасвіў. Дзеду не балелі ногі і галава, калі яго ўнук кожны дзень праходзіў дзесяткі кіламетраў, ён з сям'ёю толькі чакаў свежага малака на снеданне.

Каровы пачалі нехаця скубці траву, а я зрываў з бярозкі маладыя лісткі і выціраў імі ўсё яшчэ выцякаўшую са ступні праз пясок кроў.

Лес шумеў шчэбетам птаства, а гэта, міма гора, клалася на душу нейкім аксамітным цяплом, якое лячыла псіхіку, нібы бальзам, хаця нельга гэтага сказаць пра цела. Аднак чалавек можа вельмі многа вытрымаць і перанесці. Нават прывыкнуць ды як бы з усім пагадзіцца. Хаця вядома, што пагадзіцца з лёсам, які бязлітасна гне і ломіць, можа толькі чалавек бедны ды бязвольны; от, баліць, няхай баліць, галодны ды халодны — абы дзень да вечара. Толькі што заўсёды дні былі вельмі доўгімі, а ночы кароткімі. Дзелавы і разумны хлопчык нават краў бы ў дзедавай сям'і хлеб ды сала, а не дапусціў бы голаду. А чаму б не даіць іхніх кароў, калі пад вечар вым'і малако распірала.

А я, дурны, заўсёды толькі чакаў пахвалы і ласкі з боку дзеда, бо больш ніхто мною не цікавіўся. Вось дзедка, можа, пагладзіць па галаве і пакорміць супам, хаця б посным. Не дачакаўся я гэтага ад дзедкі ніколі. Пра раны і холад таксама ніхто не згадваў, не бачылі.



З захадам сонца да агульнага канцэрта птушак далучылася зязюля. Нават не адна. Божа, якая прыгажосць, якая радасць! Дзесьці каля мяне кукавала адна, у багне — другая, у карчах Грыцюшчыны, пад Курашавам. Іншае птаства спявала, а зязюлі акампанавалі.

«Давай, — падумаў я, — праверу, колькі год буду яшчэ так мучыцца». Але пасля злякаўся даведацца праўду і голасна запытаў:

— Зязюля-Перагаруля, скажы мне праўданьку-верланьку, колько я лет буду жыты?

Тая, што была найбліжэй да мяне, схаваная недзе ў галлі сасны, як бы слухала, што я крычу, задраўшы галаву і разявіўшы рот, бо замоўкла. А выслухаўшы, пачала лічыць, а я палкай рабіў у пяску дзірачкі. Гэтая найгаласнейшая накукавала мне аж 63 дзірачкі і замоўкла. Пераняла яе другая, з-пад Курашава, і дабавіла яшчэ сорак знакаў на пяску. Палічыў я дзірачкі па дзесяць і дазнаўся, што прыйдзецца мне мучыцца аж сто тры гады. Я ўжо ведаю, што гэта вельмі многа, бо калі леташняй зімой прыехалі да Грабаўца цыганы, то я чуў, як яны паміж сабой гаварылі, што «сёння сто пні марозу». І фактычна мне ногі пяклі жарам, калі бег за хлеўчык.

Злякаўся, хіба па-даросламу, што давядзецца столькі год мучыцца, але па-дзяцінаму суцешыўся, што вырасту, як дзядзькі, ажанюся, буду мець сваю карову і каня... Тым часам сонца паднялося аж над лесам, сталася цёпла, на палянцы зараілася мухаўня. Трэба было гнаць кароў дадому, бо там чакалі дзядзіны, каб іх падаіць і ісці ў поле. А зязюлі ўсё кукавалі. Ім добра...

*Беласток, студзень 1993*

## ЖАРТАЎНІКІ

Кожны, хто калісьці гаспадарыў на вёсцы, ведае, што збожжа трэба малаціць тады, калі трымаюць маразы. Тады зерне намёрзлае, хутка выбіваецца з каласкоў. Бедныя сяляне, якія нажыналі ўсяго па некалькі копаў жыта ці пшаніцы, малацілі цэпам на новы пасеў, а рэшту дзёбалі ўжо тады, калі лічылі, што трэба справіцца з дабром, пакуль мышы не перарабілі яго ў пустую сечку. Затое багатыя чакалі марозу. Тады наймалі малацілку, якую гнаў матор (яе меў чалавек без адной нагі, здаецца, з Махнатага), зазывалі суседзяў ды сваякоў на дапамогу і малацілі ад зары да зары.

Чырвоны тварам здаравяка патрабаваў ад гаспадара чвэрць літра або і паўлітра гарэлкі, заводзіў матор, выпіваў з бутэлькі атрыманы алкаголь ды лажыўся ў салому і сачыў за ягонай працай. Яму не было холадна, бо апранаўся ён у суконныя нагавіцы, чо-

санкі і кажух. Рабочыя расстаўляліся на вызначаных ім месцах, і кожны выконваў сваю, як тады гаварылі, «ваканцыю».

Калі вечарам сусед мне сказаў, каб я прыйшоў заўтра да яго памагаць малаціць, я вельмі ўцешыўся, што смачна паем. Крыху не ведаў, чаго смачнага можа наварыць гаспадыня ў Піліпаўку, але здагадваўся, што можа быць боршч з грыбамі, акрашаны алеем, і селядцы, за якімі я заўсёды «гінуў».

Раненька забег да гаспадара з вялікай надзеяй на пачастунак, але ніхто на гэта не звярнуў увагі, бо кожны паснедаў у сябе дома. Гаспадар сказаў, што прызначыць мне найлягчэйшую «ваканцыю»: пашле падаваць яму снапы на стол. Сам ён пускаў іх у малацілку, бо ведаў, што хтосьці чужы можа не так спрытна затыкаць яе пашчу снапамі і тая будзе гудзець пустым ходам. Я па драбіне залез аж пад строп, хтосьці другі стаяў на стале і падаваў снапы гаспадару. Маім абавязкам было прыцягнуць сноп, развязаць яго і падаць.

Увесь час малацьбы адчуваў страшэнны холад у рукі. Пасля аж у грудзях балела ад холаду і стомы. Але калі б пакінуў сваю «ваканцыю» і, ратуючы здароўе, уцёк дахаты, то не дасталася б абеду (разам з вячэраю) і па-зладзейску абыходзіў бы гаспадара пры кожнай сустрэчы, як вінаваты.

Калі матор заглух, выбіўшы апошні сноп, то мае пальцы ўжо былі, як арэхі: змёрзлі да косці. Але гэта ж не чыя віна, а толькі мая. Хто ж вінаваты, што я такі мярзляк? Аднак гэта мяне не напалохала, абы толькі больш не балела. Баршчу наемся і пайду дамоў задаваленым, а пальцы адыдуць. Мне ж не першы раз вытрымліваць боль. Хіба прабітая нага больш баліць, як адмарожаныя пальцы? Мала разоў вушы балелі — і нічога.

Гаспадыня Марыся наліла ў агромную гліняную міску, якая у нас завецца вертыхай, капусту, а Панас паставіў літроўку з чырвонай наклейкай. Я ўцешыўся, што, можа, таксама дастану чарку, але рукі так балелі, што я іх баяўся выцягнуць спаміж каленяў. А ўжо не буду гаварыць, як мне хацелася есці. Узяў драўляную лыжку, якая ляжала перада мною, і зачарпнуў з вертыхі капусты. Божа, смачнейшай хіба і не бывае. Капуста была зварана на свініне, а пяцілінейная лямпа ззяла на сцяне — проста свята. Яшчэ толькі звярнуў увагу, што Паўлік пасля першай лыжкі перастаў есці, сказаўшы, што ён, як гусь, не любіць салёнага. Але ўсе здагадаліся, што ён не есць капусту таму, што яна тлустая, а на дварэ пост святога Піліпа.

Я паклаў лыжку і рукі зноў між ног схаваў. Сусед, аднак, звярнуў на гэта ўвагу і сказаў:

— Ты не мучся, а ідзі на двор і рукі ўсадзі ў снег.

Іншыя яго падтрымалі, і я скwапна паслухаў. Яны па чарзе «пускалі» гранястую чарку і паласавалі гарачую капусту, а я стаяў ракам ля парога і трымаў рукі ў снягу. Калі ў мяне ад болю пачалі ўжо круціцца вакол вачэй чорныя кругельцы і іх станавілася ўсё



гусцей, я напалохаўся, што ўпаду і тут змерзну, бо ніхто ж пра мяне не дбае. Увайшоў у хату ссінелы, аж войкнула цётка Марыся: ледзь жывы. Заенчыў з несцярпімага болю і пачаў плакаць. Тады хтосьці параіў, каб я рукі ўсунуў у хлебны квас. Цётка Марыся зачарпнула з дзежкі місачкай квасу, і я ўвапхнуў туды рукі. А той, хто параіў мне ўсадзіць рукі ў снег, сказаў, што ён толькі пажартаваў, бо снегам змерзлыя рукі трэба расціраць.

Малацільшчыкі выпілі і з'елі не толькі капусту, але і мяса, што было на стале, а я, мочачы рукі, паглядаў галоднымі вачыма сабакі на стол і па-воўчы завываў, то па-сабачы скавытаў. Ніхто гэтым не праймаўся, бо кожнаму сваё больш баліць, як і кожнаму сваё мілейшае.

Калі пальцы сталі мяккімі, цётка Марыся сказала, што памажа іх гусіным смальцам і будзе ўсё добра і дажыву нават да вяселля. Потым я ўстаў з лаўкі і павалокся дамоў, бы курка з пазавіванымі кіпцюрамі, каб гароду не грэбла. Ніхто не сказаў дзякуй, ніхто не паспачуваў і не сказаў: «Сядзь, мо цяпер з'ясі, во смачная капуста і кусочак рабра...» Або хаця б пагладзіў па галаве.

Ох, як задарага плаціцца за недахоп галавы або... ахвоту з'есці вячэру.

*Беласток, сакавік 1993*

## У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКАМ

Распачынаючы вывучэнне беларускай мовы ў другім класе пачатковай школы, трэба памятаць, што на працягу першага паўгоддзя ў падрыхтоўчым перыядзе вучні ўсходняй Беласточчыны не змогуць беспамылкова адказваць па-беларуску на пытанні настаўніка, весці з ім дыялогі, расказваць пра перажытае ці ўбачанае на малюнку, бо ў штодзённым жыцці карыстаюцца дыялектамі. З асаблівасцямі беларускай мовы трэба іх знаёміць паступова, выкарыстоўваючы казкі, вершы, загадкі, скарагаворкі, п'есы і іншыя творы.

Увазе настаўнікаў прапануюцца ніжэй змешчаныя дыдактычныя матэрыялы.

## КАЗКІ

### ДЗЕДАВА РУКАВІЧЫНА

Жылі дзед з бабай. Паехаў дзед у лес і згубіў рукавічыну. Скача лягушка. Прыскакала да рукавічыны і пытаецца:

— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?

Ніхто не адгукаецца. Яна палезла ў рукавічыну і стала жыць.

Трохі спагадзя паўзе рак. Прыпоўз к рукавічынцы і пытаецца:

— Хто тут у гэтай рукавічынцы жыве?

А лягушка гаворыць:

6—633

— Сама паня-пацягуня. А ты хто?
— А я рак-тарабун! Ці можна мне?
— Лезь!
Трохі спагадзя бяжыць зайчык. Прыбег к рукавічынцы і пытаецца:
— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?
— Сама паня-пацягуня і рак-тарабун. А ты хто?
— А я па бярэзнічку прыгун. Ну і я палезу к вам.
— Лезь!
Трохі спагадзя бяжыць ліса:
— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?
— Сама пані-пацягуня, рак-тарабун, па бярэзнічку прыгун. А ты хто?
— А я лісіца — добрая маладзіца. Палезу і я к вам.
— Лезь!
Лісіца ўлезла — і сядзяць. Трохі спагадзя ідзе воўк:
— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?
— Сама пані-пацягуня, рак-тарабун, па бярэзнічку прыгун і лісіца — добрая маладзіца. А ты хто?
— Я з-за куста хапун. І я палезу к вам.
— Ну, лезь!
Улез і воўк. Трохі спагадзя ідзе мядзведзь. Прыйшоў к рукавічынцы і пытаецца:
— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?
— Сама пані-пацягуня і рак-тарабун, і па бярэзнічку прыгун, і лісіца — добрая маладзіца, і з-за куста хапун. А ты хто?
— А я звярху паціскун. Пусціце мяне к сабе!
— Не, у нас недзе.
— Ну, я зверху сяду!
Узлез наверх, як цісkануў — так усе звяры і разбегліся.

## БЫК І ВАЎКІ

Насіў бык па гораду косы, прадаваў, каму трэба. Тады быку гаворацць:
— Навошта табе косы?
А бык гаворыць:
— Буду касіць!
Пайшоў у двор, выклепаў касу і пайшоў касіць. Косіць бык, ідзе к быку воўк. І гаворыць быку:
— Ты быска?
— Я быска!
— Сена косіш?
— Кашу!
— Рагамі круціш?
— Кручу!



— Хвастом мелеш?
— Мялю!
— Ці баішся ты мяне?
— Я вас дзесяцярых не баюся!
Воўк пайшоў шукаць другога воўка. Знайшоў воўка і гаворыць:
— Там косіць бык дужа крэпкі: аднаго мяне не баіцца!
Пайшлі ўдваіх ваўкі к быку. Прыйшлі і гавораць:
— Ты быска?
— Я быска!
— Ты сена косіш?
— Кашу!
— Рагамі круціш?
— Кручу!
— Хвастом мелеш?
— Мялю!
— Ці баішся ты нас дваіх?
— Не баюся!
Пайшлі ваўкі шукаць трэцяга воўка. Знайшлі воўка і гавораць:
— Там косіць бык дужа крэпкі: нас дваіх не баіцца!
Пайшлі ўтраіх ваўкі да быка. Прыйшлі і гавораць:
— Ты быска?
— Я быска!
— Ты сена косіш?
— Кашу!
— Рагамі круціш?
— Кручу!
— Хвастом мелеш?
— Мялю!
— Ці баішся ты нас траіх?
— Не баюся!
Пайшлі ваўкі яшчэ шукаць падмогі. Тады бык ужо спужаўся і пайшоў у двор. Прыйшоў у двор, касу выклепаў, а каня навучыў брыкаць, а казла навучыў таўхаць, а барана навучыў бысці, а петуха навучыў драць. Тады ваўкі прыйшлі ўшасцярох, а быка няма. Яны пайшлі к быку ў двор. Прыйшлі і гавораць:
— Ага, быска, струсіў!
— Не, я не струсіў, а я захацеў палуднаваць, дык і пайшоў у двор.
Тады яны за быка. А бык іх касой, а конь зачаў брыкаць, а казёл стаў таўхаць, а баран зачаў басці, а пятух зачаў драць. Чуць іх не забілі, чуць тыя ваўкі ўцяклі.

## КОЦІК З ПЕЎНЕМ І ЛІСКА

Быў сабе певень і коцік, жылі яны ў адной хатцы ў згодзе і ў добрай кампаніі. Аднаго разу кажа коцік да пеўніка:
— Я пайду ў глыбокія горы, у высокія лясы сабе мышак шу-

 

каць, а табе за дабром, дык ты зачыніся і глядзі, каб нікога не пускаў.

І пайшоў. Ажно прыбягае ліска пад акенца і кажа:

— Пеўнічку, пеўнічку, пазыч мне памяло: прыехалі госці з замосці, няма чым вымесці печы, пірага пячы.

А пеўнік:

— Зводзіш, ты мяне абманваеш.

Дык ліска:

— Не, — кажа, — дальбог не абману!

Дык пеўнік адчыніў акенца і дае ёй памяло, а ліска не за памяло, а за яго — і драла. Бяжыць так з ім, бяжыць, а пеўнік усё крычыць:

— Коціку, брацiку, барані мяне!

Коцік, гэта пачуўшы, бо яшчэ далёка не адышоўся, зараз жа прыскочыў, набіў ліску, набіў і адабраў пеўніка. Як прывёў яго дахаты, дык кажа:

— Ну, маеш навуку, цяпер не пускай яе, бо я цяпер пайду ў глыбейшыя горы, у вышэйшыя лясы, то не пачую.

Толькі коцік выйшаў за вароты, аж і ліска прыбягае пад акенца дый кажа:

— Пеўнічку, пеўнічку, пазыч мне лапату: прыехалі госці з замосці, няма чым пірага ў печ паставіць.

— Не, — кажа певень, — не адчыню, бо ты мне здрадзіш.

— Не, не, пеўнічку, дальбог не абману!

Дык пеўнік, як добры дурань, адчыніў дзверы і дае лапату, а ліска за пеўніка — і ў ногі. Пеўнік як стаў крычаць, енчыць, дык коцік, гэта пачуўшы, прыляцеў і як насядзе на ліску, як стане яе дзерці — адабраў пеўніка, прывёў дахаты і кажа:

— Я пайду цяпер яшчэ ў глыбейшыя горы, у вышэйшыя лясы, то не пачую.

Толькі коцік выбег, ажно прылятае ліска.

— Пеўнічку, — кажа, — пеўнічку, прыехалі баяры, рассыпалі ячмень, няма каму пазбіраць — хадзі ж хутчэй пазбірай.

Дык пеўнічак:

— Эй не, не пайду, бо ты мяне зводзіш.

— Але ж дальбог, пеўнічку, не махлюю!

Пеўнік адчыніў дзверы, а ліска за яго — і драла.

Пеўнік крычаў, крычаў, аж у яго дзюба ўспухла, але коцік не дачуў. Ліска занесла яго ў норку да сваіх, там пеўніка аскублі, спяклі і прыбіраюцца ўжо абедаць. Прыбягае коцік дахаткі, глядзіць — няма пеўнічка! Што тут рабіць?! Выбег з хаткі, глядзіць: сляды ёсць, дык давай бегчы па слядах. Бяжыць, бяжыць — сустрэў зайчыка.

— Зайчыку, зайчыку, не бачыў ты ліскі бегучы, пеўнічка несучы?

— Бачыў, — кажа, — вось дзе ў норку пабегла.

Коцік, падзякаваўшы, зрабіў скрыпачку, сеў пад норкаю і грае:



Дылі, дылі, скрыпачка,
А ў норцы лісачка;
А ў лісіцы новы двор,
Тры паненкі на выбор!

Дык найстарэйшая ліска кажа:

— Пайду я пагляджу, хто там іграе так?

Яна як выбегла, а ён — трах смычком па лбе! — забіў і кажа:

— Пакладу небараку, няхай будзе на табаку! — і зноў іграе:

Дылі, дылі, скрыпачка,
А ў норцы лісачка;
А ў лісіцы новы двор,
Тры паненкі на выбор!

Ажно другая выбягае з норкі, а коцік — трах! — і забіў яе.

Пасля трэцяя выбегла, і той дасталося; аж, нарэшце, маці ўхапіла качаргу і кажа:

— А каб іх так і гэтак! Яны там скачуць, а петушына чыста астыла. Я ім там добра накладу!

Яна толькі высунула лоб, а коцік ёй як сцягне смычком па лбе, так і забіў. Узяў скрыпачку, сеў сабе і грае:

Дылі, дылі, скрыпачка,
А ў норцы лісачка;
А ў лісіцы новы двор,
Тры паненкі на выбор!

Бацьку нецярплівасць узяла, так намачыў памяло і кажа:

— Я ім дам! Яны скачуць, а петушына замерзне.

Высунуўся з норкі, а коцік — трах па лбе! — забіў і пайшоў сабе дахаткі.

## ВЕРШЫ

### ВЕРАБЕЙ

Верабейка
Скок,
скок,
скок,
Заглядае
Пад лісток.
Сцеражыцеся,
Жукі,
Караеды-лайдакі!

*(Л. Шырын)*



 

### ХІТРЫ КОТ

Кот вусаты
Сеў ля хаты
І гартае
Кніжку.
Выгляд робіць,
Што чытае,
А цікуе
Мышку.

*(Л. Шырын)*

### ЗЯЗЮЛЯ

Пэўна, вы вясною чулі,
Як на дрэве, на суку,
Кліча на ўвесь лес зязюля:
— Ку-ку! Ку-ку!

*(В. Вітка)*

### БУСЛІК

Гнецца буслік на балоце,
У яго баліць жывоцік.
У трывозе мама з татам:
Многа з'еў ён жабянятак.

*(С. Бестава)*

### РЫСЬ

З цёмных шатаў вочы — бліснь!
За ласём палюе рысь.
Не спяшайся, нябога,
У лася ёсць рогі.

*(В. Коўтун)*

### ЗАХВАРЭЛА

Басанож хадзіла Мура.
У яе тэмпература.
Я пашыла кошцы тапкі,
Каб яе не мерзлі лапкі.

*(Н. Галіноўская)*



### КАЗА

Казёл казе на імяніны
Прынёс чырвонай канюшыны.
Каза расчулена ад ласкі:
— Якія свежанькія краскі!
— Каб не завянулі, адразу
Пастаў іх, мілая, у вазу.
Каза з дакорам паглядзела
І канюшыну тут жа з'ела.

*(В. Гардзей)*

### ПЧОЛКА

Каля саду
На градзе
Пчолка рупная
Гудзе.
Рана дзень яе
Пачаўся,
Каб ты мёдам
Частаваўся.

*(Л. Шырын)*

## СКОРАГАВОРКІ

Мілая мама мыла мылам малую Мілу.

Жвавы вожык жыва жуку пашыў кажух.

Каму маку — куму макаку.

Кату каву, валу — кавалак, кошцы — шматок.

Вол вала павалок па валоках.

Кроп у страве, страва на траве, трава на двары, дровы на дрывотні.

На каптуры каптур, пад каптуром каптур — каптур пад каптур, каптур на каптур.

Пад пятым пяньком папаў Паўка пяткай па апеньках.

Пад полкай каўпак, пад каўпаком палка, каўпакі па палках, палкі ў палках.

Пекар Пётр пёк пірог.

У Піліпа папілі ліпавага пітва.

Патапка пакаваў пакупнікам пакупкі ў пакункі.

Патап пакапаў — бык патаптаў.

Калы трэба перакалоць, перакалаціць, пералапаціць.

Маша шыла шапку Сашу. Шапку Сашу шыла Маша.

Пабудзе ў вадзе і нямокры ідзе.

Вадавоз вёз ваду ад водаправода.
Твая маці і мая маці пяклі булкі ў адной хаце.
Пісаў пісака, пісаў, перапісваў, ды так і не напісаў.
А траву пакашу — дам вам сена па кашу. (В. Вітка)
Толькі б раптам не сурочыць — у траве стракач стракоча. (К. Камейша)
Пры кастры кара, карагодзіць ля кастра пара. Ад кары, касцёр, гары, да зары не дагары! (Е. Лось)
З горкі-горачкі, дзе грэчка, ручаёк прыбег да рэчкі. (В. Жуковіч)
Адна сарока, адна марока, сорак сарок, сорак марок.
Мы відзелі бобра, і сказаў нам бобра, што нам будзе добра.
Уцякай цецеручыха з цецеручанятамі.

## НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ

Дзеючыя асобы:
Каза, Вядучы, Жытнёвы каласок, Бульбінка, Саўка, Бабуля.
К а з а:
Людзі добрыя!
Вітаю!
Я ў вас вось што запытаю,
вы скажыце, госці, мне:
ці вам добра тут,
ці не?
Ну — тады
чаго чакаеце?
Чаму артыстаў не вітаеце?
В я д у ч ы:
— Дарагія гледачы!
Трэба тут дапамагчы!
Кожны хай са шчырай ласкаю
у ладкі весела папляскае!
(Выходзіць Жытнёвы каласок)
Ж ы т н ё в ы к а л а с о к:
— Добры дзень,
шаноўны люд!
Каласок жытнёвы
тут як тут!
Бачу народу багата.
Пэўна ж, тут нейкае свята?
А ўбор мой зрэбны, не новы.
А хлеб мой просты — жытнёвы!
К а з а:
— Дык без хлеба ж
і хата не хата,



і свята не свята.
і поле не поле,
і доля не доля!
Ж ы т н ё в ы к а л а с о к:
— Дзеці!
Ці ўсе вы як трэба
ставіцеся да хлеба?
Акрайчыкамі
у футбол не гуляеце?
Лустачак не выкідаеце?
К а з а:
— Што ты! Нашы дзеці
лепшыя ў свеце!
Ж ы т н ё в ы к а л а с о к:
— Ну, —
я спытаў для парадку... —
А хто адгадае загадку,
хто скажа, хто знае:
што ў нашым краі, як і мяне,
паважаюць,
хлебам другім называюць?
В я д у ч ы:
— На падмогу, на падмогу,
слухачы і гледачы!
Здагадаўся — не маўчы!
Ж ы т н ё в ы к а л а с о к:
— Правільна!
Гэта бульбінка-беларусачка —
пекная паненачка, шэрая сукеначка, зялёная хустачка!
(З'яўляецца Бульбінка)
Б у л ь б і н к а:
— Дзень добры, мае харошыя!
А якія вы ўсе прыгожыя!
А я такая простая,
зрэбная,
нікому тут не патрэбная...
Ж ы т н ё в ы к а л а с о к:
— Ты, сястрыца,
кінь журыцца!
Дарагія гледачы!
Трэба й тут дапамагчы:
хай
той запляскае ў ладкі,
хто любіць з бульбы аладкі.
Раз-два-тры-чатыры-пяць!
Будзем Бульбінку вітаць!
Дзякуй вам,

хлопчыкі і дзяўчынкі!
Якія вы ўсе малайчынкі!
Бульбінка:
— Мы вам пакажам хлапчыну,
хлапчыну не малайчыну.
Гэта Саўка Савацей —
язык без касцей.
Жытнёвы каласок:
— Саўка,
адгукніся!
Саўка,
пакажыся!
(З'яўляецца Саўка)
Каза:
— А ты дзе
хадзіў?!
Саўка (пагладжвае свой жывот):
— У суседавых парэчках
заблудзіў!
Бульбінка:
— Саўка, Саўка!
Які ты непаслухмяны!
Саўка:
— Я —
рахманы,
паслухмяны,
працавіты,
адмысловы!
Я такі...
Я...
Адным словам!
Каза:
— Як пасадзяць Саўку
раніцой на лаўку —
дык ён хваліцца, хваліцца, хваліцца!
Да вечара хваліцца!
Аж пакуль не зваліцца!
Саўка:
— Я ніколі не звалюся,
бо ніколі не хвалюся!
Бульбінка:
— Кім ты будзеш,
кім ты станеш,
ты ж і хвалішся,
і маніш?!
Саўка:
— Вы іх не слухайце, дзеці.



Праўдзівей мяне няма на свеце!
Я — праўдзівы,
я — рахманы,
працавіты,
паслухмяны!
Я — не манюка з манюк!
Жытнёвы каласок:
— А ці паслухмяны
ты ўнук?
Бульбінка:
— Толькі,
Саўка,
ты спачатку
адгадай маю загадку.
Чыю любіш кашку?
Чыю любіш казку?
Чыю любіш ласку?
Хто
для цябе,
для братоў,
для сястрычкі
цэлае лета вязаў рукавічкі?
Хто пірог пячэ на свята?
Каго
слухаюцца
мама і тата?
Саўка (шэптам):
— Дзеці!
Мне дапамажыце!
Адкажыце!
Падкажыце!
(Прыслухоўваецца да падказак і адказвае)
— Цы-бу-лю!
Каза:
— Ха-ха-ха!
Слухаюцца цыбулю!
Саўка (падумаўшы, пачасаў патыліцу):
— Не!
Я... гэта...
не цыбулю...
Я хацеў сказаць:
ба-бу-лю.
О! Бабуля мяне паважае!
За маё паслушэнства
мне дагаджае!
Бульбінка:
— А мы зараз пераканаемся,

як у бабулі тваёй запытаемся!
(Выходзіць бабуля. Адразу хапае Саўку за вуха.)
Б а б у л я:
— Хто акно пабіў,
на ката зваліў?
Хто смятанку злізаў
і на брата сказаў?
Хто тэлевізар паламаў?
Хто пяць адзінак атрымаў
і свой сшытак у макулатуру здаў?
С а ў к а:
— Ой, бабулечка,
пусці!
Трэба ў школу мне ісці!
Дай ты мне падсілкавацца —
пірагом пачаставацца!
Б а б у л я:
— Ты ў мяне пачастунку атрымаеш,
як бярозавай кашы паспытаеш!
С а ў к а (усхліпваючы):
— Я гэтак хачу,
каб мяне любілі!
Я гэтак хачу,
каб мяне хвалілі
за добрыя ўчынкі.
Памажыце мне выправіцца,
хлопчыкі і дзяўчынкі!
К а з а:
— Дапамогуць,
Савацей!
Толькі сам ты папацей!
Не хлусі, не мані!
У падручнік зазірні!
Ж ы т н ё в ы к а л а с о к:
— Хочаш выпраўляцца —
трэба пастарацца!
К а з а:
— Трэба нам ужо ў дарогу.
Дзякуй, госці, за падмогу!
Вы так дружна рагаталі,
нас так хараша віталі,
пляскалі ў ладкі,
адгадвалі загадкі,
на пытанні адказвалі.
С а ў к а:
— І мне падказвалі!
Ж ы т н ё в ы к а л а с о к:



— І шкада,
а ўсё ж — бывайце!
Б у л ь б і н к а:
— Толькі нас не забывайце!
С а ў к а:
— Дружна жывіце!
К а з а:
— Хутка расціце!
Ж ы т н ё в ы к а л а с о к:
— Край свой любіце!
Б у л ь б і н к а:
— Не таму любіце,
што за ўсё цяплейшы
ці прыгажэйшы,
а таму любіце,
што за ўсё мілейшы,
за ўсё даражэйшы!

*(Паводле Г. Івановай)*

## ЗАСЛОНА



## РЭЦЭНЗІІ І ІНФАРМАЦЫІ

### БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР НА 1993 ГОД

Галоўнае праўленне БГКТ даручыла падрыхтоўку Беларускага календара на 1993 год бельскім сябрам. Намерам гэтай задумы было: звязаць змест выдання рэгіянальнай праблематыкай. Аднак энтузіязм яго складальнікаў хутка згас. Адна толькі Тамара Русачык, вядомая ўсім нам як метадыст навучання беларускай мове, выканала ўзятыя на сябе абавязкі. Крыху дапоўніўшы змест, каляндарныя матэрыялы ўзялося выдаць Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, за што яму падзяка. Але спознены выхад календара прымусіў зменшыць яго тыраж да адной тысячы экземпляраў.

Каляндар адкрывае верш Юркі Баены «Зямля ты мая». Традыцыйны ўжо табель-каляндар — шэры, а побач рубрыкі: «Хто нарадзіўся ў... месяцы», «Народныя прыкметы», «Пад якой зоркай» і месца для запісаў ажыўлення ў кнігу не ўводзяць.

Пасля верша Віктара Шведа «Агулькі» змешчаны тры аднатэмныя артыкулы па гісторыі праваслаў'я на Беласточчыне: «Там, дзе жыве вера... там, дзе жыве традыцыя» Міколы Сахарэвіча, «Урачыстасць перанясення рэліквіі (мошчаў) св. Мучаніка Дзіцяткі Гаўрыіла» — а. прот. Анатоля Конаха і «Волька Выганаўская» (гісторыя царквы і прыходу на фоне мінулага вёскі) — а. прот. Грыгорыя Сасны і Міколы Сахарэвіча.

Чарговы верш Юркі Баены і артыкул «БГКТ у шасцідзесятыя гады — факты-успаміны» Уладзіміра Юзвюка. У апошнім дапушчаны шматлікія рэдактарскія памылкі, змест няхай ацэньваюць іншыя.

Артыкул «Панарама горада і гміны Гайнаўка» Янкі Целушэцкага цікавы. Трапна ў ім падабраны тыя факты, якімі зараз жыве гайнаўская грамадскасць. Яго ўступная частка не адпавядае апошняй праблематыцы. Для Гайнаўкі адметнымі рысамі з'яўляюцца хуткае пасляваеннае павелічэнне колькасці насельніцтва і змены ў



яго нацыянальным складзе. Як слушна заўважае аўтар, у 1937 годзе палякі складалі 75 %, а беларусы — 22 % жыхароў, а ў 1992 годзе беларусы складалі 70 %, а палякі — 30 % жыхароў.

Артыкул мінскай даследчыцы Алены Яскевіч «Прапушчаная старонка ў скарыназнаўстве» кранае гістарычныя абумоўленасці праваслаўнай асновы дзейнасці Францыска Скарыны, якая ў святле каталіцка-пратэстанцкіх інтэрпрэтацый спадчыны асветніка здаецца незразумелай. Падкрэслівае ролю мітрапалітаў Кіпрыяна і Цамблака, а таксама тагачасных праваслаўных брацтваў і некаторых мясцовых магнатаў. Артыкул павінен зацікавіць гісторыкаў, мовазнаўцаў і ўсіх тых, хто шукае ў дзейнасці Скарыны сувязей з сучасным беларускім адраджэннем.

Выданне заканчваюць беларускія загадкі, тэкст «Ён і яна», гаспадарчыя парады, парады з народнай медыцыны.

Графіка вельмі сціплая, здымкі размешчаны ў змесце няўдала. Вокладка, аднак, прыгожая, з разнаколернай прыемнай сімволікай.

### БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

Пад такім загалоўкам апублікаваны матэрыялы навуковай канферэнцыі, якая была праведзена 17—24 кастрычніка 1988 года ў Мінску Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР і Інстытутам матэрыяльнай культуры, Інстытутам літаратурных даследаванняў і Інстытутам гісторыі мастацтва Польскай акадэміі навук. У кнізе змешчана 26 апрацовак беларускіх і польскіх вучоных — усе на беларускай мове. Сярод іх параўнанні прыладаў працы для апрацоўкі глебы, зерневых культур, дом і сядзіба ў вёсках мазавецка-падляшскага пагранічча, традыцыйныя сродкі народнага транспарту, беларуска-польскія паралелі ў традыцыйным ткацтве, кушнерстве, харчаванні, адносіны да хлеба, даследаванні фальклору, сімволіка валачобных песень, песеннай творчасці ў гады другой сусветнай вайны і сатыры беларускіх партызан, агульныя рысы ў дойлідстве, уклад беларускіх майстроў у сярэдневяковы манументальны жывапіс Польшчы, сувязі С. Манюшкі з Варшавай, польская драматургія на сцэне тэатраў Беларусі.

Хочам затрымацца над дзвюма першымі тэмамі. І. Чаквін (Мінск) разглядае дынаміку этнасацыяльнай, дэмаграфічнай і канфесіянальнай структуры насельніцтва беларуска-польскага этнічнага паўзмежжа канца XVIII — першай паловы XIX стагоддзя. Ён карыстаецца тэрмінамі Падляшша, атаясамляючы яго з межамі былога Падляшскага ваяводства. Вядома, што гэта падзел штучны, ён не мае ніякіх супольных гістарычна-этнаграфічных, а тым больш эканамічных і дэмаграфічных рысаў. Часта дынаміка з'яў у яго заходняй частцы, заселенай заходнімі славянамі, была супрацьстаўная дынаміцы тых жа з'яў ва ўсходняй частцы Усход-

няй Славяншчыны. Аўтар называе з дзесятак неіснуючых ўжо балцкіх плямёнаў, але не разглядае сапраўднага этнаграфічча — курпаў, якія да сённяшняга дня займаюць частку Ломжынскага і Астралэнцкага ваяводстваў і захоўваюць усходнеславянскую матэрыяльную культуру. Піша, што «..ў старажытнасці Падляшша, а таксама сумежныя землі Брэстчыны і Гродзеншчыны складалі этнічныя тэрыторыі плямёнаў яцвежскага саюзу (дайнова, палякшан і інш.). У выніку актыўнага пранікнення славянскага насельніцтва (XIY—XYII стст.) балты былі паступова асіміляваны» (с. 11). Тэрыторыя Падляшша ў яго сціслым акрэсленні была тры тысячы гадоў таму, а можа яшчэ і раней, заселена плямёнамі розных археалагічных культур, якія звязваюцца са Славяншчынай і пакінулі тут сотні даследаваных і недаследаваных помнікаў. Як можна спалучаць этнічныя змены з «актыўным пранікненнем» славян у XYI—XYII стагоддзях, калі люстрацыі Падляскага ваяводства 1576 года сведчаць аб цалкам заселенай гэтай тэрыторыі, дасканала арганізаваным эканамічным жыцці, топаанамастыцы, якая захавалася да сёння незалежна ад паланізацыі ці русіфікацыі. Тут балты — толькі выдумка.

З зацікаўленнем чытаецца сямістаронкавы артыкул П. Церашковіча (Мінск) «Этнасацыяльная і канфесійная сітуацыя ў паласе беларуска-польскага паўзмежжа ў 2-ой палове XIX—пачатку XX ст.» Аўтар слушна заўважыў, што ранняя этнічная самасвядомасць выяўляецца ў больш абвостранай форме на паўзмежжы і таму Беласточчына адыграла такую істотную ролю ў развіцці беларускага нацыянальнага руху. Сапраўды, адсюль паходзяць пачынальнікі беларускага нацыянальнага адраджэння: Міхась Баброўскі — з Волькі, Ігнат Даніловіч — з Праневічаў, Кастусь Каліноўскі — з Мастаўлянаў, Мікалай Янчук — з Карніцы і многія іншыя. Аўтар адзначае тут вельмі высокі ўзровень граматнасці сярод беларускага насельніцтва — 37,7 % супроць 12 % на ўсіх беларускіх землях.

Адзначае таксама хуткія працэсы русіфікацыі карэннага насельніцтва, асабліва пануючых груповак. «Асіміляцыя насіла знешне добраахвотны характар і была звязана з кан'юнктурнымі меркаваннямі». Хочацца гэтае сцвярджэнне дапоўніць, што паланізацыя зараз мае такія самыя карані, але праходзіць у форме самаканспірацыі ў асяроддзі.

У заканчэнні трапна заўважае, што незалежна ад працэсаў русіфікацыі і паланізацыі «колькасныя суадносіны і межы паміж двума этнасамі прыкладна захаваліся».

## БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКІЯ ПІСЬМОВА-МОЎНЫЯ СУВЯЗІ

Вядомы беларускі мовавед, выкладчык вышэйшых навучальных устаноў, а зараз супрацоўнік Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь праф. Уладзімір Анічэнка правёў абшырнае даследаванне найбольш характэрных заканамернасцяў пісьмова-моўнага развіцця на Беларусі і Украіне ў XIV—XVII стагоддзях. Даследаванне выдала мінскае выдавецтва «Навука і тэхніка» ў 1969 годзе тыражом 1200 экземпляраў*. Амаль трохсотстаронкавая праца ў нас мала вядома таму, што многія гады беларуска-ўкраінскае моўнае паграніччa не выклікала асаблівага зацікаўлення. Аб ім выказваліся раней такія аўтарытэты, як Я. Карскі ці В. Курашкевіч, і гэтага хапала.

Апошнім часам паяўляюцца ахвотнікі далучыць усходняе Падляшша ў этнічныя межы Украіны на аснове аднаго моўнага крытэрыю і нават, як акрэсліў этнограф М. Грынблат, некалькіх моўных гукаў. Такога тыпу памылкі мелі месца і раней, але само насельніцтва іх папраўляла, залічваючы сябе да беларусаў.

Праца У. Анічэнкі цікавая таму, што аўтар не шукае на беларуска-ўкраінскім моўным паграніччы дыялектаў, каб пасля аднесці іх да адной са спамянутых моваў. Націск ён кладзе на пытанні ранняй моўнай лучнасці, размежавання і ўзаемаўздзеяння. Свае вывады абгрунтоўвае на шматлікіх пісьмовых крыніцах. Разглядае гістарычныя карані гэтых сувязяў, характарызуе пісьмовае адзінства на прыкладах дзелавой пісьменнасці XIV—XV і XVI стагоддзяў, у тым ліку літоўскіх статутаў, літаратурна-мастацкіх, рэлігійных і педагагічных твораў. Разглядае таксама беларускі моўны ўплыў на стараўкраінскую і ўкраінскі — на старабеларускую пісьменнасць. Аналізуе кніжнаславянізмы і паланізмы ў абедзвюх мовах таго перыяду.

У заключэнні (с. 273) піша, што «...старажытныя беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя кантакты абумовілі існаванне на беларускіх і ўкраінскіх землях з XIV да XVII стст. па сутнасці агульнай дзяржаўнай літаратурна-пісьмовай мовы, для якой быў прыняты кірылічны алфавіт, атрыманы ў спадчыну ад папярэдняга агульнаўсходнеславянскага перыяду». Адасабляцца, паводле даследчыка, пачалі яны толькі ў XVII стагоддзі ў сувязі з пашырэннем пісьменнасці і набліжэннем яе да вымаўленняў мясцовага праваслаўнага сялянства. Этнічнае сумежжа ахоплівалі ўздзеянні суседніх плыняў. У выніку прыналежнасці тэрыторыі Беларусі да Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай беларуская мова і яе пісьменнасць дапаўнялі паланізмы. Узмацненне ўкраінскай мовы, асабліва пасля ўз'яднання Украіны з Расіяй, праходзіла пад уздзеяннем рускай мовы.

У працы даволі часта аўтар спасылаецца на інтэгруючы ўплыў перыяду вызваленчай барацьбы ўкраінскага народа ў першай палове XVII стагоддзя. Сапраўды, дастаткова пазнаёміцца з трохтомным даследаваннем М. Горна «Валька хлопув чэрвонорускіх з вызыскем фэўдальным в лятах 1600—1648», якое было выдадзена ў Аполі і Варшаве ў 1974 і 1982 гадах, каб уявіць сабе атмасферу

* Анічэнка У. В. Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мн., 1969.

гераізму, уз'яднання не толькі ў змаганні, але і развіцці мовы, фальклору.

Няма сумнення ў тым, што водгукі гэтай барацьбы былі вядомы на паўднёва-ўсходнім Падляшшы і што аб іх асталіся апавяданні, легенды, песні, якія ўвайшлі ў мясцовы фальклор. Адпавядаў ён імкненням нашых сялян і захаваўся ў ім да сёння.

Можа, таму мне, выхадцу са згаданай тэрыторыі, ён таксама вельмі блізкі, але толькі на гэтай падставе атаясамляцца з украінцамі я не магу.

У заканчэнні працы даецца сямістаронкавы паказчык варыянтных слоў з аналізаваных крыніц і абшырная бібліяграфія.

Кніжка павінна зацікавіць у першую чаргу моваведаў, але таксама даследчыкаў усходняй Беласточчыны.

## КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выдала ў бягучым годзе зборнік артыкулаў «Культура беларускага замежжа», кніга 1. У ім дзесяць апрацовак тэматычна падзелены на тры раздзелы: «Постаці», «Выданні» і «Фальклор (Беласточчыны)». Разам каля 190 старонак друку, і амаль палова прысвечана Беласточчыне. Тыраж 3 тысячы экземпляраў. Папера газетная, але ў трывалым пераплёце. Зборнік павінен зацікавіць многіх чытачоў.

У прадмове да выдання яго складальнік, кіраўнік часовага творчага калектыву пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь праф. А. Сабалеўскі піша, што прыкметай нацыянальнага Адраджэння Беларусі на сучасным этапе з'яўляецца імкненне «да духоўнага яднання беларусаў свету ў незалежнасці, хто на якой адлегласці ці па які бок мяжы знаходзіцца». Ужо даўно ў гісторыі суседніх народаў лепшыя творчыя дасягненні эміграцыі займалі пачэснае месца. Наша Бацькаўшчына дагэтуль саромелася нацыянальна свядомай дыяспары і нават сваіх ускраінных нацыянальных меншасцей.

У першым раздзеле разглядаюцца творчыя шляхі вядомых дзеячаў культуры. Многія чытачы зараз упершыню могуць пазнаёміцца з новай ацэнкай даволі кантраверсійнай у палітычным жыцці, але таленавітай у паэзіі постаццю Наталлі Арсенневай. Вельмі цікава прадстаўлены творчы шлях Масея Сяднёва, «аднаго з найбольш таленавітых прадстаўнікоў беларускай пісьменніцкай эміграцыі», які паўстагоддзя раней страціў сувязь са сваёй краінай, але здолеў захаваць аб ёй памяць і пераліць перажыванні ў прозу, паэзію, успаміны.

Даследчык Я. Адамовіч дае творчы партрэт Аляксандра Баршчэўскага. Трапна ацэньвае вялікае ўздзеянне на яго неспакойную асабовасць роднага асяроддзя — вёскі Бандары, падкрэслівае працаздольнасць, ахвярнасць у грамадскай працы, таленавітасць, дзякуючы якім стаўся «гонарам не толькі Бандароў, але



Беласточчыны і ўсёй Беларусі». Заўважае, што прызваннем сваім паэт лічыць паэзію. Магчыма таму трэцюю частку 24-старонкавага артыкула прысвячае яе аналізу. Музыку гэтай творчасці паэта мы адчулі даволі хутка, але не спазналі яе акордаў.

Артыкул аб Багдане Андрусішыне, яго юнацкім шляху да беларускасці праз выхаванне ў сям'і, навуку і ўдзел у святах, мерапрыемствах зямляцтваў, сустрэчах са слаўнымі людзьмі замежжа і Бацькаўшчыны — захапляе. Данчык здолеў сваёй мілагучнай лірычнай песняй пашырыць уздзеянне беларускай культуры на эміграцыю. Спявак наведаў Беласточчыну і таксама запаланіў слухачоў сваім вакальным майстэрствам.

Другі раздзел кніжкі «Выданні» адкрывае артыкул аб мастацкай аздобе выданняў Ф. Скарыны, асабліва гравіраванні на дрэве. Маламястоўнае гэта апрацаванне.

Далей У. Мамонька змяшчае артыкул, у якім аналізуе апублікаваныя працы ў органе Беларускага інстытута навукі і мастацтва (ЗША) — «Запісы». Разглядаецца спадчына М. Куліковіча, Р. Максімовіча, У. Серады, А. Багровіча, А. Варлыгі, скарынаведная літаратура. Аналізуецца таксама змест паасобных кніг «Запісаў».

Дэкаратыўна-прыкладное і выяўленчае мастацтва на старонках «Нівы» разглядае Л. Маленка. Разважанні папярэджвае празмерна вялікі ўступ, які павінен быў абгрунтаваць вытокі народнага мастацтва на Беласточчыне, а стаўся часткай шматлікіх недакладнасцей і нават памылак. Затым на аснове змешчаных у «Ніве» некалькіх артыкулаў характарызуецца творчасць мастакоў Л. Тарасевіча і М. Давідзюка, а таксама разьбяра У. Наўмюка, прыгадваюцца мясцовыя народныя промыслы з лазы, саломы, ганчарства, ткацтва, вышыўка, кавальства. Не знайшло адлюстравання мастацтва М. Валкавыцкага, С. Рыбі, У. Петрука, В. Кабаца, Я. Корзуна і іншых, аб якіх таксама пісала «Ніва».

Трэці раздзел выдання «Фальклор (Беласточчыны)» пачынаецца артыкулам А. Ліса «Каляндарна-абрадавыя творы». Аўтар напамінае, што гэтым фальклорным жанрам усходняй Беласточчыны займаліся К. Буйніцкі, І. Ярашэвіч, Брэн, М. Федароўскі, Р. Шырма і іншыя даследчыкі. Аднак сталы характар яго збірання і публікавання распачаўся пасля заснавання БГКТ і рэдакцыі «Нівы». Характарызуе калядкі, гагатухі, запісаныя праз М. Гайдука, А. Баршчэўскага, М. Шаховіча, В. Стахвюка, Л. Панько і іншых. Даследчык залічвае абрадавыя творы да вельмі архаічнай народнай творчасці, звязанай з агульнанацыянальнай беларускай традыцыяй, якая захавала тут арыгінальныя лакальныя рысы. Нечаканасцю аказалася наяўнасць развітой вяснова-песеннай традыцыі (агуляк, гаікаў, валачобных).

Летнія песні прадстаўлены сенакоснай, купальнай і жніўнай паэзіяй, у тым ліку «перапёлак», а восеньскія выяўлены тут даволі слаба. У заканчэнні зроблены трапныя кароткія высновы.

Выданне заканчваецца артыкулам А. Фядосіка «Радзіннахрэсьбінная і вясельная паэзія». Гэты жанр фальклору, які адзначаецца ў славян «надзвычайным багаццем зместу і харaством паэтычнай формы», даследаваны, паводле аўтара, на Беласточчыне слаба. Таму шчыра сустрэты выхад манаграфіі А. Баршчэўскага «Беларуская абраднасць і фальклор усходняй Беласточчыны», 1990 (на польскай мове). Далей аўтар параўноўвае яе змест з запісамі вядомых беларускіх фальклярыстаў. Няма патрэбы аспрэчваць такі метад папулярызавання радзіннай абраднасці нашага рэгіёна, але сама праца А. Баршчэўскага заслугоўвае грунтоўнага аналізу. Аўтар не выкарыстаў многіх іншых запісаў, змешчаных у беларускіх календарах і навуковых зборніках ГП БГКТ, а таксама ў тыднёвіку «Ніва».

Здаецца, што культура ўсходняй Беласточчыны будзе займаць у чарговых выданнях Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь не менш пачэснае месца. Папулярызавання заслугоўваюць паасобныя постаці, выданні ГП БГКТ, асабліва яго традыцыйныя ўжо беларускія календары, літаратурная спадчына «белавежцаў», дасягненні аматарскага руху. Сталася тут феноменам ахвярнае мэтанакіраванае дзеянне ў напрамку мацавання сваёй нацыянальнай тоеснасці на ўзмежжы ў маласпрыяльных абставінах і на асноўным, найбольш напружаным асімілятарскім напрамку. Нічога дзіўнага ў тым, што маленькая нацыянальная меншасць — адзіная ў пасляваеннай Польшчы — здолела жыць поўняй беларускага жыцця — наколькі яго хацела, і не страціла магчымасці грамадскага, гаспадарчага і культурнага развіцця.

## АБ ЭТНІЧНЫМ ПАГРАНІЧЧЫ

Універсітэт імя А. Міцкевіча ў Познані выдаў пятнаццаць гадоў таму невялікую кніжку аўтара З. Сташчак аб польска-нямецкім этнічным пагранічччы*. Яе невялікі паўтысячны тыраж, аддеглая ад нас праблематыка Заходніх зямель, малазахапляючая мова зрабілі апрацаванне незаўважальным.

Ва ўступе разглядаюцца метадалагічныя адрозненні сучасных польскіх вучоных у даследаванні этнічнага пагранічча ў супастаўленні з матэрыяламі, змешчанымі ў нямецкім атласе, які быў выдадзены ў Лейпцыгу ў 1936—1939 гадах. Аўтар закідае яму шматлікія хібы, сярод якіх ёсць і неаб'ектыўны падбор некаторых элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Затым у першым раздзеле разглядае ўмовы фарміравання этнічнага пагранічча, у другім — развіццё зацікаўленасці праблематыкай сумежжа ў святле этнаграфічных доследаў, а ў трэцім — займаецца аналізам рысаў таго пагранічча і спробай яго рэканструкцыі пры дапамозе 38 змешчаных у кніжцы невялікіх картаў. Змяшчае каля 100 літаратурных крыніц, у тым ліку многа кранаючых праблематыку ўсходнеславянскай этнічнай мяжы, а ў заканчэнні — рэзюме на нямецкай мове.

Разважанняў тут многа, зместу — мала, чытач так і не даведаецца, дзе праходзіла да другой сусветнай вайны польска-нямецкая этнічная граніца або якая зараз існуе нацыянальная ці культурная спецыфіка тамашняга насельніцтва.

Для нас найбольшую цікавасць маюць змешчаныя на некалькіх старонках абагульненні.

Аўтар піша, што да нядаўняга часу паняцце этнічнай граніцы звязывалася, з увагі на нізкі ўзровень ведаў, з нейкім аб'ектыўным і трывалым яе характарам. У практыцы лінія сутыкнення пераўтваралася ў абшар супольнага супрацьстаўнага сабе ўздзеяння. Уведзена паняцце этнічнага пагранічча, якое не мае вострых межаў, але на якім выступаюць згушчэнні нейкіх рысаў, характэрных адной з суседніх нацыянальнасцей: будаўніцтва, элементаў мовы, прыладаў працы, звычаяў і гэтак далей. Больш моцныя плыні ў форме лагоднага напору або звычайнага пераймання праз сумежнае насельніцтва стаюцца з бегам часу дамінуючымі. Аслабляючы папярэднія традыцыйныя сувязі, яны могуць давесці грамадскасць да падзелу на этнічныя групы. «Сувязь этнічнай групы з этнічнай тэрыторыяй не з'яўляецца вечнай, нязменлівай і трывалай у маштабе абсалютным. Зараджэнне, знікненне і перамяшчэнне этнічных групаў складае падставу да акрэслення толькі рэлятыўных у адносінах да іншай, канкрэтнай групы правоў да дадзенай тэрыторыі» (с. 149). Аўтар разважае аб рэканструкцыі нямецка-польскага этнічнага пагранічча.

Паспрабуем аднесці яго разважанні да нашай рэчаіснасці. Усходняя Беласточчына дачакалася не менш ста, а можа і больш, апрацовак аб беларуска-польскім сумежжы, і ні адна з іх не акрэслівае этнічнай граніцы. Паўстае пытанне: адкуль пачаць лічыць гэтае пагранічча, вядома, што ва ўсходнім напрамку да дзяржаўнай граніцы, а можа яшчэ далей. У напрамку адваротным пагранічча не існуе, ніхто яго не шукаў. Здаецца, што курпы з іх прыбліжанасцю да Усходняй Славяншчыны ў матэрыяльнай культуры (раён Аўгустова, Візны, Сакалова, Драгічына, Бужыскаў) гэтага заслугоўваюць.

На тэрыторыі усходняй Беласточчыны «маем» ужо ўсё: сталую экспансію мацнейшага ад нас народа і ніякага руху ў адваротным напрамку; этнічную групу, створаную У. Паўлючуком; элементы няведання аб сваёй мінуўшчыне і на іх наіўнасці папулярызацыю праз нас саміх паняццяў «Памосту», «Усходняй сцяны», «Вершаліна», праваслаўных палякаў А. Садоўскага, самаканспіравання і няведама яшчэ чаго.

* Zofia Staszczak. Pogranicze polsko-niemieckie jako pogranicze etniczne. Poznań, 1978.

Наруку гэтыя выдумкі мясцовай польскай прэсе, якая ўмела ўсё выкарыстоўвае ў нашу некарысць.

Таму кожныя разважанні аб этнічным паграніччы павінны нас цікавіць.

## ДА 40-ГОДДЗЯ ВЫХАДУ І ЗАБЫЦЦЯ «ГЕАГРАФІІ БЕЛАРУСКАЙ ССР». МІНСК, 1952

У 1950 годзе выкладчыкі геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дацэнты Васіль Дзяменцьеў і Мікалай Раманоўскі атрымалі загад напісаць падручнік па геаграфіі Беларускай ССР. Загад гэты стаў тэмай маёй дыскусіі з праф. М. Раманоўскім пасля абвяшчэння Рэспублікі Беларусь.

«Частку падручніка, прысвечаную фізічнай геаграфіі, згадзіўся падрыхтаваць В. Дзяменцьеў. Мне, — успамінае Раманоўскі, — трэба было апрацаваць гаспадарчую частку. Пяць гадоў пасля вайны ў нас яшчэ былі не адноўлены прамысловасць, транспарт, сельская гаспадарка, толькі пачалі мы адраджаць асвету, ахову здароў'я і ствараць планы гаспадарчага развіцця. Тэрыторыя былой Заходняй Беларусі інтэгравалася ў адзін арганізм даволі цяжка.

Змест падручніка пачалі складаць на рускай мове. Нечакана для нас падручнік, як дапаможнік для студэнтаў і настаўнікаў геаграфіі, улады вырашылі выдаць на беларускай мове і ахапіць ім вучняў старэйшых класаў сярэдняй школы. Пры дапамозе Навукова-даследчага інстытута педагогікі, Міністэрства асветы ў Мінску і перакладчыкаў усё ж падрыхтавалі кніжку».

Зацверджаны Міністэрствам асветы падручнік на беларускай мове выдала Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва БССР у 1952 годзе тыражом 15 тысяч экземпляраў. Улічваючы вельмі цяжкі пасляваенны перыяд для выдавецкай дзейнасці, падручнік атрымаўся даволі добры, змястоўны, з картамі, фотаздымкамі, у цвёрдай вокладцы. Зараз адмоўна ўспрымаецца празмерная яго насычанасць палітыкай, цытатамі класікаў марксізму і пастаноў ЦК КПСС. Але тады яны абумоўлівалі выхад кожнай кніжкі. Адмоўныя вынікі універсальнасці зместу для дарослых і школьнікаў злагоджаны ўвядзеннем дробнага шрыфту для зверхпраграмнага матэрыялу, які аўтары прапанавалі выкарыстоўваць у пазашкольных занятках.

Падручнік выйшаў у гады найвялікшага росквіту культу асобы Сталіна, а прадмет «Геаграфія БССР» у школах не вывучаўся. У прадмове выдання настаўнікам прапаноўвалася вызначаць пэўны час, каб «даць больш поўнае асвятленне геаграфіі нашай рэспублікі».



Падручнік, аднак, хутка быў адкінуты з-за яго беларускамоўнасці, бо ў школах і ВНУ навучанне на роднай мове памірала. Мне не вядомы ўсе абставіны, якія давялі да такога становішча.

На геаграфічным факультэце БДУ, студэнтам якога я быў, тагачасны дэкан М. Раманоўскі звяртаўся паасобна да студэнтаў кожнага курса з пытаннем: «Хочаце заняткаў на беларускай ці рускай мове?» Усюды атрымаў адназначны адказ: «На рускай». На перапынках «русісты» даказвалі, што руская мова вывучаецца ва ўсіх рэспубліках СССР, уведзена ў школах краін народнай дэмакратыі, пашыраецца ва ўсім свеце. Добрае валоданне ёю гарантуе працу і службовае павышэнне. Пэўнае значэнне меў неаднародны нацыянальны склад студэнтаў. Каля чвэрці выкладчыкаў і студэнтаў не лічылі сябе беларусамі.

Дэкан выйшаў з ініцыятывай, мог і хацеў весці заняткі на беларускай мове. Пасля каўказскай студэнцкай практыкі 1954 года мы паўтарылі яму зварот прарэктара Тбіліскага універсітэта, што, «пакуль будзе хаця адзін грузін у рэспубліцы, будзем гаварыць і навучаць на грузінскай мове».

Распачатая цяпер плынь народнага нацыянальнага адраджэння мела і раней прыхільнікаў, якія не знаходзілі тады падтрымкі. Зараз жа зычлівасці многа, але не хапае актыўнага ўдзелу ў яе здзяйсненні.

## КАШТОЎНЫЯ ДАВЕДКІ

Ваяводскія ўстановы ўдасканалення настаўнікаў у Беластоку выдалі ў 1955—1990 гадах даволі вялікую серыю кніжак пад рознымі загалоўкамі, якія можна аб'яднаць адной назвай: «У дапамогу настаўнікам». Да 1973 г. ваяводскі метадычны цэнтр (ООМ) арганізаваў выдавецкі аддзел, які спецыялізаваўся ў рыхтаванні публікацый, прыдатных непасрэдна ў школьнай дыдактыцы, у тым ліку канспектаў лекцый, наватарскіх дасягненняў, прыкладных кантрольных тэкстаў і іншага.

Пасля арганізацыі Інстытута ўдасканалення настаўнікаў — Аддзела ў Беластоку, які часта змяняў свае назвы і напрамкі працы, але існаваў у 1973—1990 гадах, выдавецкі аддзел быў пашыраны, меў двух штатных супрацоўнікаў і даволі шырокі абсяг абавязкаў. Да супрацоўніцтва ў ім былі прыцягнуты сотні спецыялістаў, сярод якіх знайшліся вядомыя педагогі краіны, а таксама мясцовыя практыкі і тэарэтыкі асветы.

Сярод мноства каштоўных публікацый, якія вядомы шырокаму колу настаўнікаў і якія не дачакаліся яшчэ апрацоўкі, дзве не павінны пайсці ў забыццё. Гэта анатаваныя бібліяграфіі педагагічнай літаратуры і перыёдыкі на Беласточчыне ў сувязі з 30-

годдзем Народнай Польшчы. У першай публікацыі* сабраны ўсе звесткі на выданні беластоцкіх кніжных выдавецтваў, якія выйшлі з друку ў 1944—1974 гадах і былі прысвечаны асветна-выхаваўчай тэматыцы. Уключаны ў яго выданні ООМ, навуковыя сшыткі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, Беластоцкага навуковага таварыства (БТН), Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Беластоку, Ваяводскай статыстычнай управы (ВУС) і іншых устаноў. Разам — 370 назваў.

Другая публікацыя прысвечана перыёдыцы**, яна з'яўляецца працягам першага апрацавання, але абапіраецца на аналіз артыкулаў штодзённай прэсы, у тым ліку «Едносці Нарадовай», «Жыцця Бялостоцкага», «Газэты Бялостоцкай», «Нівы» (няпоўнае) і іншых часопісаў. Разам — каля 1600 назваў артыкулаў.

Паводле зместу, згодна з абавязуючай у такіх апрацоўках універсальнай дзесяцічнай класіфікацыяй, выдзелена сем груп: 1. Асвета і выхаванне. 2. Адукацыя. Арганізацыя школы. 3. Прадшкольнае выхаванне. Пачатковая школа. 4. Сярэдняе школьніцтва. 5. Асвета дарослых. 6. Вышэйшае школьніцтва. 7. Іншае.

Усім настаўнікам, якія захочуць звярнуцца да звестак аб недалёкай асветна-педагагічнай мінуўшчыне Беласточчыны, абодва выданні будуць добра служыць.

## РЭКЛАМНЫ ДАВЕДНІК

Інфармацыйна-камерцыйны цэнтр пры Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь і агенства «Рэк АРТ» выдала ў 1992 годзе тыражом 10 тысяч экземпляраў рэкламны даведнік «Рэспубліка Беларусь. Магчымасці дзелавога супрацоўніцтва».

На першай яго старонцы герб, флаг краіны, карта-схема адміністрацыйнага падзелу, таксама з гербамі абласцей, а на апошняй — карта-схема Еўропы і месца ў ёй Беларусі.

Прызначэнне даведніка акрэсліла ва ўступе выдавецтва: «даць агульнае ўяўленне аб эканамічным патэнцыяле» рэспублікі, азнаёміць зацікаўленых у супрацоўніцтве з яе асноўнымі заканадаўчымі актамі, якія пасля абвяшчэння незалежнасці слаба вядомы за мяжой. Многія беларускія «рыначныя законы» ствараюць спрыяльны клімат для развіцця міжнародных гандлёва-эканамічных суадносін.

Першы раздзел даведніка прысвечаны агульным звесткам пра Рэспубліку Беларусь. У ім знаходзяцца сучасныя дадзеныя па тэрыторыі, насельніцтву, карысных выкапнях, прамысловасці, сельскай гаспадарцы, знешняму гандлю і іншых галінах гаспадаркі. Нашага чытача зацікавяць звесткі, што з агульнага ліку 10 152 тысяч насельніцтва рэспублікі амаль 78 % складаюць беларусы, 13 % — рускія, 4 % — палякі (418 тысяч чалавек), 3 % — украінцы, 1 % — яўрэі і 1 % — іншыя нацыянальнасці. Сталіца Мінск налічвае ўжо 1671 тысячу жыхароў. Звыш 60 % вартасці вытворчасці прыпадае на прамысловасць, асабліва на 1400 буйных заводаў, у тым ліку: трактарны (95 тыс. трактароў у год), бытавых халадзільнікаў (743 тыс. штук) і многа іншых, вырабы якіх экспартуюцца ў дзесяткі краін свету.

Затым у даведніку змешчаны звесткі для замежных інвестараў і адрасы дзяржаўна-гандлёвых устаноў, якія змогуць уладкаваць іх інтарэсы. Амаль палову выдання займае дадатак, прысвечаны пераліку заканадаўчых актаў, якія рэгулююць знешнеэканамічную дзейнасць Рэспублікі Беларусь.

Змест на беларускай, рускай, англійскай мовах упрыгожваюць дасканалыя фотаздымкі — Праспект Машэрава, гатэль «Беларусь», метро, аграмадны самазвал, трактар, краявіды, народныя вырабы.

Гэта сучаснае рэкламнае 150-старонкавае выданне добра сведчыць аб выдаўцах, а нашым бізнесменам будзе доўга служыць дапаможнікам у камерцыйных інтарэсах.

*У. ЮЗВЮК*

---

* Piśmiennictwo oświatowo-pedagogiczne na Białostocczyźnie w XXX PRL. Bibliografia adnotowana. Białystok, JKNIBO 1975.

** Czasopiśmiennictwo oświatowo-pedagogiczne na Białostocczyźnie w XXX PRL. Bibliografia adnotowana. Białystok, JKNIBO 1978.

## ЗМЕСТ

Б 43 Беларускі каляндар: 1994 / Склад. У. Юзвюк.— Мн: Беларусь, 1994.—187 с.: іл.

ISBN 5-338-01035-6.

Каляндар на 1994 год змяшчае асноўныя астранамічныя звесткі, звесткі пра святы, дні імянін для праваслаўных і каталікоў, даты гістарычных падзей, гаспадарчыя парады на кожны месяц.

Таксама расказваецца аб жыцці беларусаў на Беласточчыне, культурных сувязях Беларусі і Польшчы, прыводзяцца матэрыялы літаратурныя, з жыцця Беларускага таварыства ў Польшчы, аб Першым з'ездзе беларусаў свету і шмат чаго іншага.

Для шырокага кола чытачоў і тых, хто цікавіцца жыццём беларусаў у замежжы.

Б $\frac{5001000000-004}{М 301 (03) - 94}$ Зак. выд.94 ББК 92

Навукова-папулярнае выданне

БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР
1994

Складальнік Юзвюк Уладзімір

Рэдактар Г. П. Касцялецкая
Мастак М. М. Грыбаў
Мастацкі рэдактар І. Р. Славянін
Тэхнічны рэдактар С. Л. Сармант
Камп'ютэрная вёрстка М. І. Лазука, С. Л. Сармант
Аператар Т. А. Касцяневіч
Карэктары Н. М. Масарэнка,
Ю. Ц. Пятрыкеева, Л. І. Кароткіх

Выданне падрыхтавана да друку на камп'ютэрнай сістэме выдавецтва «Беларусь»

Падп. да друку з гатовых дыяпазітываў 07.12.93. Фармат $60\times84^1/16$. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 11,16. Ум. фарб.-адб. 11,86. Ул.-выд. арк. 11,75. Тыраж 5 000 экз. Зак. 633.

Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 2. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

